# Змест

**ДРАМАТУРГІЯ**



**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА. ПУБЛІЦЫСТЫКА. ЭСЭ.**



# Ганна Новік

паэтка. Друкавалася ў «Верасні», «Маладосці», альманаху «Літаратурная Гомельшчына», газетах «ЛіМ», «Экалагічны веснік», «Гомельскі ўніверсітэт», міжнародным альманаху «Сланечнік». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Шампанскае з бэзу...

## Твой снег...

...невылечна нямы,
бо не выпадзе сёння.
Прачынайся наноў,
каб эпіграфам быць да імжы.
Танчаць стэп галубы
на бляшаным хрыбце падваконня.
Чэзне ружа вятроў
у свядомасці, поўнай іржы.
Хай рыфмуецца менш
і надзеі няма ні на шэлег,
У штодзённай дрыгве
не ўскрасуюць няхай касачы...
Месяц вытчэ нам верш,
старажытны пашчэрблены келіх.
Эфемерны памкнеў —
каб Нішто засталося Нічым.

***

У кожнае музы
Ёсць хтось даражэйшы
За тых, хто прысвеціць
Ёй прозу і вершы.

У кожнае музы
Сто тысяч упартых,
Усмешлівых д'яблаў
На правым плячы.

У кожнае музы
Ў заплечніку ноты
І рыфмы ўпярэмешку
З сонцам ды слотай.

На кожную музу —
Па тысячы творцаў,

У кожнага творцы —
Мільёны радкоў.

У кожным радку —
Ад натхнення замовы.
...І здраджваюць музы,
І крышацца пёры...

***

Як паасобку — званчэй
крояць змрок семафоры,
Упрыгожваюць рэхам палі
І крыніцы пад вокладкай снегу.

Як паасобку — лягчэй
густы спатольваць чужыя,
Есці зляжалы мурог
Позіркам, поўным пустэчы.

Як паасобку — прасцей
нішчыць няволю птушкам,
Калі ні кліны, ні клеткі
Сваім існаваннем не цешаць.

Калі паасобку....навошта.
Лягчэй і прасцей — не верце...
Каб быць глыбінёй і скарбонкай,
Гуртам дэманаў кормяць святыя
З рукі.

***

Дзе першае сена на пыльным асфальце,
Дзе ранкам п'е горад шампанскае з бэзу,
Пакіньце мяне — уратуйце. Прабачце,
Як аўтарам кнігі даруюць імпрэзы.

Калі ж наталюся самотай і высню,
Што сталі бязвольнаю моркваю сціжмы,
Змяняю любую з каралавых выспаў
На верш пра прагорклыя сонейкі піжмы.

***

Трызніцца восенню
І павуцінамі.
Мы з вамі носьбіты
Мовы птушынае.

Найпрыгажэйшае
Една з пакутамі —
Цяга да знешняй свабоды
І ўнутранай.

Вочы самотныя,
Крылы збалелыя.
На прыцемак слотны
Зноў захварэлыя.

Пэўна, калісь
Між прывіднымі выспамі
Я вас прымроіла,
Вы мяне выснілі.

## Тут

О Гомель! Жывая, рухавая піца.
Па звыклых маршрутах усё мітусіцца.
Тут звон капяжоў, буцікі і кавярні,
Тут час прадаецца й губляецца марна,
Тут пошчак абцасікаў, дым цыгарэтны,
Расейская лаянка, боршч і катлеты,
Савецкая, Леніна, пляц Перамогі,
Тралейбусы цягнуць да месяца рогі,
Тут помнікі нейкім і бюсты паэтаў,
Тут лаўкі ад моладзі ломяцца летам,
Тут Сыс Анатоль атумечыў па парку,
Тут кожнае свята — і чарка, і шкварка,
Тут Шклярава, Мельнікаў і Балахонаў,
Тут кожны сяльмашавец дасць кунштухоў вам,
Тут цяжка па крамах шукаць «крамбамбулі»,
Начамі ў «Еўропе» тусяцца дзявулі,
Тут летам студэнты ад сесіі енчаць,
Тут круцяцца думкі аб вечным і нечым,

Губляюцца словы, знаходзяцца ноты
І труціцца кожны сваёй адзінотай,
Тут сонца ў ваконца і соллю па ране...
Свой горад над Сожам прыдумайце самі.

***

Цішэй
тут
вар'яцеюць
моўчкі
заціснуўшы
пагардай
рот
і толькі
прысмерк
шэптам
крочыць
і ўсіх
кляне
наадварот

***

Дзе ты, зняможаны славай парожняю,
Хто табе кляўся кахаць да апошняга,
Колькі разоў дагаралі на вогнішчы,
Тоячы здраду і вечнае тоячы?
Сыпала зоркамі ў сэрцы дзіравыя.
Хворым пачуццям не зліцца з выявамі.
Выраем не ўратаваўся ад поўначы.
Пах цынамону набрыньвае роспаччу.
Падала, падала з неба імглістага
Вера апошняя дзеля няіснага,
Дзеля забытага і нетрывалага,
Недасканалага, недаспяванага...
Секла залевамі, сыпала квеценню,
Горад не раз быў лістотай замецены,
Вочы ахрыплі, крычаўшы аб літасці.
Раны зацягвала шэрай стабільнасцю...
І паасобку ў імгле акварэлевай
Таялі цені, на дождж захварэлыя.

***

Прамінуцца гады...
Сто шляхоў адзіноты...
Дзевяць жыццяў пакут...
А самота — адна.

Келіх бруднай вады.
Выспы часу — і слота.
І вакол — там і тут —
Чэзне ў кратах *Яна*.

На дратах груганы.
На плячах танчаць д'яблы.
Цвеліць Маўзэр душу:
«Усміхайся, калі...»

Ўсё жыццё — Шабаны,
Дзе не спіцца пачварам,
Калі поўня імшу
Правіць гэтай зямлі.

## Імжа

Зняможаным дажджам — шаша,
Дзе мэце шчэ душу не вабіць.
Акрылее лістотай памяць:
Самотных атумкоў мяжа...
Клады, дзе не знайсці крыжа
Над мнагаслоўнаю хлуснёю.
На нератах (чыйго?) спакою
Ледзь-ледзь прыкметная іржа.

Па веры страчанай імша.
Нямоглым прыцемкам — душа...
А вам — імжа.

## Перакананні

Страх,
спапялёны дазвання,
блуканне з клубком арыядніных нітак

па ўсіх скрыжаваннях.
Кожны паўстане з нябыту,
хто вечнасць спасцігнуць у стане —
адхланне. Каханне і
перавыданне
самога сябе, абпалёнага
верай,
цнатлівасцю хрумсткай паперы,
што стала скрыжалямі,
ўджалены промнем вандроўнік
на росным світанні...
Свабода!!!
І перакананні.

***

У шалік кутацца абрыдла,
І прагне пэндзляў неба сінь.
Як капяжы, ў ЖЧ лытдыбры
Штоночы замінаюць сніць.

А сонца крыгам грэе плечы,
А птаства звыклася да рук.
Адліга снежны ліст камечыць,
Шпурляе стомлена на брук,

Абцасам топча, промнем плавіць,
І вабяць лужыны дзяцей.
...Завеі і самоту памяць
У самы цёмны кут кладзе.

***

Зранку
Ён п'е не расол —
валяр'янку.
Удзень
Палюе на шпаркі свой цень.

Вечарам
Трызніць пра нешта
і марыць аб нечым.

Кладзецца спаць з томікам Коласа,
Золкам ачуньвае...
з Танкам.

Снам абвяшчае байкот
Мой кот.



# Артур Камароўскі

паэт. Студэнт 5 курса Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Друкаваўся ў часопісе «Тэрмапілы». Нарадзіўся ў 1991 годзе ў г.п. Мір. Жыве ў Гародні.

# Пацалунак ветру

## Чакаю

Чакаю тваіх тэлефонных навін,
якія ў маё жыццё не прарвуцца.
Ведаю: разам з табой не прачнуцца.
Застанецца боль — аб табе напамін.
Чакаю тваіх сарамяжных лістоў.
Тваіх, сярод іншых, у скрыні паштовай.
Хай будуць яны з той пячаткай кляновай,
Што падае з восеньскіх шэрых мастоў.
Чакаю цябе выпадкова спаткаць,
каб раптам, знянацку, абняцца вачыма.
З палону якіх уцячы немагчыма,
з палону якіх і не варта ўцякаць.

## Зялёны парасон

Складваеш зялёны парасон
І ўзнімаеш галаву да сонца...
Ты ўжо ведаеш, што слёзы неба
Высыхаюць на шчаслівым твары.
Заплюшчваеш блакітныя вочы.
Сонца песціць ружовыя вусны.
Адчуваеш пацалунак ветру,
Ад якога раптам чырванее твар...
Ты ўжо ведаеш, дзе тваё шчасце
І ў чыім сэрцы жыве каханне...
Ты ідзеш па квяцістай алеі,
забыўшы на зялёны парасон...

## Сакрэт

Бледна-жоўтая поўня
позірк на нас кідае.
Ты маўчыш і так ціха
танцуюць сняжынкі балет.
Шэры вечар крыламі
шэрымі абдымае.

І хавае надзейна
ад усіх твой і мой сакрэт.

## Людзі без крылаў

Дайце мне лейкапластыра
Заклеіць на крылах дзірку,
Бо людзі без крылаў няшчасныя,
Бо людзі без крылаў знікнуць...
Мы дзеці святых — святыя...
Ў якіх жа грахах мы вінны?
Навошта на крылах стылых
Мы дзіркі насіць павінны?

## Ліст да цябе

Прывітанне!
Я табе абяцаў напісаць,
на каханне перахварэўшы,
калі знікнуць пякучыя вершы,
што было ў руках не ўтрымаць...
Кажуць, зараз не плачуць мужчыны.
Кажуць, слабасць, ды й зараз не час.
Часам ведаць не трэба прычыны,
каб на нешта знайсці адказ.
Я цяпер нашмат разумнейшы.
Не, не ў плане ведаў жыцця.
Я цяпер зразумеў, што вершы
зноў вяртаюць людзей з небыцця.
І калі адвярнуліся людзі,
я гаючыя вершы пісаў.
Як шчанюк імі раны лізаў,
што наскрозь пранізвалі грудзі.
А каханне...было і ёсць.
Я ілгаў, што ўжо не кахаю.
Па зямлі дзесьці ходзіць хтось,
каго я так даўно чакаю.

P.S.
і, прабач мне яшчэ раз. Схлушу.
не стрымаю сваё абяцанне.

Яшчэ столькі пякучых ранняў,
аб якіх напісаць я мушу.

***

Я хачу так няшмат ад зямнога свайго жыцця...
Толькі верыць, што шчасце яшчэ магчыма.
Хай гараць тыя дваццаць гадоў за плячыма:
з іх успомніць — гадзіны, рэшту — не даставаць з небыцця.
Мне б яшчэ трошкі веры: у Бога, сябе, людзей.
Зараз толькі ў Яго мая вера расце, не слабее,
беражэ перад цемрай і ад холаду сэрца грэе
у бязлітасным свеце няспраўджаных мар і надзей.

## Табе

Мае рыфмы снаё зжылі і збяднелі
ўшчэнт.
Вершы сталі хварэць і амаль што
не задыхацца.
Што яны будуць жыць — катастрафічна малы працэнт
(пры умове, што будуць табою
апекавацца).
Іх аснову і боль зразумець магла
толькі ты,
не таму, што да іх ты даўно прырасла душою:
Толькі ты магла чуць, як крычаць
залатыя лісты,
Калі восень ірве іх і бязлітасна
топча нагою.
Заставайся. Ратуй. Беражы разам з імі мяне,
каб я кожную восень глядзеў у
васільковыя вочы,
каб мае, яшчэ поўныя сонейка дні,
не
ператварыліся, ў поўныя цемры, ночы.

## 22

Не хачу больш табой хварэць!
Мне амаль два гады за дваццаць.

Я ж не ўмею яшчэ цалавацца
а ні з кім, апрача цябе...

## Прывакзальнае

Мы, людзі, любім часта ад'язджаць
і пакідаць з вакзаламі каханне,
каб кожны раз чарговае растанне
магло ізноў каханым нас вяртаць.
Мы любім горыч шляху-небыцця,
і цягніка,
і абыякавасць прыпынку.
Нам Бог-суддзя залічвае памылку
ў адным з галоўных правілаў жыцця:
каб быць каханым — трэба перш кахаць;
каб побач быць — трэба спазнаць адлегласць.
Тады нішто: ні час, ні непазбежнасць
вузлы дзвюх душ не змогуць разарваць.

***

Пакуль не народзіцца самы апошні верш,
пакуль ты яго не парвеш —
мне хочацца жыць у табе
кожным радком і словам.
Ламаць цябе рытмам, рыфмай балючай біць.
Каб ты не змагла забыць
ні твару майго, ні імені.
Хочаш забыць — забі мяне.
Інакш — ты мая навек.

## Жыццё

Жыццё не лічыцца, ты ведаеш, ні з кім.
Яно для нас з табой непадуладна.
Мы ад гадоў яго так хуценька бяжым,
хоць разумеем, што напэўна марна.
Мы так імкнёмся, людзі, час спыніць,
трымаць ў руцэ гадзіннік непазбежнасці
і кожны новы дзень апошнім не лічыць,
а толькі усяго працягам вечнасці

## У бясконцасць

Пакахаць цябе не пабаюся.
Адхіну ў бок роздум і сумненні.
Гэта за цябе цяпер малюся,
Гэта да цябе лічу імгненні,
Гэта за табой лячу па свету
І ў прыпол ірву табе званочкі...
Толькі б ведаць: не апошнім летам.
Толькі б ведаць: не апошняй ночкай.

## Памяці Ларысы Геніюш

Беларуская чайка! Да Вас,
Я звяртаюся толькі на Вы.
Дзякуй Вам, што ляталі ўвесь час
На сваёй, беларускай зямлі.
Што любілі прынёманскі край
І любоў у душы бераглі.
Не пускалі у сэрца адчай,
Калі Вас зразумець не маглі.
Вы прабачце, бо людзі падчас
Зразумець не заўсёды здольны:
Хто палаў — той з гадамі не згас.
І у сэрцы Радзімы вольны...



# Ганна Рудак

паэтка. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Нарадзілася ў 1989 годзе ў вёсцы Бортнікі на Глыбоччыне. Жыве ў Бараўлянах.

# Застацца сабой

## Шчасце

Белае шчасце намалявана рукамі
на белым снезе.
А людзі прывыклі глядзець
Толькі на тое, што бачна —
І як тут убачыць шчасце?
Ды і навошта яго бачыць?
Яго малявалі рукамі — кранай рукамі,
Толькі трапляй у зігзагі літар, а то разбурыш.
І дакраніся да кожнай яго абрыскі,
Бо толькі дурань шукае шчасце ў аскепках.

## Пра свабоду

Яшчэ крок — будзе вольнаму воля.
Яшчэ крок — будзе неба белым.
Ты трымаеш сваю свабоду,
Ды не трэба ёй твайго хлеба.

Ты цалуеш яе ў ногі
І спрабуеш абняць — ды марна...
Ёй — ляцець, яна птушка ў полі,
Ёй не трэба твайго падману.

Ёй — ляцець, а табе — ламацца
І кусаць кулакі ды локці.

Бог сказаў, што сабой застацца
Зможа кожны, калі захоча.

***

Гэта тонка і так пластычна,
Вельмі моцна і меладычна.
Гэта быццам цябе ратуюць
Ад таго, што цябе пачуюць.
Гэта ты называеш каханнем,
Гэта ты называеш болем...

Ты губляеш свае адчуванні,
Адпускаеш сябе на волю.

## Спашлі

Спашлі на мяне свой дождж,
Празрысты і светла-чысты,
Пяшчотны, лагодна-блізкі,
Спашлі на мяне свой дождж.

Даруй мне маю мітусню,
Разуй скамянелыя ногі,
Вярні мне мае знямогі,
Даруй мне маю мітусню.

Дазволь паўцякаць ад сябе
Ў зялёныя мройныя далі.
Там добра — мне птушкі крычалі!..
Дазволь паўцякаць ад сябе.

Хай крылы твае адпачнуць —
Пазыч іх на два імгненні,
Мае іх чакаюць калені.
Хай крылы твае адпачнуць...

***

Калі на вуліцу прыйдзе імклівы дождж
І будзе бегчы ўдалеч, прагнучы спакою,
Я пазаву цябе. І будзе ноч.
І будзе светла, бо не будзе бою
З краінай ценяў, бо яны сыдуць —
Іх праглыне прадонне смерці выпадкова...
Калі на вуліцу прыйдзе імклівы дождж,
І будзе вечнасць наталяцца яго болем.

## Цягнік

Цягнік будзе імчаць цябе ўдалеч.
Ты будзеш плакаць, бо захочаш плакаць.
А ён не спыніцца, ды і цябе не спыніць.

Ты будзеш плакаць і не ведаць, як растраціць
Сваё нікчэмнае святло і свае думкі,
Якія перапоўнілі свядомасць.
Цягнік будзе імчаць цябе ўдалеч,
Ты будзеш плакаць,
плакаць,
плакаць,
плакаць...

***

Там усё было так жыва.
Трапятала вада, калі рукі да яе дакраналіся.
І можна было ўбачыць сябе маладзенькім
У адлюстраваным вадою небе.

Там усё было так мякка,
што і камяні твае ногі не рэзалі,
І болем была толькі крыўда.
Ды і які там боль,
калі бачыш сябе ў аблоках?..

## Рукі маміны

Рукі маміны цябе трымалі
І вясёлы свет табе дарылі.
Рукі маміны цябе любілі,
Прытулялі, святлом жывілі.
Рукі маміны цябе насілі,
Зажыўлялі і давалі сілу.

Рукі маміны, мае любімыя,
На мяне маліліся, у іх моц мая.
Не кажы, што ты цяпер знясіленая —
Рукі мамы за цябе маліліся.

***

Я паглынаю ўночы цішыню,
Глытаю з яе рук шматкі адчаю.
Я не люблю не спаць, але не сплю.
Я не люблю ламаць, але ламаю

Сваю свядомасць. Кожны дзень жыцця,
Бо мары адышоўшыя люляю.
Я разграбаю рэшткі небыцця
І ў гэтым тлуме ўсю сябе губляю.

***

Трывогі твае ўсе забраць — немагчыма,
І крыламі стаць за тваімі плячыма
Хацелася б мне, але не змагу я.
Я кожную мару тваю размалюю
І буду ўдзячна за тое, што ёсць ты.
Не важна — са мною, ці не — проста ёсць ты.
І гэта так добра, так міла, так важна,
І гэта мацней, чым паверылі б людзі.
Між намі ніколі нічога не будзе.
Люблю твае вочы і рукі, і сэрца.
Ты — лепшы, ты — ёсць,
Гэта мне не здаецца.

***

Ты крычыш: «Я кажу праўду!»
Але праўду нельга крычаць...
Ты крычыш: супакойся,
Сцісні зубы, кладзіся спаць.
Не чапіся да ўсіх нармальных —
Не ў іх словах твая віна,
Што сумленне тваё вар'яцее
І кранаецца самага дна.
Плача ўголас, баіцца строгасці,
Звышсур'ёзнасці, безгалоснасці,
Схаладнеласці, болю, нікчэмнасці,
Не знаходзіць сябе ў вечнасці...

## Вясна

Такая вясна, мама! Такая вясна...
Вясна ўжо прыйшла, мама, вясна прыйшла!
Ужо ўсе амаль кветачкі расцвілі,
Ужо ўсе амаль, мама, снягі сышлі.

Такая вясна, мама... Цябе няма.
Вясна прынясла мары і раздала
Усім, хто ў яе верыць, усім вятрам.
І я ўсе свае мары вятрам аддам.

Няхай дзьмухаўцамі песцяць усмешкі тых,
Хто можа раннім прадвеснем любіць усіх,
Хто можа плакаць у снах і крылы хто не згубіў.
Хто хоча верыць і хоча дыхаць, хто Богам жыў...



# Аляксей Карпенка

паэт. Студэнт Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова. Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Толькі жыві!

## Песня сталёвае восені

Плакаць, смяяцца ды лезці са стогнам на сцены,
Сэрца з грудзей вырываць пасінелай рукой,
Доўга бязглузда глядзець на надзьмутыя вены,
Ціха маліцца ды клікаць жаданы спакой,
Моўчкі шалець і гнявіць сваім шалам нябёсы,
Мары свае выклінаць, але марыць ізноў,
Прагнуць прапасці без следу, бы лёгкія росы,
Сорам слязьмі выклікаць у памерлых дзядоў,
Прэчкі ўцякаць ад дурнога бястварага рою,
Гвалціць чарнілам паперу, стагнаць уначы,
Скрыгаць зубамі, душыць непатрэбную мрою...
Восень зліецца з душою, крычы, не крычы.
Плач, калаціся ды лайся, звівайся ў вяроўку,
Скуру сарві з сябе ў пошуку новай бяды,
Біся аб сцены, душы сябе зноўку і зноўку...
... сцюжа пад лёдам схавае твой крык назаўжды.

## Дваістасць

Дваістасць быцця, бы дваістасць змяінага джала,
І кожная з праўдаў процілеглых сябе паказала,
А кожны двуногі малюе сусветы між імі,
Малюе багоў і дарогу і робіць сваімі.
Мозг бессэнсоўна збіраў рэшткі розуму
З асобных скамечаных частак
бярвення
наркозу
мух
У п'янага свету малюнак з дурных элементаў
арол
араў
сеяў
бясконцае
явар
яд

Апошняя звязная думка:
«А я вар'ят!»
Ламаюцца час і прастора, і чэзнуць у шале дашчэнту.

## Спевы ўсёй Зямлі

Я ў спевах усёй Зямлі
Беларускасць чамусьці чуў.
Спевы мёд на душу лілі,
Нарадзіўшыся ўдзень ці ўначчу

На зямлі мне няроднай, у снах
Пад праменнем нязвыклых нам зор,
Набывалі тутэйшы пах,
Набывалі тутэйшы калёр.

## Беларусі

Не, лепей стаць прывідам, ценем, ахвярай нябыту,
Няхай ужо вечныя здзекі, пакуты, пагарда ды жах,
Каб толькі не ўбачыць цябе разарванай, раздзертай, разбітай,
Каб толькі над Краем і Мовай ніколі не ставіць крыжа.

Калі тваё сонца закоціцца ў пашчу драпежнага лёсу,
Калі твой народ цябе кіне і роспач заб'е ў ім імпэт,
Калі ты дарэмная мара — няўжо дзеля здзеку нябёсы
Далі мне ў сусветны вар'яцкі тэатар білет?

Няўжо ўсё святое — падман і чыёсьці вар'яцтва
І нехта прыдумаў і славу, і рэкі крыві?
... Мы будзем з табою да смерці, да Боскага царства
І сэрцы табе аддамо — але толькі жыві!



# Марыся Суша

паэтка. Друкавалася ў «Верасні» і «Дзеяслове». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Залаты вечар

## сон

пагляды абсыпаліся
на сэрца жоўтым лісцем...
уся ў лістоце,
рукі ада сну
пацягваю.
расстанне... успаміны
пра дзесьці і калісьці.
бы коўдру,
белую смугу
нацягваю.
у вечар залаты
заснула ціха ў чоўне
далоняў,
што сарвалі мяне
з дрэва...
я ўсё йшчэ ў ім плыву
ў святле нямоглай поўні.
а ў валасох шапоча
восень-каралева.
я сплю пад лісцем сноў,
і сон мой залаціцца,
і сонным павуціннем запоўніцца
чаканне.
каб зноўку ў цёплых пальцах
забыцца
і
згубіцца,
я сплю,
і толькі б не праспаць
тваё вяртанне.

***

твае рукі заўсёды гарачыя...
цёплы ветрык сілкуе паперу...
усё добра.. чаму ж тады плачу я
пад пяшчотнай прасцінай даверу?

мае думкі ўцякаюць аленямі
у пужлівай сваёй прыгажосці...
ад святла рассыпаліся ценямі,
быццам кімсьці былі для кагосьці.

а на дрэвах — малюнкі дзіцячыя,
з якіх сыплюцца першыя словы...
твае рукі заўсёды гарачыя...
твае рукі — аснова й выснова.

***

*Круці жорны пільна,*
*то й тут будзе Вільня.*
З народнага

заблытаны свет пад нагамі стагоддзяў
бадзяецца ў снах і крычыць у знямозе.
і жорны стаяць на сцюдзёным падворку
пад пылам гадоў, пераможана-горкіх.

«круці жорны пільна, то й тут будзе Вільня»...
прайшло шмат гадоў, апранутых ў цывільным.
і час ападае пад кожную восень
старонкамі кніжак, што год той прыносіў...

і прыйдзе наступны год справядлівы,
што ўспомніць Хрыста і адродзіць ліцвінаў.
закруціцца кола і зрушацца жорны,
і сыдуць вар'яцтвы чарадой пакорнай...

мінаюць стагоддзі па сетцы мабільнай...
наступнай вясной мы паедзем у Вільню.
а покуль зіма нам складае прадмову,
я жорны кручу і разблытваю словы.

***

*небажаткам*

неба, неба... на жаль, не для кволых
твой напяты смугою нябыт.

сотні тысяч гарачых і вольных
лятуць свідраваць блакіт.

спрабуе сон нябёсамі загушкаць,
нябёсамі, што плавяць зніч і лёд.
як горка нарадзіцца вольнай птушкай,
і ніколі не зведаць палёт.

ў адчайнай празе цеплыні ці хлеба
заб'ецца сэрца, захочацца стаяць...
ты проста паляцеў вышэй за неба,
яшчэ не навучыўшыся лятаць.

штуршок апошні брата альбо ката...
чаго жадаў — то назаўжды займеў.
ў далонях залуналі небажаты,
і забалела чуць птушыны спеў.

але ж я ведаю, што ёсць Зямля пад ружамі,
дзе па вадзе ад сонца баразна...
дзе неба перапоўненае душамі
птушанятак, выпалых з гнязда.

## вянчанне

злілася сукенка са снегам,
рассыпаў пялёсткі анёл...
прыбіла імгненне каўчэгам
у Залатагорскі касцёл.

нябёсы так блізка! і гукі
званоў па празрыстай вадзе...
і Езус бярэ нас за рукі,
і за далягляд вядзе...



# Аліна Агрэніч

паэтка. Студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. Вершы друкаваліся ў часопісах «Маладосць» і «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1994 годзе ў вёсцы Пярэжыр на Пухаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Бліжэй да неба...

## Матулі

Грабянец у руках матулі,
Ім расчэсвае мне валасы.
Кацяняты ў куце заснулі,
Мабыць бачаць малочныя сны.

І так цёпла, утульна ў хаце,
Дзьмуць у комін гарачы вятры.
Я шчаслівая: побач маці.
Мне, напэўна, гадочкі тры.

Заплятае яна мне косы
Разам з стужкамі, як люблю,
Назаве потым татка козкай.
(Я ж гарэза, усмешак салют).

...Уплятала ў косы мама
Кожны раз яшчэ нешта сваё:
Весялосць і шчырасць, таксама
Смеласць, годнасць і веру ў жыццё.

І штодня ў пана Ісуса,
Я прашу, каб матулю бярог.
Дзякуй, мама, анёл мой мілы,
Пункт адліку усіх дарог.

*2012*

***

Седзячы на траве, я пісала чарговую лухту.
Раптам падышоў ты, усміхнуўся, і,
убачыўшы аловак у маіх руках, сказаў:
«Даруй! Я захінуў табе сонца».
Дзівак! Няўжо ты дагэтуль не ведаеш,
што ў тваім выпадку гэта немагчыма,
бо толькі ты выпраменьваеш святла
больш за Сонца?

*1 траўня 2012*

***

Наша каханне — маленькая кузурка, дурнаватая,
легкадумная, нязначная для акаляючага свету.
Кузурка, якая з самага нараджэння падазравала
пра недаўгавечнасць свайго жыцця, але не прызнавалася
ў гэтым.

Наша з табой кузурка скакала, лятала і
грэлася на сонцы неспадзявана працяглы час.
Калі да яе крыльцаў дакранулася каса смерці,
яна азірнулася і здзіўлена спытала:
«Як? Пачакайце, гэта ўсё?»

Кузурка ажно аслупянела ад такой нечаканасці!
Яна загарнулася ў жоўтую коўдру непаразумення
і вось так незаўважна для сябе
перамагла смерць.

Дык ці можна ўвогуле верыць у абсалютную смерць,
пакуль існуе бурштын,
які здольны захоўваць сапраўдны цуд
ва ўсёй яго дасканаласці?

*2013*

## Верш пра нумарок, дзе ёсць сямёрка

Хай кожны, хто папракае мяне
за фаталізм фанатычны,
Назаўсёды запомніць, што Бог,
аматар распрацоўкі мудрагелістых схем,
Прыйшоў да высновы: «Дык, па сутнасці,
дастаткова лагічна,
Калі буду падпісвацца я
пад усякай шчаслівай падзеяй
лічбаю сем».

*23 жніўня 2013*

***

У маленькай кватэры, асветленай свечкай,
Чарговы лісток паперы

Жанчына трымае ў руках, нібы смецце.
«Хіба гэта верш? Не веру!»

Камечыць яго. Найзвычайнейшым рухам
Шпурляе сабе за спіну
Да іншых, такіх жа ніякіх, бяззубых...
Ў куце хай таксама гіне.

Заварвае каву жанчына, з кішэні
Бярэ цыгарэты. Паліць.
Сплятаюцца дым тытунёвай дрэні
І водар духмянай кавы
Ў мільёны карцінак, прыгожых і брыдкіх,
Яскравых і цьмяных...Толькі
Схапіць трэба вобраз, да сшытка тканіны
Чарнільнай прышыць іголкай.

Ляціць недапалак у трэснуты кубак
І ў кававых тухне рэштках.
Кладзецца узор, абрастаючы цудам:
Шымборская піша вершы.

*2013*

***

Сёння ўзяла з сабою сонечныя акуляры,
а вяртаючыся дадому
халодным дажджлівым вечарам
папракала сябе
за пакінуты на ложку парасон.
І так усё жыццё.

*2 верасня 2013*

***

Рукавіцы ў пясочнай кашы
Я зняў і паклаў у кішэню.
Пот ракою. Стаміўся, значыць,
Узводзіць глухія сцены.

Хмарачос у сталічным Мінску
Будуем. Бамбім Маямі.

Ды пакуль што будынак нізкі:
Усяго сем паверхаў мае.

Пакідаю рыдлёўку, цэглу —
Нарэшце пара абеду.
Па прыступках слабенькіх, нягеглых,
Залажу бліжэй да неба.

Я на самай вяршыні даху
Сядаю ўтульна. Вецер
Гарадскія прыносіць пахі
І песні крывога вецця.

У далонях шурпатых кубак.
Я скруціўся над ім, бы вожык.
Кава грэе, і грэе думка:
Як усё-такі тут прыгожа!

*5 лістапада 2012*

***

Раніцай маё імя —
сукупнасць пэўных літар.
Я хачу днём надаць гэтай сукупнасці
сэнс,
каб вечарам заснуць спакойна.
Цяпер гадзіннік
б'е поўдзень.

*2012*

***

Цябе забіваю сваёй панурасцю,
Дзень за днём бясконца сцвярджаючы:
«Расстанемся хутка мы з нашай любасцю,
Проста знішчым з сэрца і памяці,
Бо лёсам па-іншаму ўсё задумана,
Як дакладна, праўда, не ведаю.
Найлепшага знойдзеш у свеце штурмана —
Пані светлую ў белым вэлюме.
А я застануся з катом і кнігамі
Здань звіваць тваю з промняў сонечных...»

Ты паслухаеш мяне ўважліва.
«Колькі можна? — сабе падумаеш.
Затым скажаш: «Даруй, я ўражлівы...
Я кахаю, таму й не сумна мне...
Бо заручаны мы нябёсамі,
І кіруе Бог лёсу вёсламі...»

*2012*



# Таццяна Мацюхіна

паэтка, крытык. Аспірантка Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Вершы друкаваліся ў «ЛІМе», «Маладосці», «Верасні», «Скрыпторыі-4»; навуковыя артыкулы — у «Родным слове», «Полымі», «Народнай асвеце». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

# Белы ветразь

## У чаканні

Утрапёна ўзіраешся ў неба.
У вачах тваіх водсвет тугі.
Дол, ахутаны покрывам снегу,
у чаканні чуллівым зімы.

Снег ляціць у бялюткім сувоі.
А у зрэнках ні суму, ні слёз.
Дараваны Боскаю воляй,
цуд здараецца зрэдку ўсур'ёз...

Вось і вечар трывогу загушкаў
дакрананнем да Боскай душы,
каб каханне, нібыта птушку,
не зняволіў у сэрцы ты.

***

Я Вас кахаю — вельмі асцярожна.
Я Вас люблю здаўна — як свет.
Гляджу у вочы моўчкі. Пераможна.
Вы пакідаеце з папераў мне буклет.

Я іх у захапленні прачытаю.
Жыве ў іх існасць Ваша — не мая.
Я толькі ў думках шчыра Вас вітаю.
Ў сапраўднасці ж развітваюся я...

Мае учынкі логіцы пярэчаць.
Мае намеры — згадка даўніх дзён.
Каханне бы маланка. І у вечнасць
ляцяць лісты, як шчасце і праклён...

***

Вобразы свету хвалююць душу.
Шчыра кахаючы, хіба грашу?

Можа, памылку раблю, ды сумую.
Позірк ласкавы твой больш не ратуе...

Ружа вятроў на раскрэсах дарог
стане прычынай новых трывог.

Толькі каханне душу уваскрэсіць.
З веры народзіцца светлая песня...

***

Вядома мне, што нас з табой чакае.
Я разумею: вечнасць — ёсць каханне.
Але маўчанне адназначным не бывае.
Ад раўнадушша нават кветка памірае.

Любіць магчыма шчыра ўсёй душой.
Адзіны выбар — выбар сэрца твой.

***

Вас чакае поспех у справах,
калі радасць для Вас, бы ўзлёт
белай птушкі па імені Мара,
у высокае неба прыгод.

Вас чакае натхненне ідэяй,
белы ветразь — збавенне ад зла,
калі самі Вы сталі надзеяй
для кагось і любоў ажыла.

Вас чакае прызнанне й багацце,
веліч духу і вернасць журбе,
калі верыце ў Бога і шчасце,
калі верыце Вы у сябе...

***

Рамонкі белыя, як промні у пакоі...
Крылом анёльскім у душы жывуць —
святлом дзівосным, радасным настроем
мне сілы у змаганні надаюць.

***

У руках маіх меч, які трымаю моцна,
а ў валасах — пялёсткі васількоў.
Гляджу ў сябе і сэрцу відавочна,
што пераможа боская Любоў...



# Тадора Шпілька

паэтка. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (як Таццяна Будовіч). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Тралейбус дзяцінства

***

гэты дом
паглынае мяне
назусім
з люстраў са свечкамі ёсць калідор
у ім
дзе мы з табою
па-над зямлёю
ляцім
вузкія плечы твае
захінаюць мяне
ад вайны
што ўнутры
калі вочы заплюшчу
раскідвае ўсё
дагары

***

ты кавалак у роце зімы
пакуль не адкушаны ёю
зубы вострыя ледзяшы
смакуюць што будзе з табою
пад скураю ночы
у плыні аўто
дзе рукі твае расхінуць паліто
адкінь асцярожнасць скажы
галоўнае нешта
бо зубы сустрэнуцца ўрэшце
двухбакова завостраным ёю лязом

***

Ты памыляешся, мой сябра,
я не баюся адзіноты.
Хіба баяцца ўласнай скуры
магчыма для якой істоты?
Баюся толькі аднаго
я: шляху не свайго.

***

Ты быў як абзац у рамане маім,
адзін без карэктарскай праўкі.
Алагічны, абсурдны, па стылю
падобны на Кафку.

...І я зразумела, чаму ў час адхлання
карэктару не да чытання.

***

калі
я пачну паліць
дык толькі ад сонца
на самы высокі дах
узлезу па альпвяроўцы
далей — па прыступках паветра
ўзыду да нябёсных нетраў
а потым мяне
антрацыт касмічны глыне
запросяць да зор арэлі:
сядай вышэй паляцелі
і ў капсуле адзіноты
даставяць да сонца потым
ад зоркі гэтай
я запалю цыгарэту
на самым высокім версе
апошнім нябёсным паверсе

***

тралейбус дзяцінства
не можа спыніцца
плыве
па траве
што пад асфальтам жыве
я — звонку
яму правады абразаю
і падаю
нежывая
я — што ўнутры —
неўміручая вечная
хоць і жыву толькі міг

***

зацукраны снег
і ліхтар
памаранчавы твар
хінецца да скуры
з маёй амбразуры
ўбачу аднойчы
ўночы
але
ты абдымеш мяне
і цёплыя вейкі скажуць
канец вайне

***

я створана са сняжынак
і з літар
з крышталяў словаў
я створана каб расчароўваць тых
хто ў мяне верыць
таму я аддам лепш сябе
агню
як свечку мяне запалі
нявер'е маё спалі
як стос паперы

***

на вулках восені
паветра не стае
і колеры шызафрэнічныя мае
чырвоны з чорным
як фон
твой адмірал
як матылёк патрапіў
да ворага ў палон
па швах развальваюцца сцены
а я са сцэны
спяваю ва ўнісон
са збеглым адміралам
рок
і цені
паўзуць у бок

***

жывот парасону
да скону
цягае мяне
ад мяне
па лужынах вечаровых
то восеньскіх, то вясновых

***

я расту ў цябе Восень
я са снегу якому
не страшная летняя спёка
у неба якому калоссе
казытала жывот. я глыбока
ў вачах тваіх Восень згубіла дарогу
да сэрца анёла свайго нежывога
вазьмі мяне Восень
у золата лісця
пад хвалі аблокаў
я знаю
калісьці
я сэрца яго адшукаю
і стану жывою
калісьці

***

чапляюцца рукі
за сэнс і надзею
дзе ўнізе аблокі
а ўверсе прыступкі
да раю
і я ледзь жывая
цябе абіраю
жанчына мая ледзяная
гара і прыступкі
да раю

***

мае секунданты
ў рытме андантэ

ўзлятаюць пад столь
я ледзь трываю
бо зубы сціскаю
куляй пад сэрцам
мой боль
запаволіўся час
і кашлатыя цені
пусцілі карэнне
між рэбраў дзе кулі анфас
«хуткая» не паспявае
ды я сам дабяруся да раю
бо *дарунак* пад сэрцам маю

***

я цалую цябе ў абветраны лоб
мы святкуем сустрэчу
з небам такой вышыні
ўзлезці аблокам на плечы
на цэлы вечар
проста так
і бяздонне між скал нішто
ў параўнанні з бяздоннем што
ў душы маёй ранай зіяе
ты сабою яе захіні
гэтак моцна мяне абдымі
каб сышліся яе краі
на сустрэчу на міг на вечнасць

***

мой цень
казуркаю паўзе
па мосце на вадзе
на працу
...мы не знаёмыя з табой
але я так хачу каб ты
была маёю маці
а хай сабе хоць братам ці сястрой
па гэтым мосце мы ішлі б
дахаты
ці ў кіно
ці да кагосьці

ў госці —
усё адно
галоўнае з табой
і я табе казала б мама
яна ўва мне расце *таксама*
атручанага зерня пастка
балансаванне з ёю ў сэрцы
па-над бяздонным ротам смерці
прыму за ласку
Ўсявышняга
калі заўжды
са мною ты
без слова лішняга

***

я зорка ў рысіных вачах
Атлантыда
я зорка
нібы ўзнагарода
пераможцу ў штодзённай карыдзе
я зорка
таму ты баішся мяне
апёкі на вузкіх далонях загояцца не
назаўсёды
адліга надыдзе аголіць
адбіткі мае
ў сцюдзёнай вадзе
што скрояць наўсцяж крыгаходы

***

у чорным квадраце ночы
чырвонай быць мусіць поўня
таксама віно і ружы
а чорнымі — котка, кава
вочы твае насупраць
вільготным блакітам
змяшаным з хакі
(хоць гэта не так істотна)
гадзінніка стрэлка
развучыцца час чытаць

адчую сябе шчаслівай
ды шчасця прычына не ты —
чырвоная поўня
што ў чорным квадраце ночы
таемную будзіць памяць:
«ты ведзьма!»

***

я не ведаю ўсіх
акалічнасцяў лёсу твайго
і ведаць іх не жадаю
але ў неадольнасці смутку
ў самым далёкім закутку
душы я ўяўляю
як на каленях тваіх
соладка засынаю...

***

вандроўка ва ўласнае сэрца
дзе ўздоўж дарогі
кожнай казуркі цень
мае свой колер
мэта якой
дасягнутай быць
ніколі не зможа
сняжынка ў Арктычных сховах
*энная* доля секунды
што ў камені чорным
шэрай застыла плямкай
слёзы *апачаў*
лічба 77 у «белай» замове
траекторыя лёту чорнага ястраба
па-над цяснінай
апошняя ўсмешка любові
бязвінна асуджаных на
пакаранне смерцю
гэта ўсё ў ім
(хоць далёка не толькі гэта)
у сэрцы маім
бязмежным



# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кнігі паэзіі «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.), а таксама навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Будоўля клуні слоў

## Беларуская мова

Беларуская мова —
То крылы,
Што дае міласэрна Ўсявышні
Нам для ўзлёту
Знямелай душы...

Беларуская мова —
Малітва,
Што гучыць пранікнёна і льецца
Жыццядайным святлом
На імшы...

Беларуская мова —
Ліхтарык
Для таго,
Хто зблудзіў цёмнай ноччу
І не ведае шлях
Да шашы...

Беларуская мова —
Цягнік ты,
Здольны вывезці хутка народ
На прастор
Ціхай радасці вольны
З хцівай пашчы
Бязвер'я глушы...

## Касыда

...А сонца цягнецца рукамі-прамянямі,
Каб
Палашчыць хлопчыка на беразе марскім...

Ды толькі хлопчык
Гэтага не бачыць —
Ён будуе
Пясочны замак,
Ну а побач з ім

Заблытаўся у валасах дзяўчынкі
Свавольны
І гулліва-лёгкі брыз,

Які дзяўчынцы-прыгажуні гучна кажа:
«Я выканаю твой любы капрыз!»

І смех дзявочы
Белакрылай чайкай
Над пляжам малалюдным
Паляцеў.

А хлопчык
Кінуў позірк на дзяўчынку
І ёй паслаў насустрач
Ціхі спеў:

*«Ай-я ай-я ай-я*
А ты прыгожая

*Ай-а ай-а ай-а*
Бы стройная вярба!

*Ай-е ай-е ай-е*
І голас твой плыве

*Ай-і ай-і ай-і*
Бы човен у трыснягі...»

— *Што ж, пазнаёмімся.*
*Я — Барбара.*

— *Алесь.*

## Згарае надзея

*Мураба*

Згарае надзея у вогнішчы суму,
І сэрца так стогне ад дзённага тлуму,
І ноч, што прыходзіць, наводзіць на думу —
Душа твая здрадзіла мне...

З табою расстанне — бы ў пекле пакута.
Здаецца, ў крыві разлілася атрута.

Туга да мяне, бы цвікамі, прыкута.
Душа твая здрадзіла мне...

Здаецца змярцвелай і бляклай прастора,
І дух мой прыціснуты цяжарам гора.
Хай гэта спадман, ды не веру, што ўчора
Душа твая здрадзіла мне...

## Мая жамчужынка

*Мусаба*

Ты — жамчужына у моры, лёс мне стрэчу даў з табой.
Да сустрэчы жыў я ў горы, знік ранейшы мой спакой.
Як шукаў дабра агеньчык, то ўставаў адчай сцяной.
Зняў з душы я зла каменьчык, дык разліўся сум ракой.
Але ж ты, святла праменьчык, асвятліла мой пакой.
Чараўніца, — бы дзянніца, позірк светла-цёплы твой!
Бурнай жарсці ты царыца, кон пакутна-шчасны мой!...

А любоў твая, вядзьмарка, для душы маёй — бальзам.
То бяжыш ты, нібы хмарка, то стаіш, бы горны храм.
Сэрца ты майго ўладарка, шчасця цуд — быць побач нам.
Нітку хай прадзе нам Парка, верым мы салодкім снам.
Я цябе, будзь хоць мухлярка, анікому не аддам.
Чараўніца, — бы дзянніца, позірк светла-цёплы твой!
Бурнай жарсці ты царыца, кон пакутна-шчасны мой!...

## Ісці па сцяжыне спакою

*Мусадас*

Ў дзень радасці й замілавання, ты волі слязам не давай.
Закоціцца сонца кахання, свой боль ты сябрам не давай.
Узмоцніцца горыч чакання, ты сэрцу бальзам не давай.
Калі прыйдзе час развітання, знікаць светлым снам не давай.
Для роспачы й расчаравання падстаў сваякам не давай.
Пасля зорнай ночкі спаткання, злавацца бацькам не давай.

Ідзі па сцяжыне спакою, і сум ад сябе адгані.
Сплывуць ўсе надзеі ракою, хоць радасць ўспамінаў вярні.

Як будзеш сам-насам з бядою, яе спеў маркотны спыні.
А як пойдзе страх за табою, яму ў вочы смела зірні.
Калі ж стане жонка чужою, з жыцця сцежкі ўбок павярні.
І ў час горкі выпрабавання, сваволіць сынам не давай...

## Лёс стрэцца нам дазволіў толькі раз...

*Мухамас*

О лёс мой, злюка, чаму дазволіў мне стрэцца з любаю так позна?!
Чаму глядзіш на мяне сягоння, нібыта вораг зацяты, грозна?
І з-за свавольства твайго, о лёсе, ў душы маёй цяпер марозна!
Няўжо на дзень усяго нас звесці ты вырашыў, адкажы сур'ёзна?
І ў прадчуванні расстання з мілай так б'ецца сэрца маё трывожна...

За літасць, лёс мой, і за спагаду тваю аддаці табе што можна?
Ў твой гонар гімны і дыфірамбы спяваць гатовы я нат бязбожна.
А калі хочаш, прайду па ўскрайку абрыву смела, неасцярожна.
Чаго ты хочаш, усё зраблю я! Маўчыць мой лёс. І толькі дождж на
Зямлю ліецца. І на стрэчу з табой ісці мне так трывожна...

## Гузакі

Здаецца мне,
што дні, гады, вякі
зрэдзьчас
б'юць у лоб
шырокі Чалавецтва,
і ў выніку
на лбе на тым
узнікаюць
вялікія й малыя
гузакі...

І чым тых болей
незвычайных гузакоў,
бліжэй тым
Чалавецтва падыходзіць
не да палаца мудрасці
ці храма
любові трапяткой,
а да кладоў...

## Журботны дыялог

«Жыццё маё сцякала,
Бы вада
З халоднага
І вострага ляза...»

«Маё жыццё —
Гаркавая сляза,
Што ўпала на зямлю калісь
І знікла,
І знікла незаўважна,
Бы раса...»

[*Той дыялог*
*Дзвюх мёртвых душ*
*Пачулі*
*Пясок маўклівы*
*Й задуменная трава].*

## Зрабі з маім сном, што захочаш...

Калі мой сон
ізноў
сплываці будзе
уніз па рэчцы,
ты яго спыні...

Спыні
і на руках сваіх вільготных
у дом пусты
свой прынясі ўначы,
а потым
у ложак свой яго,
нібыта котку,
з сабою побач
пакладзі і прытулі,
альбо,
як бруднае
і непатрэбнае люстэрка,
ушчэнт разбі яго,
без роспачы разбі...

## Канфармісты

Іх не турбуе лёс краіны,
Іх крэда — быць ніжэй травы
І гнуць перад начальствам спіны,
Жыць, як бязвольныя рабы.

Іх не хвалюе скон народа,
А толькі шмоткі, сэкс, харчы.
Для іх пусты гук «дух», «свабода».
Іх прынцып — «лепш заўжды маўчы!»

Яны б хацелі жыць так вечна,
Бы рыбы ў касяку, маўчаць,
І плыць у рацэ жыцця бяспечна
Усёй сям'ёй сваёй. Аднак
Ім здолее хтось пракрычаць
З нашчадкаў шчырых: «Ганьба! Ганьба!»

## Беларускі баян

*Рыгору Барадуліну*

Кшчоны вы нябёсамі і Богам,
каб служыць святыні нашай — мове!
Каб насуперак усім бедам і трывогам
эліксірам быць чароўным у знямозе!

Голас Ваш узнёслы вышэй гор
узлятае, мудры дзядзька наш Рыгор!
Вы — паэзіі цудоўнай акіян,
чараўнік і беларускі наш Баян!

## Паэзія

*Адзін другога пераконваў:*
*«Паэзія — гэта пошук дна бяздоннага маўчання»*
*Другі яму рашуча запярэчыў:*
«Не! — гэта адчуванне бязмежнага болю ў нетрах спрадвечнай мілосці».
*А трэці паспрабаваў іх прымірыць:*
«Паэзія — гэта спасціжэнне спрадвечнага маўчання мілосці
на дне неабсяжнага болю».

## Творчасць

У лабірынце слоў нямых
блукаю,
нястомна я шукаю сярод іх
такія словы,
каб з іх можна было скласці,
нібыта пазл,
таямнічы верш,
які б змог вырвацца
з прасторы нематы,
і ў рэшце рэшт
загаварыць
са мной, з табой,
а мо
і з цэлым светам...

## Там...

*Там* штось шапоча пасівелая рака,
вісяць, бы яблыкі, на дрэве неба зоркі,
*там* выглядае лодка рыбака
чаўном Харона. І ляжаць пагоркі,

нібы вярблюды у пустыні; вецер там
містычнай цішынёй зачараваны,
бы немаўлятка, спіць. З нябёс бальзам
спакою льецца. Дзіўны час нірваны...

## Будоўля клуні слоў

раз**Б**егпалётуне***Б***а
п**А**ветрамоўр***У***чай
ма**Р**котам***Р***ояўглеба
в**А**дажыцця***А***дчай
ра**Д**зімыкрокі***Ў***бездань
гр**У**кочабольус***К***ронь
пя**Л**ёсткаўшлях***І***ўбессань
ляц**І**цьнатхнен***Н***яконь
сця**Н**азлапош***У***мсноў
б**У**доўляклуніслоў...



# Леанід Дранько-Майсюк

паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг: «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Вершы для Хомкі

## Хомка — рыбак і кухар

Лепей за яго няма
Рыбака на свеце —
Хомка шчупака паймаў
Кілаграмаў з дзесяць!

Кухарам усім на здзіў
На альховым веццi
Хомка шчупака зварыў —
Ешце рыбу, дзеці!

Хомка здолеў, Хомка змог,
Бо жыве не ў клетцы;
Ён — французскі, ён — бульдог
З беларускім сэрцам!

## Хомка-матэматык

Хомка — матэматык жвавы,
Тыдзень разлажыў на гавы.

Каб ніхто не забываў:
Панядзелак — проста гаў!

У аўторак (стань ці ляж)
Двойчы гаўкне Хомка наш.

Сераду, мае сябры,
Сустракае лічбай тры.

У чацвер чатыры гавы
Хомка вылічыць рухавы.

Прыйдзе пятніца — дык пяць...
Болей нельга тут брахаць!

А ў суботу шэсць, вядома,
Адспявае без утомы.

А ў нядзелю сем разоў
Выведзе і будзь здароў!

Хомка, жвавы і рухавы,
Тыдзень разлажыў на гавы!

## Хомка добры

«Чалавечую бяду
Раздзяру, калі знайду!
Хай жывуць усе заўжды
Без ніякае бяды!» —

Цяжка Хомку, цяжка так
Аж душу дзярэ нуда,
Бо не ведае Хамяк,
Дзе хаваецца бяда.

## Хомка-чэмпіён

Хомка спіць і ўдзень, і ўночы
І не чуе ў тым віну;
Вельмі ён да сну ахвочы —
Хомка чэмпіён па сну!

Быццам у кіно яскравым,
Сніцца, сам сабе герой —
То драпежным ваўкадавам,
То балонкаю малой.

## Хомка-артыст

«Лапу!»
Лапу дасць імгненна.
«Ляж!»
Лажыцца, нібы ліст...
Там, дзе Хомка, там і сцэна;
Хомка сам сабе артыст!

## Хомка-меламан

Хомка — меламан у нас,
Любіць спевы і зараз
Любіць рок, эстраду, джаз —
Аж ляціць з-пад лапаў гразь...

А класічнае гучанне
Слухае заўсёды ў ванне!

## Хомка-ласун

Хай усе аздобіць грады
Вінаград — салодкі сад.
Вінаграду Хомка рады,
Хомка любіць вінаград!

А паеўшы вінаграду,
Новы просіць вінаград...
І ляціць Хаме на радасць
Вінаградзін сіні град!

## Хомка ашчадлівы

Дома ён, як мае быць,
Добра ўмее адпачыць...
І Хаме не трэба Грэцыя,
Барселона ці Венецыя...

Ні Канары, ні Мальдзівы,
Ні турэцкая карчма...
Толькі дома і шчаслівы,
Бо ашчадлівы Хама.

## Хомка-кнігалюб

Кніжак вал-навалам,
І цана ж упала...
Скупіць Хомка кніжкі,
Бо на кніжкі — зніжкі!

І аддасць іх дзеткам
З павучаннем гэткім:
«Я пагрыз іх крышку,
Ды такой бяды...
Вы сядзіце нішкам
І чытайце кніжкі
Сёння і заўжды...»

## Хомка-рэкардсмен

Пацягнецца Хомка мордай,
Лапы выцягне свае...

Пацягушныя рэкорды
Хутка ён усе паб'е!

Пацягушкі — экзерсісы
Для сабачых лап і морд;
Спорт прыемны і карысны,
Самы неабходны спорт!

## Хомка-дакладчык

На трыбуну Хомка ўзбег,
Крыкнуў у нябёсы:
«Нам заўжды патрэбны смех!
Не патрэбны слёзы!»

Гэткі чуючы наказ,
Выпрастаўшы спінкі,
Засмяяліся ў адказ
Хлопчыкі й дзяўчынкі!

## Хомка-вартаўнік

Кожны кут сваёй кватэры
Ён пільнуе — вокны, дзверы,
Шафы, ложкі і балкон,
А найбольш пільнуе ён
Гаспадыню-ахмістрыню...

Добра ведае Хама,
Што найлепшай гаспадыні
І ў Амерыцы няма!

## Хомка і ягонае футра

Дожджык раніцаю соннай
Разганяе мокры сон...
Наш Хама без парасона.
Футра — лепшы парасон!

Як рухомая вітрына,
Брыльянцістае яно...
Незвычайная карціна...
Незвычайнае руно...

## Хомка і пацалункі

Найвялікшае мастацтва —
Пацалунак незнарок!
Хомка ўмее цалавацца:
Падбяжыць і ў шчочку цмок!

Праз хвіліну і другую
Проста ў сэрца мне зірне:
«Я цябе заўжды цалую,
Пацалуй і ты мяне!»

## Хомка і «словасьвет»

Хомка наш інтэлігентна
Націскае лапкай ENTER.
Увайшоўшы ў інтэрнэт,
Бачыць слоў бясконцы свет!

І свае прыдумаць словы,
Захапіўшыся, гатовы.

А пакуль на інтэрнэт
Ён гаворыць: «Словасьвет!»

## Хомка і вяровачка

Ёсць вяровачка-пляцёнка,
Цацка — лепшая за ўсе...
Толькі скажаце вы: «Хомка!» —
Ён вяровачку нясе.

З вамі, выставіўшы вочы
І забыўшы есці, спаць,
Ён гатовы аж да ночы
У вяровачку гуляць!

## Хомка і новая цацка

Новай цаццы рады Хомка...
Адбяжыць спачатку ўбок,
Зноў да цацкі скокне ёмка,
Запіхне сабе пад бок.

Хомка дзейнічае проста
То хвастом, то зубам вострым;
То глядзіць, нібы з засады...
Новай цаццы Хомка рады.

## Хомка і дог-фрызбі

Хомка не сядзіць на прызбе.
Нібы дзед стары які,
А гуляецца ў дог-фрызбі —
Ловіць круг з любой рукі!

Як не кінеш — Хомка хвацка
Сківіцамі дробна кляцне,
Скокне ўгору, зловіць круг...
Кожны скажа: «Хомка — зух!»

## Хомка-будзільнік

На ўсю хату, на ўвесь дом
Хомка не крычыць: «Пад'ём!»

Лапкай штурх... гаспадара:
«Прачынацца, брат, пара!»

І за вуха злёгку хваць:
«Досыць, гаспадару, спаць!»

Мордаю ж у вусны цмок:
«Падымайся, абібок!»

Галавою — не ды й не —
Мякка ў спіну падпіхне!

## Хомка і слава

І не злева, і не справа,
І не з долу, не згары —
Непатрэбна Хомку слава,
Трэба цацкі і сябры!

Цацак у яго даволі
І сябры таксама ёсць,

І таму Хама ніколі
Не хавае ў сэрцы злосць!

## Хомка і крыўда

Хомка без увагі нашай
На падлогу моўчкі ляжа
І ляжыць так доўгі час,
І адно вачыма скажа:
«Я пакрыўдзіўся на вас!»

## Хомка і мова

Хомка, хоць крыві французскай,
Вучыцца па-беларуску.

Ды ў яго свая навука,
Кажа ён на мяч: «Апука!»

А на шар гаворыць ён
З мяккай радасцю: «Балён...»

На пячэння дух салодкі
Хомка вымавіць: «Смакоткі...»

А ваду — душа жывая —
Запівачкай называе.

З цюбікам пачне гулянне...
Цюбік — гэта выцісканне!

А петарды — злыя грачкі —
Называе ён: «Стралячкі!»

А на кінабаявік
Хмыкне ціха — стралявік...

А парад, парад-грамада,
Не парад, а дзіфіляда!

## Хомка і скайп

Хомка наш за лапай лапу
Любіць паказаць па скайпу;

Кажа ён сям'і: «Сям'я,
Гэтак размаўляю я!

А яшчэ даволі модна,
Зноў жа як працуе скайп,
Размаўляць хвастом і мордай...
Гэта, вам скажу я, кайф!»

## Хомка і школа

Хомка меў гадоў даволі;
Захацеў вучыцца ў школе,
Праўда, тое не ўдалося —
Хомку парты не знайшлося!

Але вучні не на жарты
Разышліся: «Нашы парты
Аддаем усе, як ёсць!
Бо навукі Хомка варты
І ў навуцы будзе ўпарты...
Хомка — наша прыгажосць!»

## Хомкава парада

Каб дзень прайшоў лягчэй,
То раніцаю роснай
У парк бяжы хутчэй
Да клёнаў і да соснаў!

Уціш адрэналін
Спакоем, нібы спевам...
Далей будзь ад машын
І будзь бліжэй да дрэваў!

## Хомка і святлафор

Святлафорныя законы
Хомка вывучыў-спазнаў:
Ён ідзе, калі — зялёны,
І стаіць, калі — чырвоны,
А на жоўты кажа: «Гаў!»

## Хомкаў нораў

У Хомкі нораў залаты,
І Хомка, скокнуўшы ў кусты,
У голлі выпнуў грудзі:
«Усе сабакі мне браты,
Браты і кошкі, і каты...
Браты ж таксама й людзі!»

## Хомка і дождж

Дождж ідзе, і Хомка йдзе
Па траве і па вадзе...
Добра йсці, што ні кажы,
З Хомкам разам у дажджы!

А прыцісне дождж мацней,
Хомка без ніякіх слоў
(Той, якая карацей!)
Сцежкай прэцца ўжо дамоў!

## Хомка і ягоны вершык

Раніцай — у сем, у восем —
Па-над Свіслаччу-ракой
Скажа Хомка: «Гэта восень...
Ну, а гэта вершык мой:

Парк у золаце сагрэты
І стаіць, як цэлы свет...
Восенню — усе паэты;
Восенню і я — паэт!»

## Хомка-кінакрытык

Высокай самаю адзнакай
Хама ацэніць фільм, які
Цікавы дзецям і сабакам...
У Хомкі падыход такі!

У падыходзе тым — надзея,
Што болей фільмаў будзе тых,

Павесялее ад якіх
Сама душа, што век гібее...

## Хомка і аса

Нібы вострая каса,
Хомку ўджаліла аса!

Аднялася ў Хомкі лапка,
Не паможа Хомку ватка.

А патрэбны тут укол...
Маем пяць аптэк вакол.

І ў адной з пяці аптэкаў
Накуплялі Хомку лекаў.

А найперш — праднізалон,
Бо найбольш патрэбны ён.

І купілі тавегіл,
Каб Хаме падбавіць сіл...

Нашатыр? Каму? Яму!
Толькі б ажывіць Хаму!

І калі ж усё ўкалолі,
І далі ж усё, — тады
Хомка скокнуў аж да столі,
Як і не было бяды!

Бо аздаравела лапка...
Там, дзе джыгнула аса —
Не, не крапіна, а крапка
Засталася, як раса!

## Хомка ганарлівы

Я — не зносак і не зломак...
Хоць казаць аб тым няёмка,
А з усіх на свеце Хомак
Я найлепшы ў свеце Хомка!

І не тое што хвалюся,
Проста я ўрадзіўся гэткі...
Бегаю па Беларусі.
Зёлкі нюхаю і кветкі.

## Хомка і «Рухнама»

— Што чытаеш ты, Хама?
— От сабе... паціху
Пад назовам «Рухнама»
Я чытаю кнігу...

— Але чым яна, Хама,
Люд зачэпіць менскі?
— Тым, што кніга «Рухнама»
Пра народ туркменскі!

Пра народ, які народ,
А не проста — жыжка;
Ён не здаў сябе на звод!
Гэтым вабіць кніжка!

Я хачу, каб менскі люд,
Як і люд няменскі,
З зайздрасцю падумаў тут
Пра народ туркменскі!

## Хомка і Лёня

«Лёня, чуеш! Гаў-гаў-гаў!..»
«Чую, Хомка, чую!..»
Хомка Лёні заспяваў
Песеньку такую:

«Лісце, дрэвы, сінява,
У галінах — вецер!
Лапы, морда, галава —
Добра жыць на свеце!»

**Фота Джона Кунстадтэра**



# Кацярына Глухоўская

празаік, паэтка. Аўтар кнігі паэзіі «Калі дрэвы растуць з галавы» (2013 г.). Друкавалася ў «Дзеяслове» і «Верасні». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Мільёны дзяцей

— Я забіў сотні тысяч сваіх сыноў... — зала суда была поўная. Ля трыбуны стаяў высокі сівы чалавек са злым і худым тварам. Востры тонкі нос; скура зямлістага адцення, нібы ён даўно не дыхаў на свежым паветры і не бачыў сонечнага святла; шырока расстаўленыя, «рыбіныя» вочы незразумелага, жаўтаватага колеру, як разбаўленая мача; а рот маленькі, з тонкімі падцятымі вуснамі — падцятымі так, што ажно збялелі. На гэтага чалавека глядзелі ўсе. Ён падаваўся спакойным, але можна было, прыгледзеўшыся, заўважыць, як дрыжаць ягоныя павекі і заўважыць, якая глыбокая злая зморшчынка залегла між броваў. Гэты чалавек нерваваўся: ён быў напружаны, напяты. Але не праз суд. Нешта іншае ціснула на яго — нейкае іншае нявырашанае пытанне. І глыбокая туга, і непаразуменне адлюстроўваліся ў вачах — і жорсткасць, якая з'яўляецца ў людзей, чыя ўпэўненасць у Праўдзе амаль была падарваная.

Гэтая гісторыя пачалася даўно. Напэўна, што з двух братоў: Яшэка і Вацлава Вышэцкіх. І з пераезду сям'і Лёні Гарбуза на вуліцу Добрую. Справа ў тым, што маленькі чарнявы Гарбуз стаў добрым сябрам бялявага польскага Яшэка. Яны былі аднаго ўзросту, абодва любілі бегаць па вуліцы і смяяцца, а таксама збіраць жукоў у запалкавыя карабкі ды падкідаць суседскім дзяўчатам. Яшчэ Лёня Гарбуз умеў іграць на флейце — флейта тонкая, са срэбным бляскам, такая даўгая, што Яшэк ніяк не мог зразумець, хто на кім грае: Лёня на ёй ці яна на Лёню, бо па сутнасці яны былі роўныя, калі побач паставіць, а не трымаць упоперак. Тым больш Лёня меў такія даўгія пальцы, што Яшэк цудоўна мог уявіць, як музыка вылятае з іх — сама па сабе.

Аднойчы Лёня Гарбуз захварэў. Ён хварэў так доўга, што перастаў хадзіць у школу. Потым з яго вокнаў перастала гучаць музыка. А потым яны, Гарбузы, з'ехалі ў іншы горад. Ці нават у іншую краіну. Яшэк не зразумеў. Ён ведаў толькі, што лекара тут не знайшлося.

Калі ж Лёня з'ехаў, Яшэку не было чаго рабіць і ён пачаў даймаць свайго брата. Вацлаў быў старэйшы на два гады, меланхалічны, спакойны — і таемна радаваўся, калі яго Яшэк знайшоў сабе сябра-аднагодка, бо тым двуім не сядзелася на месцы ўзаемна, а Вацлаў, наадварот, атрымаў магчымасць у вольны час забіцца на падстрэшша, дзе ціха, утульна, ды пачытаць кнігі. Калі Яшэк застаўся адзін, давялося за ім сачыць, яго пацяшаць. А той, як малодшы ў сям'і, бэсціўся. І гэта жудасна нервавала Вацлава — час ад часу.

А вось Яшэк брата любіў. Вельмі моцна, хаця, па-свойму. З капрызамі, з выкідонамі, з упэўненасцю, што старэйшы брат самы моцны, таму ніколі не крыўдзіцца, нічога не адчувае, і можна кпіць з яго, можна яго абражаць.

Калі Вацлаў памёр ад невядомай хваробы ў шаснаццаць год, Яшэк быў шакаваны: ён не мог чакаць, ён не мог прадугледзець, не мог спыніць... ён нічога не мог.

А потым памёр тата Яшэка — ад той самай хваробы, што і яго першы сын. І Яшэк Вышэцкі застаўся адзін на адзін з мамай, якая таксама магла памерці. І ён абяцаў — не ёй, сабе — што не дазволіць гэтага.

Ён вучыўся на лекара. І яму было дзевятнаццаць, калі адна выкладчыца раскрыла яму «сакрэт»: чалавецтва даўно вядзе барацьбу з вірусамі. І здаецца, што вірусы перамогуць. Бо супраць іх у нас ёсць адзін аргумент: зменлівасць ДНК. Але што яна можа супраць зменлівасці вірусаў, пра якія наогул вядома мала, бо нічога не паспяваюць зведаць.

У тым жа годзе Яшэк адкрыў для сябе архівы медінстытута. І ён запойна чытаў пра ўсё, што адбывалася раней. Пра анатамічныя тэатры і савецкія, японскія, нямецкія эксперыменты[1]. Яму было страшна — страшна цікава. Да дрыжыкаў. І кожны раз, чытаючы, ён здаваўся сабе гэткім Фаустам, які прагне ведаў, якому яны патрэбныя без увагі на кошт. Яму здавалася, што гэтыя веды яшчэ крыху і прывядуць яго да адкрыцця альбо адкрыццяў, якія зменяць сусвет. Зменяць усё. Выведуць чалавека на новы ўзровень. Зробяць амаль роўным Богу. Ды што амаль!

Прынамсі, болей ніхто не памрэ. Нічый сябар. Нічый брат. Нічый тата. Нічыя...

Мама Яшэка памерла, калі яму было дваццаць шэсць год. У гэтым годзе ён скончыў аспірантуру. І гэта было жахліва: прыйсці дадому, дзе нікога няма, і ведаць, што ты тут нікога не можаш выратаваць, што ты не змог выратаваць уласнай мамы. І ніхто не змог яе выратаваць. Ні адзін лекар не спыніў тыя змены, што адбываліся, ніводная працэдура не вярнула імунітэт, ніхто не спыніў старасць. І яшчэ Яшэку здавалася, што ён чуў уночы, як хваробы і вірусы збіраліся каля ложка мамы, пасмейваліся, шапталіся між сабой. А потым яе забралі. І цяпер яны сядзяць па кутах яго дома, пасмейваюцца і чакаюць, каб прыхапіць яго. І ў кожным доме сядзяць. І чакаюць. І глядзяць на дзяцей, на старых матуль, на чыіхсьці жонак — на ўсіх, хто ўмее жыць. Нат на жывёл.

Але асабліва страшна было за людзей. Ён не мог чакаць, як чакалі вірусы, бо яго чаканне магло давесці толькі да паразы, да смерці, калі іхняе — да перамогі.

— Я спачатку не разумеў. Ён проста гуляўся ў Бога, — маленькі цёмны чалавек, яго былы дарадца і дапаможца, японскі медык Міхао Кіёсі[2], стрымліваў трэмар. Як сапраўдны японец, ён казаў спакойна і без боязі, прызнаючы свае і чужыя памылкі. І як сапраўдны японец, ён не глядзеў у вочы ні суддзі, ні прысяжным, ані падсуднаму. А вось падсудны не адрываў ад яго вачэй. Ён шукаў адказ — і не знаходзіў.

---

1 Гл. «еўгеніка».

2 2 Кіёсі — прозвішча ўзятае ў гонар японскага лекара і мікрабіёлага Сіга Кіёсі(1871-1957 гг.).

— Вы ўдзельнічалі ў стварэнні лабараторыі?

— Так, удзельнічаў, але напрыканцы, калі мы даводзілі яе да патрэбнага стану.

— Што Вы там рабілі?

— Забяспечваў тэхнікай.

— Я маю на ўвазе, чым Вы займаліся ў самой лабараторыі.

— Я дапамагаў пану Вышэцкаму праводзіць эксперыменты. Вырошчваць арганізмы. Мы пільнавалі, каб гэтыя арганізмы не станавіліся людзьмі — з імі не размаўлялі, іх не вучылі ні чытаць, ні думаць, ані перажываць пачуцці. Яны вывучвалі мінімальны набор слоў, каб толькі апісваць сцісла і зразумела свой стан.

— Адкуль браліся так званыя «арганізмы»?

— Пан Вышэцкі вырошчваў іх з уласных клетак. Мы змянялі структуру ДНК, дадавалі штучныя гены, правяралі ўздзеянне тых ці іншых медыкаментаў, парогі адчувальнасці, хуткасць развіцця, — раптам вочы японца заззялі, ён не стрымаўся: — Гэта былі неверагодныя вопыты. Неверагодныя вынікі. Прырода чалавека ва ўсіх яе варыяцыях.

— Што адбывалася далей?

— Далей нам не хапіла рук. І не хапіла жанчын. Пан Вышэцкі паклікаў на працу паненку з Сіднэя і пана з Пасадзіны. Яны лічыліся лепшымі з генетыкаў у свеце. Мы чакалі ад іх такой самай кампетэнтнасці і навуковага гледжання.

Падсудны адвярнуўся, прашаптаў сам сабе, але дастаткова гучна, каб людзі чулі:

— Мы чакалі ад іх разумення.

Калі Нэці Сцюарт[3] увайшла ў лабараторыю, разам з ёй увайшло святло — святло новай надзеі Яшэка. Яму не хапала жаночых клетак, разгадкі іхняе ДНК. Ён амаль не выходзіў на паверхню з цёмнай лабараторыі, амаль не бачыў нікога з іншых людзей, апроч за Міхао ды «арганізмаў». Ён амаль забыў, як выглядаюць жанчыны. Дваццаць сем год яны рабілі эксперыменты. Дваццаць сем год на тое, каб навучыцца ствараць людзей, вырошчваць іх з патрэбнай хуткасцю, каб вывучыць дасканала, як чалавечае цела ў залежнасці ад генома[4], ад флуктуацый[5] рэагуе на тыя ці іншыя рэчы, з'явы. За дваццаць сем год яны назбіралі сто сорак тамоў запісаў і назіранняў. Два чалавекі геніяльнага розуму. Яшэк падаваў ідэі — Міхао дапамагаў увасобіць іх найлепшым чынам...

3 .Нэці — імя ўзятае ў гонар адной з першых амерыканскіх генетыкаў і адной з першых жанчын, прызнаных у навуцы Нэці Марыі Стывенс (1861-1912 гг.)

4 Геном — сукупнасць спадчыннага матэрыяла, захаванага ў цытах (клетках) чалавека

5 Флуктуацыя — у біялогіі і фізіялогіі магчымая прыжыццёвая мутацыя, якая залежыць ад зруху крыжавін ДНК.

Нэці сталася выдатным лекарам, навукоўцам ад Бога, апантаным сваёй працай. Яна вяла перапіску са спадаром Яшэкам ужо восем год — з таго моманту, як сама паступіла на медыцынскі і знайшла ягоныя працы падчас напісання курсавой. Яшчэ тады яна ўбачыла, які патэнцыял, які розум, якія мэты і перспектывы меў той, малады Яшэк. Упэўненая, што ён не мог знікнуць проста так, яна стала шукаць — і знайшла. І вось нарэшце, праз восем гадоў перапіскі яна дачакалася запрашэння ад спадара Яшэка. Гэта было не толькі прызнанне, але і праява такога даверу, на які яна толькі спадзявалася, якога прагнула...

— Але рэальнасць апынулася іншай. Там былі людзі. Сотні людзей. Дзеці. Юнакі. Мужчыны. Старыя. Мы называлі іх арганізмамі, але гэта былі людзі, — маладая жанчына дваццаці васьмі год адказвала як сведка.

— Колькі цягнулася Вашая праца ў лабараторыі пана Вышэцкага?

— Тры гады. Амаль тры гады. Поўных два.

— Што Вы можаце сказаць наконт гэтай працы?

— Я ўжо сказала. Я не магла не бачыць гэтыя вычварэнствы, але не бачыла. Проста закрывала вочы. Усё дзеля навукі. Дзеля іншых людзей. Мы не вучылі іх быць людзьмі, але яны вучыліся самі. Мы не дазвалялі ім стасавацца паміж сабой і не размаўлялі з імі звыш патрэбы. Мы не дапускалі жанчын да мужчын і мужчын да жанчын, трымалі асобна. Але ставілі сумесныя доследы, каб прасачыць рэакцыі. Гэтая праца кожны дзень давала нам шанец раскрыць чалавечы сакрэт. З кожным адкрыццём Таямніца вабіла нас — і падманвала. Я лічу, што колькі б мы не працягвалі, гэта не наблізіла б нас да Таямніцы. На жаль, тады я гэтага не разумела.

— Чаму Вы не звярнуліся ў паліцыю, як толькі асэнсавалі, што робіце нешта не тое? — жанчына нахіліла галаву. Рудыя валасы схавалі твар. Яна плакала. Яшэк падцяў вусны.

Джэры Райт[6] быў самы малады сярод гэтых лекараў. Ён не шукаў знаёмства з Яшэкам Вышэцкім, не меў перапіскі — Яшэк сам знайшоў яго, калі адчуў, што мае патрэбу ў памочніках. Апроч таго Джэры быў неграм, а гэта забяспечвала Яшэку новы прыток крыві — новую інфармацыю. Кожны з чатырох лекараў быў адначасова крыніцай, хаця спярша Яшэк планаваў працаваць адно са сваім матэрыялам — гэта здавалася больш этычным, бо з самім сабой чалавек, на яго погляд, меў права рабіць што заўгодна. І «арганізмы» Яшэк не адасабляў ад сябе, бо яны не былі ў яго разуменні паўнавартаснымі людзьмі, выхаваныя «у прабірцы», наўмысна, як белыя медыцынскія мышы.

Джэры прыехаў з сонечнай Каліфорніі — і апынуўся ў схаваным пад зямлёй медыцынскім цэнтры, абсталяваным лепш за шматлікія іншыя афіцыйныя,

6 Джэры — імя ўзятае ў гонар амерыканскага генетыка, славутага крытыка рэлігіі і крэацыянізма Джэры Алена Койна (нар. 1949 г.)

якія ён бачыў. Спачатку Джэры быў зацікаўлены гэтай справай і нат захоплены — зусім юнак, дваццацідвухгадовы, яшчэ студэнт, але надзвычай развіты і з авантурным характарам. І сірата. Яму не было асабліва за што трымацца, не было чаго губляць, грошы не клапацілі, бо гэта быў больш чалавек ідэі. Таму і згадзіўся на дзіўную прапанову пана Яшэка, што абяцала вялікія магчымасці ў навуцы і жаданую практыку.

А вочы ў яго былі цёмныя, глыбокія і вільготныя ад дабрыні — з позіркам цялка, які нешта ведае ды маўчыць.

— Ён і праўда гуляў у Бога. Ствараў людзей на свой густ, рабіў нейкія штукі і глядзеў: а што цяпер будзе? А як цяпер вы адрэагуеце? Гвалціў іх, як хацеў. І казаў, што мае права, бо ўсе яны — гэта ён. А якая розніца? Сто тысяч разоў забіваў самога сябе. Ён натуральна даводзіў іх да смерці. У тых стэрыльных пакоях былі такія жахі, пра якія не знойдзеш у ніводнай кнізе! Замяраў гучнасць і тэмбр, калі крычалі ад болю альбо ад жаху. Глядзеў, ці адчуваюць наогул той боль і жах. Здзекваўся з іхняй псіхікі, каб пільнаваць за вынікамі. У аднаго так, у іншага гэтак... і паглядзім. І ўсё для вялікай мэты. Матэрыял, — малады негр размахваў рукамі, хаця намагаўся стрымаць сябе. Толькі вочы палалі роспаччу — балючай, гнеўнай. Вочы цёмныя, глыбокія і вільготныя ад дабрыні.

— Што сталася апошняй кропляй? Што вымусіла Вас выйсці на паверхню і распавесці пра ўдзельнікаў лабараторыі?

— Ды ўсё там было апошняй кропляй. Я не мог глядзець на гэта. Не мог паводзіць сябе, як астатнія. Пачаў размаўляць з «арга...» цьху, непатрэбства нейкае. З пацыентамі пачаў размаўляць. А яны ўмелі. Яны думалі. Спадар Вышэцкі ды спадар Кіёсі правялі побач з гэтымі людзьмі столькі год, столькіх забілі, столькіх выгадавалі, а так і не ўбачылі, што тыя ўмеюць разважаць, адчуваць, што яны не ведаюць, як правільна называць свае пачуцці, але думаюць пра гэта, выбіраюць словы, баяцца выказацца. Там быў адзін пацыент. Ён быў закаханы ў дзяўчыну з іншага аддзялення — яе выкарыстоўвалі ў сумесных з ім вопытах. Ён адчуваў да яе, не ўмеючы, такое, пра што пісаў Шэкспір, Петрарка, Майн Рыд, Маркес, іншыя... і гэта не людзі? Яны разважалі пра жыццё і смерць гэтаксама, як мы. Калі я сказаў пра таго хлопчыка Міхао, сумесныя вопыты адмянілі, а мне забаранілі стасавацца з пацыентамі. Я проста зразумеў тады, што ў гэтым маленькім пекле ўсе ўсё ведалі. Што яны наўмысна рабілі выгляд, нібы нічога няма, нібы не з людзьмі доследы робяць. Пан Яшэк, пан Міхао, пані Нэці — яны рабілі людзей са сваіх клеткак, змешвалі гены, стваралі сумесных дзяцей і забівалі іх. Як казурак. Я мог маўчаць, пакуль думаў, што яны самі не разумеюць. А яны ведалі. Усё ведалі, — Джэры схапіўся за галаву. Памаўчаў. Ён проста ўзгадваў:

— Разумееце, гэта быў свой сусвет, свая антыўтопія. Яны нават імёнаў не давалі — прысвойвалі нумары, каб зручней было. Вось у таго хлопчыка

быў нумар «шэсцьдзясят адна тысяча семсот восемдзясят другі», — Джэры зірнуў на Яшэка. Пранізліва, з тым самым пытаннем у вачах. Потым выгукнуў:

— Вы ж ведалі!

Яшэк узняўся, звярнуўся да суда:

— Можна апошняе слова?

Яму дазволілі. Гледзючы проста на Джэры, крывячы вусны, Яшэк пачаў:

— Я ведаў. Я працаваў у гэтай лабараторыі трыццаць год. Я трыццаць год іх ведаў. Гэта ты не ведаў нічога! Думаеш, проста так я забараняў размаўляць з арганізмамі? Думаеш, проста так не называў іх людзьмі? Думаеш, я не ведаў, што гэта людзі?! Яны ўсе былі мае дзеці. Уласныя дзеці. Ты кажаш, я замяраў іхнія крыкі. Ты кажаш, я не адчуваў іхні боль. Ды я сотні тысяч разоў гінуў разам з імі. І я не даваў ім адчуць сябе людзьмі, не даваў ім адчуць сябе роўнымі мне, табе, Нэці альбо Міхао, таму што так яны маглі падумаць, маглі атрымаць надзею, што нешта зменіцца, што можа быць іначай. А іначай быць не магло. Яны нараджаліся і паміралі там, у лабараторыі. Яны нараджаліся і ствараліся, каб памерці і даць новыя веды пра чалавечы арганізм. Ты не разумееў гэтага? Ты хацеў, каб яны гэта разумелі? Я ведаў, што яны ўмеюць думаць. І дазваляў ім думаць пра сябе, дазваляў выдумляць свае рэлігіі, мець свае ўяўленні наконт прызначэння, наконт нашай ролі ў іх жыцці. Я дазваляў ім спытаць сябе, нашто гэта ўсё, хто яны такія — і самім даваць адказы. Але мы не павінныя былі лезці ў іхні свет і адкрываць праўду. Таму што без гэтай праўды ім было і так усё зразумела. Усё было проста. Як закон. Як тое, што ўсе людзі нараджаюцца і паміраюць. Усе доследы і працэдуры былі часткай абавязковага жыццёвага рытуала. А мы для іх былі іншымі істотамі. Але ты вырашыў паказаць, што мы не адрозніваемся. Вырашыў раскрыць «праўду». А гэта не праўда, бо мы адрозніваемся. Мы ставілі над імі доследы, стваралі і знішчалі, а ты даў надзею, што ўсё магло быць інакш. Не магло!.. І ўсё было так проста. Шмат пытанняў, шмат несправядлівасці, шмат болю. Але болю неабходнага. І калі б адказы на іх пытанні сталі вядомыя, несправядлівасць і боль праз гэта не зніклі б, — Яшэк развёў рукамі, зірнуў на суддзю, на прысяжных, на аўдыторыю: — Усе вы! Слухайце! Я адкрыў, як лекаваць СНІД і рак, як лекаваць сотні тысяч розных хвароб; зразумеў, адкуль яны і чаму яны, як іх пазбегнуць; знайшоў такія хваробы, якія толькі могуць пагражаць чалавеку; знайшоў, як спыняць старасць, як падаўжаць маладосць, як наогул рэгуляваць свой узрост, як выкарыстоўваць здольнасці цела, як зведваць гэтыя здольнасці... Я рабіў гэта ўсё для вас! Я забіў сотні тысяч сваіх сыноў і сваіх дачок, каб вашыя дзеці жылі. Каб жылі мільёны, мільярды вашых дзяцей. Каб вы маглі быць з імі столькі, колькі захочаце. І Міхао Кіёсі гэта рабіў — дзеля вас. І Нэці Сцюарт... мая Нэці. І нават ты, Джэры. Джэры Райт — заўжды правы...[7] — ён

7 Гульня слоў: «right» у перакладзе з ангельскай «правы, правільна».

збіваўся на шэпт. — Усё, што ты рабіў, было дзеля іншых! Ты гэта ведаў! Мы захавалі столькі кніг. Столькі ведаў. Каб вы жылі...

Яшэк пацягнуўся да залы далонямі, як Хрыстос на помніку ля старога касцёла на вуліцы Добрай.

— А калі ты звярнуўся ў паліцыю, што адбылося? Рэвалюцыя. Той хлопчык, нумар «шэсцьдзясят адна тысяча семсот восемдзясят другі»... ён зразумеў. Гэта ён падпаліў лабараторыю, а не я. Я проста не змог іх выратаваць. Я ратаваў кнігі.

— Я забіў сотні тысяч сваіх дзяцей, каб выратаваць мільёны вашых, — вось як ён сказаў!

Стары сядзеў, абапёршыся рукамі на цёмны дубовы стол. Недзе збоку палала вогнішча, трашчала, адкідала на сцены і твары чырвоныя цені.

— Дык ён вінаваты, пан суддзя? Вы ўжо чатыры гады не можаце вырашыць...

Суддзя маўчаў.



# Віталь Воранаў

празаік, перакладчык. Сузаснавальнік і старшыня Беларускага культурна-асветніцкага цэнтра ў Познані. Абсальвент універсітэта імя Адама Міцкевіча ў Познані, студэнт універсітэта імя Масарыка ў Брне. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску. Жыве ў Чэхіі.

# Развітанне

Калі я выйшаў з хаты, Вадзім ужо чакаў мяне на панадворку.

— Грошы ўзяў? — спытаўся ён.

— Узяў, — адказаў я і імкліва прайшоў, не спыняючыся каля яго. — Хадзем.

Мы радасна крочылі па гравійцы і вялі бязладную гамонку пра ўсё, што толькі прыходзіла ў галаў. Вадзім час ад часу заходзіўся смехам, або казаў нешта накшталт «ды ну». Я любіў яго як свайго стрыечнага брата, не надта зважаючы на тое, што ён трохі меншы за мяне, што ў гэтым веку зусім не без значэння. Часам было бачна, што ён зусім малы, але ён кампенсаваў гэта сваёй неад'емнай энергіяй.

Скончылася гравійка, пачаўся асфальт і мы павярнулі направа. Спярша мы задумалі пайсці ў краму, купіць газіроўкі і ўжо з ёй падацца ў пошуку прыгодаў. Куды дакладна і якога роду прыгодаў нам хацелася, мы не ведалі. Насустрач, хутчэй за ўсё з плебані, ішла маладая законніца. Калі мы разміналіся, яна ўсміхнулася ў наш бок. Мы кіўнулі галовамі, хаця я быў перакананы, што трэба было сказаць штосьці адмысловае. У адрозненне ад астатніх сёстраў, гэтая была надзвычай прыгожая. Яе я бачыў не першы раз і заўжды, калі нашы позіркі сустракаліся, яна бліскала мілавіднай усмешкай, з-пад якой вызіралі белыя-белыя зубы.

— Табе падабаецца? — спытаўся я ў Вадзіма, калі законніца ўжо адышлася на дастатковую адлегласць. Вадзім доўга думаў, а пасля, больш каб сказаць штоколечы, абыякава кінуў. — Я б жаніўся.

Каля касцёла мы павярнулі налева і выйшлі на вялікую асфальтаваную дарогу. Побач з крамай стаяла кучка незнаёмых нам хлопцаў. Яны кінулі на нас непрыязныя позіркі, даючы зразумець, што нашая прысутнасць там не вітаецца. Адзін з іх паказальна плюнуў на зямлю. Гэта быў намёк на нашу гарадоцкасць. Яны, напэўна, ведалі толькі тое, што я прыехаў да дзядоў з суседняга мястэчка. Вадзім наогул прыязджаў да бабулі з вялікага горада. Каб не даць ім магчымасці нас зачапіць, я імкліва ступіў на прыступку і адчыніў дзверы крамы.

Зайшоўшы ў сярэдзіну, мы адразу накіраваліся да паліцы з напоямі. Бутэлькі на ёй былі ўсе аднолькавай формы, але іх змесціва было самае рознае. Доўга не задумваючыся, мы ўзялі чатыры бутэлькі з зялёным, як трава, напоем. Паклаўшы бутэлькі на высокі прылавак, я выцягнуў з кішэні цэлы камяк пакамечаных банкнотаў. Прадавачка, не без агіды, пачала выпроставаць банкноты і адзін за другім класці ў касу. Перакінуўшы на рахубніцы некалькі вялікіх кольцаў, яна сказала:

— Вам, мальцы, не хапае.

— А на колькі хапае? — доўга не думаючы, спытаўся я.

— На тры, — сказала яна, гэтым разам з нейкім нецярпеннем у голасе.

— Тады тры, — сказаў я і ўручыў чацвёртую бутэльку Вадзіму, каб той аднёс яе назад на паліцу.

Прадавачка падала мне нейкі банкнот з выявай вавёркі і, узяўшы наша майно, мы пакінулі краму. Хутка мінуўшы хлапцоў, мы рушылі па дарозе назад. Толькі добра адышоўшыся і зразумеўшы, што пагоні не будзе, мы пачалі думаць, як адкаркаваць пляшкі. Каля прыпынку, насупраць касцёла я заўважыў жалезную трубу, якая недарэчна вытыркалася з зямлі. Прыклаўшы бутэльку да трубы, я правай рукой ударыў па корку. Пачулася шыпенне, але корак застаўся сядзець на сваім месцы. Я ўдарыў другі раз. Рука запякла ад болю, але корак адваліўся, і я працягнуў бутэльку Вадзіму. Другую бутэльку я паспрабаваў адкаркаваць іншай тэхнікай. Зачапіўшы коркам аб жалезіну, я рэзка пацягнуў яе на сябе. Вонкі выплеснула вадкасць падобная да зялёнкі. На рыльцы бутэлькі адшчарбілася трохі шкла. Мы адпілі і, зноў павярнуўшы каля касцёла, пацягнуліся ўздоўж знаёмай вуліцы. Чым далей мы ішлі, тым менш знаёмай здавалася ваколіца. Хоць гэта была ўсё яшчэ тая самая вёска, я ў пэўны момант зразумеў, што яшчэ ніколі так далёка адзін не заходзіў. Дапіўшы газіроўку, Вадзім шпурнуў сваю бутэльку ў канаву. Асабліва не цэлячыся, я зрабіў тое самае. Пачулася, як у высокай траве б'ецца шкло. Адышоўшы на момант у бок канавы, Вадзім вярнуўся з калючкамі дзядоўніка. Я папрасіў у яго некалькі штук і тут жа запусціў па ім. Накідаўшыся ўволю калючкамі, выцягваючы іх з валасоў і адзення, мы выйшлі на гравійку, якая нагадвала нам вуліцу, на якой жылі нашыя дзяды. Хаты спярша пачалі радзець, а пасля скончыліся наогул, і дарога павяла ў поле. Час ад часу азіраючыся назад, мы працягвалі крочыць у пошуку прыгодаў. Дарога перайшла ў сцяжыну, і ўсё часцей перад намі пачалі з'яўляцца невялікія пагоркі. За адным з такіх пагоркаў, уводдалі, мы ўбачылі статак кароў. Вадзім пачаў лавіць матылёў. Мне гэтая забава здалася занадта дзяціннай, таму я мэтанакіравана крочыў наперад, каб не запавольваць марш.

— Ці ўмееш зрабіць дудку са ствала дзядоўніка? — спытаўся Вадзім.

— Не ведаю, трэба паспрабаваць, — шматзначна адказаў я, каб не выявіць свайго няўмельства.

Калі мы падышлі да кароў амаль ушчыльную, то заўважылі, што яны пасвяцца за агароджай з тонкага дроту. Я ўжо бачыў гэты дрот раней, бо дзед бывала браў мяне на радоўку. Я пачаў ісці ўздоўж дроту, але так, каб выпадкова да яго не дакрануцца. Раптам у канаве нешта заварушылася. Калі з высокай травы паказалася чалавечая галава, у мяне ажно ёкнула ў грудзях, а перапалоханы Вадзім умомант схаваўся за маімі плячыма.

— Ну што, жэўжыкі, гуляеце? — азваўся, здавалася даволі прыязным голасам чалавек, які, мяркуючы па ўсім, мусіў быць пастухом.

— Ну, — азваўся я, як старэйшы, а Вадзім памалу высунуўся з-за маіх плячэй, каб лепш прыгледзецца да незнаёмага дзядзькі.

— Малайцы, — сказаў ён і прыпадняўся, каб сесці. Ягоны твар быў увесь чырвоны і моцна кантраставаў з зялёным плашчом, які рабіў яго амаль незаўважным на фоне травы.

— А вы? — недарэчна спытаўся памужнелы Вадзім.

— А я пільную, — сказаў мужчына, прыпадняўшы з травы пугу і наглядна памахаўшы ёю ў паветры для пацверджання сваіх словаў.

— А ну пайшла, — страшным голасам зароў чалавек на карову, якая непадалёк ад нас пачала лезці ў канаву з вадой. Карова не слухала, таму мужчына рэзка падняўся, хутка падбег да яе і, свіснуўшы праз дрот пугай, усмаліў па налітым каровіным баку. Жывёла кінулася на ўцёкі.

— Каб цябе воўк! — кінуў мужчына, вярнуўшыся на сваю посцілку. Відаць прыгадаўшы пра нашу прысутнасць, ён зноў прыязным тонам спытаўся:

— А чые вы будзеце?

— Букавы, — азваўся я, быццам чакаючы гэтага пытання.

— Букавы? — падазрона перапытаўся незнаёмец.

«Толькі я», захацелася дадаць мне, але я палічыў лепшым не паглыбляцца ў падрабязнасці. Толькі цяпер я заўважыў каля яго пустую пляшку і ўцяміў, што мужчына, відаць, п'яны. Каля пляшкі ляжалі пакрышаныя драбкі хлеба і пёркі зялёнай цыбулі.

— Дай глытнуць, — урэшце сказаў мужчына, кіўнушы на пляшку ліманада, якую я ўсю дарогу трымаў у руцэ. Я працягнуў бутэльку мужчыну і адышоўся назад.

— У горле перасохла, — сказаў ён, цяпер ужо выразна п'яным голасам, выцягваючы з пад посцілкі вялікі, паляўнічы нож. Вадзім шматзначна паглядзеў мне ў вочы. Мужчына адным махам нажа адкаркаваў бутэльку і пачаў пажадліва піць. Выпіўшы амаль палову бутэлькі, ён працягнуў яе ў мой бок.

— Не, не трэба, — сказаў я, з прыхаванай агідай.

Нічога не кажучы, ён дапіў да канца і паклаў пустую бутэльку на зямлю.

Няўклюднымі рухамі ён пачаў зашпільваць прарэх.

— Дык, а чаму вы не ў школе? — нейкім настаўніцкім тонам спытаў чалавек.

— Канікулы, — радасна адказаў Вадзім.

— Канікулы? — паўтарыў мужчына з нейкім падазрэннем у голасе.

— А гэты дрот навошта? — нечакана спытаўся Вадзім.

— Дрот? — ізноў паўтарыў дзядзька і падняўся на ногі. Ён сарваў травінку і,падышоўшы да дрота, выцягнуў у бок Вадзіма руку.

— Давай, — сказаў мужчына.

Вадзім даверліва падаў сваю руку, а мужчына адной рукой трымаючы Вадзіма, другой хутка дакрануўся сцяблінкай да дрота. Вадзім рэзка вырваў руку і, закалаціўшыся, кінуў у мой бок запытальны пагляд. Ён глядзеў на мяне так, быццам гэта была мая віна.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў жахлівым голасам мужчына. Калі рогат суняўся, ён адрыгнуў так, што рэха пакацілася па ўсім наваколлі.

— Вунь ідзе бабуля, — схлусіў я і ўдавана паказаў пальцам у бок, з якога мы прыйшлі.

— Дзе? — наіўна спытаўся Вадзім, а мужчына пачаў безвынікова паглядам блукаць па краявідзе.

Нічога не кажучы, я хуценька падышоў да Вадзіма, схапіў яго за руку і пацягнуў у той бок, адкуль быццам бы ішла бабуля.

— Чыя бабуля? — незразумела ці то радасна, ці то спалохана спытаўся Вадзім.

— Маўчы, — сказаў я і прыбавіў ходу.

# Святы Юзаф-раменік

— Заўтра паедзем на фэст у Мосар, — сказала бабуля надвячоркам.

Раніцай я прачнуўся раней чым звычайна. На фэсце ў Мосары я ніколі не быў, але па невядомай прычыне чакаў ад яго чагосьці незвычайнага. Калі мы стаялі на аўтобусным прыпынку, я спытаўся ў бабулі, што такое фэст у Мосары.

— Фэст у гонар святога Юзафа-рамесніка, — патлумачыла яна.

Слова рамеснік гучала ўжо куды больш знаёма. У мястэчку быў рамесніцкі гурток, на які мяне ў свой час ледзь не аддалі. На колькі я памятаў там выраблялі розныя дзівосныя рэчы, не надта праўда практычныя, але вельмі прыгожыя. Замест гэтага я пайшоў у музычную школу.

Насупраць аўтобуснага прыпынка была хата дзяўчынкі, якую я часта сустракаў у касцёле. Відавочна яна была ў дзявочай групе, чымсьці накшталт хлапчуковага захрыстыянства. Падчас вялікіх урачыстасцяў, апранутая ў блакітную сукенку і белыя панчохі, яна ішла перад ксяндзом і сыпала пялёсткамі розных кветак. Пялёсткі былі ў адмысловым кошыку, які вісеў падвешаны на шыі. Падаючы на зямлю, яны ўтваралі каляровы дыван, па якім ксёндз ступаў чорнымі чаравікамі. У яе былі шэрыя, вадзяністыя вочы, ад якіх было проста немагчыма адарвацца. Яны нагадвалі мне ваду ў студні, узіраючыся ў якую, можна было заваражыць самога сябе. Аднойчы я бачыў, як яе белыя валасы папраўляе нейкая жанчына. Прыгледзеўшыся да яе лепей, я вырашыў, што гэта мусіць быць яе маці. У іх былі такія самыя вочы і валасы. Пазней мая здагадка пацвердзілася, калі я ўбачыў як, вяртаючыся з касцёла, яны разам зайшлі ў гэтую хату насупраць прыпынка, і ў вокнах запалілася святло. Аднойчы я пачуў, як адна з дзяўчынак паклікала яе імем Алена. Дом, імя і маці — гэта было ўсё што я пра яе ведаў, і гэтага магло быць дастаткова, калі б не тое, што мне ніяк не траплялася нагода з ёю загаварыць. Калі я глядзеў на яе, яна не адводзіла вачэй, і гэта было для мяне, як мінімум, знакам неабыякавасці. Я глядзеў цяпер у вакно ейнай хаты са спадзевам убачыць яе, але ў вакне нікога не было. Аканіцы хаты былі памаляваныя белай фарбай. На іх былі выразаныя круглыя ўзоры, такія самыя, як на выцінанках, якія я бачыў калісьці ў школе рамёстваў. Там жа, прыгадваў я, былі саламяныя кветкі, жывёлы і хаты. А яшчэ там была хата, зробленая з запалак.

Калі мы сядзелі ўжо ў аўтобусе, бабуля працягнула мне дзве паперкі. На адной з іх быў зубр, на другой мядзведзь. Ззаду, на абедзьвюх купюрах, вяр-

хом на кані і з мячом у руцэ віднеўся рыцар. Я яшчэ раз перавярнуў банкноты, паглядзеў на жывёлаў і падумаў, што гэта не рыцар, а паляўнічы. На грашах, як і на аканіцах Аленавай хаты, былі розныя ўзоры. Трэба купіць Алене нейкі падарунак, падумаў я, і што гэткі спосаб знаёмства будзе найбольш падыходзячы. Аднак перашкаджалі дзве рэчы. Па-першае, я ніколі не купляў нічога іншага апрача прадуктаў, па якія звычайна ездзіў на ровары па даручэнні бабулі, або дзеда. Па-другое, нават тады, калі мне даводзілася нешта купіць, мяне апаноўваў нейкі незразумелы страх. Гэта быў той самы страх, як тады, калі дарослыя даручалі мне папытацца пра нешта ў незнаёмага мне чалавека. Выходзячы з аўтобуса, я, аднак, быў настроены больш чым рашуча.

На гарызонце разлегліся бясконцыя рады гандляроў і людзей. Калі мы прайшлі каля белай фігуры, я пабачыў размаітыя тавары больш выразна. На сталах былі гліняныя пасудзіны, каляровыя пацеркі, карціны, вышываныя ручнікі, бочкі і шмат чаго іншага. Мы абмінулі гандлярскія лавы і накіраваліся да касцёла. Я папрасіўся застацца, і бабуля пагадзілася, пакінуўшы мяне аднога. Я падыйшоў да першай лаўкі з краю і адчуў, як мой зрок пачынае бязвольна разбягацца па густа растаўленых таварах. Каля кожнай лаўкі стаяў прадавец. Каб даць сабе болей часу на ўтаймаванне знаёмага страху я працягваў ісці праз рады. Урэшце мой пагляд спыніўся на фігурцы выразанага з дрэва анёлка. Падышоўшы бліжэй, я заўважыў, што на ягоных тонкія крылах выразаныя нават пёркі. Рукі анёлка былі складзены на грудзях у малітве, а вочы глядзелі ўгору. Толькі цяпер я заўважыў, што за гэтай лаўкай нікога не было. У мяне перасохла ў горле і стала раптам вельмі горача. Каб у апошні момант не здацца і дадаць сабе ўпэўненасці, я намацаў у кішэні грошы і згарнуў іх у кулак. Нечакана на другім баку прылаўка я пабачыў Аленіну маці. Яна заўважыла мяне і ўсміхнулася. Яе вусны былі памаляваныя чырвонай памадай. На момант я замёр і мне здалося, што я вось-вось знепрытомнею. У галаве ўсё захадзіла страшэнным хадуном. Я разляпіў вусны і ледзь змог выціснуць з сябе:

— Вы?

Тут жа, не чакаючы адказу, я развярнуўся і хутка, без аглядкі, пакрочыў у касцёл. Здавалася, што я ступаю па пялёстках руж.



# Аляксандра Сымановіч

празаік, паэтка. Друкавалася ў «Верасні». Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы ў 2008 годзе па спецыяльнасці «Правазнаўства». Працуе ў АУВП «Гродзенская гарадская жыллёва-камунальная гаспадарка». Нарадзілася ў 1986 годзе ў Лідзе. Жыве ў Гародні.

# Я матылёк?

Людзі — быццам матылькі, і я — адна з іх... Лячу да полымя, на крылах кахання і шчасця, не ведаючы, што згару і стану попелам...

Ці ведаем мы, якая прырода таго агню, што так вабіць нас да сябе? Чаму так ярка ён гарыць, калі нічога іншага мы не бачым у цемры жыцця, акрамя гэтага цудоўнага полымя? Колькі іх? Тых матылькоў, што кахалі, марылі, жадалі, што ляцелі насустрач святлу, не ведаючы, што гэта толькі часовы агонь, несапраўднае шчасце, якому аднойчы прыйдзе пара знікнуць. А так прывабна ўсё ў гэтым святле, усё здаецца такім чыстым і добрым, такім мілым і шчырым, такім родным, сваім! І пакуль усё добра, пакуль не пагасне полымя, матылькі кружацца і кружацца вакол, кожны шукаючы сваё ўласнае шчасце.

Так ляцела і я. Так шмат чаго я пакінула. Так шмат чаго магла пакінуць. Так шмат растраціла на дробязі. Так шмат вялікага наперадзе. Так шмат «было» і шмат «будзе», што ўжо і не памятаеш, што полымя — гэта не толькі прыгожосць і святло, але ж і боль, калі абпальваеш крылы. І колькі разоў чую: «Матылёк! Не ляці! Згарыш! Загінеш!». Так, так, я чую, але ж, усё роўна, лячу наперад. Чаму? Бо ляцець да мары — лепшае, што можа быць у жыцці, бо ведаць, што паміраеш не дарэмна — прыемнейшая з думак, бо адчуваць — найцудоўнейшае з таго, што даравалі нябёсы! І колькі б не казалі, што бяспечней і цяплей дома, зноўку вылятаеш на невядомыя прасторы, каб згарэць аднойчы, каб усё жыццё не прасядзець у сумнай цемры, так ніколі і не пабачыўшы святла.

Часам задумваешся, якая роля гэтага святла, хто запальвае яго і дзеля якой мэты? Кожны бачыць у ім нешта сваё. Для адных — гэта каханне, моцнае, яркае, на ўсё жыццё, у якім не шкада спаліць сябе да тла. Для іншых — гэта рэалізацыя сябе ў жыцці, як асобы, як творчага чалавека, як палітыка... Для кагосьці — гэта сям'я, у якой заўсёды павінна быць гэтае святло. Для кагосьці — барацьба за сваю краіну. Для іншых — гэта вышэйшы свет, дзе кіруюць іншыя законы. Кожнага вабіць сваё, і кожны, хто хоць кудысьці імкнецца, а не сядзіць, чакаючы нейкага дара з нябёсаў, ляціць да святла, рызыкуючы шмат чым. І зусім не страшна абпаліцца языкамі полымя, калі ведаеш, што гэта дзеля нейкай пэўнай мэты. Бо гэта полымя не толькі дае святло, але ж, здаецца, і цеплыню, калі падлятаеш да яго блізка-блізка. І няхай яно абагрэе цябе толькі на некалькі імгненняў — ты будзеш памятаць гэтыя цудоўныя хвіліны, калі быў так побач са сваёй марай, калі кранаў яе сваімі крыламі, калі быў шчаслівы і аслеплены гэтым шчасцем! І ведаеш, што настане момант — і полымя згасне, і не будзе больш святла і цяпла, але ж столькі гатовы аддаць дзеля гэтых успамінаў, бо ведаеш, што ніколі больш яны не паўторацца зноў...

Я столькі разоў у жыцці бачыла полымя, столькі разоў хацела ляцець да яго, забыўшы пра ўсё на свеце, але ж нярэдка заставалася на месцы, так і не знаходзячы ў сабе дастаткова моцы, каб імкнуцца наперад. Але ж я бачыла

прывабнае полымя і я ведала, што надзея ёсць! Я ведала, што варта толькі ўзмахнуць крыламі і паляцець да святла, каб адчуць гэтую цеплыню і пакінуць яе ў сваім сэрцы назаўжды.

І колькі было спробаў, і колькі разоў — абпаленыя крылы... Колькі было цудоўных танцаў вакол гэтага полымя, калі было так цёпла і прыемна, і калі я не задумвалася пра тое, што вакол — халодная цемра, і варта толькі знікнуць агню, як я апынуся ў суровай рэальнасці, у балючай адзіноце, калі ўсе, хто танчыў побач са мной, знікнуць у змроку ночы. І колькі было такіх матылькоў, як я, што ляцелі да яркага полымя бяздумна, бесклапотна... Сучасны свет стварыў, на жаль, для нас мільён ілюзій сапраўднага святла — яркія абгорткі прыгожага жыцця, агні мегаполісаў, бляск золата, асляпляльная прыгажосць моладзі, шмат рознага забароненага, што стала даступным, што так вабіць сваім ззяннем, але... ўсё гэта да той пары, пакуль матылёк не ўбачыць пачварнасць рэальнага жыцця, яго брыдкі ледзяны ашчэр, пакуль крылы поўнасцю не згараць у агні, ці пакуль святло, што так вабіла і клікала да сябе, не згасне, нібыта кажучы: «прабач, тут табе больш няма месца». І так матылькі застаюцца ў цемры, разумеючы, што ў душы да болю пуста... а побач — нікога... І так лёгка паверыць у гэтую казку, гэтую намаляваную карціну радасці і дабрабыту. І вочы не глядзяць вакол, і наперадзе не бачаць нічога, акрамя вар'яцкага святла. Ляціш — і ведаеш, што наперадзе, мабыць, твой канец, але не баішся нічога, бо маеш надзею, якая даруе веру, што гэта толькі пачатак шляху.

Колькі разоў я абпальвалася, колькі разоў залечвала крылы, але ж зразумела адно — якім бы яркім і шалёным не было полымя, яно не ў стане абпаліць душу, якая зноў і зноў глытае паветра свабоды і імкнецца наперад, нягледзячы ні на што. «Dum spiro spero... » — памятала яна... Душа ведала, што трэба быць моцнай, каб супрацьстаяць самому агню. Часам гэта была нялёгкая бітва, трэба было ўмела кружыць вакол полымя, не даючы яму ніводнага шанцу спаліць, трэба было лётаць так, каб не перашкаджаць іншым матылькам, трэбо было дзейнічаць усляпую, калі нічога немагчыма было разглядзець у зрэнках полымя, трэба было не заблытацца на шляху, не трапіць незнарок не туды...

Так было не раз у жыцці, кожны раз — новае святло, кожны раз — новыя надзеі, кожны раз — новы шлях, і кожны раз — адзін і той жа фінал. Немагчыма дасягнуць мэты, калі ляціш не туды, калі ты сам на сам з полымем, немагчыма ў адзіноце змагацца з агнём, што паглынае цябе поўнасцю, без астатку, немагчыма разгледзець, што цябе вабіць не сапраўднае, халоднае святло да той пары, пакуль не спазнаеш праўдзівае святло, што не толькі свеціць, але і грэе...

І ў тыя часы, калі я падала ўніз, амаль загінуўшы ў полымі, калі ўжо не было ні сіл, ні жадання падымацца і рухацца куды-небудзь, калі я сядзела на бруднай зямлі і з асцярогай азіралася навокал, спрабуючы хоць што-небудзь

разгледзець у беспрасветнай цемры, шукаючы хоць нейкую кроплю цеплыні, калі з сумам глядзела на свае абпаленыя рукі, на бяскрылую спіну, калі здавалася, што ўжо працягу не будзе, калі ў тысячны раз пераконвала сябе, што гэта апошні раз, калі я ляцела да святла — у той момант я бачыла вочы, што пільна глядзелі на мяне... і было ў іх нешта да болю роднае і патаемнае, без жалю, без злосці, без папрокаў... Гэта былі вочы іншага матылька, што гэтак жа, як і я, ляцеў да фальшывых надзей, што быў падмануты, што таксама абпаліў свае крылы і застаўся зусім адзін, пакінуты і незразумелы нікім. Ён быў іншы, ён быў знясілены, разбіты, але ж ён застаўся сабой. І гэтыя вочы глядзелі на мяне скрозь цемру і асвятлялі тую частку маёй душы, дзе нікога дагэтуль не было, асвятлялі нейкім сваім незвычайным святлом! Вочы быццам казалі: «Я тут! Хадзі да мяне!» Я працягнула рукі наперад — і вочы сталі бліжэй, і прынеслі з сабой іншую цеплыню і іншы сусвет... І тады я спытала сябе, ці я матылёк? Ці, можа, для кагосьці я — гэта само святло?..



# Ганна Старыковіч

пpазаік, паэт. Друкавалася ў часопісах «Качэлі» і «Верасень». Лаўрэат літаратурнага конкурсу «Добрая ліра» (2008 г.). Нарадзілася ў 1984 годзе ў горадзе Палярны (Расія). Жыве ў Мінску.

# Цёмная гісторыя

Святло не запальвалі. У дзевяць гадзін вечара было ўжо зусім цёмна. Вернікі сядзелі па лавах і ціхенька размаўлялі, нехта маліўся на ружанец, хтосьці звяртаўся да Бога, як умеў.

Вялікдзень — галоўнае свята ў літургічным годзе, таму ў касцёле сабралася шмат народу. Раптам насупраць алтара пачала збірацца працэсія. Наперадзе ішоў малады ксёндз Аляксандр і нёс вялізны крыж. За ім клірык нёс Вялікодную свечку, а ўжо следам рушылі астатнія клірыкі з незапаленымі свечкамі. Працэсія рушыла праз цэнтр касцёла і выйшла на вуліцу. Там распалілі невялікае вогнішча. Святар маліўся над агнём, а потым запаліў ад яго свечку. Тым часам у касцёле было зусім ціха. Толькі раз хтосьці кашлянуў і хтосьці ўздыхнуў.

На алтары застаўся чакаць стары айцец Ян. Вось ужо чацвёрты год запар ён заставаўся ў касцёле, а працэсію ўзначальваў малады ксёндз Аляксандр.

Нарэшце ў касцёле з'явілася працэсія. Наперадзе йшоў малады святар і высока над галавой трымаў запаленую свечку. За ім трымаліся клірыкі і давалі вернікам запальваць агонь ад сваіх маленькіх свечак.

Святло стала разлівацца па касцёле. Людзі адзін аднаму перадавалі агонь, які азначаў, што Бог дае чалавецтву яшчэ адзін шанец выправіцца, што Бог любіць людзей і выбачае ім шматлікія грахі, а значыць канцу свету не будзе.

Ксёндз Аляксандр дайшоў да алтара і ўбачыў спачатку ногі, абутыя ў новыя боты, якія яны куплялі разам тыдзень таму. Святар падняў руку і палікаў клірыкаў. Яны хутка падышлі, а людзі пачалі шаптацца. Нехта крыкнуў:

— Што здарылася?

Адзін з клірыкаў адказаў:

— Ксёндз Ян дрэнна сябе адчувае!

Але ўсе тыя, хто стаялі на алтары, бачылі, што стары нежывы! Каля цела была вялікая лужына крыві. Сярод клірыкаў было чацвёра мужчын сарака гадоў і некалькі хлопчыкаў, узрост якіх быў ад дванаццаці да дзевятнаццаці гадоў. Усе яны трымаліся моўчкі, каб сваімі рухамі і словамі не выдаць таго, што бачылі.

Ксёндз Аляксандр дзейнічаў хутка, без панікі. Не было часу размаўляць ці неяк прыцягваць да сябе ўвагу. Ён загадаў клірыкам узяць цела старога святара на рукі і аднесці ў захрыстую, уключыць у касцёле святло, а потым ужо патэлефанаваць у хуткую дапамогу і міліцыю, а сам ён тым часам усё растлумачыць вернікам.

— Шаноўныя людзі! — сказаў малады святар і падзівіўся таму, што голас яго не дрыжыць. — Пакуль мы з вамі запальвалі жыватворны агонь і разносілі яго па ўсім касцёле, хтосьці з чорнай душой прайшоў на алтар і ўдарыў нашага ксяндза Яна нажом. На жаль, ён памёр. Біў чалавек, які добра ведаў, як гэта рабіць. Ксёндз Ян памёр адразу, нават не ўскрыкнуў. Яго душа ўжо з Госпадам.

Ён спыніўся, хацеў выцерці лоб. За гэтыя некалькі секунд да людзей дайшоў сэнс сказанага. Жанчыны пачалі крычаць, людзі сталі выбірацца са сваіх месцаў і спрабавалі працiснуцца да алтара.

— Калі ласка, супакойцеся! — крыкнуў айцец Аляксандр, і людзі заціхлі.

Скарыстаўшыся тым, што на нейкі момант людзі прыціхлі, святар зноў загаварыў:

— Нічым, акрамя шчырай малітвы, вы не зможаце дапамагчы! Хуткая дапамога і міліцыя ўжо на месцы. Калі ласка, супакойцеся і заставайцеся на сваіх месцах! Вам нічога не пагражае! У такіх абставінах я не буду праводзіць імшу. Толькі прачытаем «Анёл Гасподні» за душу шаноўнага памерлага айца Яна. Я маю да вас толькі адно пытанне. Калі ласка, калі вы нешта бачылі ці чулі — не утойвайце, раскажыце следчым і пракурору. Нават тое, што вам здаецца няважным — раскажыце, бо гэтая дробязь можа аказацца вельмі істотнай!

Каля трох уваходаў у касцёл ужо стаялі міліцыянты. Следчы папрасіў у святара ключы і зачыніў два ўваходы, пакінуўшы адчыненым толькі галоўны. Так зручней было апытваць сведкаў, запісваць звесткі і выпускаць вернікаў з касцёла.

І пачаўся доўгі працэс. Міліцыянт сядзеў і запісваў дадзеныя чалавека, які збіраўся выходзіць. Запытваў, ці памятае чалавек нешта незвычайнае. Потым міліцыянт ківаў другому і той адчыняў дзверы, чалавек выходзіў на вуліцу.

Старыя кабеты толькі плакалі. Яны не маглі прыпомніць нумар тэлефона і адрас, казалі, што нічога не бачылі і не чулі. Падчас допыту яны шчыра маліліся за душу святара і нічога не аб чым не памяталі. Першыя сто чалавек выказалі столькі гора і пакуты, што ў сяржанта пачала балець галава.

Людзі сярэдняга ўзросту былі больш стрыманыя ў эмоцыях. Некалькі жанчын выціралі вочы, хтосьці стрымліваў слёзы. А мужчыны паводзілі сябе адпаведна, на пытанні адказвалі дакладна. Адзін з іх нават прыпомніў, што калі працэсія выходзіла, яму падалося, што ўздоўж алтара прабег нехта невялікага росту, можа дзіцёнак. Але той жа чалавек сказаў, што сядзеў прыкладна ў дзясятым шэрагу, а таму не мог дакладна разгледзець рост чалавека.

Апытанне і запіс дадзеных скончыліся толькі а другой гадзіне ночы. Увесь гэты час следчы і ксёндз Аляксандр знаходзіліся ў апусцелай захрыстай. Міліцыянт размаўляў са святаром павольна, выпытваў падрабязнасці жыцця старога ксяндза, спрабаваў знайсці матыў. Вось з ім і было асабліва цяжка. Старога любілі ўсе, хто яго ведаў. Усё вышэйшае духавенства ставілася да яго з пашанай, вернікі з цікавасцю слухалі прамовы і прыходзілі да старога святара па параду. Старыя людзі, калі ішлі на споведзь, аддавалі перавагу менавіту ксяндзу Яну, таму што ён ніколі нікога не лаяў і даваў параду, як не ўпасці ў грэх. Атрымліваўся не чалавек, а нейкі анёл. «Не хапае толькі німба над галавой, — думаў лейтэнант Дабравольнаў. — Аднак нехта ж усадзіў яму ў сэрца нож».

Касцёл апусцеў. Сяржанты зайшлі ў захрыстую, каб апытаць клірыкаў, якія чакалі сваёй чаргі. Калі дамоў пайшлі і клірыкі, ксёндз Аляксандр запытаў у следчага:

— Скажыце, ці магу я паехаць у морг?

— Канешне! Але раней, чым праз два дні мы не зможам аддаць вам цела. Вас падвезці? — раптам спытаў следчы.

— Дзякуй, я паеду на таксі.

Упершыню пасля перажытага жаху ксёндз Аляксандр выйшаў на вуліцу. Ён не бачыў, як прыехала хуткая дапамога і міліцыя, не бачыў, як забралі старога святара. Зараз ён хацеў даведацца, ці сапраўды ксёндз Ян памёр адразу, ці не пакутваў ён. А яшчэ ксёндз Аляксандр быў упэўнены, што забойцы ў касцёле не было, што ён збег адразу ж.

Ноч у сярэдзіне красавіка была халоднай. Было не больш за дзесяць градусаў. Ксёндз Аляксандр надзеў на сутану паліто і пайшоў да метро. Там у пераходзе знаходзіўся кругласутачны шапік. Не аднойчы малады святар набываў там шакалад і каву. Зараз жа ён жадаў набыць там іншае.

— Сіні Winston і запальніцу.

Прадавачка, якая добра ведала гэтага пакупніка, здзіўлена зірнула на яго і не зварухнулася. Ксёндз не збіраўся нічога тлумачыць і толькі паўтарыў просьбу. Уздыхнуўшы, жанчына дала цыгарэты і запальнічку.

Святар выйшаў на вуліцу, запаліў цыгарэту, прынюхаўся і закурыў. Ён не паліў з шаснаццаці гадоў. Прайшло ўжо 20 гадоў з таго моманту, як ён забыў пра цыгарэты, даведаўшыся, што гэта грэх — самахоць шкодзіць свайму здароўю. У семінарыі ён, канешне, сустракаў студэнтаў, якія палілі, але не хацеў да іх далучацца. А зараз вось вельмі захацелася цыгарэту. У дымнай атруце, а не ў малітве шукаў ён зараз супакой. Тое, што адбылося ўвечары так узрушыла святара, што ён не мог супакоіцца. «Якія шкілеты захоўваюцца ў старога ў шафе?» — думаў ксёндз Аляксандр і крокамі вымяраў адлегласць ад аўтобуснага прыпынку да метро.

Дапаліўшы цыгарэту, святар стаў на ўскрайку дарогі і сабраўся доўга чакаць таксі. Аднак хутка пабачыў неабходную машыну. Аўтамабіль рухаўся трохі запаволена, быццам кіроўца чакаў позніх мінакоў. Ксёндз Аляксандр выцягнуў правую руку, і старая волга павольна накіравалася ў ягоны бок.

— Вы адвязеце мяне ў морг? — спытаў святар.

— У які?

Кіроўца, здавалася, зусім не збянтэжыўся і хацеў толькі даведацца куды дакладна ехаць.

— Я не ведаю. Паехалі па ўсіх.

Кіроўца кіўнуў, і ксёндз Аляксандр сеў у машыну. Яны паехалі па пустых вуліцах. Рэдкі аўтамабіль праязджаў міма. Кіроўца і пасажыр маўчалі.

— Прабач, дружа. Вязі мяне назад. Не хачу нічога бачыць.

Кіроўца рушыў у зваротны шлях.

— Можна паліць?

— Можна і пачаставаць!

Ксёндз Аляксандр выцягнуў пачак, пачаставаў кіроўцу, які тут жа схаваў цыгарэту за вуха, запаліў сам. У святара затрэсліся рукі.

— Дык што здарылася?

— Забойства, — каротка адказаў святар і нічога больш не патлумачыў.

«Так цяжка быць ласкавым і ўсіх прабачаць, калі гора тычыцца цябе ці тваіх родных. Які вар'ят забіў ксяндза Яна? Якія прычыны прымусілі яго пайсці на злачынства? Гэты чалавек прадумваў, як дзейнічаць, загадзя, інакш зарэзаў бы святара проста так на вуліцы. Аднак ён ведаў, што мы робім падчас Вялікоднай Імшы. Гэта не чужы касцёлу чалавек...»

— Прыехалі, — буркнуў кіроўца, адарваўшы ксяндза Аляксандра ад сумных думак.

Разлічыўшыся, святар выйшаў і накіраваўся да касцёла. Ён вырашыў, што трэба патэлефанаваць манашкам, каб прыехалі праз два дні арганізаваць пахаванне, апрануць нябожчыка. Людзі, якія наўпрост маюць зносіны з Богам, маюць дар прадбачання. Калі ксёндз Аляксандр патэлефанаваў, ігумення хутка ўзяла трубку. Выслухаўшы навіны, яна адказала:

— Я не спала, малілася. Мне было так трывожна, што нават трэсліся рукі, калі я перабірала ружанец. А потым раптам заснула. І прыйшоў да мяне ксёндз Ян і сказаў, каб мы нікога не шукалі.

— Калі гэта было?

— Гадзіну таму. У трывозе я патэлефанавала сюды, але ніхто не адказаў.

Яны пагаварылі яшчэ некалькі хвілін, а потым святар павесіў трубку. Ён быў упэўнены, што ксяндза Яна правядуць у апошні шлях па ўсіх канонах.

Цішыня ў касцёле дрэнна ўздзейнічала на святара. Ён і раней начаваў тут адзін, ужо чатыры гады, пасля таго, як вярнуўся з Польшчы, але ніколі раней ён не адчуваў сябе такім адзінокім. Стары, як называлі яго паміж сабой клірыкі, жыў у двух кварталах ад касцёла і прыязджаў раніцай на машыне. Кіраваў аўтамабілем яго хрэснік, якому было больш за пяцьдзясят гадоў. Зараз жа ксёндз Аляксандр усведамляў, што не пачуе больш за дзвярымі цяжкія крокі старога чалавека. Гора, выкліканае раптоўнай стратай, цалкам завалодала святаром, і ён заплакаў. «Як добра, што ніхто мяне не бачыць», — думаў ён, выціраючы слёзы ў цёмным пакоі.

Ён заснуў на гадзіну, не распранаючыся. І толькі званок тэлефона, які надрываўся ў захрыстаі, вырваў яго з забыцця.

Ксёндз Аляксандр, пакуль бег па лесвіцы, спатыкнуўся, упаў, ударыў калена. У гэты час тэлефон сціх. Святар глянуў на вялізны гадзіннік, падарунак нунцыя. Стрэлкі паказвалі дваццаць хвілін на сёмую. «Значыць, хтосьці з сваіх». І ў гэты момант зноў зазваніў тэлефон.

— Алё? — прахрыпеў ксёндз Аляксандр.

— Хрыстос Уваскрос! Гэта Юрась Сабуцкі, сакратар...

— Сапраўды Уваскрос! Што...

— Мы ведаем пра тое, што адбылося ўчора, — сказаў святар. — Кардынал хоча цябе бачыць.

— Я зараз прыеду.

— Добра. Я буду чакаць.

У поўнай цішыні ксёндз Аляксандр пагаліўся і выпіў кавы. Ён не звяртаў увагі на парыпванне перакрыццяў, на тое, што ўнізе быццам бы грукнулі дзверы. Ён ведаў, што ксёндз Ян больш не прыйдзе, а душа яго, калі і побач, нічым не акажацца.

Толькі калі ён зачыняў дзверы, яму здалося, што хтосьці паклаў яму руку на плячо. Яле святар не павярнуўся, таму што ведаў, што побач нікога няма...

— Хрыстос Уваскрос!

— Сапраўды Уваскрос!

— Адкуль кардынал даведаўся, што здарылася? Я не хацеў яго турбаваць да раніцы.

— Учора ўвечары ён правёў імшу і лёг спаць. У шэсць гадзін раніцы нехта пастукаў у дзверы. Вартаўнік прачнуўся, паглядзеў на маніторы і нікога не ўбачыў. Потым выйшаў і на парозе ўбачыў сшытак. Вартаўнік перадаў яго мне. На першай старонцы было напісана: «Першым прачытаць павінен кардынал». Мяне раздзірала цікаўнасць, але я не паддаўся і адправіўся ў пакоі кардынала. Стары адчыніў адразу. Ён сказаў, што не спіць з пяці гадзін, працуе ў кабінеце, бо вельмі непакоіцца. Я каротка патлумачыў, што за фаліянт у мяне ў руках, потым паклаў сшытак на стол і выйшаў. Праз дзесяць хвілін ён выклікаў мяне і сказаў, каб я прывёз цябе.

— Так што ў сшытку? — спытаў ксёндз Аляксандр.

— Я не ведаю, — такім быў адказ.

Яны былі знаёмыя па семінарыі. Юрый быў маладзей Аляксандра на тры гады. Тым не менш, у яго было прыроднае абаянне, дзякуючы якому, ён хутка падымаўся па кар'ернай лесвіцы і стаў асабістым сакратаром кардынала. Юрый быў вельмі прыгожы, валодаў пяццю мовамі, хутка набіраў афіцыйныя дакументы, вёў перапіску з Ватыканам. Ён заўжды паважліва размаўляў са старымі знаёмымі і новымі сябрамі, заўсёды рабіў тое, што ад яго залежыла. Раз у тыдзень ён праводзіў імшу, на якую збіралася вялікая колькасць вернікаў. Яны любілі слухаць яго звонкі голас і жыццёсцвярджальныя прамовы...

Кардынал ужо чакаў у кабінеце. Ён быў апрануты не ў звычайнае ўбранства, у якім яго заўсёды бачыў ксёндз Аляксандр. За сталом сядзеў вельмі пажылы чалавек з сівымі валасамі. Вакол вачэй залеглі зморшчыны, якія не хавалі нават вялікія акуляры ў пазалочанай аправе — падарунак Папы Рымскага. Не маглі яны схаваць і светла-блакітныя вочы, якія глядзелі заўсёды сур'ёзна, крыху сумна і з вялікай любоўю на чалавека.

Ксёндз Аляксандр увайшоў у кабінет і, схіліўшы калені, пацалаваў пярсцёнак на працягнутай руцэ.

— Сядай, калі ласка, — сказаў кардынал нізкім голасам. — Я вельмі спачуваю табе.

Сядзець моўчкі было няветліва і святар адказаў:

— Дзякуй.

— Прачытай гэта, калі ласка.

Кардынал працягнуў святару сшытак.

— Тут адказы на ўсе твае пытанні. Дарэчы, чаму мне не паведамілі? Мы шмат пражылі разам з ксяндзом Янам.

— Я не хацеў турбаваць вас у гэтае светлае свята. Хацеў, каб вы правялі гэтую ноч у спакоі.

— Які толк у такім спакоі! Лепш бы я маліўся ўсю ноч за ягоную душу і душу таго няшчаснага. Чытай!

Ксёндз Аляксандр падпарадкаваўся і раскрыў тонкі сшытак. На першай старонцы, як і расказваў Юрый, было напісана: «Першым прачытаць павінен кардынал». Гэтая ўмова была выканана, і святар перагарнуў наступную старонку.

«Мяне ўжо няма сярод жывых. Я здзейсніў самагубства, калі вярнуўся мой кур'ер. Я перарэзаў сабе вены ў ваннай. Там вы мяне і знойдзеце. На апошняй старонцы я пакінуў адрас. А пакуль што — чытайце.

Маё імя — Хведар, мне пяцьдзясят дзевяць гадоў. Ксёндз Аляксандр ведае мяне вельмі добра, таму што я быў кіроўцам у старога Яна».

Малады святар прыпыніўся і паглядзеў на кардынала. Той глядзеў на яго.

— Гэта ўсё сапраўды так. Прашу цябе, дачытай.

І ксёндз Аляксандр прымусіў сябе чытаць далей.

«Мы пазнаёміліся са старым, калі ён быў яшчэ маладым і толькі стаў святаром. Ён працаваў у нашай вёсцы. Дырэктар школы быў katalікам і прымушаў усіх наведваць заняткі па катэхізісу. Мы не хацелі. У той час мне было дванаццаць гадоў, я паліў, падглядваў за жанчынамі ў грамадскай лазні, хваліўся сваімі перамогамі перад хлопцамі. Ніякіх дзяўчат у мяне, канешне, не было. Але я вельмі марыў. Дык вось. Ён прыйшоў на першы занятак і сваім ціхім голасам, чыстымі прамовамі, даўгімі светлымі валасамі і блакітнымі вачыма пакарыў усіх вучняў, асабліва дзяўчат. У параўнанні з нашымі няверуючымі грубымі бацькамі-працаўнікамі, ксёндз Ян падаваўся самім Богам, пра якога распавядаў з вялікай любоўю. Мы бачылі ў ім Хрыста. У канцы года ксёндз Ян запытаў, хто жадае быць яго вучнямі ўсё лета. Гэта было вельмі сур'ёзнае пытанне, таму што школьнае навучанне мы спынялі яшчэ ў красавіку, бо былі вымушаны дапамагаць бацькам весці гаспадарку. Шанцавала тым, у чыёй сям'і былі яшчэ дзеці, і каго любілі бацькі. У мяне было два старэйшых браты і сястра, і мяне адпусцілі. Ніхто ў нашай сям'і не быў хрышчоны і зносіны са святаром бацька не ўхваляў. Але маці змагла яго ўгаварыць.

Мы хадзілі з ім у паходы, маліліся ў лесе падчас узыходу сонца каля ракі, назіраючы, як абуджаецца новы дзень. Нас было дванаццаць хлапчукоў. А яшчэ мы дапамагалі яму праводзіць імшу і аднаўляць касцёл, у якім было сховішча

сельгастэхнікі. Туды калісьці загналі трактар і замкнулі дзверы. Імшы праводзіліся ў доме старшыні нашага калгаса, які быў таксама вернікам. Я ўспамінаю той час з цяплынёй і ўсмешкай на твары. Мы ўсе любілі нашага Яна. Ён хрысціў нас, дванаццаць хлапчукоў, а потым і ўсіх жадаючых. Сярод іх была і мая маці.

Я хацеў быць любімым вучнем. Я ведаў на памяць усе малітвы, прыходзіў раней за іншых, а сыходзіў пазней, старанна маліўся. Але я быў не такі таварыскі і мілы, як двое іншых хлопчыкаў, братоў-двайнят. Яны заўсёды выклікалі ў ксяндза Яна ўсмешку дасціпнымі жартамі, ускудлачанымі рудымі валасамі і шчырай цікавасцю да рэлігіі. Яны хацелі стаць святарамі, гэтак жа як і я, толькі яны не баяліся пра гэта казаць.

Уначы я падпаліў іх дом. Адзін брат не змог выбрацца, на яго абрынулася бэлька. Усе астатнія выжылі. Але пасля гэтага, абсыпаючы ксяндза Яна праклёнамі, сям'я пераехала ў іншую вёску. Я стаў да старога бліжэй, але ён па-ранейшаму не лічыў мяне лепшым.

Пасля таго, як з'ехалі блізняты, яго любімым вучнем стаў Мішка. Я не буду ўдакладняць, як я пазбавіўся ад гэтага любімчыка, але пакуты яго былі доўгімі. Я скінуў яго ў палонку, і ў яго адняліся ногі, сям'я страціла надзею на карміцеля. Але замест таго, каб звярнуць, нарэшце, увагу на мяне, ксёндз Ян стаў яшчэ больш важдацца з Мішкам, вымольваць у Бога здароўе для хлапчука, займаўся з ім, і Мішка зноў пачаў хадзіць. Весялосці святара не было мяжы. Не было мяжы і майму гору. Я шчыра любіў свайго пастыра, але не хацеў дзяліць яго дабразычлівасць ні з кім. Хоць доўгі час прыходзілася.

Калі майго хроснага бацьку адправілі працаваць у Італію, а потым у Бразілію, я адзіны пісаў яму лісты, а ён па магчымасці адказваў. Гэта зблізіла нас. Кожны год я марыў, што ксёндз Ян вернецца. Але на Радзіму ён вярнуўся толькі праз 30 гадоў. Мы не перарывалі сувязь. Да таго часу я паспеў ажаніцца і развесціся, чаму мой хросны вельмі супраціўіўся. Дзяцей у нас з жонкай не было, мабыць Бог ведаў, што яны застануцца сіратамі.

Я сустракаў яго ў аэрапорце. Да таго часу ксёндз Ян перанёс інсульт, быў запаволены ў рухах, пастрыг свае прыгожыя даўгія валасы, а блакітныя вочы злёгку пабляклі. І ўсё-такі я любіў яго і быў рады бачыць. Ён не ператварыўся ў старога, роўна трымаў спіну і адразу пазнаў мяне.

Некалькі гадоў я быў абсалютна шчаслівы. Ён меў патрэбу ў маёй прысутнасці. Я пачаў працаваць яго асабістым шафёрам. Вечарамі мы пілі гарбату, а часам ён дазваляў сабе чарачку каньяку. Я любіў слухаць яго аповяды аб Ватыкане і Рыме. Калі я шчыра захапляўся, ён адказваў, што нічога мілей Радзімы быць не павінна.

А потым у наша жыццё ўмяшаўся хлопчык Алесь. Ён прыйшоў у касцёл у шаснаццаць гадоў і заняў усё жыццё старога. Той загарэўся ідэяй зрабіць з яго святара, і гэта ў яго атрымалася. Хлопчык пайшоў вучыцца ў семінарыю, стаў святаром і вярнуўся ў родны касцёл. Цяпер з ім стары піў гарбату, распавядаў аб розных краінах і пра любоў да людзей. Я ператварыўся ў звычайнага кіроў-

цу...Хведар прынясі тое, Хведар дапамажы там. Але душой ён быў аддадны Алесю. І той таксама яго любіў, тэлефанаваў з Польшчы, калі давялося прапрацаваць там некалькі гадоў, праўляўся пра здароўе і віншаваў са святамі.

Я зьненавідзеў старога, зненавідзеў Алеся. Год я разважаў пра тое, як спыніць, нарэшце, свае пакуты. Калі б я проста павесіўся, стары б пагараваў бы крыху і супакоіўся. І таму я вырашыў спачатку забіць ксяндза Яна. Алеся мне няма чаго было пазбаўляць жыцця, нічога дрэннага ён мне не зрабіў. Хаця такія думкі, прызнаюся, мяне наведвалі.

Я хацеў, каб ніхто нічога не бачыў, каб усё было нечакана, і каб Алесь знайшоў яго першым. Я зарэзаў яго падчас Вялікоднай імшы. Тры гады на Хросны ход ішоў Алесь, а ксёндз Ян заставаўся ля алтара. Я ведаў пра гэта, таму смела падкраўся і зарэзаў яго. Стары нават нічога не зразумеў, ён не бачыў, хто забіваў яго. А потым я паехаў дадому, напісаў усё гэта, даў заданне бамжу Ваню аднесці сшытак у пэўнае месца за бутэльку гарэлкі. Калі ён вернецца — я аддам яму плату, потым лягу ў цёплую ванную і скончу з гэтым нікому не патрэбным жыццём.

Ты шчаслівы, Алесь. Ён любіў цябе больш за ўсіх».

У канцы быў напісаны адрас.

Ксёндз Аляксандр не адразу паглядзеў на кардынала. Ён закрыў сшытак, прачытаў назву друкарні, паклаў сшытак на стол, пацёр вочы і толькі потым зірнуў на кардынала.

— Раніцай манашкі звяжуцца з яго былой жонкай. Уся яго маёмасць пяройдзе да яе. Гэты няшчасны пакінуў запавет, завераны ў натарыуса.

Ксёндз Аляксандр кіўнуў. Ён быў ашаломлены тым, што прачытаў. У яго памяці Хведар заставаўся ўсмешлівым лысым таўстуном. Аказваецца, гэты чалавек быў напоўнены нянавісцю, атрутай, выношваў план забойства чалавека, якога так любіў.

— Калі ты бачыў яго апошні раз?

— Раніцай, як заўсёды. Ён прывёз старога, больш я яго не бачыў. Калі б я толькі ведаў...

— Ніхто не можа ведаць наперад. Ты нічога не змог бы зрабіць.

— За самазабойцаў нельга маліцца. Вы сказалі...

— Д'ябал звярнуў яго душу з вернага шляху... Я думаю, Бог даруе мне, калі я памалюся за душу гэта няшчаснага.

Ксёндз Аляксандр развітаўся з кардыналам і выйшаў.

Горад ужо прачнуўся. Па вуліцах рухаліся машыны. «Учора забілі добрага чалавека, які ніколі нікога не пакрыўдзіў. А свет не спыніўся. Людзі не смуткуюць, у іх жыцці нічога не памянялася. Я ведаю, хто забіў і чаму, але ад гэтага не лягчэй. Хочацца пакараць забойцу, але ён ужо пакараў сябе сам... Ксёндз Ян мог памерці ад старасці ў ложку, акружаны сябрамі і вучнямі, аб яго душы маліліся б няспынна, і яго адыход не прычыніў бы столькі болю. Гэта бязглуздзіца, проста бязглуздзіца».

Забойцу пахавалі за дзень да пахавання яго ахвяры. Юрыя Сабуцкага адправілі з сшыткам у пракуратуру, і крымінальную справу закрылі. Следчы ўздыхнуў з палёгкай — не трэба было зноў выклікаць і апытваць столькі сведак.

На паніхідзе ксёндз Аляксандр прысутнічаў у якасці госця. Развітальную імшу вёў кардынал. Ён казаў шмат прыгожых слоў, распавядаў, як яны пазнаёміліся з Янам, як разам былі ў Італіі і Бразіліі, як Папа Рымскі зрабіў яго кардыналам, а сам ён лічыў, што гэтага больш годны ксёндз Ян.

Пасля таго, як труну засыпалі зямлёй, да ксяндза Аляксандра сталі падыходзіць са спачуваннямі. Ёнківаў і нешта адказваў. Але не разумеў, што кажа і што робіць. Яго гора было такім вялікім, быццам ён зноў хаваў уласнага бацьку, які памёр 10 гадоў таму. Тады тату замяніў яму ксёндз Ян. Зараз жа яго жыццё апусцела.

Праз месяц ксёндз Аляксандр сядзеў на споведзі. У правага акенца схіліў калені чалавек. Святар падрыхтаваўся слухаць.

— Апошні раз я быў на споведзі шмат гадоў таму, нават не памятаю колькі.

— Я слухаю...

— Месяц таму я забіў двух чалавек. Аднаго зарэзаў, а другога ўсыпіў і перарэзаў яму вены. І нікому пра гэта не распавёў. Зараз аб маёй таямніцы ведаеце толькі вы. Але ёсць таямніца споведзі, а значыць, вы нікому нічога не скажаце.

Ксёндз Аляксандр адразу зразумеў, пра што пойдзе гаворка. На працягу таго месяца, што прайшоў з пахавання, ён не раз думаў аб тым, што ніхто не зверыў подпіс Хведара. Бо нехта мог замест яго напісаць тэкст у сшытку...

— Вы добра ведалі гэтых людзей. Я забіў іх з нянавісці. Я доўга прадумваў план. Калісьці даўно гэтыя двое пазбавілі мяне брата. Не цяжка было здагадацца, хто падпаліў хату і з якой прычыны.. Да свайго шчасця ксёндз Ян з'ехаў за мяжу, паспеў здзейсніць нямала добрых спраў, перш чым вярнуўся на Радзіму. Вы слухаеце мяне?

— Слухаю, — быў адказ.

— Я сябраваў з Хведарам, ведаў усе падрабязнасці іх перапіскі...

— Навошта вы ўсё гэта мне распавядаеце? У вас так удала атрымалася абвесці ўсіх вакол пальца. І тут — такія прызнанні.

— Я вырашыў аблегчыць душу. І не камусьці, а менавіта вам, таму што вы — разумны. І вы шчыра любілі гэтага старога, а значыць, павінны ведаць праўду.

— А калі я пайду ў пракуратуру і папрашу аднавіць справу? Я парушу таямніцу споведзі, выступлю ў якасці сведкі.

— Не. Я — ніхто. І клікаць мяне ніяк...

Увесь час размовы святар спрабаваў разгледзець твар таго, хто гаварыў, але яму гэта не ўдалося. Вялікі стары касцёл быў затоплены ў паўзмрок.

Як толькі чалавек кінуўся прэчкі, ксёндз Аляксандр выскачыў са спавядальні. Але ўбачыў толькі, як хутка аддаляецца невысокі мужчына са светлымі валасамі. Здалёк ён не мог разглядзець іх адценне, але амаль не сумняваўся, што яны былі рудымі.



# Павел Ляхновіч

**празаік, перакладчык, журналіст. Аўтар кнігі «Пачатак сезона» і шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.**

# Зорная Кася

## 1.

У адным звычайным горадзе, у звычайнай двухпакаёвай кватэры жыве звычайная дзяўчынка. Хоць не — дзеці звычайнымі не бываюць. Узяць хоць бы тое, што дзяўчынка носіць незвычайнае імя. Яе клічуць Касяй.

— Ха! — Скажаце вы. — Што незвычайнага? У Беларусі процьма дзяўчынак з імем Кася! Гэта Кацярына!

А вось і не! Наша Кася — не Кацярына, яе поўнае імя гучыць так: Касіяпея!

У Касі-Касіяпеі ёсць цудоўны шчанючок. І мянушку мае таксама незвычайную — Працыён.

Адкуль узялося гэтае імя? Тата назваў. Насуперак усім перашкодам. Здарылася гэта так.

Чым захапляецца бальшыня сучасных татаў? Калі не ведаеце — падкажу. Большасць сучасных татаў захапляецца футболам па тэлевізары. Або боксам. Таксама па тэлевізары. Яшчэ — півам з сушанай рыбай. Аўтамабілямі — любяць абмяркоўваць. Стрэльбамі. Рыбалкай і паляваннем...

На захапленне паляваннем хварэе і Касін тата, з гэтае прычыны і Працыёна завёў, эстонскага ганчака.

Але галоўнае яго захапленне — не паверыце! — зорнае неба! На падваконніку ў таты стаіць сапраўдны тэлескоп. На трох нагах. А на сцяне — вялізная зорная мапа.

Менавіта з-за гэтага татавага захаплення Кася і Працыён атрымалі свае незвычайныя імёны. Дакладней — імя атрымала Кася, бо імёны бываюць толькі ў людзей. А імёны жывёл па-правільнаму — «мянушкі». Так што «Працыён» — гэта мянушка.

Касіяпея — гэта прыгожае сузор'е на нашым небе, яно нагадвае перакуленую літару М. Там пяць яркіх зорак: * * *
* *

Калі Касіна мама была цяжарная, урачы з дапамогай адмысловага прыбора вызначылі, што ў маміным жываце жыве дзяўчынка, то тата пераконваў маму назваць дзяўчынку Касіяпеяй. Бабуля, маміна мама, была супраць, казала: «Касіяпея Сымонаўна! Смех! Хай будзе Машай!» Але як Кася, якая яшчэ была ні то Касяй, ні то Машай, нарадзілася, усе ўбачылі на яе левым плячы пяць радзімых плямак, вось так: * * *
* *

Пасля гэтага бабулю ўжо ніхто не слухаў. А зараз яна прывыкла, толькі часам, калі кажа «Касіяпея» — усміхаецца паловай рота. Ад гэтага ўсмешка атрымоўваецца ў яе непрыгожая. Крывая.

Затое з мянушкай шчанюка доўгіх спрэчак не было. «Працыён» — гэта зорка з сузор'я Малога Сабакі. Спачатку тата прапанаваў назваць яго Арктурам, гэта

таксама зорка. З сузор'я Валапаса. Але мама сказала, што Арктурам можна было б назваць шчанюка аўчаркі, бо аўчаркі — гэта сабакі пастухоў («валапас» — гэта ж пастух!). А ганчака так называць нельга. Тата згадзіўся і сказаў, што на нашым небе ёсць два «сабачыя» сузор'і — Вялікага Сабакі і Малога Сабакі. У Вялікага галоўная зорка называецца «Сірыюс», гэта самая яркая зорка нашага неба, а ў Малога галоўная зорка называецца «Працыён». Парода шчанюка — эстонскі ганчак, гэта маленькія сабакі. (Каб маленькіх сабак не крыўдзіць, іх называюць «кампактныя», гэтак гучыць не крыўдна). Таму тата з мамай спыніліся на мянушцы «Працыён». А бабуля ўсміхнулася паловай рота і сказала, што шчанюку хапіла б і Тузіка. І стала яго клікаць не Працыёнам, а Парцыёнам.

Кася слухала татавы і маміны разважанні і ўсё разумела. Арктурам назваць нельга, бо гэта мянушка для сабак, што пасвяць жывёлу, Сірыюсам таксама, бо гэта для вялікіх сабак, а Працыён — сама якраз. Толькі не зразумела пра «наша неба». Што — бывае яшчэ нейкае неба, не наша? Тата сказаў, што так, бывае не наша — у паўднёвым паўшар'і. Толькі пра паўшар'і тлумачыць не стаў, сказаў: «Падрасцеш — даведаешся». Колькі яшчэ расці? Свае ўзросты Кася дзеліць на такія: калі яна яшчэ не ўмела размаўляць, потым, калі размаўляць навучылася, потым, калі вывучыла літары, і нарэшце — калі навучылася разбіраць з гэтых літар словы. Толькі літары павінны быць друкаванымі. Пісаных Кася яшчэ не ведае.

Пра «наша неба» і «не наша» Кася не зразумела, але запомніла — існуюць два небы. На нашым ёсць сузор'і Касіяпея, Вялікі і Малы Сабакі і зоркі Сірыюс з Працыёнам. А на не нашым? На не нашым — сузор'е Паўднёвы Крыж — сказаў тата.

Ах, як усё складана створана!

Касі падабаюцца «зорыя» імёны. Рамантычна!

## 2.

Тым днём Кася з татам, мамай і Працыёнам прыехалі да бабулі на хутар. Хутар — гэта калі ў сельскай мясцовасці адна хата і ля яе гаспадарчыя пабудовы, што належаць гаспадарам хаты. А іншых хат паблізу няма. Бо калі шмат хат адна паблізу другой, то гэта называецца «вёска». Калі ля вёскі крыху наводдаль адна хата, такая не лічыцца хутарам, пра яе кажуць, што яна «наводшыбе». А хутар — калі самая блізкая вёска за кіламетр. Ці за два?... Ну — калі далёка.

Бабулін хутар яшчэ называецца «лецішча». Ад слова «лета», бо бабуля там толькі ўлетку жыве.

Бабуля добрая, дазваляе Касі куды хочаш лазіць — на гарышча, пад ложак, у зарасці маліны, на агарод. Дазваляе парэчкі, ігрушы, яблыкі не мыючы есці. Мама тады злуе, сварыцца на бабулю, а тая адказвае, што «ў кожнай пылінцы — вітамінка», і што «цябе ж вырасціла здаровай!». Аказваецца — у бабуль таксама бываюць дзеці! І нават такія вялікія, як мама. Не зусім зразумела, але прыходзіцца верыць...

Бабуля не любіць, калі Кася кліча яе «бабуля», і на «Вы». Хоча, каб «Марыля», і на «ты». Але тут нічога не зробіш — тата з мамай настойваюць, што да дарослых і да незнаёмых трэба звяртацца на «Вы». Кася нават да Працыёна першым часам звярталася на «Вы». Пакуль добра не пазнаёмілася з ім і не пасябравала. І тату з мамай на»Вы».

А Кася не любіць, калі бабуля яе поўным імем называе, бо тады адной паловай рота ўсьміхаецца. Яшчэ бабуля так усміхаецца, калі называе хутар — «мой маёнтак», а татаў аўтамабіль — «корч».

Адразу за плотам бабулінага агароду пачынаецца невялікі лес, «тры хвоі», як кажа тата. Пакуль тата заганяў легкавік у хлеўчык, бабуля паскардзілася, што сёлета зусім няма грыбоў... Не тое, што летась. Летась — сказала, — грыбы можна было касіць касой. Кася ўявіла, як касец з касою косіць грыбы, а за ім рухаецца яна і збірае скошаныя грыбы ў кошык. Не, нецікава! Цікава — калі грыбы хаваюцца, і іх трэба добра пашукаць, потым выкруціць з зямлі, абчысціць ад шыльніку і ляснога смецця, абрэзаць карэньчык сталовым нажом. Касі даюць у грыбы толькі сталовы, тупы нож, баяцца, каб не парэзалася.

Касі пасля бабуліных словаў вельмі захацелася ў лес. І знайсці шмат грыбоў. Каб усе здзівіліся — ніхто не знайшоў, а яна знайшла! Але Касю адну не пускаюць яшчэ. А выпрошваць у бацькоў выхад у лес, ды адразу пасля прыезду — справа бесперспектыўная! Хутчэй за ўсё адкладуць да вечара, а яшчэ хутчэй — ажно да заўтра.

«Я не надоўга», — сказала сама сабе Кася, і пакуль бацькі з бабуляй насілі ў хату рэчы, узяла кошык, пралезла праз шчыліну ў плоце і апынулася ў лесе.

## 3.

Дол, усыпаны сухім шыльнікам мякка спружыніць пад нагамі. Пахне мохам, смалой і грыбамі. Не паспела Кася прайсці і сто крокаў, як ззаду пачулася яхканне Працыёна. Шчанюк павольна, пехатою ішоў па Касіных слядах, вынюхваючы іх на сухой лясной посцілцы. Ганчак!

Кася хацела насварыцца на Працыёна за самавольнае пакіданне хутара, але своечасова ўзгадала, што сама яна зрабіла тое самае, і змаўчала. Дачакалася, пакуль шчанючок, не перастаючы яхкаць тоненькім голасам, падыдзе да яе.

Бабуля мела рацыю. Грыбоў насамрэч не было.

Яна заглядала пад нізкія лапы елак, мацала падазроныя бугаркі, варушыла мох — усё марна!

Працыён з заклапочаным выглядам круціўся непадалёк, старанна абнюхваючы ігліцу, ствалы хвояў і елак, спарахнелыя пні і старое ламачча. Можа таксама шукаў грыбоў?

Неўзабаве яны выйшлі на травяную паляну на беразе ляснога ручая. Кася агледзелася і ад гідлівасці гучна сказала: «Фэ-э!». Паляна і берагі ручая былі засмечаныя пластыкавымі бутэлькамі і торбамі, пачкамі з-пад цыгарэтаў, недапалкамі і недаедкамі. Нагадвалі сметнік. Пасярэдзіне паляны дымілася кучка вугалёў, пакрытых шызым прысакам.

Працыён хутка знайшоў рэшткі гніючай ежы і паспрабаваў у ёй выкачацца. Сабакі так часта робяць, каб замаскіраваць уласны пах. Але Кася з дакорам сказала: «Фу, Працыён!», і ён адмовіўся ад свайго намеру. «Фу» — гэта тое ж, што для нас «нельга».

... Тата казаў, што самае страшнае для лесу — гэта пажар, таму спачатку Кася падабрала бутэльку, набрала з ручая вады і заліла тлеючыя вуглі. Патухаючы, яны злосна шыпелі і пускалі клубы дыму і пары...

Потым старанна абышла паляну, сабрала ў кошык усё дробнае смецце і высыпала ў вялікую кардонную скрынку, што знайшла на беразе ручая. Туды ж знесла і бутэлькі. Каб бутэлькі займалі меней месца, пляскала іх нагамі. Збіраць адкіды было гідка, непрыемна і цяжка, асабліва без дапамогі таты і мамы, але гэтак яны заўсёды рабілі, калі «выязджалі на прыроду». «Вярнуся — папрашу тату забраць гэтую скрынку і вывезці», — думала Кася.

Працыён, які заклапочана поркаўся побач з Касяй, раптам натапырыў на карку поўсць і нізкім голасам забрахаў на ядлоўцавы куст. Куст страсянуўся, калыхнуў галінкамі, зашамацеў іголкамі, і замест яго ўзнік на паляне нізенькі — з Касю — дзядок у зялёнай вопратцы, з сівой кудлатай барадою і добрымі вачыма.

Працыён спалохана яўкнуў і прыціснуўся да Касіных лытак. Кася не спалохалася — дзядок з такімі прыязнымі вачыма не мог зрабіць нешта злое.

— Дзень добры, дзядуля! — сказала Кася. — Вы, напэўна, Лясун? У майго таты паляўнічая вопратка, падобная на Вашу. Праўда, я ўяўляла сабе Лесуна крыху іначай. Але Вы нашмат больш прыемны за тое маё ўяўленне, і гэта мяне вельмі цешыць.

Дзядок нахіліў на бок галаву, слухаў Касю, усміхаўся і маўчаў.

— Ты ўгадала, Касіяпея, я — Лясун, — загаварыў пасля паўзы дзядок. — Я розны. Для кепскіх людзей я ўмею быць страшным, а для цябе я такі, як бачыш.

— А адкуль Вы, дзядуля, ведаеце, што мяне клічуць Касіяпеяй? А! Вы падслухалі, як да мяне звяртаюцца тата з мамай, калі мы бывалі тут у грыбах? Хоць тата з мамай клічуць мяне Касяй...

— Не, у цябе на плячы малюнак сузор'я, і я падумаў — ну як яшчэ могуць клікаць дзяўчынку з Касіяпеяй на скуры? — паціснуў плячыма Лясун. — Гэта элементарна. Гэтак жа, як ты пазнала ўва мне Лесуна.

— А я выпадкова натрапіла на гэтую паляну і вырашыла прыбраць яе ад смецця. Мне сорамна, што людзі так неахайна паводзяць сябе, — працягвала Кася. — Я папрашу тату, ён вывезе скрынку на легкавіку. У таты легкавік, які бабуля кліча «Корч». А ў бабулі на хутары ёсць адмысловая скрыня для смецця. Як скрыня напоўніцца, да бабулі прыедзе машына...

— Як прыемна сустрэць добра выхаванага чалавека! — сказаў Лясун. — Які шануе нашу агульную зямлю, наш край. А то бывае прыедуць у лес, разлягуцца, ядуць-п'юць, вогнішча паляць, і толькі і чуеш ад іх: «Ах-ах! Ах, як я люблю беларускую прыроду! Як люблю Беларусь! Нідзе няма прыгажэй!» — Ён па-

маўчаў крыху. — Сапраўды, у нас прыгожа, але ж потым з'едуць, пакінуўшы пасля сябе горы смецця! Дык чаму верыць — словам пра любоў ці ўчынкам, у якіх ніякай любові?

А нам — лясной нечысці — тут жыць! Мы хоць і нечысць, але гэта зусім не значыць, што любім жыць на сметніку! Якраз наадварот!

— Мне бабуля нешта распавядала пра нечысць. — Кася наморшчыла лоб. — Нечысць — гэта былыя анёлы, якіх Бог зрынуў з неба за непаслухмянасць. Ой! Дык Вы, дзядуля Лясун — чорт?

— Ну, чорт — не чорт, але не апошні ў гэтым лесе, — сціпла апусціў вочы долу Лясун. — Пра нас шмат небыліц ходзіць сярод людзей. Быццам мы толькі і чакаем, каб вам якое паскудства ўчыніць. Вось я — мог жа цябе закруціць, каб заблудзілася. Або напалохаць... А я не — стаю тут, размаўляю з табою. Прыемна мне з культурным чалавекам пагаманіць. — Лясун манерна шаркнуў нагой па зямлі. — Тым больш, падобным на нас... Ты ж у лес без дазволу пайшла? Значыць — таксама непаслухмяная! І сабаку з сабою забрала...

— Ой, Працыёна я не брала, ён сам за мной прыйшоў. Я ўжо ў лесе была, — паспрабавала апраўдацца Кася. — Дзядуля Лясун, а што яшчэ за лясная нечысць тут жыве? Яны ўсе такія ж прыкольныя, як і Вы?

— Што значыць «прыкольныя»? — нахмурыўся Лясун.

— Ну, такія пацешныя, вясёлыя!

— Яны, як і людзі, усе розныя. Тонкія, тоўстыя, высокія, маленькія, прыгожыя, брыдкія, добрыя, злыя, шчодрыя, сквапныя, — пералічыў Лясун. І паўтарыў: — Розныя. Як і вы. І жывуць па-рознаму. І ў розных месцах. У лясах і палях, рэках і азёрах, балотах і выспах. Шмат хто сярод людзей... У хатах — на гарышчах, у комінах, падпеччы. У гумнах, хлявах, лазнях...

— Ой, як цікава! — загарэлася Кася. — Вось бы паглядзець! — І адразу патухла, засумнявалася. — Але ж і страшна! Знаёміцца з нечысцю... Не, страшна!

— Каб ты была не ты, то, можа, і варта было б баяцца. А да цябе ўсе нашы нячысцікі добра паставяцца. Ведаеш чаму? З-за твайго імя і з-за знака Касіяпеі на плячы. Ты не ведаеш гісторыю твайго імя? У сэнсе — самыя вытокі? Пра царыцу Касіяпею, яе дачку Андрамеду, пра пачварнага Кіта, пра героя Персея, Мядузу-Гаргону са змеямі замест валасоў, пра крылатага каня Пегаса? Не ведаеш? Гэта ж усе нашыя, нечысць. Толькі даўнейшая, і не ў Беларусі, а ў Грэцыі. Ёсць такая краіна на поўдні. Так што дзяўчынку з імем Касіяпея, ды яшчэ з малюнкам сузор'я на плячы, прымуць, можа, і не заўсёды гасцінна, але шкоды не зробяць.

— Дзядуля Лясун! — схамянулася Кася. — Мае тата, мама і бабуля непакояцца! Я ўжо з гадзіну, як іх пакінула. А мо нават і з дзве! Ой, атрымаю я сёння! Так што ніякіх знаёмстваў, мне тэрмінова назад трэба!

— Што — адлупцуюць? — сур'ёзна і з разуменнем спытаў Лясун.

— Не, што Вы! Ніколі не лупцавалі, — ускінулася Кася і ўздыхнула. — У кут паставяць... Там так сумна! І сорамна. І час там спыняецца...

— Час спыняецца? — ажывіўся Лясун. — Дык можна спыніць час, або нават назад яго запусціць! Зробім так, што ты вернешся на хутар у тое ж імгненне, калі пралезла праз шчыліну ў плоце. Як? Сама ж кажаш — у куце час спыняецца. Да твайго ведама — не толькі ў вашым куце! Так што твае нават і не заўважаць, што ты адсутнічала!

— Ну што? Ідзем? Такой «экскурсіі» табе ніводзін гід не прапануе!

## 4.

— Ідзем! — усклікнула Кася, і закрыла рот рукою. Усё ж было страшнавата.

Лясун сарваў з ядлоўца дзве ягады і працягнуў Касі:

— На, раскусі. І Працыён хай раскусіць.

— А навошта гэта? — з недаверам прамовіла Кася. — Гэта можа які-небудзь наркотык? Я баюся наркотыкаў! Хто пакаштуе наркотык, той потым вельмі хутка памрэ!

— Ды не! Які-такі наркотык! — усклікнуў Лясун. — Звычайная ядлоўцовая ягада! Трэба раскусіць, каб ад вас лесам пахла, а не чалавекам. Нашыя не вельмі любяць чалавечы дух! І яшчэ дапаможа ўзаемаразуменню!

— Ад Працыёна што — таксама чалавекам пахне? Ён жа сабака! — засумнявалася Кася.

— Жыве сярод вас, дык і прапах чалавекам, — растлумачыў Лясун.

Кася раскусіла ягаду. Нічога, толькі пах смалісты. Паклала другую на зубы Працыёну, сціснула яму рукой сківіцы. Працыён круціў галавою, спрабаваў ягаду выплюнуць і раптам прагаварыў:

— Якая мярзота!

— Ой! Ты размаўляеш?! — піскнула ад нечаканасці Кася.

— Я ж казаў — дапаможа ўзаемаразуменню! — пракаментаваў Лясун.

— Цьху! Цьху! — Працыён спрабаваў выплюнуць раздушаныя рэшткі ягады. — Я вам што — глушэц які, што вы мне гэта ў рот пхаеце? Я не ем садавіны-гародніны! Зараз як укушу балюча!

Лясун выставіў у бок Касі і Працыёна далоні і загаварыў незнаёмымі словамі: «Шыманай-куга-чуфырр-шуга-батагай-дуга...». У вушшу Касі крыху зашумела, «ш-ш-ш», як шуміць вецер у шатах дрэў, а ўваччу быццам бы пацямнела. Ці гэта лес раптам стаў цямнейшы? Паляна была, здаецца, тая ж самая, толькі лес навокал... Нібыта гусцейшы і вышэйшы. Кася, аглядаючыся, закруціла галавою. А як зноў зірнула на Лесуна, не пазнала — гэта ўжо быў велікан, галава яго знаходзілася на ўзроўні самых высокіх дрэваў. Як гэта здарылася, Кася не заўважыла. Ад страху Працыён натапырыў хіб і завуркатаў гарлавым рыкам.

А дрэвы заварушылі галінамі і зашумелі:

— Вітаем! Вітаем спадарыню Касіяпею!

— І дрэвы размаўляюць... — сказала Кася. Яна вырашыла больш нічому не здзіўляцца. — Вітаю вас, шаноўныя дрэвы! Я заўсёды падазравала, што вы зусім не бяздушныя!

Пасля гэтых яе словаў Лясун задаволена крэкнуў. Ён зноў змяніў выгляд. Меў белую-белую, як бяроста, скуру і вялізныя сінія вочы ў зацененых, амаль чорных вачніцах. І вопратка была белая. Жахлівы выгляд, асабліва калі ўлічыць валатоўскі рост.

— Дзядуля Лясун! Вы мяне палохаеце! Вы такі страшны зараз! — сказала Кася. — Будзьце ласкавы — станьце гэткім жа, як раней, калі мы толькі пазнаёміліся!

Лясун узмахнуў рукамі, пстрыкнуў пальцамі і пачаў імкліва памяншацца. Ізноў стаў як у хвіліну сустрэчы. Толькі меў зараз нерухомае правае вока. Быццам шкляное.

— Сядай, Касіяпея. — Лясун зноўку пстрыкнуў пальцамі, і з ляснога гушчару, перабіраючы каранямі, як васьміног шчупальцамі, выскачыў на паляну сухі пень. Падбег да Касіяпеі, закруціўся і ператварыўся ў шыкоўны фатэль. На яго адразу ўскочыў Працыён, пачаў абнюхваць і бурчэць:

— Нешта не падабаюцца мне гэтыя жывыя пні! Але пахне звычайным карчом...

— Працыён! Злезь! Цябе не запрашалі! — прагнала шчанюка Кася і села. — Вельмі зручны фатэль! Толькі б у смалу не запэцкацца! А то неяк села на пень, дык сукенку потым ледзьве мама адчысціла шкіпінарам. Дарэчы, я ўспомніла — ягада ядлоўца пахне шкіпінарам! Ці шкіпінар — ядлоўцом?...

— Можна лічыць і так, і гэтак. — Сказаў Лясун. — Шкіпінар здабываюць са смалы, таму і пахне смала — шкіпінарам, а шкіпінар — смалою. На гэтым фатэлі можаш сядзець зусім спакойна, не запэцкаешся. Уладкоўвайся зручней, Касіяпея, пачынаем.

Лясун прыклаў рупарам да рота далоні і завыў па-воўчы, мяняючы тон ад высокага завывання і якатання да хрыплага і басістага. У адказ сярод лясных шатаў закрычала птушка, прыляцела і прынесла ў дзюбе жолуд. Села на галаву Лесуну, паклала жолуд яму ў падстаўленую даланю.

— Не ведаеш, што за птушка? — Касіяпея адмоўна пахітала галавой. — Гэта сойка. Яна садзіць па нашых лясах дубы. Робіць запасы жалудоў на зіму і часам забывае пра іх. І з забытых жалудоў вырастаюць дубы.

Сойка закрычала і зляцела, а Лясун кінуў жолуд на край паляны, і з таго месца пачаў імкліва расці дубок. Падымаўся, таўсцеў, гусцеў і ўрэшце ператварыўся ў магутнае каржакаватае дрэва з густой кронай. Галіны дуба заварушыліся, загайдаліся і адтуль раздаліся пяшчотныя галасы:

— Вітаем! Вітаем, спадарыня Касіяпея!

— Хто гэта? — шэптам спытала Кася, а Працыён падбег да дрэва і, абапёршыся пярэднімі лапамі аб стаўбур, прынюхаўся. Потым вярнуўся да Касі і паведаміў:

— Яны пахнуць водарасцямі.

— Русалкі, — адказаў Лясун. — А ў некаторых беларускіх мясцінах іх яшчэ клічуць Купалкамі, а таксама Вадзяніцамі. Праўда — прыгожыя? Яны заўсёды

вось такія юныя і прыгожыя... Толькі ў мясцінах, дзе валадарацъ Багнікі, ёсць асобыя Русалкі. Яны маюць выгляд старых, панурых кабет з кавенькамі ў руках. Усе яны — душы дзяцей, якія памерлі да хрышчэння, або душы маладых тапельніц-самагубак.

— Ах, як іх шкада! — вырвалася ў Касі.

Русалкі гойдаліся на галінах — беласкурыя, з доўгімі зялёнымі валасамі, махалі Касі, смяяліся срэбным смехам, а потым раптам запелі журботную песню. Такую жаласную, што Касі стала сумна і захацелася плакаць.

— Яны жывуць у вадзе, а на сушу могуць выходзіць зусім ненадоўга, — напаўголаса распавядаў Лясун. — Толькі на час, пакуль не высахнуць валасы. Потым яны павінны вярнуцца ў ваду. Пакуль валасы мокрыя — яны свецяцца ў цемры. Русалкі ўпрыгожваюць іх вянкамі з кветак.

Тут дуб разам з Вадзяніцамі пачаў памяншацца і хутка знік, а Лясун заклаў у рот чатыры пальцы і свіснуў.

Лес захістаўся, дрэвы расхінуліся, і на паляну выйшаў непаваротлівы, павольны волат, зарослы мохам. Мох быў нават на твары.

— Гэта Пушчавік. Яны рэдкія ў нас. Могуць забіваць позіркам. Я ўзгадваў напачатку нашага знаёмства пра Мядузу-Гаргону з Грэцыі. Дык ёй далёка да нашых Пушчавікоў! — сцішаным голасам прамовіў Лясун. — Толькі не глядзі яму ў вочы. — Гэй, сваяк! Пазнаёмся — гэта Касіяпея!

— Вітаю! — не падымаючы вачэй, прагуў Пушчавік. Павярнуўся, расхінуў, як траву, лес і сышоў.

— Ох! — закрычаў Лясун.

Зямля проста ля Касіных ног заварушылася, Працыён спалохана адскочыў, узнікла купіна, як ад крата, і адтуль вылез барадаты мужчынка. Абтросся ад пяску:

— Чаго хочаш?

— Пазнаёмся, Ох! Гэта Касіяпея! — весела прамовіў Лясун.

— Ведаю, што Касіяпея. Ведаю, што незвычайная дзяўчынка, што імкнецца захоўваць прыроду ў чысціні, — панура прамовіў Ох. — Вітаю, Касіяпея! Вельмі рады бачыць у нас. Табе, лясны дзед, штосьці трэба?

Даведаўшыся, што Лясуну нічога не трэба, Ох скочыў у сярэдзіну земляной горкі, дзе была нара, і спрытна, як крот, закапаўся. Праз колькі імгненняў горка заварушылася, разраўнялася і зарасла дзірваном.

— Калі ты, Касіяпея, раптам скажаш «Ох!», ён да цябе з'явіцца. Не палохайся, прасі тады ўсё, што захочаш — абавязаны выканаць!

— Мне нічога не трэба! — запярэчыла Кася. — Гэта жахлівае відовішча — жыве пад зямлёй, як чарвяк. Не, я ніколі не буду «охаць»! ...

## 5.

...— Гэта — Начніца, — казаў Лясун. — Начніцамі становяцца душы кабетаў, што з-за свайго шальмоўства былі праклятыя людзьмі, і з-за гэтага не ме-

лі сваіх дзяцей. Начніцы не даюць дзецям спаць, шчыпаюць іх, і дзеці плачуць усю ноч... Калі захочаш каго праклясці, Кася, добра падумай — можа, потым тая, каго праклянеш, будзе мучыць тваіх дзяцей.

— Я нікога не збіраюся праклінаць! — абурылася Кася. — Мама казала, што праклёны вяртаюцца да тых, хто праклінае. Зараз я думаю, што можа, у выглядзе Начніц...

...— Талака. Апякунка ўрадлівасці, — з павагай прамовіў Лясун. — Адзіны дух, якога пад адным гэтым імем, «Талака», ведаюць ва ўсёй Беларусі. І вельмі шануюць.

...— Калі ласка, Кася — Цёця, дух лета, — прдстаўляў Лясун. Цёця мела выгляд сталай, мажнай кабеты, прыбранай каласамі жыта, са спелай садавінай і гароднінай у руках.

— Вітаю Вас, Цёця! — усклікнула Кася і атрымала ў адказ прыязную, цёплую ўсмешку...

...— Спарышка. Дае спор ва ўсялякай працы, — распавядаў Лясун пра тоненькае лёгкае стварэнне, што мела выгляд дзяўчынкі ростам з Касін мезенец, і з крыламі матылька. — Хто перад працай пакліча яе, то яна абляціць вакол, і тады праца будзе ісці лёгка і хутка. Яшчэ яе клічуць Спешка...

— Дзень добры, спадарыня Спешка-Спарышка! — павіталася Кася. — Калі ласка, спрыяйце мне!..

Працыён, які пасля з'яўлення Пушчавіка ўвесь час ціснуўся да Касі, супакоіўся і таксама прамовіў:

— І мне! І мне, Спешка-Спарышка! Я хутка буду дарослым ганчаком, спрыяй мне ў паляванні!..

...— Хлеўнік... Сваяк мой, хоць даволі далёкі, — крыва ўсміхнуўся Лесавік. (Кася падумала, што гэтая яго ўсмешка вельмі нагадвае бабуліну, калі тая ўзгадвае татаў аўтамабіль). — Жыве ў стайні і любіць начамі ездзіць на кані. Проста — па стайні. Конь стараецца яго скінуць, але Хлеўнік учэпісты яздок. Калі ёсць каровы — ездзіць на каровах. Жывёла ад гэтага худнее, можа захварэць. Хлеўнікі — блізкія сваякі Дамавікоў. Толькі Дамавікі, жывучы ў хаце, апякуюцца яе жыхарамі, а Хлеўнікі — шкодзяць. Нічога не зробіш, што ні нячысцік, то свой характар. Гэтак жа, як і ў людзей... —Здароў, Хлеўнік!...

... —Лознікі, — паказаў Лясун на гурт дробных, дураслівых і гуллівых нячысцікаў. — Могуць заблытаць чалавека, або жывёлу ў лазе або праваліць у вадзяное акенца. Але гэта без злосці, дурэючы. Потым самі дапамагаюць ахвяры выбрацца — падсоўваюць лазіныя дубцы, трыснёг, аер...

— Вітаю вас, Лознікі. Калі ласка, не жартуйце са мною, я баюся заблукаць у лазе! — Кася памахала ім рукою.

## 6.

Неба над палянаю спачатку пашарэла, а потым стала амаль чорным. Недзе за дрэвамі загулі грымоты і бліснулі маланкі.

— А-вой! — раптам тоненькім спалоханым голасам завішчэў Лясун. — А-я-я-й!

Маланкі прыбліжаліся. Грымоты сталі страшнымі, быцца нехта вельмі дужы рваў і камечыў бляху, як паперу.

Лясун раптам зменшыўся, стаў Працыёну па плячо, замітусіўся, смешна, як мультфільмавы персанаж забегаў туды-сюды, голас стаў зусім тоненькі, быццам ён надыхаўся геліем:

— Ай-яй-яй-яй! Пярун!

Шмыгануў у траву, прабег па паляне і шуснуў у падлесак. Пакінуў Касю і Працыёна адных.

— Ты што-небудзь зразумеў, Працыён? — спытала Кася. — Мне здаецца, наш гід кінуў нас напярэдадні злівы ў незнаёмым месцы, ці не так? Гэта ж не тая паляна, што я прыбірала. Вунь і скрыні няма са смеццем. І кошыка бабулінага няма... Я хачу дадому, а зараз, без дзядулі Лесавіка я не ведаю, як гэта зрабіць. Сам завабіў нас сюды сваім чараўніцтвам і знік...

І вочы Касі напоўніліся слязьмі.

— Мне гэты дзед увесь час не падабаўся, — сказаў Працыён. — То расце вышэй дрэваў, то вопратка мяняецца, то вока гэтае... І пахне ён неяк незразумела... Як...гарэлая запалка, ці што? Але без яго нам дадому не вярнуцца, я так думаю. Значыць — што? Трэба яго адшукаць і запатрабаваць, каб вярнуў нас у месца, дзе «ўзяў»! Так?

Неба разрывалася ад грымотаў і маланак. Але дажджу не было, відаць зліву праносіла бокам.

— Ага! Так! Але дзе яго тут знойдзеш!? — Кася ўжо ледзьве стрымлівалася, каб не заплакаць.

Да ўсяго яшчэ фатэль пад ёю заварушыўся, — Кася з віскам саскочыла, а Працыён ад нечаканасці абазваў яго «вэрлам» — ператварыўся ў корч, і на карэннях-нагах борздзенька пашыбаваў з паляны.

— Што такое «вэрла», Працыён? Ты з такім сэрцам на яго сказаў!

— Не ведаю, але думаю — нешта няспрытна-кепскае. Спалохаўся крыху, дык яно само вымавілася, — адказаў шчанюк. — Я ўсё думаю, як нам назад... Трэба дзеда шукаць. Ад яго пахне гарэлай запалкай... За мной!

І Працыён, прыгнуўшы галаву да зямлі, сунуўся ў траву, куды шмыгануў Лесавік, і заяхкаў. Так яны з Касяй прайшлі паляну, залезлі ў густы падлесак, прайшлі звярынай сцежкай (Касі прыйшлося некалькі метраў прайсціся на чатырох, па-сабачы, бо зверху сцежка была вельмі нізка закрытая пераплеценымі галінамі хмызоў). Працыён яхкаў і нюхаў зямлю, а Кася ішла за ім. Некалькі разоў Працыён губляў след і тады замаўкаў. Пачынаў моўчкі бегаць кругамі пакуль не знаходзіў.

— А чаму ты, калі ідзеш па следзе — галосіш? — зацікаўлена спыталася Кася. — Вось я бачыла фільм пра памежнікаў, дык там сабака ішоў па следзе шпіёна моўчкі. А ты ўсё — «Аяй!» ды «Аяй!»

— Таму што я — ганчак, — прабурчэў Працыён, у чарговы раз згубіўшы след Лесавіка. — Я паляўнічы сабака. Я павінен ісці за зверам з голасам, тады паляўнічы чуе, куды кіруе дзічына і ведае куды рухаць яму, каб пераняць. Але калі шчыра — я не наўмысна яхкаю, яно неяк само вырываецца...

Навальніца ўжо скончылася, калі след Лесавіка прывёў Працыёна з Касяй да шырокай дзіркі на схіле ўзгорка. Каля яе жоўтым бугром узвышаўся выкінуты пясок.

— Барсучыная нара, — упэўнена заявіў Працыён, абнюхаўшы ўваход. — Але гаспадароў зараз тут няма. А дзед — ён там, у нары. Во, бачыш, сляды на пяску? Гэта ягоныя. Што яму там трэба? Няўжо гэтак навальніцы спалохаўся? Мне таксама было страшнавата, але ж не да такой ступені, каб па норах хавацца.

— І мне, — прызналася Кася.

— Пакрычы туды, можа выйдзе, — прапанаваў Працыён. — А не, дык мне прыйдзецца лезці. Бр-р! Не мая справа — па норах лазіць, ёсць для гэтага іншыя сабакі — таксы, фокстэр'еры. Але нічога не зробіш...

Кася, схіліўшыся да ўваходу ў нару, пару хвілінаў клікала Лесавіка. Потым пару хвілінаў чакалі, але марна. Лесавік ніяк не азываўся.

— Ну, я пайшоў! — сказаў Працыён і папоўз у нару. Хоць нара была даволі шырокая, але ўсё ж яму было цеснавата.

Кася засталася зусім адна. Яна прыслухоўвалася да гукаў з нары і спачатку чула, як крэкча і цяжка дыхае, паўзучы па тунэлі, Працыён, потым усё сціхла. «Я кепская дзяўчынка, — думала яна. — Я непаслухмяная, таму і трапіла ў гэтае становішча. Ну, чаму я без дазволу пайшла ў лес? Адна, без таты з мамай, ці бабуляй? І колькі разоў мне тата і мама казалі, каб я не размаўляла з незнаёмымі? Можна толькі павітацца — і ўсё! Ну, навошта я загаварыла з Лесавіком? «Вы, напэўна, Лясун! У майго таты вопратка, як у Вас!» Праўда, з іншага боку экскурсія ў свет нячысцікаў была надзвычай цікавая! Так, цікавая. Але невядома, як яшчэ скончыцца гэтая экскурсія. Можа, я ўжо ніколі не здолею вярнуцца? Калі мне ўдасца вярнуцца — я заўсёды буду слухацца маму, тату і бабулю. Хоць часам іх патрабаванні вельмі розняцца... У такіх выпадках буду трымацца бацькоўскіх парадаў. Усё. Вырашана! Ніколі не буду парушаць бацькоўскіх забаронаў! Толькі б трапіць назад, дадому!»

Працыёна доўга не было, і Касі стала так сумна і самотна, і так хацелася дадому, што яна ціха заплакала. Так сядзела перад нарой і плакала, ажно пакуль не пачула з нары скавытанне і пыхценне. Здаецца вяртаўся з-пад зямлі Працыён.

Кася хуценька выцерла заплаканы твар і зрабіла вясёлы выгляд. Зусім не хацела паказвацца непрыгожай.

Працыён рухаўся на «задняй перадачы». Зубамі трымаў за вопратку Лесавіка і цягнуў яго да выхаду з нары. Лесавік упіраўся і пішчэў: «Пярун! Пярун! Не пайду! Баюся!» І толькі калі цалкам апынуўся на паверхні і пабачыў, што

навальніцы ўжо няма, супакоіўся. Абтрос з вопраткі і барады пясок, пстрыкнуў пальцамі і стаў аднаго росту з Касяй. Як пры сустрэчы.

— Як Вам не сорамна, дзядуля Лесавік!? — стомлена пасарамаціла яго Кася. — Кінулі маленькую дзяўчынку з маленькім сабачкам у незнаёмым месцы і збеглі! Дзякуй Вам, экскурсія і знаёмствы з Вашым светам былі цікавымі, але зараз мы ўжо вельмі стаміліся і хочам дадому. Калі ласка, вярніце нас назад!

— Я непакоіўся выключна пра вашу бяспеку, — сказаў Лесавік, і Кася заўважыла, што рот у яго пакрывіўся, а вочы хітра забегалі. — Навальніца — гэта па небе на жалезным возе катаўся Пярун (ад гэтага і гром) і страляў вогненнымі стрэламі па нас, нячысціках. Па сваіх! Ён жа сам з нашых! Страшэнна стары, з тых яшчэ часоў, што звязаны з тваім імем, аднагодак Персея, Касіяпеі, Мядузы-Гаргоны... У Грэцыі яго клічуць Зеўсам, а ў Беларусі — Перуном. Узяў сабе за звычку па нас, сваіх супляменніках маланкамі страляць. Мог і па мне. А тут вы побач. Дык я, каб ён выпадкова ў вас не пацэліў, палічыў за лепшае быць ад вас наводдаль...

— Добра-добра, дзядуля Лясун, — Кася не вельмі паверыла, але хацела толькі аднаго, дадому. — Эх, атрымаю я сёння! Са мной яшчэ кошык быў. Бабулін...

— Не хвалюйся, Касіяпея, — супакоіў Лясун. — Ты вернешся так, што родныя не заўважаць тваёй адсутнасці, — я ж абяцаў! І кошык твой не прападзе. Прыходзь да нас у лес, мы заўсёды будзем цябе рады бачыць. Усе табе будуць спрыяць. З гэтымі словамі Лясун сарваў з бліжэйшага калінавага куста дзве ягады. — Раскусі. І Працыён хай.... Шыманай-куга-чуфырр-шуга-...

— Што?! Зноў кусаць гэтую гаркату? — незадаволена прабурчэў Працыён, але паслухмяна разявіў рот.

## 7.

Уваччу пацямнела, і наваколле крутанулася дагары нагамі... Ачомалася Кася праз імгненне ля шчыліны ў плоце. Побач стаяў кошык, паўнюткі маленькіх, крамяных баравічкоў са светла-карычневымі галоўкамі і тоўсценькімі белымі ножкамі. Духмяных і такіх прыгожых, быццам яны былі намаляваныя. Ад хаты па агародзе, не разбіраючы дарогі, да Касі бег Працыён і віляў хвастом.

— Мама! Тата! Бабуля! Я вас так люблю! Я зараз столькі ўсяго бачыла! І Лесуна, і Спарышку, яе яшчэ клічуць Спешкай-Спарышкай, і Пушчавіка, страшнага такога, ён можа позіркам забіць, як Мядуза-Гаргона, і Хлеўніка! — захліпаючыся ад пачуццяў, залапатала Кася. У пакоі мама з татам разбіралі рэчы і гутарылі з бабуляй. — І Працыён! Ён размаўляў! А яшчэ — я ніколі больш не буду непаслухмянай!

— Не заракайся! — сказала бабуля. І перадражніла — Парцыён-ён-ён! Выдумшчыца! Ваш Парцыён ля торбы з кілбасой увесь час круціўся. Моўчкі, але вачыма — так, размаўляў!

— Выдумшчыца?! — абурылася Кася і паставіла наперад кошык з баравічкамі. — А гэта што? Гэта ад Лесуна! Тата, ты вывезеш з паляны скрынку? Я паляну прыбрала, а смецце ў скрынку...

Усе здзіўлена глядзелі на Касю і грыбы. А ў татавых вачах мільгалі іскрынкі. Калі ў таты такія іскрынкі — значыць, добра. Значыць, у кут не паставяць. Кася ўсё ж крыху адчувала віну.



# Мюр Фарыдовіч

драматург, культуролаг, тэатральны крытык.
Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў» і «Верасень».
У 1999-м скончыў Беларускі ліцэй мастацтваў (мастак-жывапісец), у 2003-м — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў (культуролаг) і ў 2009-м — Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (рэжысёр драматычнага тэатра).
Нарадзіўся ў 1981 годзе ў мястэчку Давыд-Гарадок.
Жыве ў Маскве.

# «Цуда-малпа»

***Казка ў 2-х дзеях з пралогам ды эпілогам***

***Юрасю Габрусю прысвячаецца***

**Асобы**
Дуся, яна ж Прынцэса
Галоўны шатан, ён жа князь Мітаўт
Мама
Карлік Юрген фон Прохнаў
Карлік фон Пахельбель
Прынц Букстэхудэ
Паўлік, ён жа Цуда-Малпа і Афрыканскі каралевіч
Афрыканскі шэршань
Занзібарскі чараўнік

## Пралог

*Цемра. Гучыць арган. Яго заглушае прарэзлівае дзіцячае якатанне: «А-а-а-!!!». Голас Мамы: «Ціха, ціха, Дусечка!.. Ну, давай яшчэ крыху...» Ізноў гучыць арган, які ізноў жа перапыняецца яшчэ больш пранізлівымі воклічамі. Мама: «Божа мой, Дуся!..». Цішыня. Запальваецца святло. На сцэне стол з вялікім непрыгожым тварожным тортам, у якім тырчаць 13 свечак. За сталом сядзіць у святочнай сукенцы дзяўчынка Дуся, каля яе стаіць Мама.*

МАМА. Божа мой, Дуся! Ты ж сабе голас сарвеш! Памятаеш, як ты яго сарвала, калі я цябе з раддому несла?
ДУСЯ. А-а-а-а-а-а!!!!!!!!
МАМА. Дусечка! Ну, яшчэ кавалачак, сёння ж твой дзень нараджэння!..
ДУСЯ. А-а-а-а-а-а-а-а-а!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!
МАМА. Дусечка-кветачка, дзетачка! Хочаш, я ізноў пастаўлю гэтую цудоўную арганную музыку?
ДУСЯ. А-а-а-а-а-а-а-а-а-а!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!!
МАМА. Дуся! Але ж гэта іграе твой тата! (*Дуся замаўкае.*) Так, Дуся! Твой родны татачка! Сусветна вядомы арганіст! Памятаеш, як ён табе ручкай махаў пад вокнамі раддома, калі я цябе яму паказвала? Ну, а пасля сама разумееш, канцэрты, паездкі, гастролі... Але ён хутка павінен вярнуцца! Вось будзеш сябе добра паводзіць, не будзеш крычаць, з'ясі пад цудоўную арганную музыку ўвесь гэты тварожны торцік, і тата абавязкова вернецца!
ДУСЯ (*праз паўхвілінную паўзу*). А-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а!!!!!!!!

*Дуся раскідае лыжкі, талеркі, скідвае торцік.*

МАМА. Божа! Гэта д'ябал, а не дзіцёнак! Што мне рабіць!!!

*Грымоты, маланка. На сцэне з'яўляецца Шатан у чорным плашчы, масцы ды капюшоне. Мама падае без прытомнасці. З дзікім смехам, енкам і якатаннямі, Шатан танцуе каля Дусі.*

ШАТАН. Ах, Дуся, Дуся, Дуся, Дуся!!! Нельга раскідвацца карысным тварожным торцікам, нельга заглушаць сваімі енкамі прыгожую арганную музыку, якую іграе твой татачка, нельга не слухацца маму! Ах, Дуся, Дуся, Дуся, Дуся!!!!! Дачакаешся ж ты, дачакаешся!!!!!
ДУСЯ. Дачакаюся чаго?
ШАТАН. Дачакаешся таго, што ніколі ў жыцці больш не пабачыш таткі!!!!!!!!!!
ДУСЯ (*праз паўзу*). А я даем торцік...
ШАТАН. А гэта ўжо не дапаможа! І да таго ж, нельга есці тое, што ўпала на падлогу! Глісты завядуцца!!!!
ДУСЯ. Дык што мне рабіць?
ШАТАН. А ўжо нічога не зробіш!!!! Ха-ха-ха! Але не! Яшчэ можна штосці зрабіць!..
ДУСЯ. Што?
ШАТАН. Зараз скажу, толькі прынясі вады маме, бачыш, бедная, ляжыць!
ДУСЯ. Не! Спачатку скажы! Што я магу зрабіць?!!!
ШАТАН. Але ў цябе нічога не атрымаецца!!!
ДУСЯ. Атрымаецца!
ШАТАН. Не атрымаецца! Не атрымаецца!
ДУСЯ. Атрымаеццца! Атрымаецца! Атрымаецца!!!
ШАТАН. Не атрымаецца, не атры..., а можа, й атрымаецца?
ДУСЯ. Што?!
ШАТАН. Сыграць са мной у казку!!!!
ДУСЯ. У казку?
ШАТАН. Ага! У казку! У самую сапраўдную казку!!!
ДУСЯ. Дык што тут такога? І сыграю!!
ШАТАН. Але ж гэта не простая казка! Мы з табой сыграем у казку пра Цуда-Малпу!
ДУСЯ. Пра Цуда-Малпу?
ШАТАН. Пра самую сапраўдную Цуда-Малпу! І тут ёсць адна ўмова!
ДУСЯ. Якая?
ШАТАН. У каго ты ў гэтай казцы закахаешся, будзе чакаць... А ты, увогуле, хіба ўжо можаш закахацца?
ДУСЯ. Яшчэ як! Месяц назад я так закахалася ў аднаго хлопчыка! У Паўліка! Але пасля таго, як я яму прызналася, а ён засмяяўся, я так дала яму па яго галаве, што ён з таго часу кудысьці знік.
ШАТАН. Няважна. Галоўнае, ты ўжо ведаеш, што такое каханне. Дык вось, калі той, у каго ты закахаешся, пад канец казкі загіне, то ніколі ты татачкі свайго

не пабачыш! Ніколі, ніколі, ніколі, ніколі!!! Вось якая ўмова! Ну што, паспрабуем згуляць у Цуда-Малпу?!!
ДУСЯ. Паспрабуем!
ШАТАН (*свішча і на сцэне з'яўляюцца чатыры памагатых у чорным і ў масках*). Слухай маю каманду, верныя мае памочнікі! (*Паказвае на Маму, якая па-ранейшаму ляжыць без прытомнасці.*) Прыбраць! (Маму выносяць за кулісы.) Сцэну да правядзення гульні ў Цуда-Малпу падрыхтаваць! Неабходнае абмундзіраванне гульцам выдаць!

*Шатаны расчышчаюць сцэну, дастаюць з чамаданаў дэкарацыі і касцюмы. Стол ператвараюць у замак. Шатан дае дзяўчынцы касцюм.*

ДУСЯ. Што гэта?
ШАТАН. Касцюм прынцэсы. Ты будзеш іграць прынцэсу, якая чхаць і пляваць хацела на ўсё і ўсіх. Ну дык, пачынаецца нашая гульня ў «Цуда-Малпу»! Вялікае княства Мітаўта! (Паказвае на стол.) Замак вялікага князя Мітаўта (*Да дзяўчынкі.*) Залазь у палац! 5.30 раніцы! Усё спіць і ўсе спяць! І прынцэса спіць. (*Прынцэса пачынае пахропваць.*) Не спіцца толькі закаханаму прынцу Клаусу-Ота-Гюнтэру фон Букстэхудэ і яго памочніку подламу карліку Фрыдрыху-Крысціяну-Іераніму фон Пахельбелю. Яны крадуцца пад вакно прынцэсы спяваць свае серэнады.... Казка пачынаецца!

*Гучыць арган. Зацямненне.*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

**З'ява першая**
***Прынц Букстэхудэ, карлік фон Пахельбель і князь Мітаўт***

*Запальваецца святло. У замку чутно пахропванне. З'яўляюцца прынц Букстэхудэ з карлікам фон Пахельбелем. Прынц хвалюецца, баіцца пачаць спевы. Хоча ўцячы, але карлік вяртае яго і прымушае яго прыняць гераічную паставу.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
О, мая ты дарагая,
Як цябе я ўсё ж кахаю!
Без цябе занепадаю
І канаю, ох, ка-анаю!

Ка-а-а-а-а-хаю!
І ка-на-аа-а-а-ю!
Ка-а-а-а-а-хаю!
Без цябе я, ох, канаю!

*Пахропванне сцішваецца, але замест Прынцэсы выходзіць князь Мітаўт з начным гаршчком у руках, які, не пабачыўшы, вылівае на прынца Букстэхудэ.*

КНЯЗЬ МІТАЎТ (*заўважае прынца і выймае з вушэй затычкі*).
О-ёй! Даруйце, прынц ласкавы!
Мая дачка ў іншай вежы начавала,
Бо тут, як мне яна сказала,
Пад раніцу надзвычай гідка камары гудуць
І не даюць ёй, бедненькай, заснуць!

*Прынц выкручвае сваю шапку.*

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ (*у бок*).
Цяпер не тое што спяваць,
Да вокнаў замка падыходзіць
Будзе ён баяцца!..
КНЯЗЬ МІТАЎТ (*са шкадаваннем глядзіць на прынца*).
Але ж які вы мокры,
З вас пачнуць смяяцца,
Бярыце во ручнік (кідае сурвэтачку)
І слухайце ўважліва, што вам скажу!
Вас (а таксама іншых 9.860 няшчасных прынцаў)
Я запрашаю сёння ў палац
І там мая каханая дачка
Нарэшце скажа,
Хто ж стане мужам ёй!
Прыходзьце роўна ў 15 вы 00
І паспрабуйце ж высахнуць, шаноўны мой,
Пакуль!

*Князь Мітаўт знікае за шырмай.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
О, Пахельбель! Адзежу новую хутчэй!
Не маем часу мы марудзіць!
Ад хвалявання, нават у жываце
мне стала нудзіць!

*Выбягаюць за кулісы. Зацямненне.*

**З'ява другая**
***Князь Мітаўт і Прынцэса***

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Ну, спадзяюся, любая дачка,

Ты сёння скажаш,
Хто з 9.860-ці няшчасных прынцаў
Абраннікам тваім навекі стане?
ПРЫНЦЭСА.
Ха-ха-ха,
ха-ха-ха-ха-ха!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Што гэтае «ха-ха!», дачушка, азначае?
ПРЫНЦЭСА,
А толькі тое,
Што ўмову я такую пастаўлю,
Гэтым дурням,
якую ім не выканаць ніколі!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Якую ж, любая мая дачка? Скажы!
ПРЫНЦЭСА.
А вось пабачыш, мілы татка!
І не глядзі ўмольна, быццам кацянятка,
што малака ў мамкі просіць.
Пакуль нічога не скажу!
Хадзем у залу!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Што ж, хадзем...

**З'ява трэцяя**

***Князь Мітаўт, Прынцэса, карлік фон Пахельбель, прынц Букстэхудэ і астатнія 9.860 няшчасных прынцаў***

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Я рады ўсіх вас шчыра бачыць у сябе,
І кожны зяцем дарагім мог стаць бы для мяне,
Але ж, але ж, але...
Мая дачка сабе тут будучага мужа выбірае...
ПРЫНЦЭСА.
Таму, о татка, дай жа мне сказаць.
Шаноўныя! Усім вядома, што хутка
Дзень народзінаў святкую,
Дык вось, той падарунак, ад якога я ажно зайдуся
Ў захапленні невымоўным,
Які мяне ажно да слёз кране,
Без лішніх словаў я да сэрца прытулю,
А той, хто мне яго ўручыў, — навекі маім мужам стане!
Усім зразумела?

Тады ўсе вон — шукайце чым здзівіць прынцэсу!
Хаця магу сказаць — няма ў гэтым сэнсу:
Бо я ад нараджэння слёз не знала!

**З'ява чацвёртая**
***Прынц Букстэхудэ і карлік фон Пахельбель***

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
О, Пахельбель мой мудры, падкажы,
Што мне рабіць, якім дарункам я магу яе здзівіць,
І, самае галоўнае, ажно да слёз расчуліць!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ (*разважліва*).
Нічога вартага здзіўлення альбо слёз,
Не знойдзеш ты ў нашай старане,
Усё знойдзена да нас!
Нам трэба ў Афрыку, у Занзібар з табою ехаць,
Там, чуў, такія цуды можна напаткаць,
Што тысячы прынцэс вас змогуць пакахаць!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
У Афрыку? У Занзібар? Ну, што ж...
Паехалі, мой верны Пахельбель!
І падрыхтуй жа самы моцны карабель!

*Зацямненне.*

**З'ява пятая**
***Карлік Юрген фон Прохнаў, затым Прынцэса***

*Лабараторыя карліка Юргена фон Прохнава.*

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ (*майструе нейкую дзіўную рэч, падобную на арган, звяртаецца да дзетак-гледачоў*).
Апошні дурань той, хто толькі
Пра красу аблічча дбае.
Розум і вучонасць —
вось што павінна быць заўсёды ў пашане!
Бо як краса аблічча вашага паціху звяне,
То станеце, бы яблык той гнілы,
Нікому не патрэбным.
Таму бярыце прыклад вы з мяне!
Я хімік, кампазітар, арганіст,
паэт, танцор, мастак, аквалангіст,
Мяне ўсе любяць, паважаюць і баяцца.
Сам Мітаўт ведае, што лепей не спрачацца

З вялікім Юргенам фон Прохнавым!
Таму, як хочаце здабыць любоў, павагу,
грошай шмат,
Вучыцеся: не прапускайце школу і дзіцячы сад!
Настаўнікаў і выхавацеляў любіце,
Бацькоў сваіх шануйце, не цвяліце!
ПРЫНЦЭСА (*з'явіўшыся з-за кулісаў*).
Я думаю, што нават на далёкім Крыце,
Пачулі дзеткі казань мудрую тваю!
Ах, Прохнаў, як жа я цябе люблю,
Чаму не можаш ты мне быць не толькі выхавацелем,
Але ж і братам, бацькам, мужам... Адкажы!?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Ах, мілае дзіцятка!
Я для цябе занадта малады!
Але нашто хаваеш вачаняткі?
Ты плакала?
І што прынцэсу засмуціла?
Жаніхі? (Прынцэса ківае.)
ПРЫНЦЭСА.
Мне страшна, Прохнаў!
Страшна, страшна, страшна!!!
А раптам нейкі дурань,
ну хоць бы прынц нямецкі той,
Усё ж прывязе дарунак нечаканы,
Які мяне да слёз кране?
Тады што будзе? Катастрофа! Жах!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Аж зазвінела мне ў вушах
Ад ляманту твайго.
Паслухай, супакойся!
У краіне нашай і ў замежжы блізкім
няма нічога, што б крануць цябе магло да самых слёз!
ПРЫНЦЭСА.
А раптам хто-небудзь
Паедзе ў далёкае замежжа?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Лянівыя твае занадта жаніхі,
Каб ехаць на край свету!
ПРЫНЦЭСА.
А раптам...
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
А раптам, можа быць,

Ты супакоішся і пойдзеш спаць,
Бо час ужо, як мне здаецца, позні!
ПРЫНЦЭСА.
А ты раскажаш казку перад сном?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Яшчэ крыху я папрацую і падыйду.
ПРЫНЦЭСА.
А што такое робіш ты? Падобна на арган
І разам з тым на нейкую ракету.
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
З тваім характарам анёльскім
Нам трэба рыхтавацца да ўсяго.
Вось і рыхтуюся: раблю для татачкі твайго
Непераможную я зброю!
ПРЫНЦЭСА.
Вой, як цікава!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Так, цікава! А зараз спаць ідзі!
ПРЫНЦЭСА.
Іду, і казку ад цябе чакаю!

*Выходзіць.*

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Не ведае няшчаснае дзіця,
Якая казка неўзабаве
Яе чакаць наяве будзе!

**З'ява шостая**
***Прынц Букстэхудэ, карлік фон Пахельбель***

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ (увесь захутаны ў супрацьмаскітную сетку. Трымае мухабойку, якой амаль увесь час адмахваецца ад жахлівага Афрыканскага шэршня). А-ё-йя-ёй! Ізноў мяне паскуда гэты ўкусіў!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ (паказвае на залу).
Цішэй, мой прынц! Тут дзеці!
ПРЫНЦ фон БУКСТЭХУДЭ.
Ну дык і што?
Не іх жахлівы афрыканскі шэршань джаліць,
А мяне! Ой! Што за дзікі, за жахлівы край!
Паўсюды бруд, макрэча, ліпкія ліяны,
Тут нават добрага не знойдзеш павіяна,
Ну што прынцэсе мы с табой падорым?
Праклятая карлік, ты куды мяне завёў?

І пра якія цуды гэтак красамоўна плёў?!
Ды гаварыць з табой, што ў сценку кідаць боб!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Цішэй, мой прынц! Яшчэ хвілінку,
Х-о-о-о-оп!! Злавіў!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Каго?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Каго! Яшчэ пытаецеся! Шэршня!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Давай яго хутчэй раздушым!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Чакайце, прынц!
Абы вам раздушыць каго!
Ён нам спатрэбіцца! (*Да шэршня.*)
Ну што, жахлівы афрыканскі шэршань!
За тое, што кусаў самога прынца Букстэхудэ!
Табе паабрываю лапкі, крыльцы, вусікі і хабаток!
Што адкрываеш так нясмела свой раток?
Сказаць мне нешта хочаш?
(*Шэршань нешта пішчыць.*)
Ласкавы прынц! Ён просіць літасці
І абяцае любую просьбу задаволіць!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Патрэбна цуда мне!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ (*паслухаўшы Шэршня*).
Ёсць цуда! Ёсць!
За лесам на палянцы ў гэты час яно адпачывае!
Нам трэба паспяшацца,
Шэршань правядзе!
(*Да дзетак.*) А вы запомніце!
Ні пры якой бядзе
Не абрывайце, нават самым подлым вы жукам,
Ні крылцаў, ні вусоў, не лапак!
Тады і вам, магчыма, пашанцуе,
І цуда вы здабудзеце,
Чым задаволіце і татачак сваіх, і мамак!

*Знікаюць.*

**З'ява сёмая**
***Князь Мітаўт, Прынцэса, карлік Юрген фон Прохнаў, а таксама 9.860 няшчасных прынцаў***

*Тронная зала. Дзень народзінаў Прынцэсы. Каля трона Мітаўта зваленая гара падарункаў.*

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Вось і прыйшоў той дзень,
Калі табе 13 споўнілася год,
І ты становішся дарослаю,
Глядзі, якія слаўныя дарункі!
Напрыклад гэты мілы завадны удод!
ПРЫНЦЭСА.
Б-э-э-э-э-э!...
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А вось сабачка,
які смешна падымае лапу...
ПРЫНЦЭСА.
Б-э-э-э-э-э!!!!...
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А гэта нават спадабалася і тату!
Ты паглядзі, які выдатны барабан,
Я пра такі ў дзяцінстве марыў!
ПРЫНЦЭСА.
Б-э-э-э-э-э-э-э!!!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А гэта качачка, што
Яйкі шакаладныя нясе?
ПРЫНЦЭСА.
Б-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э!!!!!!!!!!!!!!!!!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А...
ПРЫНЦЭСА.
Б-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э!!!!!!!!!!!!!!!!!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А гэта...
ПРЫНЦЭСА.
Б-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э-э!!!!!!!!!!!!!!!!!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Дачушачка!
Яшчэ раз скажаш «б-э-э-э»
І галава мая, як збан,
Расколецца на дробныя кавалкі!

**З'ява восьмая**
***Тыя ж і прынц Букстэхудэ з карлікам фон Пахельбелем і Цуда-Малпай***

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Вялікі князь,
прыйшоў нямецкі прынц.
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А мы ўжо думалі,
Што вы пра нас забылі,
Ну, чым парадуеце нашую прынцэсу?
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Глядзіце!

*На сцэну выкатваецца клетка з Цуда-Малпай.*

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Што гэта вы за д'ябла нам прывезлі?
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
З далёкай Афрыкі,
З самога Занзібара,
Прывёз вам Цуда-Малпу!
ПРЫНЦЭСА.
Цуда-Малпу?
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
О так, прынцэса, Цуда-Малпу.
ПРЫНЦЭСА.
Але чаму такі самотны ён,
Чаму сядзіць у клетцы?
Чаму ў ланцугах?
Гэй, верны мой фон Прохнаў,
Выпусці няшчаснае стварэнне!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Але прынцэса, гэта ж дзікі,
небяспечны звер!
ПРЫНЦЭСА.
Вы самі звер,
Калі трымаеце
Яго ў няволі!
Адпусціць!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Але, дачушка,
Раптам ён укусіць?
ПРЫНЦЭСА (*паказвае на жаніхоў і прынца*).
Калі ўсіх гэтых дурняў
Ён перакусае,
Я толькі рада буду!

Адпусціць!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Але...
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Не замінайце мне, шаноўны прынц,
Выконваць загад прынцэсы!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
На жаль, мой прынц, мы не ў сваім палацы,
таму і мусім падпарадкавацца.

*Фон Прохнаў адкрывае клетку.*

ПРЫНЦЭСА (*Цуда-Малпе*).
Паслухай, гэй,
Не бойся! Ты пад маёй апекаю,
Выходзь!

*Цуда-Малпа асцярожна вылазіць.*

**З'ява дзявятая**
***Тыя ж героі***

*Цуда-Малпа, жаласліва гледзячы на Прынцэсу, пачынае танец-пантаміму. Мудры Юрген фон Прохнаў тлумачыць танец Прынцэсе.*

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Паляна ў самым цэнтры Занзібара.
На ёй пасля абеду спачывала пара:
Жонка з мужам.
Пасля дажджу вакол было шмат лужын,
Іх дзеткі весела па лужынах скакалі,
І так пранізліва пры гэтым віскаталі,
Што спаць сваім бацькам, вядома ж, не давалі!
Падняўся татачка свавольствы гэтыя спыніць,
І бачыць... Як жа пасля гэтага магчыма далей жыць!
З'явіўся страшны белы чалавек,
Мячом ягоных дзетак усіх засек,
Працяў стралою жонку,
І як няшчасны бацька не маліў
жывым пакінуць хоць адно дзіцятка,
ніхто яго не слухаў!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Гэта ўсё няпраўда!
Усе ведаюць, што я рахманы,

Бы ягнятка!
Ніколі я нікога не забіў!
І Прохнаў фон усё вам нахлусіў!
І Малпу гэтую падобным танцам падвучыў!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Калі ж я мог паспець,
Шаноўны прынц?
Я толькі патлумачыў танец!
ПРЫНЦЭСА (*прынцу Букстэхудэ*).
Я і не ведала, што вы такі паганец!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Цішэй, цішэй! Каханая дачка!
Бо ўсё ж не абарванец ён,
А прынц нямецкі!

*Прынцэса падыходзіць да Цуда-Малпы. Прыціскае яго да сябе і плача.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Яшчэ раз паўтараю, гэта ўсё падман!
Але глядзіце! Князь! Глядзіце!
Плача! Прынцэса нашая заплакала!
І падарунак прытуліла да грудзей!
Цяпер шчаслівы самы я сярод людзей!
Ура! Ура! Ура!
Цяпер яна мая!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Ну, значыцца, як той казаў,
і ў нашае ваконца
Нарэшце зазірнула сонца!
Адбылося!
ПРЫНЦЭСА.
Хай лепей сонную мяне задушыць вуж,
Чым выйду замуж я за гэтага забойцу!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Паверце, я нікога не засек...
І ўвогуле, прынцэса,
Што за здзек!
Вось вашы слёзы — гэта верны знак,
Што вы цяпер мая!
ПРЫНЦЭСА.
Гэй, Цуда-Малпа!

*Цуда-Малпа хапае за каршэнь прынца Букстэхудэ і карліка фон Пахельбеля і выкідвае іх у вакно.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ (*падчас падзення*).
Прынцэса! Што вы робіце!
Не трэба!
Такой абразы я не пацярплю!

*Знікае.*

ПРЫНЦЭСА.
Ах, Цуда-Малпа!
А цяпер пайшлі гуляць!
Хавацца буду я,
А ты мяне шукаць!

*Уцякаюць.*

**З'ява дзесятая**
***Князь Мітаўт, карлік Юрген фон Прохнаў***

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Ну што, шаноўны князь,
магу павіншаваць:
Дачка сабе прыдбала сябра,
А вы займелі ворага.
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Вайна?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Вайна.
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А можа, гэта і да лепшага,
Бо нешта мы даўно не ваявалі.
І зброю новую праверым.
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Тады я з вашага дазволу
Пайду ў лабараторыю
Арган ракетны дарабляць.
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
І хто ж мог ведаць, што Прынцэсе
так Цуда-Малпа зможа спадабацца!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Я думаю, Вялікі Князь,
Прынцэса ў малпу здольная і закахацца.
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Ды што ты кажаш!
Ён звер, яна яшчэ дзіця!

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Ды, як сказаць...

**З'ява адзінаццатая.**
***Прынцэса, Князь Мітаўт***

*Спальня Прынцэсы. Заходзіць Князь Мітаўт пажадаць дабранач.*

ПРЫНЦЭСА.
А Цуда-Малпа дзе?
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Сама ж ты загадала,
Каб яму паслалі лепшую салому
Ў вялікай зале.
Ён спіць ужо даўно,
І ты давай, мая чароўная, адпачывай.
ПРЫНЦЭСА.
А Цуда-Малпе ты дабранач пажадаў?
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Вядома!
ПРЫНЦЭСА.
А Цуда-Малпе зручна спаць?
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Так зручна нават я не спаў ніколі!
І на гэтым, мілая мая, даволі!
Чароўных сноў!

*Выходзіць.*

ПРЫНЦЭСА.
Забыла Цуда-Малпу пачухаць я за вушкам!
І ўвогуле, хай спіць ён на маёй падушцы!

*Хапае падушку і выбягае.*

**З'ява дванаццатая**
***Прынцэса, Цуда-Малпа і карлік Юрген фон Прохнаў***

*Зала. Кубло Цуда-Малпы. Свеціць вялікая поўня, якая асвятляе твар звера. З'яўляецца Прынцэса. Нейкі час на яго глядзіць, затым цалуе ў вусны. Цуда-Малпа падхопліваецца і пераўвасабляецца ў Афрыканскага каралевіча.*

ПРЫНЦЭСА.
Не ведала, што пацалункі з малпамі такую сілу маюць!
(*З-за кулісы нечакана з'яўляецца карлік Юрген фон Прохнаў.*)

А ты адкуль з'явіўся?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Ты думала, наіўная,
Што я цябе адну пакіну з Цуда-Малпай?
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
А-бу-га-дзя.
ПРЫНЦЭСА.
Што кажа ён?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Прынцэса, ён зачараваны каралевіч.
ПРЫНЦЭСА.
За што ж яго зачаравалі?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
А гі ду ба?
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
Ба гі ду гу ба дзя.
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
За тое, што пляваў і чхаў на ўсё і ўсіх:
Дзядоў, бацькоў, братоў і на сясцёр сваіх.
ПРЫНЦЭСА.
І што, за гэта... ў малпу?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Куру гу бу?
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
Гу да ку ру да бу.
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Не вытрымалі крыўдаў бацька й маці!
Падумалі: хто ж можа рады даці,
І зразумелі — толькі чараўнік,
Шаман славуты занзібарскі.
ПРЫНЦЭСА.
І што зрабіў ён?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Дзі да га?
АФРЫКАНСКІ ПРЫНЦ (*са скрухай*).
Ра пу пу!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
З хваста святой жывёлы бабуіна
Зрабіў ён пугу,
Плюнуў на яе чароўнай слінай,
І выцяў прынца па спіне, галаве, азадку і руках,
Па сківіцы, нагах і па зубах,
Па кожнай частцы цела, адным словам.

ПРЫНЦЭСА.
О, бедны прынц!
Ах, Божа,
Які сорам!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
«За тое, што ты біўся і дражніўся,
Цвяліў бацькоў, не мыўся, не галіўся
Будзь зверам!» —
Так сказаў славуты занзібарскі чараўнік,
Спагадна ўсміхнуўся ўсім і знік.
ПРЫНЦЭСА.
Але ж як зноў у прынца ён ператварыўся?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
О ля кя пя?
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
А ля ля па та ка!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
На паўгадзіны можа стаць сабою каралевіч,
Калі яму ў вочы свеціць поўны месяц
І гожая прынцэса ў момант той яго цалуе.
ПРЫНЦЭСА.
А як жа дзеці, жонка,
Якіх наш Букстэхудэ так бязлітасна забіў?
Чаму іх чараўнік у малпаў усіх ператварыў?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Тут Цуда-Малпа, шчыра кажучы, зманіў,
Каб вас расчуліць.
Не мае ён ні жонак, ні дзяцей!
ПРЫНЦЭСА.
Вось шэльма! Ты пабач, які круцель!
Але ж і малайчына...
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
...бо задурыў ён галаву, я думаю,
Што ні адной дзяўчыне!
ПРЫНЦЭСА.
Ён не такі!
Зірні яму ў вочы!
Колькі там тугі!
У чалавека зноў яго ператвары!
Павінен жа быць спосаб,
Так ці не?
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
А-ла-ба ге ге ге!

ПРЫНЦЭСА.
Як напалохаўся!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Бо спосаб, мабыць, ёсць,
Але не хоча каралевіч гаварыць.
Прынцэса, што нам галаву тлуміць!
Я думаю, што зараз трэба адпачыць,
Бо дзень цяжкі быў, хутка ў нас вайна,
І мне для бацькі вашага
наладзіць трэба да відна
арган ракетны.
ПРЫНЦЭСА.
А поўны месяц...
Ці будзе ён наступнай ноччу?
Што кажа твой магічны каляндар?
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Ён будзе сем начэй яшчэ запар.
ПРЫНЦЭСА.
Ура! Скакаць і танцаваць хачу!
Ад шчасця зараз, мабыць, палячу!

*Зыходзіць. Афрыканскі каралевіч ізноў ператвараецца ў Цуда-Малпу.*

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Адпачывай, наш каралевіч рэдкі!
А вы глядзіце і запамінайце, дзеткі,
Як слухацца не будзеце бацькоў,
Шатан вас ператворыць у звяроў.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

**З'ява першая**
***Прынцэса, Цуда-Малпа***

ПРЫНЦЭСА.
Хлопчыкі з дзяўчынкамі,
Будзьце малайчынкамі,
Усе ідзіце на вайну!
ЦУДА-МАЛПА.
Ну-ру-ну-ру-ну-ну-ну!
ПРЫНЦЭСА.
Будзем ворага мы біць,
Цацкі ўсе яго паліць!

Дык няхай жыве вайна!
ЦУДА-МАЛПА.
На-ра-на-ра-на-на-на!
ПРЫНЦЭСА.
Будзем за язык кусаць,
Пяткі жабай казытаць!
Як удзячны мы вайне!
ЦУДА-МАЛПА.
Не-ре-не-ре-не-не-не!
ПРЫНЦЭСА.
Хто не можа без вайны,
Усе на сцэну, усе сюды!

**З'ява другая**
***Тыя ж і карлік фон Прохнаў***

КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Так, шаноўныя сябры,
Усім сядзець! Куды? Куды?
ПРЫНЦЭСА.
Ай, фон Прохнаў, як не сорам?
Цуда-Малпа так скакаў,
Мне шыкоўна падпяваў.
Войска мы маглі сабраць,
Ворага закатаваць,
Ай, гульню нам сапсаваў!
Свята ў дзяцей украў.
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Перш чым катаваць каго,
Трэба вам спаймаць яго.
ПРЫНЦЭСА.
Мы спаймалі.
ЦУДА-МАЛПА.
Гі-гу-ка!
ПРЫНЦЭСА.
Вось такога вось жука!
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Мілыя мае, вайна — не забава і не жарты,
Лепш гуляйцеся вы ў нарды,
А жучка, мой загад вам — адпусціць!
ПРЫНЦЭСА.
Вы ж гуляеце ў вайну,
А чаму я не магу?

Мы таксама з Цуда-Малпай
Хочам татку памагаць
І Радзіму ратаваць.
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Калі хочаш памагаць, дык вучыся
Быць спакойнай, час ваенны,
І шпіёна вельмі лёгка напаткаць!
Слухайце ж маю каманду:
Цуда-Малпа — да сябе!
А прынцэса — марш да таты!
ПРЫНЦЭСА.
А...
КАРЛІК ЮРГЕН фон ПРОХНАЎ.
Усё! Выконваць загад,
Бо, не бойся, дам вам рады
Пасаджу я ўсіх за краты!

**З'ява трэцяя**
***Прынц Буксэхудэ, карлік фон Пахелбель***

*Палац Прынца Букстэхудэ.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
І колькі ж нам яшчэ чакаць?!
Дзе шэршань? Дзе шпіён?
Відаць, паймалі, і цяпер катуюць:
Крыльцы паляць, лапкі абрываюць,
І вусікі завязваюць вузлом...
Нас выдасць шэршань, пэўна,
Выдасць, выдасць, выдасць!
Усе нашы планы, таямніцы ўсе...
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Спакойна прынц, спакойна!
Вас ажно трасе!

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
З якога ляснуўся ты баобаба,
Калі параіў мне,
Каб шэршань планы зброі тайнай скраў?!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Як баба, вы сябе паводзіце, мой прынц!
Цяпер вас пачынае проста калаціць,
Во, хіба вы не чуеце — ляціць!

**З'ява чацвёртая**
***Тыя ж і Афрыканскі шэршань***

*З'яўляецца Афрыканскі шэршань. Падлятае да Пахельбеля і пачынае яму нешта казаць. Прынц з нецярплівасцю чакае.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ну, што ён там лапоча?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Калі даведацца шаноўны прынц мой хоча,
Прашу пакуль вас памаўчаць!
(*Да шэршня.*) Ды што ты кажаш, цябе здолелі спаймаць?
Хто? Цуда-Малпа і прынцэса?
І што было далей? Цябе фон Прохнаў загадаў ім адпусціць?
Наіўны гуманіст! Ну, а ці здолеў ты зрабіць
Усё тое, дзеля чаго цябе мы пасылалі?
Ага! Ёсць формула! Выдатна! Мы жывем!
І што яшчэ?
(*Шэршань нешта шэпча, Пахельбель пачынае скакаць.*)
О-лэ-о-лэ-о-лэ!!!!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ты звар'яцеў?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Ад радасці і праўда звар'яцееш.
Як толькі Цуда-Малпа шэршня адпусціў...
Той укусіў няшчаснага фон Прохнава ў нос!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
І што з таго?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Для карліка любога
Няма страшнейшага нічога,
Чым афрыканскім шэршнем
быць пакусаным у нос!
Не дапаможа нават тут цяпер Ісус Хрыстос!
Імгненна ў карліка тэмпература 45
І ён не можа ні пісаць, ні размаўляць,
І пачынае пухнуць, пухнуць, пухнуць,
Пакуль не ператворыцца ў шар,
Ды што там шар!
Ядро, якое гэтак можа бухнуць,
Што вежу цэлую знясе!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Дык дзякуючы шэршню,

мы можам карлікаў паблізу налавіць
ды іх у бомбы страшныя ператварыць?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Пры чым тут карлікі?
Кажу я вам пра тое,
Што ў нас ёсць формула сакрэтнай, страшнай зброі!
Адзіны чалавек, хто формулу мог гэту ўзнавіць,
Цяпер балёнікам хай прывыкае быць!
Мой прынц, мы самыя магутныя ў свеце!
А вы запамінайце, дзеці,
Заўсёды пераможа толькі той,
Хто захаваў разважлівасць, цярплівасць і спакой!

**З'ява пятая**
***Князь Мітаўт, Карлік Юрген фон Прохнаў (у вобразе шара), Прынцэса***

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А-я-я-я-й! О-ё-ё-ё-ё-ё-й!
Што будзе з намі, што будзе са мной!
О, Божачкі! За што караеш, што табе зрабіў?
А карлік нават зброю тайную не дарабіў!
Прапала, ўсё прапала,
Божа мой!
А-я-я-я-й! О-ё-ё-ё-ё-ё-й!
ПРЫНЦЭСА.
Фон Прохнаў, бедны мой фон Прохнаў, адгукніся!
Прашу цябе, хоць пальцам варухні,
Ну, падкажы, як памагчы табе, ну як?
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Ніяк, глядзі: у шыркі так яго і прэ!
ПРЫНЦЭСА.
Ах, татачка, а раптам ён памрэ?
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Памрэ... памрэ...
Мы самі з-за яго загінем хутка ўсе!
Чаму, чаму ты зброю тайную не дарабіў?
Чаму наморднік супраць шэршняў не насіў?
Прапала, ўсё прапала,
Божа мой!
А-я-я-я-й! О-ё-ё-ё-ё-ё-й!
ПРЫНЦЭСА.
А можа, дактары яму памогуць?

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Э-э-э не, дачушка, ён памрэ,
А ў ворага ваенны наш сакрэт!
І мне канец! Заб'юць і княства раздзяруць!
Чаму, чаму ты зброю тайную не дарабіў?
Чаму намордік супраць шэршняў не насіў?
Прапала, ўсё прапала,
Божа мой!
А-я-я-я-й! О-ё-ё-ё-ё-ё-й!
ПРЫНЦЭСА.
Ну хопіць плакаць, бы дзіцё малое,
Табе не шкода карліка, затое
Сябе гатовы шкадаваць нястомна!
Фон Прохнаў усё жыццё табе дапамагаў
І княства нашае нястомна пашыраў!
І вось цяпер ад сябра адцурацца хочаш?
Ад страху, бы гіена, істэрычна ты якочаш!
Мая віна была, што карліка любімага не зберагла,
Мая віна, якую мне ж і выкупляць!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Ты хочаш Цуда-Малпу прынцу здаць?
ПРЫНЦЭСА.
Не Цуда-Малпа стаў прычынаю вайны,
А злая, непакорная дзяўчына,
Якая чхаць на ўсё і ўсіх хацела,
І вось цяпер, што заслужыла, то яна займела.
Паеду я да прынца Букстэхудэ...
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Нашто яму патрэбна ты,
Калі цяпер магутную ён зброю мае!
ПРЫНЦЭСА.
Павер, табе ён зброю верне,
Бо мяне кахае!

*Прынцэса выходзіць.*

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А-я-я-я-й! О-ё-ё-ё-ё-ё-й!
Што будзе з намі,
што будзе са мной!

*Гэтаксама выходзіць.*

**З'ява шостая**
***Карлік фон Пахельбель, прынц Букстэхудэ***

*У ложку ляжыць самотны прынц Букстэхудэ, да яго падыходзіць радасны карлік фон Пахельбель з нейкімі паперамі.*

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Гэй, прынц, чаго такі вы сумны,
Вось паглядзіце лепш у гэтыя паперы!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Паслухай, Пахельбель,
Не маю веры,
што прынясе мне шчасце
перамога наша...
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Э-э-э, кіньце смутнаглядства ваша!
Я ўсё прадумаў і распрацаваў!
Арган фон Прохнава нанова змайстраваў
І так яго ўдасканаліў, такім зрабіў непераможным,
Што мы цяпер і космас зваяваці можам!
Таму хутчэй, мой прынц, пакіньце гэты ложак!
Ваенныя чакаюць справы нас!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ах, прынясі мне лепей, ананас!
Бо на душы так горка....
Хіба не бачыш, Пахельбель,
Я хворы!
Я кахаю!
І колькі доўжыцца хвароба гэта будзе
Я не знаю!
Скажы, чаму прынцэсу не магу забыць?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Прашу вас, будзьце мужным
Плюньце вы на гэту кралю!
Давайце ўжо нарэшце ваяваць!
Страляць, паліць, захопліваць і катаваць!
Давайце, прынц, хоць што-небудзь ужо рабіць!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ах, Пахельбель, чаму прынцэсу не магу забыць?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Як воўк пачну я зараз дзіка выць!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Прынцэсу... Я хачу прынцэсу бачыць...

**З'ява сёмая**
***Прынц Букстэхудэ, карлік фон Пахельбель, Прынцэса***

*З'яўлецца Прынцэса.*

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Вось і яна!
(*У бок.*) Але ж чаму да нас прыйшла?
І выгляд у яе такі лагодны,
Няўжо прасіць аб міры будзе?
ПРЫНЦЭСА.
Згодна!.. Я згодна вашай жонкай быць,
Адзінае, хачу вас папрасіць...
Зрабіце так, каб мой фон Прохнаў акрыяў!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ (*у бок*).
А божачкі, што з прынцам!
Увесь нібы заззяў! (*Шэпча прынцу.*)
Паслухайце, ласкавы Букстэхудэ,
О, толькі ж не скачыце пад яе дуду вы,
Прашу не забываць: нам трэба ваяваць,
Захопліваць, паліць ды рабаваць!
Час не чакае! Бо калі захопім свет не мы,
То зробіць гэта хто-небудзь за нас!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ці правільна я зразумеў вас?
О, Прынцэса! Вы згодная?
ПРЫНЦЭСА.
Так.
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ах, мая родная!
ПРЫНЦЭСА.
Але ж умова ёсць...
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Вайну мы спынім,
Гарады і вёскі адбудуем,
Вам зброю вернем тайную,
І вашага фон Прохнава, вядома ж, уратуем!
Нам Пахельбель у гэтым дапаможа.
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
О, Божа мой, што чую я?! О, Божа!
Ды гэтую жахлівую прынцэсу,
Што замінае нашаму ваеннаму прагрэсу

Я лепш у прусака ператвару,
якога зараз жа і раздушу!

*Кідаецца на Прынцэсу, але Прынц яго пераварочвае дагары нагамі і трымае адной рукой за пятку.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
О колькі ж, подлы карлік, маеш злосці!
Я з радасцю б раструшчыў твае косці,
Але патрэбна вельмі дапамога!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Вар'ят! Баран! Дурнейшы нават за міногу,
Сваімі ж вось рукамі здабыў табе я перамогу!
А ты мяне забіць гатовы,
хапаеш подла за каршэнь...
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Гэй, афрыканскі шэршань!
Кусай яго за нос!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Ну, досыць, досыць, досыць, дос!
Ну колькі ж мне табе казаць!
Нішто цяпер фон Прохнава
Не можа ўратаваць!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
На якатанні гэтыя
Ты, шэршань, не зважай,
Бяры разгон і проста ў нос яго
кусай!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Гэй, пачакай! Ёсць спосаб,
Але вельмі небяспечны...
ПРЫНЦЭСА.
Кажы хутчэй! Прашу цябе! Прашу!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Марудзіць будзеш, сам цябе я ўкушу!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Спярша мяне вам трэба адпусціць.
Пасля за мой арган ракетны пасадзіць.
Адну мелодыю сыграю.
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Мелодыю? Ты ашалеў?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Я раю слухаць тое, што кажу.

700 гадоў таму
Заступнік усіх карлікаў
Вялікі арганіст, сьвяты
сын Ёгана Габрусь непераможны
Прыдумаў цудадзейную такату,
Кожны карлік хворы,
праслухаўшы яе, становіцца здаровым.
ПРЫНЦЭСА.
Давай, іграй сваю такату!
Паклічу зараз я сюды і тату,
Хай беднага фон Прохнава ён прынясе!
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Я думаў, дома засталіся
вашы родныя ўсе.
ПРЫНЦЭСА.
Страх татачкі, што я адна паеду,
Пераадолеў страх забітым быць.

**З'ява восьмая**
***Усе і князь Мітаўт з Цуда-Малпай***

*З'яўляецца князь Мітаўт і Цуда-Малпа, які нясе фон Прохнава.*

КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Я сам да вас прыехаў на паклон,
ці, нават можаце лічыць, што і ў палон.
Прашу вас, толькі выратуйце сябра...
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Ара-бра-ка-ра-да-бра!
Чароўныя я словы тут сказаў,
Каб мой арган адразу ж заіграў.

*Карлік фон Пахельбель садзіцца за ракетны арган. Іграе такату. Пачынаюцца светавыя вычварэнствы. З'яўляюцца драконы, якія крычаць, лётаюць, якочуць.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Што адбылося, Пахельбель?
Не тую ўзяў ты ноту?

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ (*надзеўшы маску супраць шэршня*).
Э, не, мой прынц,
Сыграў я правільна мелодыю Габруся,
але ж другую.

Тую, што самых страшных цмокаў абудзіла!
Якія спаляць гэтую зямлю,
Яе ў Сахару ператвораць!
ПРЫНЦЭСА.
Што ён гаворыць?
А як жа бедны мой фон Прохнаў?
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Прохнаву не жыць. І вам таксама.
Гэй, цмокі верныя, вось гэтых дурняў акружыць
І дружна лапамі на фарш змясіць!
А вы глядзіце, дзеткі, і запамінайце
Як будзеце бязвольнымі, як зайцы,
То будуць вас усё жыццё на фарш мясіць!

**З'ява дзявятая**
***Тыя ж героі плюс цмокі***

*Герояў акружаюць цмокі, гатовыя ў любы момант іх раздушыць. У вакно свеціць вялікая поўня.*

ПРЫНЦЭСА.
Фон Прохнаў, татка родны,
Цуда-Малпа, Афрыканскі шэршань, Букстэхудэ...
Прашу ў вас я прабачэння,
Даруйце мне, даруйце
І... (*Скрозь слёзы.*) Да пабачэння!..

*Прынцэса іх абдымае і цалуе. Як толькі яна пацалавала Цуда-Малпу, пачынае бліскаць маланка, напалоханыя цмокі адступаюць. Цуда-Малпа ператвараецца ў Афрыканскага каралевіча.*

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
А гэта што яшчэ?
ПРЫНЦЭСА.
Ён афрыканскі прынц,
Уладар самога Занзібара!
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
Вось дык праява! Але што з гэтага цяпер?
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Якая розніца, ты чалавек ці звер,
Усё роўна подлы цмок цябе раздушыць!..
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ (*танцуе і меладэкламуе нейкія чароўныя словы*).
Абыдзь вудзяка гірля выць-выць-выць!

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Што робіш ты? Нашто яго ты клічаш?
Спыніся! Я прашу цябе, спыніся!

**З'ява дзясятая**
***Тыя ж і Занзібарскі чараўнік***

*Гром, маланкі. З'яўляецца Занзібарскі Чараўнік.*

ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Азу на дазу зубара бу бу!
А хто не зразумеў, то я перакладу,
Злупіць вам трэба скуру з Цуда-Малпы,
Зрабіць там-там і біць так апантанна,
Каб заглушыць арганныя ўсе зыкі,
І калі спраўныя вы будзеце музыкі,
То вушы ў тых драконаў разарвуцца,
Здурнеюць цмокі, да аргана свайго вярнуцца,
З'ядуць яго, а разам з ім і Пахельбеля тым жа часам!
І больш не будзе ў вас тут гэтакай заразы!

*Гром, маланкі, Афрыканскі каралевіч ператвараецца ў Цуда-Малпу. Карлік фон Пахельбель бяжыць да аргана.*

КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Ну, пачакайце, мілыя!
Я зараз выклічу такіх драконаў,
Якіх ніякі барабан спыніць не зможа!
І ад якіх ніхто ўжо вас не здольны ўратаваць!

*Пачынае іграць.*

ПРЫНЦ БУКСТЭХУДДЭ.
Шаноўныя, чаго ж нам тут чакаць,
Давайце дзейнічаць!
ПРЫНЦЭСА.
О, не! Мой бедны Цуда-Малпа!
О, Чараўнік! А можа, ты спыніў бы
Пахельбеля, забіў яго драконаў
і арган бы разваліў?
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Якая ж вы гультайка!
Там-там магу зрабіць я з Цуда-Малпы,
Бо сам таго ён хоча,

Астатняе ж — работа ваша!
Таму, прынцэса любая, не апускайце вочы!
(*Дастае нож, лупіць скуру з Цуда-Малпы, і праз імгненне з'яўляецца цудоўны там-там.*)
Глядзіце! Вось вам зброя!
Той, хто кахаў загінуўшага Цуда-Малпу,
Таму і біць у там-там!
Дык не марудзьце!
(*Усім астатнім.*)
А вы дапамагайце,
І што сілы біце ў ладкі!

**З'ява адзінаццатая**
***Тыя ж героі***

*Прынцэса б'е ў там-там, Карлік фон Пахельбель стараецца яе пераіграць, астатнія дапамагаюць Прынцэсе, пляскаюць рытмічна ў ладкі.*

ПРЫНЦЭСА.
Хай-я, хай-я, хай-я, гу!
Я цябе перамагу!
КАРЛІК фон ПАХЕЛЬБЕЛЬ.
Хай-я, хай-я, хай-я, ге!
Ні халеры, ге-ге-ге!

*На змену старым цмокам пачынаюць з'яўляцца новыя. Афрыканскі шэршань бярэ ў зубы фон Прохнава, падкрадаецца да фон Пахельбеля, кідае яму фон Прохнава на галаву, напалову аглушае і стараецца сарваць маску. Прынцэса з апошніх сілаў адбівае рытм. Чуваць, як нешта лопаецца, галовы знікаюць. Цемра. Гучыць плач фон Пахельбеля: «Праклятыя шэршань, усё ж такі мяне ты ўкусіў, і вушы разарваліся ў бедных цмокаў!» Шум, якатанне, цемра, і паступова запальваецца святло.*

**З'ява дванаццатая**
***Тыя ж без фон Пахельбеля, фон Прохнава, Цуда-Малпы і Шэршня***

*На сцэне сляды разбурэнняў. Валяюцца шматкі цмокаў, фон Прохнава, фон Пахельбеля, кавалкі аргана ды іншае рыззё.*

ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Віншую вас. Драконаў вы забілі,
Нябыт зацягне іхнія сляды.
І ўсё ліхое ўжо для вас міне...

ПРЫНЦЭСА.
Але чамусьці перамога не радуе мяне.
Няма фон Прохнава, загінуў шэршань
І Цуда-Малпу не вярнуць...
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК (*чаруе*).
Абара-н д-буць!

*На сцэне з'яўляецца Афрыканскі каралевіч.*

КНЯЗЬ МІТАЎТ
Дачушка, паглядзі,
Якія цуды! Годзе плакаць!

*Прынцэса глядзіць на каралевіча. У яе заняло мову.*
КНЯЗЬ МІТАЎТ (*звяртаецца да чараўніка*).
Магчыма я й дурны, як лапаць,
Але, шаноўны, патлумачце,
Як вам яго ўдалося ажывіць
І ў каралевіча ізноў перарадзіць?
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Бо каралевіч з годнасцю прайшоў выпрабаванне,
Ахвяраваў сабой дзеля другіх,
Ён зразумеў, што значыць непадманнае каханне,
Ён стаў пачцівым, чулым да чужых...
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
А як жа бедны шэршань?
...і Пахельбеля ўсё ж такі шкада,
Бо ён мяне заўсёды даглядаў...
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
А як фон Прохнаў?
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Фон Прохнава, фон Пахельбеля,
Шэршня я забяру з сабой.
Вам прынц і Мітаўт трэба ўжо вучыцца
сваім жыць розумам, без дапамогі карлаў!
АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
Арага-да гаў, ар ла та кля мелле!
ПРЫНЦЭСА.
Што кажа ён?
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Застацца з вамі хоча
І згуляць вяселле.

Калі, вядома, татачка
Не супраць, і вы захочаце
Яго нявестай стаць.
КНЯЗЬ МІТАЎТ.
О... я... вядома ж, рады буду...
А вы... шаноўны Букстэхудэ, што скажаце?
ПРЫНЦ БУКСТЭХУДЭ.
Ніколі не забуду вас, прынцэса,
У гонар ваш складу магутную
У вершах п'есу.
Зраблю спектакль і па ўсёй Еўропе
Яго буду вазіць...

*Усім кланяецца і самотны выходзіць.*

АФРЫКАНСКІ КАРАЛЕВІЧ.
Азура тага бы ка бара быць!
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
У каралевіча ўмова.
Жадае вельмі ён, каб мова,
Якою так прыгожа ўсе тут размаўляюць,
Яму зрабілася таксама роднай!
ПРЫНЦЭСА.
Са мною, ты мову беларускую
у адно імгненне будзеш ведаць!
ЗАНЗІБАРСКІ ЧАРАЎНІК.
Што ж, пакідаю вас,
Бо трэба мне да заўтра
У родны трапіць Занзібар!
Шчаслівага вяселля, шмат дзяцей,
А ры ду бара зісь ка ля бань дзей!

*Прынцэса кідаецца з абдымкамі да Цуда-Малпы. Зацямненне.*

## Эпілог

*Дэкарацыі, як і ў пралогу. Каля стала паўколам стаяць шатаны, якія ігралі ў казцы, Дуся і галоўны Шатан сядзяць за сталом. Дуся плача.*

ШАТАН. Чаго ты плачаш? Усё ж скончылася добра!
ДУСЯ. Я так хацела выратаваць фон Прохнава... Ён мне зрабіўся як родны... (*Праз паўзу*.) А хто іграў Цуда-Малпу?
ШАТАН. Адзін з маіх актораў. Ён табе спадабаўся?

ДУСЯ (*праз паўзу*). Як там мама? Ёй было кепска (Хоча пабегчы за кулісы, але Шатан яе спыняе).
ШАТАН. З мамай усё добра. Вось яна.

*Адзін з шатаноў прыводзіць жывую і здаровую маму з-за кулісаў.*

ДУСЯ. Прабач мяне, мамачка! Я заўсёды буду цябе слухацца... Хочаш, я кожны дзень буду есці пад арганную музыку гэтыя паганыя тварожаныя торты?
ШАТАН. О, калі б ты часта слухала арганную музыку, гэта было б прыемна і мне! (*Праз паўзу.*) Ты мяне не падманеш! Ты сама закахалася ў каралевіча!
ДУСЯ. Не.
ШАТАН. Так! Гэй, каралевіч, ён жа Цуда-Малпа, здымі маску!
ДУСЯ. Паўлік?!
ШАТАН. Так, Паўлік. Пасля таго, як ты дала яму па галаве, ён уцёк са школы. Я сустрэў яго ў пераходзе. Паўлік вельмі артыстычна паказваў там розных малпаў і нядрэнна іграў на клавішах. Цяпер ён, як і гэтыя слаўныя хлопцы (паказвае на шатаноў), мой вучань па класу аргана.
ДУСЯ. Вучань? А хто ж ты такі?
ШАТАН. А ты не здагадалася? З днём нараджэння, дачушка! Я вярнуўся!
ДУСЯ. Тата! Татачка! Вярнуўся!!!
ШАТАН (*да маці*). А ты казала, што яна нахабнае, эгаістычнае і капрызлівае стварэнне!
ДУСЯ. Не, я цяпер не такая!
МАЦІ (*Шатану*). Дзякуй табе.
ШАТАН. Ну, вось і добра. Жонка, стаў арганную музыку, будзем святкаваць.

*Усе сядаюць за стол. Гучыць арган. Шатан дастае новы непрыгожы тварожаны торт з трынаццаццю свечкамі. Маці яго наразае і дае дачцы самы вялікі кавалак. Зацямненне.*

## Канец

*Лістапад, 2009 г. — Верасень, 2013 г.*



# Марцін Балчэўскі

польскі пісьменнік, культуролаг, сцэнарыст. Аўтар двух зборнікаў прозы: «У пошуках страчанага горада» (2002 г.) і «Малёнэ» (2010 г.). Друкаваўся ў шматлікіх літаратурных выданнях, удзельнічаў у шэрагу міжнародных фестываляў. За актыўную дзейнасць у галіне культуры ўшанаваны адмысловай узнагародай мэра Лодзі (2010 г.). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Лодзі. Жыве ў Лодзі.

# Брудна-блакітная

*Клаўдзіі Грушка*

Калі б гэта быў фільм, а я была б ягонай апавядальніцай, дык расказала б гэтую гісторыю наступным чынам. У пачатку глядач пабачыў бы клубы дыму, здабытыя з выхлапной трубы старога, моцна пашкоджанага аўтобуса. Пасля — наезд камеры на адно з апошніх, брудных акон. Вось яна, тады мне было яшчэ невядома, што яе клічуць Клаўдзія. От жа, звычайная стомленая дзяўчына, што вяртаецца штодзённа аўтобусам семдзясят пятага маршрута ў дваццаць дзве хвіліны пасля восьмай вечара да сваёй маленькай кватэркі. Жытло сустракае яе прахалоднай пліткай, двума кветкамі хатняй папараці і стандартным чорным катом, што мусіць мець кожная самотная паненка.

Калі б гэта быў фільм, у фонавым рэжыме пачуўся б які-небудзь далікатны, сонны саўндтрэк. Пасля пайшлі б пачатковыя цітры, акцёры, сцэнарыст, рэжысёр, і недзе паміж усяго гэтага паўстала б назва. Гледачы маглі б апладзіраваць чарговым прозвішчам, каб застрэсаваныя аўтары гэтай прадукцыі, якія віталі іх трошкі раней на прэм'еры, пачалі адчуваць сябе больш ажыўлена. Потым запанавала б цішыня. Нехта з першага рада спрабаваў бы выключыць мабільны тэлефон. І з таго моманту ўсе тыя, хто з'явіўся на паказе, глядзелі б на яе вочы. На яе сумныя вочы, на нос і ўрэшце на вусны. На пару, што бруілася з іх у тую халодную вясновую ноч. На яе рукі, уціснутыя ў пальчаткі, якія выціралі водны кандэнсат з паверхні вакна раздзяўбанага аўтобуса.

Камера рухалася б у вузкім калідоры, пасля чаго гледачы пабачылі б гераіню, якая ставіць чайнік для гарбаты. На кухонным стале, пакрытым цыратай, у блакітна-чырвоную клетку, ляжаў бы мабільны тэлефон. Дзяўчына ў задуменні пазірала б у ягоны бок. Раптам паўза, каб гледачы змаглі б у гэтым прамежку пачаставацца поп-корнам. Потым свіст чайніка. Гук напаўнення шклянкі. Гледачы маглі б прыгледзецца да грубых недагледжаных далоняў Клаўдзіі, якая, папіваючы гарбату, важдалася з тэлефонам. Восем неадказаных выклікаў ад яе маці, чатыры непрачытаныя смс-кі. Па сутнасці, гераіня гэтай гісторыі не мела намеру іх чытаць і ўвогуле не хацела тэлефанаваць або чакаць чарговага выкліку. Магчыма ў той момант якая-небудзь іншая дзяўчына ў глядзельнай зале пачынала спачуваць гераіне, можа, падчас назірання за яе гуллівымі абыходзінамі з тэлефонам, што аб'ядноўвала іх. Верагодна, яна таксама не чакала размовы з кімсьці, хто пачаў бы выказваць ёй скаргі. Напрыклад, з маці, што не ў стане зразумець сваю дачку, якая замест таго, каб рабіць кар'еру, адмовілася ад гэтага на карысць прыбірання ў офісе з восьмай раніцы да восьмай вечара.

Гледачы маглі б адчуць стомленасць, якая апанавала гераіняй фільма. Штодзённыя аднастайныя рытуалы, уставанне, праца, вяртанне аўтобусам

75-га маршрута. Пяць дзён у тыдні. Пасля, у суботу, вузкімі і затлумленымі вуліцамі Клаўдзія выбіралася на агляд магазінных вітрын. Нядзеля, імша. Чарговы рытуал працяглага піцця гарбаты, потым панядзелак і гэтак далей і далей. Можа, хтосьці з гледачоў гэтага фільма пачаў бы разважаць аб сваім жыцці і працы, аб аналагічнай стомленасці. Можа, яны б спрабавалі знайсці выйсце з такой сітуацыі ці цалкам наадварот — былі б шчаслівыя з нагоды адсутнасці нечаканасцяў. З іншага боку, усё ж такі вядома, што ў пэўны момант, каб гісторыя была як мага менш упарадкаваная, штосьці павінна было змяніцца. Нейкі неспакой, што з'яўляецца на дваццаць сёмай хвіліне пасля восьмай гадзіны вечара. Нейкае дзіўнае адчуванне гераіні, што за ёй сочаць.

Позірк праз плячо ў халаднаватую ноч. Гераіня бяжыць па шматлюдных вуліцах, захінаючыся ў свой паношаны карычневы плашчык. На адлегласці нейкія крокі? Чые крокі? Яе крокі, крокі мінака, кагосьці з гледачоў, хто пайшоў да прыбіральні? А можа быць пераследнік? І ў гэты момант нехта ў зале будзе думаць, што мае дачыненне да рэканструкцыі некаторых падзей, якія ён бачыў па тэлевізары. Узгадае зафіксаваныя камерай відэаназірання апошнія хвіліны полькі, што жыве ў Англіі. І раптам далонямі адчуе, як бягуць мурашкі па скуры. На працягу той паўгадзіны фільма, якая дакладна мінула, пачаў перажываць разам з гераіняй, захапляцца яе незалежнасцю, нягледзячы на нягоды. А зараз? Зараз, калі ўсё пойдзе так, як паказваюць па тэлевізары, тая сімпатычная, мілая, трошкі разгубленая дзяўчына загіне. Нехта іншы, неахайны, і, магчыма, п'яны глядач пачне крычаць — будзь асцярожная, за табой пагоня! Уцякай! Адна пажылая пара паглядзіць на яго са здзіўленнем, бо гэта ўсяго толькі кіно. Білецёркі ветліва выправадзяць свавольніка, а той перад выйсцем яшчэ раз крыкне ў бок экрана — калі ласка, будзь асцярожная!

І раптам цэлая зала выдыхне з палёгкай. Бо тое быў не забойца, не які-небудзь там гвалтаўнік бег за гераіняй. Ганарлівы падлетак ціха прамовіць — ведаў, што гэта падман. Таму што якраз перад сходамі ў пад'ездзе будынка, дзе жыла Клаўдзія, схапіў яе за плячо мінак, што знайшоў забытую ёй у аўтобусе торбачку. У знак падзякі яна запросіць яго на гарбату. Нехта з залы заўважыць, што сваім выглядам ён нагадвае Буду, якога можна купіць у краме «*Усё за 4 злотых і болей*». Таўставаты, лысы, прывабны, з застылай усмешкай спадар.

З кожнай наступнай хвілінай гераіня будзе адкрываць у ім роднасную душу. Паразмаўляюць аб усім, што тоіцца дзесьці ўнутры яе. Кагосьці ў зале будзе гэта раздражняць, іншыя будуць зайздросціць яе спатканню з тым, з кім можна пагутарыць. Клаўдзія і чалавек з выглядам Буды, папіваючы гарбатку, непрыкметна будуць углядацца адзін у аднаго. Ён у прыгожых выразах будзе распавядаць аб яе вызваленні, яна — аб сваіх фінансавых праблемах і складаных стасунках з маці. Аб знаёмай з працы, якая ў хуткім часе выйдзе замуж, і адсутнасці сукенкі для гэтай падзеі. Сцэнарыст задумаецца, ці мог бы ён неяк больш цікава прадставіць гэты фрагмент, будзе непакоіцца, што гледа-

чы ўспрымуць яго за празмерна наіўнага, банальнага ці нават павярхоўнага. З хваляваннем азіраючыся вакол, паспрабуе ў цямнечы распазнаць рэакцыю іншых. Відавочна, калі б мог яшчэ дапрацаваць тую сцэну, калі б меў час і больш задумак, калі б бюджэт не быў такі маленькі. Мог бы падоўжыць яе, паглыбіцца ў адносіны герояў, надзяліць усё гэта нейкай сімволікай.

У рэшце рэшт Клаўдзіі застанецца сурвэтка з адрасам. *Ну дык дамовіліся, заўтра, у дваццаць сорак. Прыходзь па гэтым адрасе, дапамагу табе. Вызвалю.* Гераіня, нервова трымаючы сурвэтку ў руцэ, узгадае з усмешкай спадара, што выглядае, як Буда. Каб толькі не спазніцца на аўтобус, бо трэба ж рабіць перасадку, і толькі хвіліна на пераход на другі бок вуліцы. Каб толькі не спазніцца і паспець своечасова.

Камусьці ў зале не спадабаецца гэты момант, чортава дзеўка, ну, дурніца, скажа нейкая кабета, раззлаваная на мужа, відаць, яе скарыстае, кажу табе, хочаш цукерку? А стомленая гераіня будзе тым часам чакаць аўтобус, які завяже яе да спадара з выглядам Буды. Акустычнае суправаджэнне спадабаецца некаму з гледачоў, частка з іх, напэўна, пойдзе да вядомай музычнай крамы, каб набыць CD з саўндтрэкам да фільма. А гераіня з сурвэткай у руцэ будзе шукаць адпаведны будынак. Маханне здалёк, сілуэт знаёмага, пасля гарбата ў яго. Прывабны Буда запытаецца ў яе пра заробак і запросіць у пакой.

Ха! Ведала, нехта ў зале ўзрадуецца, ведала. Зараз ужо дакладна ёй скарыстаецца, як і кожны мужык, вось жа свіння. Аднак не, спадар з выглядам Буды папросіць гераіню прыбраць у падвале, дасць ёй буйную суму, калі выканае просьбу, гэтая сума яе вызваліць. Што за няздара, ускрыкне нехта з гледачоў, цюхцяй нейкі.

Камера наблізіцца да гераіні зверху, сярод іншага пройдзецца ўздоўж белачорнай кафлі, якую спрабуе вычысціць Клаўдзія. Знаёмая рэжысёра прыгадае ў гэты момант плакат з фільма «*Кава і цыгарэты*», змешчаны ў яе інтэрнацкім пакоі ў далёкія студэнцкія гады. Паразважае, ці то часам не які-небудзь ківок у яе бок, нейкі фрагменцік, які ён запомніў з перыяду дарэмных заляцанняў да яе. Тым часам гераіня зірне на гадзіннік. Яшчэ сюды вернецца, да гэтага сутарэння, не ўдалося прыбраць усё за адзін раз.

Наступныя хвіліны стужкі будуць распавядаць пра няўдалую барацьбу з брудам. Нейкая старая кабета, прыбіральшчыца пачне высмейваць гэты момант — не той сродак для мыцця, даражэнькая, не той сродак. Дадатковыя гадзіны працы, дадатковая стомленасць, у суботу гераіня вяртаецца ў падвал, каб пашараваць усё яшчэ забруджаную кафлю, а спадар з выглядам Буды застанецца бязлітасным: не адмыта — не будзе заробку.

Пакуль, нарэшце, у адзін цудоўны дзень, Клаўдзія не засне ў аўтобусе нумар 75 і замест таго, каб перасесці ў іншы і даехаць да спадара з тварам Буды, абудзіцца на канечным супынку. Тады глядзельная зала засяродзіць увагу. Доўгая начная сцэна вяртання дзяўчыны ў сваю кватэру патрапіць праз некалькі тыдняў у шэраг культавых. Траўматычныя гукі і высублімава-

ныя наезды камер будуць ухвалены гурманамі візуальна-гукавых эфектаў. Цэлую ноч Клаўдзія не будзе спаць, асэнсоўваючы апошнія тыдні, дадатковую працу і...

На наступны дзень, у суботу, як і было раней, гераіня пачне разглядаць вітрыны, і, як і раней, спыніцца перад адной з іх з намерам купіць сукенку на вяселле каляжанкі. Прывабны спадар з выглядам Буды схіляў яе да вызвалення, прывабны спадар з выглядам Буды прапанаваў ёй дадатковую працу. Калі яна ўбачыла гэту сукенку ўпершыню, тая каштавала 89 еўра, калі хацела яе купіць — 150, калі Буда ўладкаваў яе на працу — 180, а сёння... Сёння распродаж са зніжкай 50%, усё акупляецца. Хоць нічога не зарабіла ад прыбірання падвала, штомесячныя назапашванні дробных грошай дазволяць ёй гэта. Купіць яе сабе гэтую брудна-блакітную сукенку. Камера ад'едзе, аж да панарамнага плана. Выява прытухне.

Канец. Апладысменты. Сеанс скончыўся. Рэжысёр і ягоныя калегі ўпотай і з зацікаўленасцю будуць паглядаць на гледачоў. На іхнія твары. Ці гэтая гісторыя не была занадта банальнай? Ці ў тым, што нехта пазяхае і пацягваецца, выходзячы з кіно, ёсць іх віна? Ці гэтыя гаманкія дзяўчаты абмяркоўваюць тое, што пабачылі, або хутчэй іх зацікавілі хлопчыкі, што сядзелі на некалькі радоў наперадзе і назойліва шумелі на працягу цэлага фільма? Можа, хтосьці напрыканцы скажа: якое шчасце, што гэта ўсяго толькі кіно, і яно ўжо скончылася. Магчыма нейкі глядач угледзіць у фільме прыхаваныя падтэксты або сэнсы. Калі б гэта быў фільм, а я была б ягонай апавядальніцай, дык расказала б гэтую гісторыю так.

**Пераклад з польскай мовы Ірыны Хадарэнка**

# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

# ЭСЭ

святлана калядка валерыя кустава
алесь аркуш уладзімір сіўчыкаў
марына яўсейчык пятро клюеў
анатоль трафімчык
ала петрушкевіч альдона мартыненка
ксенія жук вітаўт мартыненка



# Святлана Калядка

**літаратуразнаўца, даследчыца сучаснай беларускай жаночай паэзіі, аўтар манаграфіі «Непрыручаная птушка Палесся: творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц», навукова-тэарэтычных даследаванняў жаночай паэзіі, прадстаўленых у вялікіх раздзелах у двух калектыўных манаграфіях, займаецца падрыхтоўкай да выдання Збору твораў Максіма Танка. Нарадзілася ў 1971 годзе на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.**

# Эмоцыя ці рацыё?

***Па старонках паэзіі Максіма Танка.***

Гэта праблема турбавала мастакоў раней, яна актуальная і сёння. Цяжка вызначыць, рацыё павінна весці за сабой чытача, ці эмоцыя. За кожным мастацкім творам свая гісторыя, і мэты напісання вершаў таксама розныя. Галоўнае, аб чым гаварылі неаднойчы і крытыкі, і самі творцы, мастацкі твор павінен быць «добрым» (згадваем падзел твораў на добрыя і дрэнныя).

Рысы мастацкасці на сённяшні дзень настолькі размытыя, няўстойлівыя, хаатычныя, што пад мастацкі твор трапляюць крыху аздобленыя пэўнымі стылістычнымі прыёмамі дыялогі па тэлефоне, у грамадскім транспарце ці ў месцах агульнага карыстання, маналогі ў сувязі з набытымі ў краме рэчамі і г.д. Працягваць гэты спіс можна доўга, але нас турбуе не пашырэнне тэматычных гарызонтаў у мастацкай літаратуры (хоць гэта вельмі станоўчая тэндэнцыя), а адчуванне аўтара мастаком пры малейшых адступленнях у афармленні думак ад паўсядзённых побытавых, працоўных і г.д. кантэкстаў, зыходзячы з яго суб'ектыўнага пункту гледжання — як унікальных, а таму прэтэндуючых на мастацкасць. Ці можна ўсё напісанае, што выходзіць за межы апісання стандартных жыццёвых сітуацый (у форме маналога, дыялога, справаздачы і г.д.), лічыць мастацкім творам? Я не агучваю пытанне адпаведнасці мастацкага твора пэўным літаратурным напрамкам і канонам з іх праграмамі — многімі сучаснымі аўтарамі такі падыход да ацэнкі твора даўно ўспрымаецца рэтраспектыўным. Гэта глыбокае і маштабнае пытанне ўзнікае тады, калі чытаеш падборкі вершаў у перыядычным друку ці асобных зборніках, калі імкнешся, іншым разам, зразумець, што хацеў сказаць аўтар, дзеля чаго ён прымітыўнае выказванне без арыгінальнай думкі імкнецца падаць у паэтычнай форме. Гэта праблема ўздымаецца вучонымі, магчыма, з перыяду з'яўлення літаратуразнаўства як дысцыпліны. Як зазначыў Е. Замяцін яшчэ на пачатку XX ст., «есть большое искусство и малое искусство, есть художественное творчество — и есть художественное ремесло». Не паглыбляючыся ў шматлікія канцэпцыі, нам хочацца паразважаць пра сам працэс мастацкага мыслення ў яго дынаміцы, абапіраючыся на вонкавы выгляд твора, які можа называцца першапачатковай фазай успрымання тэкста, і завяршаючы паглыбленнем у формы і сэнсы крысталізацыі мастацкіх вобразаў, спосабы іх афармлення і данясенння да чытача. Безумоўна, у большасці выпадкаў не валодаючы інфармацыяй аб характары ўзнікнення аб'ектыўных і суб'ектыўных імпульсаў напісання твора, цяжка бачыць гісторыю твора ў дынаміцы, аднак сам тэкст змяшчае ў сабе некалькі пластоў уздзеяння на чытацкую аўдыторыю. Разважаючы пра відавочныя стылістычныя прыёмы, можна вылучыць фанетычныя, марфалагічныя, стылістычныя асаблівасці афармлення слова і выказвання. Псіхіка мастака —

аўтаномная духоўная субстанцыя, якая патрабуе асобнага вывучэння. Аднак маючы перад вачыма толькі напісаны аўтарам тэкст, цяжка ўзнавіць псіхічныя і псіхалагічныя працэсы, якія ім рухалі пры напісанні, што, па вялікім рахунку, іншым разам не зможа зрабіць і сам аўтар. Але ў сапраўдным творы, у якім прысутнічае гарманічнае спалучэнне формы і зместу, заўсёды будзе прысутнічаць тая няўлоўная энергетыка чалавечых перажыванняў, якая і прымушае нас гаварыць пра мастацкі ўзровень напісанага. У ідэале хацелася б прыйсці да выяўлення пэўных заканамернасцей у мастацкай дзейнасці, да вызначэння механізмаў стварэння паэтычных шэдэўраў. Але, як адзначыў Е. Замяцін, «никаких законов, как надо писать, нет и не может быть: всякий должен писать по-своему. Я могу только рассказать, как я пишу, как пишут вообще: могу сказать, не как надо писать, а как не надо писать». Сапраўды, можна гаварыць пра тэхніку мастацкай творчасці як пра адзін з спосабаў асэнсавання, як і што атрымалася ў выніку. Аднак не існавала і не існуе ідэальнай формулы поспеху ў напісанні мастацкага твора. Як адзначана было ў адным з артыкулаў на сайтах Інтэрнэта: «Причина, по которой в настоящее время наблюдается перепроизводство художественной литературы, считавшейся ранее редкостью, состоит в том, что писатели обнаружили формулу. Причина же, по которой читатели с внезапным отвращением отворачиваются от литературы, преподносимой им в избытке, состоит в том, что и они тоже обнаружили формулу». Формула поспеху шматлікіх аўтараў — у вельмі тонкім адчуванні запытаў чытацкай аўдыторыі, у камерцыялізацыі мастацкай творчасці, формула, вынайдзеная чытачамі, магчыма, у тым, што камерцыйны прадукт пад рознымі вокладкамі мае аднолькавы набор прыёмаў, з дапамогай якіх утрымліваецца іх увага, а таму пададзенае пад розным соусам адно і тое ж блюда прыядаецца і выклікае непрыняцце.

Кожны мастацкі тэкст утрымлівае ў сабе не толькі вонкавыя мастацкія адзнакі, але і асаблівасці эмацыйнай сувязі аўтара са светам і самім сабой. Эмоцыя таксама становіцца рухаючай сілай у стварэнні форма- і сэнсавызначальнай сутнасці твора. Нашымі развагамі будзе кіраваць кантэкст мастацкага тэксту як прастора разгортвання эмацыйнага настрою аўтара — ці **эмацыйная прастора мастацкага твора**. Безумоўна, ідэйна-тэматычная зададзенасць твора вызначае «густату», насычанасць эмоцыі, яе інтэрпрэтацыю і спецыфіку ўваходу ў моўную плынь. У псіхалогіі да гэтага часу няма пэўнай класіфікацыі, якая б падзяляла б эмоцыі, пачуцці і перажыванні. Задзейнічаны ў іх размежаванні фізіялагічныя аспекты жыццядзейнасці асобы і спецыфіка інтэлектуальнай дзейнасці. Нельга сказаць, што ў літаратуразнаўчым аналізе гэтыя катэгорыі будуць лішнімі, але ж іх выкарыстанне не ўяўляецца магчымым. Калі толькі літаратуразнаўца не пераўтворыцца ў псіхааналітыка.

Дыфузнасць межаў паміж эмоцыямі і пачуццямі з'яўляецца асновай для іх успрымання ў якасці формы адлюстравання адносін чалавека да прадметаў і з'яў акаляючага света, спосаба ацэнкі іх асобаснай значымасці для яго. Эма-

цыйны тэкст уздымаецца **на трох узроўнях праходжання эмоцыі**, ці ўмоўна вызначаных намі фазах: эмацыйнае ўзрушэнне, якое становіцца штуршком для напісання твора, эмацыйнае адлюстраванне ўзрушэння аўтара ў тэксце з дапамогай розных мастацкіх сродкаў і эмацыйнае ўздзеянне твора на чытача. Эмоцыя рухаецца ў замкнёнай прасторы творчага акта, пачынаючы ад задумы і завяршаючы водгукам на прачытанае. І калі адзін з узроўняў выпадае, то можна гаварыць аб парушэнні трыадзінства, аб «недацягнутасці» ці «недапрацаванасці» творчай задумы.

*Не плач, наш дзень настане,*
*Хоць адступілі ўчора.*
*Зацісні моцна рану!*
*Хай не смяецца вораг!*

*Выходзьце на дарогу,*
*Ў паход шчыльней радамі!*
*Ты ведай, перамога*
*Ужо не за гарамі.*

*І вер, што блізка мэта,*
*Удары грому спынім.*
*Не згінулі дагэтуль —*
*І ў бітве мы не згінем!*
(«Не плач», *1936)*[1]

Звернемся да верша Максіма Танка «Не плач», які быў напісаны ў 1936 годзе. Давераснёўская паэзія Танка вызначаецца грамадзянскім пафасам, сацыяльнай скіраванасцю, патрыятычнымі настроямі, а таму патрабуе асаблівай энергетычна-узрушальнай эмоцыі, якая б стварала дынаміку ў творы і рухала б эмоцыі чытача, да якога скіраваны заклікі. Сама назва «Не плач» (дзеяслоў загаднага ладу) уяўляе з сябе безапеляцыйны загад, аднак у самым тэксце аўтар вар'іруе загадныя і незагадныя формы, якія змякчаюцца за конт ужывання адмоўнай часціцы не- пры розных часцінах мовы: *не смяецца, не за гарамі, не згінулі, не згінем*. Вострая эмацыйная напружанасць падтрымліваецца на працягу ўсяго твора менавіта паўторамі канструкцый з тонам патрабавальнасці: *зацісні, выходзьце, ведай, вер,* аднак безапеляцыйная танальнасць перабіваецца формамі дзеясловаў абвеснага ладу: *адступілі, не смяецца, спынім, не загінулі*. Менавіта падобнага кшталту перабіўка надае вершу «Не плач» рытміку кардыяграмы сэрца, недзе нават з арытмічнымі перападамі, што дазваляе не задыхнуцца пры прачытанні тэксту, утрым-

1 Танк, М. Збор твораў у 13 т. – Т.1. Вершы 1930--1939 / Максім Танк. – Мінск: Беларус.навука, 2006. – С. 70.

ліваючыся не толькі на высокіх зваротах эмоцый-«крывянога току». Максіму Танку ўвогуле характэрна перадаваць эмоцыі ў танальнасці і перыядычнасці скарачэння сардэчнай мышцы. Ён піша быццам дыхае — і гэта не толькі высокая метафара, але і спосаб арганізацыі творчай працы, калі аўтар сувымярае рытміку і рыфмарады з біццём уласнага сэрца. Менавіта таму творчасць Максіма Танка выбрана намі для паэтычнага аналізу — класічныя творы перажываюць сваіх сабратаў, якія напісаны з мастацкім рамяством, менавіта па прычыне таго, што іх «кардыяграмы», прывязваючыся і грунтуючыся ўсё ж на моўнай абалонцы, працаздольны дзякуючы ўнутранай гарманічнай суразмернасці ўсіх цыклаў і пабудоў, што не маюць збояў, як праца сэрца. Класічны твор — гэта таксама і вынік выяўлення індывідуальнай свядомасці, што змагла ў сабе ўвабраць рысы калектыўнай свядомасці, а значыць абагульніць уласнае да ўспрымаемага масамі. Творчасць Максіма Танка праверана дзесяцігоддзямі рознымі пакаленнямі на яе адпаведнасць найменню «класічная»: у ёй не сціхае энергетычны абмен з чытачом і сёння, які можна ўмоўна назваць «вечным рухавіком», яна да гэтага часу сілкуе думкі, эмоцыі, перажыванні чытача і не губляе актуальнасці — бо і сам аўтар жыў праблемамі «быційнымі», а не «побытавымі». А побытавыя замалёўкі, наяўныя таксама ў творчасці гэтага масцітага аўтара, падсвятляліся кантэкстам іх уключанасці ў нешта большае, «быційнае». Творчасць Максіма Танка фарміравалася і сталела пад уздзеяннем нацыянальных праблем, эканамічных умоў, палітычных зменаў, сацыяльных працэсаў у грамадстве, кантактаў з рознымі людзьмі — і ўсё гэта набыло адлюстраванне ў паэтычным слове ў форме ўключэння асобы творцы ва ўсё пералічанае ў якасці адказнага за ўсё чалавека. Ён быў чалавекам свайго часу і ўсё ж змог выйсці за яго межы дзякуючы «быційнаму» характару яго свядомасці, светаўспрымання і яго лірычнага «я» ці лірычнага героя. Паэзія Танка стварае своеасаблівую карціну свету і ў гэтай карціне сама паўстае як складаная шматузроўневая мастацкая сістэма, у якой гарманічна ўзаемадзейнічаюць асабісты вопыт, гісторыя прыніжэння і адраджэння беларускай нацыі, літаратурныя законы, скандэнсаваныя ў формулах лепшых набыткаў польскай, рускай, украінскай, літоўскай літаратур у першую чаргу і літаратур свету, а таксама гістарычныя заканамернасці XX стагоддзя з іх пакручастымі паваротамі і г.д. Мастацкая карціна свету Максіма Танка таму набывае нейкія ўніверсальныя характарыстыкі і якасці праз рэпрэзентацыю ў мастацкіх творах сутнасных уласцівасцей свету, кшталту адлюстравання адвечных прыродных кругазваротаў і «смертнай» прыроды чалавека і г.д., і яна ж выступае ўвасабленнем спецыфічнага аўтарскага светабачання, кшталту «лукішскага» ў давераснеўскай паэзіі. Яго светапоглядныя ўстаноўкі ў многім валодаюць антрапамарфічнымі якасцямі — пра што пісалі многія даследчыкі творчасці Максіма Танка, а такія мастацкія пераўтварэнні таксама набываюць сваю эмацыйную «тэму». Звернемся да канкрэтных твораў паэта.

Менавіта антрапамарфічная прырода мастацкага мыслення Максіма Танка абумовіла з'яўленне вершаў «Паэзія» і «Рыфма», напісаных у розныя перыяды, але аб'яднаных аднолькавым падыходам, канцэпцыяй напісання: калі б не назва твора, то перад чытачом паўставала бы загадка, афармленая ў паэтычную форму:

*Ты можаш быць*
*І мікельанджэлаўскім*
*Ударам кулака*
*У ашчэр*
*Яго славутага «Сатыра».*
*І можаш быць*
*Тым фігавым лістком,*
*За якім еўнухі*
*Скрываюць сваю немач.*
*(*«Рыфма», *1993)* [2]

І верш «Паэзія», і верш «Рыфма» апрануты ў адзін канцэптуальны каркас: паэт не дае трапных азначэнняў, не шукае блізкіх асацыяцый, ён узнімаецца над канкрэтыкай і кантэкстуальным атачэннем слоў «паэзія» і «рыфма» і сягае ў вышыні маштабных абагульненняў. І гэтая мадэль паэтычнага твора спрацоўвае і ў іншых яго вершах і эпізодах вершаў, выяўляючы індывідуальна-аўтарскі падыход да вершатворчасці. Вы спытаеце: а дзе тут эмоцыя? Мы бачым метафарычна-асацыятыўныя рады і не бачым ніякіх відавочных воклікаў і ўзрушэнняў. Звернемся да ўстаялых азначэнняў у псіхалогіі: «Эмоции — состояния, связанные с оценкой значимости для индивида действующих на него факторов и выражаемые прежде всего в форме непосредственных переживаний удовлетворения или неудовлетворения его актуальных потребностей. Психическое отражение в форме непосредственного пристрастного переживания жизненного смысла явлений и ситуаций, обусловленного отношением их объективных свойств к потребностям субъекта. Непременные компоненты жизнедеятельности, могучее средство активизации сенсорно-перцептивной деятельности личности»[3]. Спецыялісты праводзяць адрозненне паміж паняццем «эмоцыя» і паняццямі «пачуццё», «афект», «настрой» і «перажыванне», і калі ў чытача ўзнікнуць пытанні наконт размежавання гэтых паняццяў, то Вікіпедыя і шматлікія слоўнікі дапамогуць ім у гэтай справе.

У вершы «Рыфма» аўтар узнімаецца не толькі да глыбокага літаратуразнаўчага абагульнення, філасофскага асэнсавання паэтычнага прыёму, але і праз эмацыйны ўсплёск у параўнаннях (*ударам кулака ў ашчэр, фігавы ліс-*

---

2 Танк, М. Збор твораў у 13 т. – Т. 6. Вершы (1983 – 1995) / Максім Танк. / Мінск: Беларус. навука, 2008. – С. 285.

3 Головин С.Ю. Словарь практического психолога: [Рэсурсы інтэрнэта] / Рэжым доступу: http://vocabulary.ru/dictionary/25/word/yemocija

*ток* — гэтыя словы набываюць у творы экспрэсіўную афарбоўку) імкнецца акрэсліць адначасова глабальныя праблемы мастацтва і рамесніцтва ў ім, высокага і нізкага ў мастацтве, сапраўднага майстэрства і прымітыўнага імітатарства — і гэта ўсё ўкладзена ў 9 радкоў верша. 3.V. 1982 г. у дзённіках Максіма Танка знаходзім наступны запіс: «Прачытаў зборнік вершаў У. Высоцкага. Большая частка вершаў — пра вайну. Надрыўныя. Суровыя. Нешта іх родніць з творамі В. Быкава. Вершы У. Высоцкага прыкметна выдзяляюцца з той псеўдапаэзіі, бліскуча зарыфмаванай і гладкай, але якая не пакідае ніякага ўражання»[4]. «Фігавы лісток», якім прыкрываецца немач паэта, — гэта і ёсць тая бліскуча зарыфмаваная і гладкая псеўдапаэзія, пра якую гаворыць Максім Танк. Прыгожая і правільная рыфма ў тэксце — гэта далёка не паказчык добрага твора. Надрыўнасць, эмоцыя, хваляванне — вось што цікавіць паэта больш адпаведнасці нарматыўным патрабаванням да паэзіі. Таму ён усё жыццё і асвойваў розныя формы верша, шукаючы розныя абалонкі для розных станаў душы. Рыфмаваны ці нерыфмаваны тэкст — не гэта праблема турбавала Танка, а праблема адсутнасці сувязі з чытачом, якая мае асаблівую эмацыйную падаплёку. «І калі мы перастанем усякую рыфмаваную лухту лічыць паэзіяй?» — усклікваў паэт і не знаходзіў на гэта пытанне адказу. Калі гаварыць пра паэзію, то праблема — якой яна павінна быць? — турбавала паэта яшчэ з 1930-х гадоў і да апошніх дзён жыцця, што мы можам убачыць па запісах у дзённіках. Вобразы паэзіі, песні праходзяць праз усю творчасць паэта, толькі ў 1-ым томе Збору твораў у 3 т. назва «Песня» ці слова песня ў складзе назвы сустракаецца двойчы, у 2-м томе — 8 разоў, у 3-м томе — двойчы, у 4-ым томе — тройчы, у 5-ым томе — двойчы, у 6-м — двойчы; а калі зрабіць сацыялагічны аналіз і падлічыць усе згадкі слова *песня* ў паэтычных творах Максіма Танка, то падлік укладзецца ў лічбу тысяча-дзве тысячы паўтараў. Падобнае пастаянства ў адданасці Максіма Танка адной тэме адлюстроўвае **«хвалевую» тэорыю вобраза**, што пераносіцца ад зборніка да зборніка. Сутнасць гэтай тэорыі ў тым, што вобразная сістэма Максіма Танка развіваецца і змяняецца ў выглядзе распазнавальных мадэлей, у адну з якіх вобраз *песні* ўвайшоў стала і назаўсёды. *Песня* ў Танка атаясамліваецца як з *паэзіяй* у цэлым, так і з асобным *вершам*. Ён не проста ўжывае вобраз *песні* як вобраз, што займае яго думкі, а як той, які праходзіць праз яго свядомасць, па-рознаму інтэрпрэтуючыся, трансфармуючыся і катэгарыючыся, утвараючы цэласную мадэль паэтычнай творчасці як сістэмы, якая не толькі стварaецца асобай, але і стварае гэтую асобу. У дзённіках знойдзем наступны запіс ад 18.05. 1954: *«Як падобны ўсе нашы оды і гімны на малітвы! І вельмі ж яны крыклівыя. Шкада, што і крытыка наша ў ацэнцы гэтай паэзіі займае невыразную пазіцыю. Адзін выхад — разбірайся, чытач, сам. А разабрацца не так лёгка, бо часта ў нашых вершах можна знайсці замысловатыя рыфмы, рэд-*

4 Танк, М. Збор твораў у 13 т. – Т.10. Дзённікі (1960 – 1994) / Максім Танк. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – С.

*кія словы, дзівосныя вобразы, не хапае толькі спелай, арыгінальнай думкі, якая б у сэрцы выпраменьвала паэзіяй».* І такіх выказванняў пра паэзію ў дзённіках Максіма Танка, згодна з выдадзенным электронным падлікам, больш за 300. Лічба ўражвае тым, што аўтар не проста занатоўвае думкі і развагі пра паэзію, а фарміруе і шліфуе ўласную сістэму-мадэль паэт-паэзія, папаўняючы яе новымі кампанентамі і эмацыйнымі адносінамі, сярод якіх самакрытычныя незадавальненне і рэфлексія займаюць дамінуючыя пазіцыі. Эмацыянальная патрабавальнасць да сябе як паэта ўзмацняецца, насычаецца з гадамі рознымі нюансамі — і псіхалагічнай раскаванасцю, і філасофскай паглыбленасцю, і пашырэннем кругагляду (у вялікай ступені пасля розных паездак па краінах свету), і інфармацыйнай дасведчанасцю (асабліва літаратурнай начытанасцю), і мастакоўскім сталеннем і г.д. Хвалі ацэнкі і пераацэнкі зробленага накатваюць на Максіма Танка з пастаяннай перыядычнасцю і паўстаюць у вершах як вынік адноўленай інтэрпрэтацыі свайго «я» ў свеце паэзіі.

«Арыгінальная думка», згодна з развагамі Максіма Танка, гэта і ёсць крытэрый сапраўднай паэзіі, здольнай узрушыць сэрца чытача; гэта той самы свежы павеў ветру паэзіі, які адзін можа замацаваць надоўга сувязь *паэт-тэкст-чытач*. Мадэль паэт-паэзія будавалася Танкам і на літаратурных догмах сацрэалізма (яна ім і падтрымлівалася, і рэалізоўвалася ў творчасці), і на агульнапрынятых стандартных закліках пленумаў, з'ездаў пісьменнікаў, партыйных з'ездаў і г.д., і на ідэалагічных устаноўках перыяду «застою» — і пры ўсім гэтым ён здолеў падняцца над рэгламентам часу і гісторыі ХХ ст. і застацца для наступных пакаленняў паэтам-наватарам, паэтам-першапраходцам, паэтам-мысляром. Таму што не губляў кантакта з сапраўднай паэзіяй, хоць і прыдзірліва пісаў у перадапошні год жыцця: ад 6. XI. 1994: *«Губляю кантакт з сапраўднай паэзіяй. Адчуваю, што яна — побач, але дзе? Традыцыйныя тэмы вытаптаны рознымі буйваламі. Трэба пачакаць, пакуль уляжацца пыл. Адводжу душу на песнях Дантэ»*. І мадэляванне сапраўднага верша Танкам падлягае карпатлівага вывучэння.

Звернемся да верша «Шчаслівы дзень яднання»:

*Магчыма,*
*Сярод тых,*
*Што прыйдуць развітацца*
*І пажадаць, каб зямля*
*Мне лёгкаю была,*
*Будуць і тыя,*
*Што ўсё жыццё*
*Мне кідалі*
*Пад ногі валуны.*
*О, мір табе,*
*Шчаслівы дзень яднання! (1989)* [5]

5 Танк, М. Збор твораў у 13 т. – Т. 6. Вершы (1983 – 1995) / Максім Танк. / Мінск: Беларус. навука, 2008. – С. 190.

Тэкст, напісаны свабодным вершам, уяўляе цікавасць менавіта тым, што ў ім прадстаўлена ўяўленне пра рэальнасць, адлюстраванае праз знакі культуры народа, міфапаэтыкі і іх значэнні. Нават славеснае ўпарадкаванне ў межах тэкста падпарадкуецца законам **індукцыі**: паэт рушыць ад прыватных фактаў да шырокіх абагульненняў. Тэкст нібы навідавоку раскрываецца як кветка лотасу: разгортваючы адзін за адным словы-пялёсткі — *прыйдуць-развітацца-пажадаць* — мы ў выніку ўбачым усю структуру задумы і яе цэнтр: смерць — *«шчаслівы дзень яднання»* прымірае сяброў і ворагаў, сваіх і чужых. Эмацыйны вокліч — *о, мір табе,* — нагадвае зварот да паствы ў біблейскіх тэкстах; развітанне з памерлым, «лёгкая зямля» — прыйшлі яшчэ з міфалагічнай свядомасці народа; а *«кідалі пад ногі валуны»* — з народнай скарбонкі ведаў. Чляненне тэкста на падобныя сэнсавыя групы зыходзіць з упарадкавання слоў і выказванняў не па правілах ужывання рыфмы, а ў адпаведнасці з закладзенымі ў іх значэннямі, якія ўніфікуюць звесткі пра свет і чалавека праз розныя знакі культуры. Расстаўляючы гэтыя знакі ў межах паэтычнага твора ў пэўнай паслядоўнасці, аўтар фарміруе і перадае праз тэкст уласнае ўяўленне пра смерць не як пра сумны дзень развітання, а як пра шчаслівы дзень яднання. Вобраз глыбока метафарычны і шматслойны — гэта і яднанне ворагаў з сябрамі, і паяднанне ўсіх перад лікам смерці (усе мы будзем там), і яднанне цела з зямлёй і г.д. Аўтар выкарыстоўвае **падмену паняццяў** з рознымі канатацыйнымі зместамі — і замест эмацыйна горкіх настрояў у фінале з'яўляюцца эмацыйна аптымістычныя акорды. Максім Танк маніпулюе моўнымі значэннямі і эмацыйнымі канатацыямі дзеля ўстанаўлення сваёй асацыятыўнай сувязі паміж прадметамі, падзеямі, з'явамі і адносінамі людзей, якая не павінна паўтараць агульнавядомае (пры развітанні з чалавекам не можа быць «шчаслівых» сітуацый), а павінна рухаць да новага прачытання ўстаялых канцэпцый, уносіць у іх новыя формы і зместы, і тады чалавек пачне карыстацца новымі ведамі пра свет, як ведамі аднаўляльнымі, ачышчальнымі, адухаўляльнымі і г.д. У гэтым і ёсць місія паэта. І смерць чалавека паўстане днём прымірэння людзей з рознымі характарамі, поглядамі, светаўспрыманнем і г.д. Такім чынам, у названым вершы Максім Танк выкарыстаў **прыём «зруху»**, калі адбываецца ссоўванне акцэнту з адной з'явы на іншую: паэт засяродзіўся не на смерці чалавека, не на яе наступствах, а на сітуацыі, якая складваецца вакол гэтай з'явы.

26. І. 1952 г. у дзённіках Максім Танк запісаў: *«Мне здаецца, зараз тэхніка верша не іграе ніякай ролі. Яна стала агульнадаступнай. Глыбіня думкі, а не гладкапіс сведчаць аб таленце. Сёння цяжка даць сінтэз паэзіі, бо яна развіваецца ў розных напрамках. Да таго, кожная кананізацыя ў літаратуры і мастацтве — шкодныя. І кожны авангард замяняецца — наступным. Заўсёды была і будзе нараджацца апазіцыя існуючым напрамкам і модам»*. І з Танкам цяжка пагадзіцца ў адным — «...зараз тэхніка верша не іграе ніякай ролі». Іграе, і дастаткова вялікую ролю менавіта тэхніка верша

ў шматлікіх выступленнях у друку нашых сучасных маладых паэтаў. Тэхніка ў самарэалізацыі аўтара іншым разам становіцца самамэтай, і за ёй часта не бачыцца цікавай думкі і тым больш узрушальнай эмоцыі. Як паказвае практыка, авалоданне тэхнікай верша стварае нават пэўную «калектыўную філасофію» сапраўднага паэта, якая навязваецца ў якасці абавязковай маладым аўтарам. Гэта своеасаблівая першая ступень да літаратурнага Парнаса, без авалодання тэхнікай можна далей і не рухацца. Я не магу сказаць, што з'яўляюся праціўніцай форматворчасці, аднак, спасылаючыся на словы Максіма Танка, магу ўпэўнена сказаць, што выдатная форма без адкрыццяў у змесце можа стаць школай для аўтара, аднак не дазволіць назваць яго паэтам. Безумоўна, Танк старанна і карпатліва працаваў над формай твора, пра што сведчаць шматлікія варыянты, уведзеныя ў каментар у Зборы твораў у 13 т. Сярод вершаў, якія не былі апублікаваны і захаваліся ў БДАМЛМ у якасці чарнавых і белавых аўтографаў, верш «***Хоць безліч сцежак на зямлі»:

*Хоць безліч сцежак на зямлі,*
*Мы размінуцца не маглі.*
*Яшчэ да першай нашай стрэчы*
*Тваё з'яўленне прадчуваў*
*Па ззянні сонечным спрадвечным,*
*Па веснавому шуму траў,*
*Па песнях птушак у палях,*
*Па неспакойных вешчых снах.*

Нам невядомы прычыны, па якіх аўтар не апублікаваў названы верш. Аднак па форме ён уяўляе завершаны твор з адкрытай структурай: прадчуванні лірычнага героя нанізваюцца быццам пацеркі на ніткуі гэты рад хочацца працягваць новымі атаясамліваннямі. Пакідаючы верш адкрытым для папаўнення чытачамі гэтага рытмараду, аўтар нібы звяртаецца да іх асабістага вопыту, у якім знойдуцца свае суб'ектыўныя паралелі і асацыяцыі. У названым творы працуе **працэс перцэпцыі** — складаны працэс мастацкай перапрацоўкі неўсвядомленага патоку інфармацыі ў форме суб'ектыўных мастацкіх вобразаў, якія апасродкавана выкліканы сукупнасцю прадчуванняў і звязаны з каханай жанчынай. Зноў жа аўтар выкарыстоўвае **выбарчы падыход** пры ўключэнні ў паэтычныя радкі пэўных эмацыйна афарбаваных вобразаў дзеля максімальнага набліжэння да перажываемага некалі ўнутранага стану. Тут задзейнічаны **кінестэтычныя адчуванні** аўтара, якія звязаны з адстароненымі прасторавымі ўяўленнемі, з дапамогай якіх ён праецыруе з'явы прыроды на ўласныя прадчуванні кахання і каханай. Зноў жа і ў гэтым творы прысутнічае і недагаворанасць, і **каузальнасць** як прычынная ўзаемаабумоўленасць, заканамерная сувязь паміж непазбежным уваходам у яго жыццё прыродных

з'яў і каханай жанчыны. Эмацыйная сувязь паміж гэтымі двума ўзаемазвязанымі працэсамі будуецца на асацыятыўнай непарыўнасці існага з належным. Як нельга прыпыніць сонечнае ззянне ці шум траў, так і нельга ўявіць жыццё без Яе. Здавалася б — восем паэтычных радкоў, але колькі інфармацыі яны ў сабе ўтрымліваюць. Адкрытая структура верша дазваляе рухацца эмоцыі да пошуку новых сувязяў паміж прадчуваннем кахання, каханай і прыроднымі з'явамі, і магчыма так і адбылося, калі б аўтар давёў твор да стадыі апублікавання.

Аднак у вольным доступе сёння мы маем шэсць тамоў паэзіі са Збору твораў у 13 т., у якія ўключаны вершы, што публікаваліся раней у асобных зборніках паэта, кнігах выбранай лірыкі, зборах твораў, і вершы, якія ўвайшлі ў гэтыя тамы ўпершыню (чарнавыя і белавыя аўтографы) ці якія былі змешчаны толькі ў перыядычных выданнях. Аматары і даследчыкі творчасці Максіма Танка могуць добра разгледзець творчую кухню паэта, параўноўваючы стадыі працы яго над творам, адлюстраваныя ў каментары. Напрыклад, звернемся да верша «Пасля аварыі»:

**Варыянт I-га чарнавога аўтографа:**

*Аварыя ў Чарнобылі...*
*Жалоба атуліла сэрцы нашы,*
*І зямлю*
*З яе птушынымі гнёздамі,*
*Звярынымі лаговішчамі,*
*Лясамі, палямі...*

*За рознымі справамі*
*Нат не паспеў праслухаць*
*Апошнія паведамленні*
*Што там сёння?*

*Забег у рэстаран перакусіць.*
*Музыка. Танцы. Тосты.*
*Я знаю. Жыццё — ёсць жыццё.*
*Але сёння мне здалося,*
*Што я трапіў на бал*
*Атамнага шаленства.*

*І можа таму*
*Нават хлеб горкім быў,*
*Як бяда, што прыйшла*
*Нечакана.*

**Варыянт II-га чарнавога аўтографа:**

*Аварыя ў Чарнобылі.*
*Я знаю:*
*Жыццё ёсць жыццё.*
*Знаю:*
*Утаймавалі атамнага джына*
*Толькі мне і сёння*
*Ачмуральная [вясёлая] музыка і танцы,*
*Застольныя тосты*
*Заўсёды будуць адгалоскамі*
*Балу у часе чумы,*
*А справы,*
*Лісты на дрэвах,*
*Праплываючыя аблокі —*
*[здаюцца] сцягамі жалобы,*
*Засланяючымі сонца*
*Зацямняючымі мне вочы*
*Атуляючымі мне сэрца.*

**Варыянт**
**ІІІ-га чарнавога аўтографа:**

*Я знаю*
*Утаймавалі атамнага*
*Толькі мне і сёння —*
*Хоць жыццё ёсць жыццё —*
*Вясёлая музыка*
*Забавы, застоллі*
*Здаюцца адгалоскамі*
*Нейкага бала*
*Ў часе чумы,*
*А травы,*
*Лісты на дрэвах,*
*Праплываючыя аблокі —*
*Сцягамі жалобы.*

**Аўтэнтычны тэкст:**
**Пасля аварыі**

*Аварыя ў Чарнобылі...*
*Джына. І хоць знаю,*
*Што ўтаймавалі*
*Атамнага джына,*
*Што жыццё ёсць жыццё,*
*Толькі цяпер мне заўсёды*
*Ачмуральная музыка,*
*озныя фестывальныя вар'яцтвы*
*І застольныя тосты*
*Здаюцца адгалоскамі балю*
*У часе чумы,*
*А травы,*
*Лісты на дрэвах*
*І вандроўныя аблокі —*
*Сцягамі жалобы,*
*Што зацямняюць вочы,*
*Атуляюць сэрца,*
*Засланяюць сонца.* (1987)

Усе чатыры вырашэнні творчай задумы твора маюць рознае эмацыйнае напаўненне. Адна, агульная, пра-эмоцыя (калі можна яе так абазначыць) дамінуе ва ўсіх варыянтах — гэта адгалоскі жаху ў душы лірычнага героя пасля чарнобыльскай трагедыі. Вар'іруюцца іншыя эмоцыі, якія спадарожнічаюць з азначанай у жаданні аўтара перадаць увесь комплекс перажыванняў ад наступстваў Чарнобыля, якія пакінулі след не толькі ў прыродзе, але і ў душы чалавека. Эмацыйнае ўзрушэнне аўтара праламляецца ў розных тэкстах праз свае мастацкія коды рэалізацыі задумы. *«Итак, к автору (по Фуко) взывает идея произведения, оформляющего разломы дискурса и реконструирующего некоторую мысль и некоторый опыт»*.[6] Сапраўды, «разломам дыскурса» становіцца *«аварыя ў Чарнобылі...»*, якая патрабуе не проста асэнсавання, а пошуку адказу на пытанне: як навучыцца жыць у бядзе, з бядой заўсёды? Трагедыя Чарнобыля перажываецца аўтарам як крушэнне свету былых стабільных каштоўнасцей, хаос, бессэнсоўнасць існага, адчай, што набліжае яго ўспрыманне сітуацыі да поглядаў на свет і чалавека экзістэнцыялістаў. Чарнобыль стаў увасабленнем метафізічнай драмы чалавецтва ў творах многіх беларускіх пісьменнікаў. А таму так складана гаварыць пра тое, чаго ніколі не чакаў, не ўяўляў, не ведаеш, як сябе прымірыць з наяўным. Усе гэтыя хістан-

6 Неретина С.С. Автор и дискурс: [Рэсурсы Інтэрнэта] / Рэжым доступу: http://philosophy.ru/iphras/library/wealtrue/neret1.htm

ні аўтара добра адлюстраваны ў чатырох варыянтах твора «Пасля аварыі». Першы варыянт верша найбольш «прыземлены» ў формах падачы матэрыялу. Аўтар паведамляе пра свае будзённыя справы, і раптам, сярод гэтай будзёншчыны прыходзіць эмацыйнае азарэнне — *«я трапіў на бал / Атамнага шаленства»*. Максім Танк карыстаецца **прыёмам «раптоўнага спасцігнення»** сутнасці, звяртаючыся да знойдзенага нечакана адказу на пытанне, што мучыла даўно. *«Жыццё — ёсць жыццё»*, у ім усё рухаецца па зададзенай траекторыі, і толькі людзі з нізкім болевым парогам здольныя перажываць бяду, гора планеты як уласныя бяду і гора. У другім варыянце на першы план выходзіць пераасэнсаванне і перастаноўка рэальнага і сімвалічнага. Калі раней *«музыка і танцы, застольныя тосты»* выступалі сімваламі шчаслівага жыцця асобы, то цяпер яны ўспрымаюцца *«адгалоскамі балу ў часе чумы»*; раней *«лісты на дрэвах, аблокі»* выступалі сімваламі спакойнага існавання роднага краю, то цяпер становяцца *«сцягамі жалобы»*. Крытыкі і літаратуразнаўцы, як і самі аўтары, карыстаюцца ў аналізе **гіпотэзай пазнавання** — калі праз коды агульнавядомых вобразаў прачытваюцца ўсім зразумелыя сэнсы, і не трэба тлумачыць, што поле выступае сімвалам мірнага жыцця радзімы, а дзіця — сімвалам пяшчоты, чысціні і г.д. У вершы Танка адбываецца падмена паняццяў, і гіпотэза пазнавання не працуе, а ў большай ступені праяўляюцца прыкметы **сінэстэзіі**, пад якой разумеецца з'яўленне, пры ўздзеянні дадзенага раздражняльніка, такіх адчуванняў і ўяўленняў, якія для яго іншародныя і адносяцца да іншых сістэм. Сімвалы мірнага жыцця пераносяцца ў жыццё пакалечанае і набываюць супрацьлеглае значэнне. Такое светаўспрыманне выклікана *«атупленнем сэрца»*, якое не навучылася біцца інакш, у адпаведнасці з рытмамі перайначанага пасля Чарнобыльскай трагедыі свету. Аўтар не можа карыстацца наборам «дачарнобыльскай» паэтычнай сістэмы, у якой канцэпты і сімвалы маюць іншыя, «мірныя» сэнсы. А таму, прыходзячы ў рэстаран і азіраючыся вакол на вуліцах, Максім Танк бачыць знаёмыя вобразы з адмоўнай канатацыяй, бо адны набылі радыяцыйную небяспеку ў прамым, а другія — у метафарычным значэнні, стаўшы адлюстраваннем абыякавасці чалавека да праяў свету. Выпраменьванні душэўнай глухаты не менш небяспечныя, бо як заўважыў хтосьці з мудрых, абыякавасць больш знішчае, чым войны.

Трэці і другі варыянты верша адрозніваюцца **інтэнсіўнасцю праяўлення эмоцыі**, што відавочна адлюстравалася ў колькасным напаўненні радкоў словамі і ў іх зладжанай расстаноўцы. Аўтар выкінуў з другога варыянта лішнія словы — непатрэбныя азначэнні, доўгія тлумачэнні, і эмоцыя, вызваліўшыся ад друзу шматслоўнай інфармацыі, набыла афарыстычную стройнасць і сухасць. Чытаеш верш нібы тэзісы, пазбаўленыя прыкладаў. Таму мне падаецца, што твор ад гэтага не выйграў, гэта адчуў і аўтар. Апошні, белавы тэкст, усё ж аброс новымі азначэннямі, якія кантэкстуальна звужалі семантыку слоў з другога варыянта, кшталту «***ачмуральная*** *музыка*», «***розныя фесты-***

***вальныя*** *вар'яцтвы*», «***вандроўныя*** *аблокі*». Дадзены прыём, выкарыстаны Танкам у апошнім варыянце верша, будуецца на **звужэнні і канкрэтызацыі** ўжывання слова, непарыўна звязанага з кантэкстам выказвання і страфічнай пабудовай верша. Не будзем спыняцца на перастаноўках слоў, радкоў, сказаў у чатырох варыянтах верша, хаця шматлікія іх пераносы абумоўлены складанымі працэсамі ў творчай свядомасці аўтара. Такім чынам, эматыўны патэнцыял творчай задумы Максіма Танка мае шырокі дыяпазон: аўтар рухаўся ад стрыманай манеры ў выкладанні ўласных думак, перажыванняў да эмацыйных азарэнняў.

Такім чынам, у нашым аналізе прадстаўлены толькі асобныя падыходы Максіма Танка да рэалізацыі эмоцыі ў вершы, даследчыкаў чакае вялікі масіў яго паэзіі, у якой шмат неадкрытага. Сфера пазнаваўчых здольнасцей, эмацыйна-валявая сфера паэта раскрываецца ў паэтычным тэксце праз адчуванні, афекты, жаданні, эмоцыі з дапамогай шматлікіх эмацыйных спосабаў, метадаў, прыёмаў, прадстаўленых вышэй. Аналізуючы шматузроўневае паэтычнае вар'іраванне эмоцыі аўтарам у тэксце, нам узгадаўся юмаўскі скептызм, сутнасць якога ў тым, што чалавек не можа ведаць ніякай рэальнасці, акрамя ўласных станаў. Сапраўды, Максім Танк прадэманстраваў віртуознае валоданне мастацкім словам у апісанні розных кантэкстаў яго душэўных станаў, аднак магчымасці яго як творцы, майстра выходзяць далёка за межы гэтай толькі адной уласцівасці таленту — слухаць уласную душу, давяраць ёй і агучваць яе ўнікальнасць і непаўторнасць. Калісьці, 19. VI. 1993 г., ужо напрыканцы жыцця, у дзённіках Максім Танк занатаваў наступнае назіранне Геракліта: «*Як мала ў ёй (том «Савецкай паэзіі» —* ***устаўка С.К****.) вершаў, да якіх хацелася б вярнуцца, якія хацелася б яшчэ раз прачытаць і якія змусілі б цябе задумацца. Бо, «колькі ні вандраваў бы, граніцы душы не знойдзеш» (Геракліт)*». Так — «граніцы душы» Максіма Танка немагчыма апісаць толькі з дапамогай устаялых метадаў і метадалогій літаратуразнаўчых школ і напрамкаў XX стагоддзя, яго творчасць патрабуе інструментарыя найсучаснейшых падыходаў. А шэсць тамоў паэзіі чакаюць свайго даследчыка.




# Алесь Аркуш

паэт, празаік, крытык, выдавец. Аўтар кніг: «Вяртанне», «Тайніца», «Крылы ператворацца ў карэньні», «Разьвітаньне з Танталам» і інш. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку.

# Легенды і міфы ТВЛ...

**У траўні Таварыства Вольных Літаратараў адзначыла 20-годдзе з дня свайго заснавання. Пра міфы арганізацыі і яе існыя дасягненні мы пагутарылі з пісьменнікам, журналістам, выдаўцом і нязменным кіраўніком Алесем Аркушам.**

**Валерыя Кустава:** ***— Скажыце шчыра, ці не было стварэнне ТВЛу як альтэрнатывы Саюзу пісьменнікаў (на той час — адзінаму) — эгаістыстычнай спробай падпарадкаваць сабе ўвесь літаратурны працэс, якім бы кіравалі палачане і гарадзенцы?***

**Алесь Аркуш:** — Насамрэч гэта была спроба ўтварыць адмысловую «фермерскую гаспадарку», у якой адбываўся б поўны літаратурны цыкл — напісанне твора, яго друк, распаўсюджванне і прамоцыя. Усё гэта без цэнзуры і ў «аўтарскім фармаце». І тое-сёе нам удалося. Напрыклад, зараз я ўкладаю пасмяротную кнігу Юркі Гуменюка — і бачу: 90 працэнтаў ягоных беларускамоўных вершаў — гэта вершы, якія былі надрукаваныя ў нашых тэвээлаўскіх выданнях. Пры іншым раскладзе мы б мелі іншага Гуменюка, прынамсі не ў тым аб'ёме. Тут трэба не забываць пра час, у якім гэта ўсё адбывалася: 1993 год, толькі што разваліўся СССР, але ўсё, што было ў Савецкім Саюзе — ментальнасць людзей, табу ў літаратуры, спецслужбы, якія пільнуюць за творчымі людзьмі — захавалася.

**В.К.** ***— Лічыцца, што ТВЛ знаходзілася ў апазіцыі і да «Тутэйшых» таксама...***

**А.А.** — Па-першае, ТВЛ нарадзілася пасля знікнення «Тутэйшых». Праўда, існуе такая думка, што ТВЛ паўстала як аскепак «Тутэйшых», як эпігонства на легендарную суполку. Але калі параўнаць дзейнасць гэтых літаратуных угрупаванняў, то няцяжка заўважыць вельмі істотныя паміж імі адрозненні. ТВЛ ніколі не займалася грамадска-палітычнай дзейнасцю. Хаця асобныя яе сябры былі вельмі палітычна актыўныя, як, напрыклад, Славамір Адамовіч. ТВЛ не імкнулася набіраць у свае шэрагі як мага больш сяброў. Аптымальны склад для такой суполкі — 10-15 літаратараў. Мы мусілі кожнаму забяспечыць права на выданне кнігі. ТВЛ заснавала сваё выдавецтва «Полацкае ляда» і свае літаратурныя пэрыёдыкі, некаторыя тэвээлаўцы друкаваліся выключна ў сваіх выданнях. Я быў сябрам «Тутэйшых» і найлепшым перыядам гэтай суполкі лічу яе падпольную дзейнасць, яшчэ да прыходу ў будынак Саюза пісьменнікаў. Калі б «Тутэйшыя» пайшлі надалей гэтым шляхам (кніга ўспамінаў Алеся Усені пераканала мяне, што гэта было цалкам магчыма і ў фінансавым плане), то сёння мы мелі б зусім іншы плён. «Тутэйшаўцы» заснавалі б свае пэрыёдыкі і выдавецтва. Неўзабаве, напачатку 90-х, гэта можна было зрабіць лёгка. У выніку сёння мы мелі б іншых і Анатоля Сыса, і многіх з актыву «Тутэйшых». У свае выданні яны б пісалі больш адкрыта і шчыра, больш прадуктыўна. Ад-

нак лідарам «Тутэйшых» закарцела паставіць на новыя рэйкі Саюз пісьменнікаў, уліўшыся ў яго, так бы мовіць абнавіць «кроў» старэйшай літаратурнай арганізацыі, што выглядала раматычным трызненнем. Таму самае галоўнае адрозненне паміж гэтымі суполкамі палягала ў тым, што тэвээлаўцы ў сваім статуце пазначылі, што яны не маюць права рабіцца сябрамі іншых літаратурных арганізацый.

**В.К. — *Асноўным прынцыпам ТВЛу быў рэгіяналізм. Як мяркуеце, ці сыграла на руку арганізацыі гэткая скіраванасць?***

**А.А.** — Я думаю, што і тут мы нечага дасягнулі. Прынамсі, актуалізавалі праблему. Калі вы возмеце ў рукі славутую кнігу брытанскага славіста Арнольда Макміліна «Пісьменства ў халодным клімаце», то заваўжыце, што там беларуская літаратура разглядаецца і ў рэгіянальным кантэксце, што раней беларускія літаратуразнаўцы ніколі не рабілі. Прычым, у кнізе асобна разглядаюцца полацкія і гарадзенскія літаратары, інакш кажучы, літаратары з тых рэгіёнаў, у якіх разгортваліся тэвээлаўскія праекты.

**В.К. — *Ці была канкурэнцыя, рэўнасць, амбіцыі сярод тэвээлаўцаў?***

*Славамір Адамовіч, Ігар Сідарук, Алесь Аркуш*



**А.А.** — Магчыма, была. Але справа ў тым, што ТВЛ — гэта толькі ідэя і ініцыятыва. За гэтым не стаяла ніякага рэсурсу. Нейкі час нам дапамагала Беларускае аддзяленне Фонда Сораса, пакуль гэтую дабрачынную арганізацыю не выдварылі з краіны. Але, у прынцыпе, заяўку ў Фонд мог падаць любы сябра ТВЛ. Патрэбна была толькі ініцыятыва. Ведаю, што на мае заяўкі пісалі рэцэнзіі такія славутыя людзі, як Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс, Пятро Васючэнка... Але гэта былі разавыя дапамогі, пераважна мы атрымлівалі сродкі на канферэнцыі. Таму дзяліць у ТВЛе не было чаго. Трэба было ахвярна працаваць. А гэтага ў нас не любяць. Таму, калі ты прыйшоў у ТВЛ, то мусіў працаваць на сябе і сяброў. Найлепшымі працаўнікамі былі Вінцэсь Мудроў і Юры Гумянюк.

**В.К. — *У ТВЛ быў статут... Якімі былі яго прынцыпы? І ці ўсе літаратары іх выконвалі?***

**А.А.** — Так, мы мелі статут, ён быў патрэбны перадусім для таго, каб суполку можна было афіцыйна зарэгістраваць. Але зарэгістраваць нам удалося толькі наваполацкую філію, напачатку 90-х існавала магчымасць на ўзроўні мясцовай улады рэгістраваць рэгіянальныя грамадскія арганізацыі. Дастаткова было мець 11 сяброў і напісаць статут і іншыя ўстаўныя дакументы. У Наваполацку ў той час была самая ліберальная ўлада ў Беларусі, мы нават мелі дэмакрата старшыню гарвыканкама Аляксандра Ніякоўскага, таму з гэтай справай не было ніякіх праблемаў. А вось цалкам зарэгістраваць суполку ў Мінюсце нам не ўдалося. Магчыма, калі гэтай справай займаўся б не Славамір Адамовіч, які на той час ужо меў скандальную славу, а нехта іншы, то атрымалася б зрабіць і гэта.

**В.К. — *Вы самі сябе выдавалі, бо дзяржаўныя выдавецтвы Вас не бралі?***

**А.А.** — У дзяржаўных выдавецтвах былі чэргі на 5-7 гадоў наперад. А мы выдавалі кнігі максімум праз 2 месяцы, як атрымлівалі рукапіс. Да таго ж мы шмат друкавалі эксперэментальнай літаратуры, якую ні ў якім разе не ўзялі б друкаваць у «Мастацкай літаратуры». Мы першыя ў Беларусі выдалі зборнічак візульнай паэзіі — «Рысасловы» Людкі Сільновай. Або такія авангардныя кнігі, яшчэ раз згадаем, які гэта быў час, — Юрыя Гуменюка, Сержа Мінскевіча, Лявона Вольскага.

**В.К. — *ТВЛ складаўся практычна з 15 чалавек. Касцяк арганізацыі — і таго меншы, на адной руцэ можна пералічыць... Не так шмат, каб не дазволіць сказаць пра кожнага на 20-годдзе таварыства. Як склаліся іх жыцці, творчыя лёсы?***

**А.А.** — Як яны маглі скласціся? Усе сталі пісьменнікамі. Некаторыя, як Сяргей Шыдлоўскі, пішуць зараз доктарскія дысертацыі. Некаторыя, як Вінцэсь Мудроў і Славамір Адамовіч, сталі прыжыццёвымі класікамі андэграўнднай беларускай літаратуры. П'есы Ігара Сідарука ставяць за мяжой, а пра яго драматургію ў Польшчы напісана выдатная літаратуразнаўчая праца. Лявон Вашко доўгі час выдаваў у Мастах свае літаратурна-культурныя перыёдыкі. Яго-

ныя драматургічныя творы таксама добра вядомыя спецыялістам за мяжой, прынамсі, у Польшчы.

**В.К. — *Хто застаўся, хто знік, згубіўся?***

**А.А.** — Кожны пайшоў сваёй дарогай, як і павінна быць. Я тут кажу пра тых людзей, якія былі сябрамі ТВЛ працяглы час. Бо былі і такія, якія толькі ўдзельнічалі ва Ўстаноўчым сходзе і некалькі разоў дасылалі свае творы ў тэвээлаўскі часопіс «Калосьсе». Іхняе сяброўства ў суполцы было фармальнае. Яны нават пазней не ўдзельнічалі ў тэвээлаўскіх канферэнцыях.

**В.К. — *Што ёсць галоўнымі дасягненнямі ТВЛу?***

**А.А.** — Думаю, перадусім корпус тэкстаў, напісаны сябрамі ТВЛ у 90-х. Калі яго перавыдаць, гэта будзе цудоўная бібліятэчка. Я, напрыклад, мару выдаць кнігу «Анталогія паэзіі ТВЛ». Нeяк пра гэта я размаўляў з Юрасём Пацюпам, ён нібыта загэраўся яе ўкласці, але так і не зрабіў. Таксама выдатная наша справа — часопіс «Калосьсе», канцэпцыю якога распрацаваў Юры Гумянюк. Да сёння, мне здаецца, часопіс застаецца цікавым. Некаторыя рэчы можна прачытаць толькі тут, як, напрыклад, эксперыментальны раман Вітаўта Чаропкі «Поўны керкешоз». Адметнай з'явай у свой час стала наша серыя паэтычных кніг «Паэзія новай генерацыі». Ну і нашыя літаратурныя канферэнцыі, якія адбываліся ў Наваполацку і Полацку. На іх прыязджалі прадстаўнікі літаратурнага авангарду з Украіны і Расіі — Валадзімір Цыбулька, Іздрык, Жадан, Байтаў, Баніфацый (Лукомнікаў), Дзмітрый Кузьмін і інш. Валізамі прывозілі са сваіх краінаў андэграўндную літаратуру. Чыталі даклады па найноўшай літаратуры. Тэвээлаўцы таксама выступалі з тэарэтычнымі літаратурнымі спавешчаннямі. Трэба і іх сабраць пад адну вокладку і выдаць.

**В.К. — *Ці не здаецца Вам, што на цяперашні момант ТВЛ па сутнасці знаходзіцца ў заняпадзе?..***

**А.А.** — ТВЛ выканала сваю місію. У прынцыпе суполка ўжо даўно не існуе. Засталіся толькі доўгатэрміновыя праекты, такія, як напрыклад, літаратурная прэмія «Гліняны Вялес». Сёння трэба ствараць нейкія іншыя літаратурныя ўгрупаванні — на іншых прынцыпах і формах дзейнасці.

**В.К. — *Вы кажаце, што ТВЛ выканала сваю місію... Тады што мы святкуем, калі ТВЛу няма?***

**А.А.** — Падобныя арганізацыі не жывуць працяглы час. Мы святкуем культурніцкую з'яву, якая мела месца ў беларускай літаратуры ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Нічога падобнага раней у ёй не было. ТВЛ запісала сваю старонку ў гісторыі беларускай літаратуры і абмінуць дзейнасць суполкі, праігнараваць яе наробак, немагчыма. Любая літаратуразнаўчая кніга пра найноўшую беларускую літаратуру згадвае ТВЛ. Прыйдзе час, і пра ТВЛ выйдуць грунтоўныя літаратуразнаўчыя даследаванні. Яны ўжо сёння выйшлі б, калі б у краіне была іншая палітычная сітуацыя.

**В.К. — *Вы адсеклі карані, а што наконт наступцаў? Каго Вы лічыце сваімі пераемнікамі, гадаванцамі?***



*З Уладзімірам Някляевым — лаўрэатам прэміі «Гліняны Вялес»*

**А.А.** — А якія наступцы ў «Тутэйшых»? Мы стварылі сваю суполку, каб максімальна рэалізавацца. У літаратурных арганізацый не бывае ніякіх наступцаў. Арганізацыя — гэта форма дзейнасці.

**В.К. — *Расчароўвае ці цешыць сваімі дасягненнямі новае літаратурнае пакаленне?***

**А.А.** — І расчароўвае, і цешыць. Расчароўвае, што пакаленне не стварыла нічога свайго адметнага — ні суполкі, ні нейкай плыні, ні нейкай легенды. Яно расцярушана і не мае пэўнага ядра. Найноўшай літаратурнай генэрацыі патрэбна сваё пэрыядычнае выданне. Цешыць, што з'яўляюцца новыя цікавыя творцы, што палітра беларускай літаратуры працягвае пашырацца і ўзбагачацца.

**В.К. — *Ці раілі б Вы сучаснай літаратурнай моладзі ў цяперашніх умовах ствараць свае суполкі і таварыствы?***

**А.А.** — Настойліва раіў бы. Бо суполка — гэта інструмент літаратурнага працэсу. Яна дапамагае ствараць цікавы літаратурны кантэкст, міфалагізаваць літаратурны працэс. «Срэбным векам» расейскай літаратуры называюць той час, калі выбухнулі сімвалісты, акмеісты, футурысты і г.д. Калі б не было гэтых угрупаванняў, то цікавасць да таго часу была б на парадак ніжэйшай.

**В.К. — *Як мяркуеце, Вашыя калегі па ТВЛу лічаць сябе ўзгадаванымі арганізацыяй?***

**А.А.** — Гэта частка іхняй біяграфіі. Можа хтосьці і лічыць, што ТВЛ яму нічога не дало. Але мала хто з пакалення 90-х можа згадаць штосьці цікавае са свайго літаратурнага жыцця (хіба што нешта прыватнае). А ў тэвээлаўцаў цэлая «валіза» прыгодаў і гісторый, звязаных з ТВЛам. А для мяне асабіста — гэта практычна ўсё маё літаратурнае жыццё. Цяпер мушу гэтую тэвээлаўскую багатую спадчыну неяк упарадкаваць. Вось зараз уклаў дзве кнігі Юрыя Гуменюка — паэзіі і эсэістыкі. Рыхтую да друку лісты Юры да мяне з 1990 па 1993 гады. Амаль у кожным лісце развагі пра патрэбу стварыць сваю літаратурную арганізацыю. Гэта лепшае сведчанне таго, што ТВЛ нарадзілася не спантанна. Два гады мы выношвалі і абмяркоўвалі гэтую ідэю.

**В.К. — *Каго з творцаў Вы б маглі назваць праектамі ТВЛу?***

**А.А.** — Чыстым праектам ТВЛу быў Юры Гумянюк, бо амаль уся ягоная беларускамоўная паэзія друкавалася ў тэвээлаўскіх выданнях.

**В.К. — *Не крыўдна, што беларусы пра Вас не ведаюць... Хіба што толькі вузкаспецыялізаваныя філолагі і журналісты?***

**А.А.** — Мы не былі нейкім шоў-праектам. Мы дзеелі ў плашчыні культуры. У свеце няшмат людзей, якіх гэта ўвогуле цікавіць. А хто сёння ведае славутыя ўгрупаванні мастакоў 90-х — «Форма», «Галіна», «Квадрат», «4-63» і г.д.? Але гэтыя суполкі ўзбагацілі гісторыю беларускай культуры. Таму любы спецыяліст па сучасмнаму беларускаму выяўленчаму мастацтву ведае пра іх, вывучае, стварае адмысловыя калекцыі з твораў сяброў тых суполак.

**В.К. — *Чаму Вы, Алесь Аркуш, былі ўсе гэтыя гады нязменным кіраўніком ТВЛу? Ніколі не было думкі падзяліць паўнамоцтвы...***

*Падчас перадачы «Чорным па белым»*



**А.А.** — Таму што кіраўнік ТВЛу — гэта каардынатар, які ўзвальвае на свае плечы ўсю арганізацыную працу. Ён працуе на ўсіх. Афіцыйна мая пасада называлася каардынатар ТВЛ. Я чакаў, што з'явяцца яшчэ колькі каардынатараў мне ў падмогу, але, на жаль, яны не з'явіліся.

**В.К. — *Цяжка было паэту кіраваць арганізацыяй з паэтаў?***

**А.А.** — А як можна сабе ўявіць тут нейкае кіраванне? Каардынатар ТВЛ павінен быў шукаць рэсурсы на выданне кніг і перыёдыкаў, выдаваць іх, планаваць сустрэчы з чытачамі, прэзентацыі, арганізоўваць канферэнцыі і літаратурныя святы. Наўрад ці гэта можна назваць кіраваннем...

**В.К. — *Як адзначаеце цяперашні стан рэгіянальнай літаратуры?***

**А.А.** — На жаль, ён не стаў лепшым за той, які быў у 90-х. Бадай за выключэннем Гарадзеншчыны, дзе, дзякуючы мясцовым энтузіястам, перадусім Паўлу Мажэйку, выходзяць шыкоўныя кнігі ў серыі «Гарадзенская літаратура».

**В.К. — *Як адзначылі сваё 20-годдзе?***

**А.А.** — На маё здзіўленне ўсе асноўныя культурніцкія незалежныя выданні праігнаравалі юбілей ТВЛ. Толькі ты і Вольга Гардзейчык адгукнуліся на падзею і зрабілі адмысловы выпуск праграмы «Чорным па белым» на тэлеканале «Белсат» пра нашу суполку. Планавалася, што павінна была адбыцца адмысловая выстава ў сталічным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Мы да яе рыхтаваліся. Але яна так і не адкрылася. Затое выдатна прайшло 20-е ўручэнне нашай літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» віцебскаму празаіку Сяргею Рублеўскаму. Інаўгурацыйная вечарына адбылася ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Было шмат моладзі. Спявалі маладыя музыкі. Бадай, атрымалася адна з найлепшых падобных цырымоній.

**В.К. — *Але калі Вы ўручалі «Глінянага Вялеса» Уладзіміру Някляеву, Алесю Разанаву — яны ж не былі творцамі рэгіянальнага, усё ж шырэйшага маштаба?***

**А.А.** — «Гліняны Вялес» не з'яляецца прэміяй для рэгіянальных літаратараў. Мы імкнуліся адзначыць Вялесам і тых, хто вельмі істотна паўплываў на ўвесь беларускі літаратурны працэс.

**В.К. — *Дзякуй! І віншую з Юбілеем!***

**Валерыя Кустава**




# Уладзімір Сіўчыкаў

пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» (1992 г.), кніг прозы «Лісты да брата» (1998 г.), «Бювар» (2009 г.), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004 г.), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом...» (сумесна з А. Баярынай, 2006 г.). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008 г.), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010 г.). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

# Начныя нататкі

## Бог не роўна дзеліць

Пасля дванаццатай гадзіны пайшоў доўгачаканы дождж, а следам прыляцела нечакана-трагічная тэлефонная вестка, што ў Цвяры на сваім 71 годзе памёр ад інсульту дзядзька Коля, матулін брат. Нарадзіўся ён на Каляды зласнага 1937-га.

Год найбольшага размаху сталінскага тэрору закрануў і ягонага бацьку, а майго дзеда Кузьму, на той час вясковага пісара — за неасцярожнае крытычнае слова на адрас старшыні калгаса той патрапіў на пензенскі лесапавал. Але пашанцавала — адпусцілі (мабыць, рэдкі выпадак тагачаснай бальшавіцкай міласэрнасці!) парадавацца сыну, якому і запісаў шчаслівы бацька за дату нараджэння 9 студзеня 1938 года, каб, як тады казалі, падчас прызыву ў войска не ішоў год наперад.

Дзядзька Коля быў самы малодшы ў сваёй сям'і, але па горкай іроніі лёсу адышоў у іншы свет раней за ўсіх трох сясцёр, якія трываюць, нягледзячы на даўні паралюш найстарэйшай Вольгі дый усе іншыя хворасці.

Цяжка мэнчыўся я, покуль не ўсвядоміў адной з прычынаў, чаму так і не змаглося паехаць на хаўтуры: не хацеў убачыць васковую мумію, а хацеў запомніць яго жывым. Хай сабе й не маладым, а хаця б такім, якім бачыў апошняга разу, пазалетась.

*24 жніўня 2008 г.*

## Вадзяны вятрак

Жодзіна адсвяткаваў 365-годдзе, адзначыў дату, пра якую многія месцічы яшчэ зусім нядаўна нават і не ўяўлялі. У праграмцы святочных мерапрыемстваў кожны жодзінец і госць горада па-над Плісою мог адшукаць, як у вабным меню, пачастунак сабе пад густ. Ад урачыстага мітынгу «БелАЗ — наш гонар!» да канцэрта сярэднявечнай музыкі. Ад ускладання вянкоў да мемарыялаў і помнікаў вайсковай славы да коннага рыцарскага турніру. Ад пасадкі алеі гарадоў-пабрацімаў да тэатра вогненных перфомансаў. Ад цэрымоніі адкрыцця фантана на галоўнай алеі гарадскога парка да бугуртаў — тэатралізаваных гістарычных боек. Ад мастацкай выставы «Мой горад старадаўні — мой горад малады» да адкрыцця на вуліцы Багуслаў Поле памятнага знака «Ветряная мельница»...

Але стой! Той, хто пабачыў той знак, мусіць зніякавець. Агульнавядома, што дапамагчы круціць жорны млына-ветрака мусяць ягоныя крылы. А калі імправізаваны млын назвалі ветраком, дык дзе яны, тыя крылы?! І навошта «вятрак» пастаўлены пад шатамі дрэў, на беразе рэчкі Жодзінкі непадалёк ад яе сутокаў з Плісой? Месца ветраку — у чыстым полі, дзе дзьмуць вольныя вятры!

Сапраўдныя колішнія жодзінскія млыны стаялі на Жодзінцы і на Плісе і, натуральна, былі млынамі вадзянымі! А млын, адноўлены ў лялечна-паркавым выглядзе і ў непамысных памерах, мае і вадзяное кола, якое, між тым, да плыні Жодзінкі не тое, што не дастае, але і стаіць упоперак рэчкі! Прычым стаіць і ў літаральным сэнсе! А як хораша было б, каб кола тое круцілася, сімвалізуючы гараджанам і рух часу і дабрабыт!

Непаразуменне выклікаюць і іншыя «артэфакты» псеўдагістарычнага падворка млынара. Дахі будынін зробленыя з гарызантальна насцеленых дошак, хаця просяцца на іх гонта ці трыснёг. Студня-жораў, з якой не зачэрпнеш вады, свіран, у які не зойдзеш, бельмаватыя вокны, у якія не зазірнеш, сцяжынкі, забрукаваныя абрыдлай ужо пліткай-кабаньчыкам...

Уражанне, што рабілася ўсё гэта паспешліва, па-аматарску, без кансультацый з дасведчанымі гісторыкамі, мастацтвазнаўцамі, этнографамі. Мімаволі згадваецца сумнавядомы афарызм: «Хацелі як найлепей, а атрымалася, як заўсёды.»

Збольшага выратоўвае сітуацыю хіба што памятны знак разьбяра Уладзіміра Глазуна. Хай сабе і не вельмі пісьменна (занадта ўжо вытыркаюцца вушы расійскага чынавенскага канцылярыту!), сведчыць ён, што «365 год таму назад на злучыне Плісы і Жодзінкі Багуславам Радзівілам заснавана мястэчка Багуслаў Поле, якое паклала пачатак гораду Жодзіна. Ва ўшанаванне той даўняй падзеі ўсталяваны гэты памятны знак. 2008 год».

Шкада, што забыліся на княскі тытул Багуслава Радзівіла. Ёсць і лёгкае апасенне, а ці не згубіцца выпалены надпіс, калі дрэва пацямнее ад дажджоў і часу?

Затое вельмі цешыць, што ўзаконена не толькі на паперы, але ў матэрыяле, як кажуць мастакі, сапраўдная і бясспрэчная дата нараджэння горада.

Таму хочацца спадзявацца і верыць, што менавіта ад яго ў школьнікаў будуць пачынацца ўрокі жодзіназнаўства, што менавіта да яго (а не да глыбока трагічнага помніка маці-патрыёткі Настассі Купрыянавай, якая паводле савецкай міфалогіі аддала на вайну пяцёра сыноў!) неўзабаве павязуць ускладаць кветкі шчаслівыя маладзёны.

А мяне парадавала, што новае дыханне, новае жыццё набыла мясціна, дзе гуляў я з братам ды сябрамі ў дзяцінстве. Больш за тое, меркавалі нават запрудзіць Жодзінку, каб потым плаваць па ёй на самаробным плыце, не раўнуючы як тыя Том Соер з Гекльберы Фінам. Хаця вышэй па цячэнні, пасля трубы-калектара, па якой рэчка бегла пад чыгуначным палатном, пры пажарным вадаёме чыгуначнікаў ужо быў невялічкі вадаспадзік.

Парадавала і тое, што памятны знак асвяцілі хрысціянскія святары. Асабліва натхнёнай і прачулай падалася казань ксяндза Вячаслава з касцёла Фацімскай Божай Маці. Няхай Божая Маці, якая сталася адным з сімвалаў горада, ахінае сваім плашчом і тую мясціну!

*13 верасня 2008 г.*

# Перапіс

Мінулася дзесяць гадоў ад першага, незалежніцкага, уласна беларускага перапісу. Пачаўся другі, але ўжо нават самі апублікаваныя перапісныя аркушы выклікаюць не толькі сумневы, але і абурэнне. Пытанняў у іх ажно трыццаць сем! Многія ўспрымаюцца як недарэчныя і нахабныя, а некаторыя, датычныя падрабязнай характарыстыкі кватэры ці памяшкання, куды лагічней было б адрасаваць у Жыллёва-эксплуатацыйныя службы або ў Бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Многія пытанні насцярожваюць, бо відавочна маюць за мэту русіфікатарскія памкненні. Пэўныя пункты ўспрымаюцца, як спроба бесцырымоннага ўмяшальніцтва ў прыватнае жыццё, як парушэнне грамадзянскіх свабодаў. З якога гэта дуба рэспандэнт мусіць дакладаць, ці мае ён яшчэ іншыя ўласныя жылыя памяшканні альбо ці падключаны да інтэрнэту ягоны кампутар?!

Беларусы традыцыйна недаверліва ставяцца да дзяржавы, лічаць, што перапісы працавалі і працуюць хутчэй на ідэалогію і на апарат уціску, чым на статыстыку. Вынікам і гэтага перапісу мала хто паверыць, гэтаксама, як не даюць веры вынікам выбараў ужо паўтары дзесяцігоддзі!

Дый канчатковыя лічбы гэтага перапісу ўлады абяцаюць абвесціць толькі напрыканцы 2012 года! Мабыць, камусьці дужа не хочацца, каб непажаданую, сумную статыстыку выбаршчыкі зазналі да мясцовых ці прэзідэнцкіх выбараў?! Хіба нельга пры сённяшніх узроўнях інфарматыкі, сувязі і камунікацыяў апрацаваць усе дадзеныя з перапісу раней як за тры гады?! Альбо вынікі перапісу ёсць дзяржаўнай таямніцаю і не падлягаюць заўчаснаму, на думку цяперашніх уладаў, абнародванню?!

Хаця адзін з вынікаў ужо сёння можна прадказаць напэўна. Афіцыйна прызнана, што на 1 верасня гэтага года насельніцтва Беларусі зменшылася на 12 800 чалавек і склала 9 663 400 чалавек. Адзін толькі Менск пабагацеў на 25 000 насельнікаў — да 1 939 400 жыхароў.

Вельмі сумна і прыкра, бо 13 000 — гэта цэлы горад ці мястэчка. Як можна пагадзіцца з тым, што раптам знік з мапы Беларусі Лагойск альбо Смалявічы?!

І гэта пры тым, што, здаецца, зусім нядаўна беларусы звыкла, горда і аптымістычна абвяшчалі на свет цэлы: «Нас — дзесяць мільёнаў!»

Мабыць, найперш збірае сваё чорнае жніво Чарнобыль, хаця дактары найчасцей пішуць у заключэннях пра смерць — «Сардэчна-сасудзістае захворванне».

*14 кастрычніка 2009 г.*

# Праз шэсць стагоддзяў

На кансісторыі кардыналаў Папа Рымскі Бенядыкт XVI , які меў імя Язэп Ратцынгер і быў ці не першым Папам-немцам за апошнюю тысячу гадоў, агаломшыў увесь свет заявау, што 28 лютага дабраахвотна пакіне Апостальскі

Пасад Рымскага Біскупа! Пакіне праз свой сталы век і недахоп маральных і фізічных сіл, каб далей выконваць узятае на сябе восем гадоў таму служэнне, сыдзе ў затворніцкі кляштар у Ватыкане, а захавае за сабою толькі званне pontifex emeritus — ганаровааы пантыфік.

Гісторыкі і тэолагі сцвярджаюць, што падобнага не было з 1415 года, ад часоў Папы Рыгора XII.

Абсалютна нечакана, за месяц да Вялікадня і вернікі, і агностыкі сталіся сведкамі гістарычнае падзеі. Як бы ні пырскалі слінаю крытыканы, пра што б ні пляткарылі зламыснікі і недабразычліўцы — гэта мужны і высакародны ўчынак вялікага чалавека. Наступнік Святога Пятра па сваёй волі адмовіўся не толькі ад духоўнае ўлады над адным мільярдам двумастамі мільёнамі каталікоў і ўніятаў! Праўда, усмешка ягоная пры тым, магло падацца, была крыху разгубленай і вінаватаю.

Мабыць, у Беларусі многія не толькі хрысціяне задаваліся рытарычным пытаннем: «А ці здольныя на такі ўчынак цяперашні кіраўнік, які на пасадзе амаль дзевятнаццаць гадоў, альбо праваслаўны першаіерарх Філарэт, які нясе свой цяжкі крыж яшчэ даўжэй?!»

У большасці дэмакратычных краін канстытуцыі дазваляюць ачольваць дзяржаву не больш за два тэрміны. Нават у камуністычным Кітаі прыйшлі да высновы, што трэба мяняць лідара і ягоную каманду праз дзесяць гадоў, бо пераемнасць ва ўладзе ідзе на карысць краіне і грамадству.

**P.S.** Вось толькі як патлумачыць знак з нябёсаў у дзень адрачэння? Маланка рэзнула проста ў купал сабора Святога Пятра!

*12 лютага 2013 г.*

## Бяздоннае багацце

«Свіцязянка» і «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага, «Магіла льва» і «Нікому» Янкі Купалы, «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Чорны замак Альшанскі» Уладзіміра Караткевіча, «Страцім-лебедзь» Максіма Багдановіча і «Лабірынты» Вацлава Ластоўскага — гэтым і многім іншым шэдэўрам асновою і крыніцай натхнення паслужылі легенды і паданні нашага краю.

Але пры невымерным багацці нашага фальклору кніг легенд і паданняў параўнаўча нямнога. Розняцца тэксты ступенню апрацоўкі — ад дылетанцкіх да навуковых запісаў, ад сухога фіксавання да літаратурнай містыфікацыі, ад філігранна пераказаных да асэнсаваных па-мастакоўску.

Каб не вынаходзіць ровар дый асвяжыць у памяці даўно знанае і чытанае, пагрузіцца ў матэрыял, пагартаў даведнікі і літаратурныя энцыклапедыі,чытанкі і хрэстаматыі. Некаторыя з кніг легенд і паданняў адшукаў я на сваіх кніжных паліцах, а яшчэ займеў важкую торбу праз добрую фею, няўрымслівага і руплівага бібліёграфа Святлану Пугачову.

Была гэта не простая цікавасць. Узнікла патрэба разгортваць выдавецкую серыю «Казкі і быліны», доўжыць яе чарговым томам — легенд і паданняў. Узяў на сябе ўкладанне — мажлівасць спалучыць карыснае і патрэбнае з прыемным і займальным.

Фаліянт «Легенды і паданні», скаладзены Майсеем Грынблатам і Антонам Гурскім, — адзін з больш чым паўсотні ў серыі «Беларуская народная творчасць» Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, якія пабачылі свет у «Навуцы і тэхніцы». Прыемна было расчытваць свае колішнія, яшчэ студэнцкія пазнакі алоўкам на палях.

Пад яго вокладкаю ўпершыню найбольш поўна былі сабраныя асноўныя жанры няказкавай прозы нацыянальнага эпасу. У легендах пададзены старажытныя міфалагічныя ўяўленні пра паходжанне сусвету, зямлі, чалавека, жывёл і раслін, а таксама пра Бога і пра святых. Паданні апавядаюць пра гістарычныя падзеі і гістарычных асобаў, пра паходжанне гарадоў, вёсак, курганоў і ўрочышчаў, рэк і азёраў і іх назваў, пра прозвішчы і мянушкі людзей, пра заклятыя скарбы.

Тэксты пададзеныя ў тым выглядзе, як былі запісаныя збіральнікамі, а таму нават назвы іх — «Як бог пчолы за лгарства пакараў», «От як даўней летніх бацькоў traцілі», «Як адна бабка бабіла чарцяня», «Два канцы ў вёсцы Трабухі», «Аб Сожу і Няпрэ», «Камень Лысіна Паца» — вабяць нязмушанасцю і чысцінёй.

Выданне папраўдзе грунтоўнае, акадэмічнае — да тэкстаў дададзены ўступны артыкул-даследванне, каментарыі, паказальнік прадметаў, з'яў, імёнаў і міфалагічных істот, алфавітны спіс збіральнікаў і геаграфічны паказальнік. Том гэты быў бы зусім не лішнім на кніжных паліцах у інтэлігентаў і ўсіх, хто цікавіцца культурай і творчасцю свайго народу, тым болей, што само слова legenda з лаціны перакладаецца літаральна як «тое, што трэба прачытаць».

Трэба было б тут дадаць, што ў 1990 годзе пад назваю «Бяздоннае багацце» ў «Мастацкай літаратуры» выйшаў складзены Антонам Гурскім скарочаны варыянт акадэмічнага выдання, а яшчэ праз дзесяць гадоў з гэткаю самаю назваю пабачыў свет томік выбраных твораў, сярод якіх і легенды Вацлава Ластоўскага. Назву кніжкам дало паданне, пераказанае Ластоўскім. Яно распавядае пра паляўнічага, загоншчыка Ранцэвіча, які давёў князю Яраславу, што сапраўднае багацце — гэта не куфар з дукатамі, а зямля, якая верна паслужыць і нашчадкам.

Напрыканцы мінулага стагоддзя ў запісах Ірыны Масляніцынай у «Юнацтве» выйшлі беларускія народныя легенды і паданні «Млын на сямі колах». Літаратурная апрацоўка тэкстаў у Масляніцынай — гэта хутчэй вольны і разгорнуты пераказ фальклорных першакрыніц, які стаіць на мяжы з мастакоўскім, гістарычным апавяданнем.

«Карона Міндоўга», «Выбар веры», «Таямніца глыбінь svіцязянскіх», «Слёзы Рагнеды», «Судзіслаў, праўнук Перанега», «Прымадонна яго яснавяльможнасці», «Рыцарская пальчатка», «Бутрым Няміра», «Легенда пра князёўну

Соф'ю», «Прыўкрасная Юдзіта» — ад «апетытных» найменняў павінны былі б пацячы слінкі ў кінасцэнарыстаў і ў лібрэтыстаў.

Адна толькі Радзіваліяда (паданні «Чорная дама Нясвіжа», «Пане Каханку» і інш.) дала апошнім часам беларускай сцэне п'есы «Чорная панна Нясвіжа» Аляксея Дударава, «Барбара Радзівіл» Раісы Баравіковай, «Пане Каханку» Андрэя Курэйчыка, «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл» паводле твораў Францішкі Уршулі Радзівіл, узноўленая опера «Чужое багацце нікому не служыць» Яна Давіда Голанда... А патэнцыйныя аўтары коміксаў павінны былі б згадаць фенаменальны поспех легенды ў малюнках паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне» з ягоным фантастычным як на сённяшні дзень тыражом у 250 000 асобнікаў.

«Міншчына: Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў» — кнігай з такой назваю эстафету ў Масляніцынай пераняў у выдавецтве «Беларусь» Аляксей Ненадавец. Хіба што засяродзіўся ён на тапаніміцы.

Аўтар напісаў і выпусціў у свет ажно шэсць цаглінаў, па адной на беларускую вобласць! У кожнай, якая ўтрымлівае па сотні-паўтары тэкстаў, патлумачыў ён паходжанне назваў гарадоў, мястэчак і вёсак.

Часам здаецца, што Ненадавец-літаратар неўтаймоўнай фантазіяй перамагае Ненадаўца-навукоўцу, што прывязка да тапонімаў досыць штучная і ёсць нагодаю літаратурнай містыфікацыі. Мяркую па нарысе пра сваё роднае Жодзіна, колішнюю Жодзіну Слабаду. Толькі мімаходзь аўтар завязвае этымалогію на міфічнага пчаляра-бортніка Жодзіна. Ані знаку няма пра папулярныя ў горадзе версіі — ні пра французскага салдата Жадэна, ні пра рачулку Жодзінку, ні пра заснавальніка горада князя Багуслава Радзівіла, у гонар якога горад менаваўся і Багуслаўполем (Багуслаў-полісам)!

Аўтар кнігі «Гісторыя Беларусі паводле паданняў і легендаў» Кастусь Цвірка нездарма мае навуковыя ступені кандыдата гістарычных навук і кандыдата філалагічных навук! І тут задзейнічаны выйгрышны брэнд «Легенды і паданні». Выйгрышны таму, што бачыцца за ім штосьці важкае, аўтарытэтнае, тое, што заслугоўвае ўвагі і павагі. Выйгрышны, бо інтрыгуе чытача ўсё патаемнае і загадкавае, і таму, што пашанотна давярае ён захаванаму і пераказанаму далёкімі продкамі. Абапіраецца спадар Цвірка не толькі на легенды і паданні — ягоны тэкст густа перасыпаны спасылкамі на летапісы, Статуты ВКЛ, цытатамі з даследванняў аўтарытэтных айчынных і замежных гісторыкаў, мініяцюрамі, гравюрамі, мастацкімі рэканструкцыямі і выявамі дакументаў. Не будзе перабольшаннем назваць выданне навукова-папулярным курсам гісторыі (ад былiннага зачыну «Краіна арыяў, альбо Адкуль мы родам» да публіцыстычнага артыкула «Барацьба беларускага народа за дзяржаўную незалежнасць»), у якім аддадзена даніна і пэўнай стылізацыі нават у загалоўках кшталту «Уся слава Усяслава, або Герой народных паданняў, летапісаў, былін, паэм, раманаў» ці «Як беларусы аддалі сваю гістарычную назву Літва, а з ёю сталіцу сваёй жа старажытнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага Вільню і ўвесь

Віленскі край жамойтам». Сапраўды, нашыя суседзі, палякі, летувісы і расейцы на глебе міфалогіі, а ў тым ліку і ладных кавалкаў нашай, плённа для саміх сябе твораць гісторыю і дзяржаўнасць.

Мабыць, нездарма ў свой час і Кастусь Тарасаў назваў сваю кнігу гістарычных нарысаў «Памяць пра легенды»!

На фоне некаторых рэгіянальных аматарскіх выданняў кшталту «Паданні Лепельшчыны», «Легенды і паданні Ляхавіцкага краю», «Легенды і паданні Ганцаўшчыны» прыемна вылучаецца кніжка Міколы Гайдука «Легенды Беласточчыны». Даводзіцца пашкадаваць, што далёка не ўсе выданні з таго краю даходзяць да нас, трапляюць у поле зроку.

У пераказах Уладзіміра Ягоўдзіка ўжо пабачылі свет кнігі беларускіх народных легенд і паданняў «Заклятыя скарбы» і «Вужовы кароль». А летась, на восеньскія Дзяды меў я радасць атрымаць у падарунак ад цёзкі томік

«Сіні калодзеж. Сто беларускіх легенд і паданняў».

Гэты бліскучы выдавецкі праект ажыццявіла сваімі высілкамі адна сям'я! Бацька выбраў і пераказаў тэксты, якія некалі рупліва збіралі і запісвалі фалькларысты і этнографы Еўдакім Раманаў, Міхал Федароўскі, Павал Шэйн, Адам Ганоры Кіркор, Павал Дземідовіч, Аляксандр Сержпутоўскі, Павал Шпілеўскі, Уладзімір Васілевіч, Лія Салавей дый іншыя.

Кніжку гожа аздобілі дочкі пісьменніка, мастачка Юлія і дызайнерка Вера. Ну а да друкарскага варштата, а потым і да чытачоў парупілася данесці яе жонка Марыя.

Той, хто прачытае гэты томік, сапраўды натоліць смагу зорнай і крынічнай вадою са святога Сіняга калодзежа.

*На дзень святога Валянціна і... Уладзіміра Ягоўдзіка,*
*14 лютага 2013 г.*

## «Ах, што за цуд гэтыя казкі!»

Пераглядаў днямі дамашнюю бібліятэку, і аказалася, што ў ёй больш за паўтары дзясяткі кніг беларускіх народных казак!

Падумалася, што чалавек як мінімум тры — чатыры разы праходзіць перыяды актыўнага ўспрымання казак: у сваім маленстве, у школе на ўроках чытання і літаратуры, тады, калі выхоўвае сваіх дзетак, і тады, калі гадуе ўнукаў.

Мабыць, у кожнай інтэлігентнай сям'і на паліцах можна знайсці некалькі кніжак казак. З імі, як правіла, не расстаюцца, ашчадна захоўваюць, а калі каму і перадаюць, дык найчасцей у спадчыну. Можа, гэта таму, што згадваюцца казкі як салодкі ўспамін з дзяцінства, асацыююцца з сутонлівым спакоем поруч з маці ці бабуляю перад сном, з цеплынёю і пяшчотай.

Падзяліць казачныя тамы можна было б на дзве катэгорыі: выданні навукоўцам, філолагам, педагогам і кніжкі, адрасаваныя напасрэдна для чытаньня дзецям.

Захацелася ўзяць у рукі, перагартаць некаторыя з іх.

«Казкі ў сучасных запісах», укладзеныя Канстанцінам Кабашнікавым і Галінай Барташэвіч, займаюць на паліцы пачэснае месца. Гэты фаліянт, падрыхтаваны ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, — адзін з больш чым паўсотні ў серыі «Беларуская народная творчасць», якой мы мусім ганарыцца. Шэсць з іх прысвечаныя беларускім народным казкам, а чарадзейным, ці як іх яшчэ называюць, «уласна казкам» давялося выдзеліць ажно два тамы амаль па сем соцен старонак дый неўзабаве і перавыдаць іх! Некаторыя жанры ў нас куды багацейшыя, чым у суседзяў: да прыкладу, у беларускім рэпертуары каля 500 сюжэтаў легендарных казак, ва ўкраінскім — 196, а ў рускім — усяго толькі 56.

Пад вокладкаю гэтага тома ўпершыню сабраныя архіўныя матэрыялы і экспедыцыйныя запісы паваенных гадоў, якія значна пашыраюць уяўленні пра казкі, іх сюжэтны склад і асаблівасці бытавання. Выданне папраўдзе грунтоўнае, акадэмічнае — да тэкстаў дададзены ўступны артыкул — даследванне, а таксама каментары — паказнік сюжэтаў, асабовы спіс збіральнікаў, асабовы спіс казачнікаў і геаграфічны паказнік, якія займаюць ледзь не дваццаць адсоткаў аб'ёму кнігі.

«Ах, што за цуд гэтыя казкі!» — хочацца ўсклікнуць следам за класікам і ўцяміць, адкуль імя героя ягонага паэтычнага шэдэўра, калі пабачыш найменне «Гвідон Саміхленавіч». Вельмі імпануюць мне ўжо самі назвы можа і таму, што не «прычасаныя» яны, не прыгладжаныя літапрацоўшчыкамі: «Як дзедава дачка спамаглася, а бабіна з зайздрасці прапала», «Пра бараньку», «Іван і кусюлька», «Як вужава жонка паставіла сынка дубком», «Васька — Папялышка», «Іван Сучкін сын Залатыя гузікі», «Аб смушчэнніку Мілляне», «Юда — беззаконны чорт».

Кніга апавяданняў, легенд, казак, аповесцяў «Бяздоннае багацце» Вацлава Ластоўскага пабачыла свет у выдавецтве «Юнацтва», дзякуючы сямейнаму падраду ўкладальніка Язэпа Янушкевіча і ягонай жонкі, мастачкі Галіны Хінкі —Янушкевіч, якую ведаю з тых часоў, калі выкладала яна маёй дачцэ Хрысціне малюнак, жывапіс і кампазіцыю ў Рэспубліканскім каледжы мастацтваў, а па-простаму — у Парнаце.

Як і «неадменны сакратар Адраджэння» Вацлаў Ластоўскі, казкі пісалі, апрацоўвалі, пераказвалі многія творцы — ад пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Цёткі, Ядвігіна Ш. і Максіма Багдановіча да літаратараў сённяшняга дня. Мабыць, і самі яны часам з цяжкасцю вызначалі, дзе ў іх апрацоўка фальклорных перлінаў, дзе майстравіты вольны пераказ, а дзе ўжо і ўласна літаратурны твор. Да прыкладу, у 12-томніку Якуба Коласа казка «Зайчыкі» падпісаная як аўтарская, а тэкст «Музыкі» — беларускі аналаг нямецкіх «Брэменскіх музыкаў» — пазначаны як пераказ.

Дарэчы, у родным горадзе музыкаў Брэмене, а таксама ў латвійскай сталіцы Рызе стаяць помнікі ім, і турыст мусіць на шчасце дакрануцца да аднаго з

пярэдніх асліных капытоў. Шмат дзе па свеце ўсталяваныя помнікі літаратурным героям, няма падобных хіба што ў Беларусі...

У хрэстаматыі «Дзіцячая літаратура» колішняй універсітэцкай выкладчыцы Маргарыты Яфімавай вычытаў, што ў 1946 годзе выйшла кніжка беларускіх народных казак, пераказаная дзеткам Міхасём Клімковічам, у 1952 годзе Дзяржаўнае выдавецтва БССР парупілася выпусціць «Беларускія народныя казкі» ў апрацоўцы Якуба Коласа. А вось пра тое, што з 1955 года на рынку казачных пераказаў усталявалася гегемонія беларускага дзіцячага пісьменніка Алеся Якімовіча (1904—1979), ведаў даўно .

Але і сам ён наўрад ці мог уявіць, што самымі запатрабаванымі ў ягонай творчай спадчыне, надрукаванымі шматтысячнымі накладамі акажуцца апрацоўкі беларускіх народных казак.

«Каток — залаты лабок» (1955), «Бацькаў дар» (1957), «З рога ўсяго многа» (1959) — ад сярэдзіны пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя і да сённяшніх дзён зборнікі казак менавіта ў ягоных узнаўленнях выходзяць з зайздроснай рэгулярнасцю. Дзіва што — Алесь Якімовіч апрацаваў больш за дзвесце казак! Выдаўцам было і ёсць з чаго выбіраць — хочаш выдавай казкі пра жывёл, хочаш — чарадзейныя, а хочаш — сацыяльна-бытавыя з авантурна-навелістычнымі.

Кніга выдавецтва «Юнацтва» «Людзей слухай, а свой розум май» у аздабленні Валерыя Славука — своеасаблівы клон выдадзенай «Мастацкай літаратурай» на сем гадоў раней. Змяніліся хіба што фармат і мастак-ілюстратар, а ўся праца ўкладальніка звялася да таго, што памяняў ён месцамі з паўдзясятка казак.

Казкі гэтыя былі не раз апрабіраваныя і прыйшліся пад густ чытачам. Дый навошта было напружвацца і выдаўцам?! Вось яны і схітравалі.

Але вядомая беларуская пісьменніца Крыстына Лялько пагадзілася з народнай мудрасцю «Хітрэй свету не будзеш» — у 1991 годзе яна склала і пераказала кніжку «Хітрэй свету не будзеш», а тым самым перапыніла фактычна аднаасобнае панаванне Алеся Якімовіча на казачнай дзялцы.

З густам і вельмі таленавіта папрацавала яна над тэкстамі, якія некалі рупліва збіралі і запісвалі фалькларысты і этнографы Еўдакім Раманаў, Міхал Федароўскі, Адам Ганоры Кіркор, Аляксандр Сержпутоўскі, Павел Шпілеўскі дый іншыя.

Дзівіць хіба што тое, што выдаўцы пазіцыянавалі ўсе казкі зборніка, як чарадзейныя. А між тым сустракаюцца сярод іх і казкі пра жывёл («Былінка і верабей», «Вясёлы кош», «Дасціпны пеўнік», «Казка пра ласку», «Пеўнік і курачка»), і сацыяльна-бытавыя (тая самая «Хітрэй свету не будзеш») і нават паданне («Чаму ў Беларусі львоў няма»).

Але што значыць гэтая прыкрая парушынка ў параўнанні з накладам у 300 000 асобнікаў слаўных, адраджэнцкіх гадоў!

Кнігі казак, адрасаваныя дзецям, цяжка ўявіць без ілюстрацый, хаця сустракаюцца часам і такія, як у выдавецтве «Парадокс», прэцэдэнты і недарэчнасці.

А вось у кніжцы-казцы «Прагны багацей» на пяць старонак прыгожа аблямаванага тэксту прыпадае ажно дзесяць палосных, найшыкоўнейшых ілюстрацый Міколы Селешчука!

Дый увогуле трэба парадавацца за беларускіх дзяцей, бо для іх (найперш у выдавецтве «Юнацтва», якое не жартам і зусім не па-казачнаму праглынула «Мастацкая літаратура»!) шчыравалі такія майстры як Тацяна Беразенская, Вячаслаў Валынец, Анатоль Волкаў, Алена Карповіч, Уладзімір Лукашык, Уладзімір Савіч, Валеры Славук, Галіна Хінка-Янушкевіч... Іхняя натхнёная праца не раз адзначалася на кніжных выставах і сімпозіумах. А Павел Татарнікаў нават двойчы здабыў «Залаты яблык» — найвышэйшую ўзнагароду Міжнароднага біенале ілюстрацыі ў Браціславе! І адну з гэтых найпрэстыжнейшых сярод мастакоў кнігі ўзнарагод атрымаў ён за аздабленне тома беларускіх народных казак «Царэўна ў падземным царстве», якую падрыхтаваў Уладзімір Ягоўдзік.

Сёлета на «Беларусьфільме» знялі поўнаметражны мультфільм пра Несцерку, прычым з беларускамоўнай і рускамоўнай агучкамі, а таксама з англійскімі субцітрамі. Няўжо і кінематаграфісты нарэшце павярнуліся тварам да айчыннага фальклору?!

*26 красавіка 2013 г.*

## Андэрсенаў Прэсбург

Экскурсаводы дый іншыя жыхары славацкай сталіцы, якая гістарычна была цэнтрам аўстрыйскай, вугорскай, габрэйскай, нямецкай, славацкай і чэшскай культур, сёння ахвотна расказваюць сваім гасцям гісторыю пра Ханса Крысціяна Андэрсена (Hans Christian Andersen,1805—1875). Вялікі празаік, паэт і драматург наведаў Прэсбург (Pressburg), як тады на нямецкі лад менавалася Браціслава (Bratislava; Presporok/Presporek), у 1841 годзе. Калі ў пісьменніка спыталіся, ці не напіша ён пра горад у сваіх чароўных казках, той адказаў, што паэтызаваць і апяваць горад на Дунаі няма патрэбы, бо ён ужо сам сабою казачны і рамантычны.

Агульнавядома таксама, што Андэрсен страшэнна абураўся, калі чуў, што нібыта піша казкі дзецям. Ён лічыў, што шмат карыснага і павучальнага могуць расчытаць у іх, як у біблійных прыпавесцях, і дарослыя.

З гэтае прычыны ці таму, што сам ён аніколі не быў жанаты і не меў сваіх дзяцей, Андэрсен распарадзіўся, каб на ягоным помніку — першапачаткова выяве ў атачэнні дзяцей — не было аніводнага дзіцяці.

Калі меркаваць па ўсталяваных скульптурных помніках, дык найболей шануюць творчасць мегазоркі-казачніка славакі і амерыканцы, якія паставілі помнікі ў Браціславе і ў Нью-Ёрку адпаведна. Ну і, натуральна, датчане, бо манумент «Русалачка» ў Капенгагене адназначна ўслаўляе іх суайчынніка. (Дарэчы, якраз у позе скульптурнай Русалачкі пачынала свой выступ дацкая спявачка Эмілі дэ Форэст, якая бліскуча выйграла сёлета песенны конкурс «Еўрабачанне»).



*Помнік Х. К. Андэрсену. Браціслава.* **Фота Хрысціны Сіўчыкавай**

Гучаць галасы несмяротных герояў Ханса Крысціяна Андэрсена і па-беларуску. Гучаць са старонак кніжак і на сайце перакладной літаратуры, з аўдыёкніг «Анёл», «Калядная быль» і «Дзікія лебедзі», а таксама са сцэны Купалаўскага тэатра ў спектаклі «Лістапад. Андэрсен» з кампутарнай анімацыяй і фрагментамі кіно.

Дзень нараджэння вялікага дацкага пісьменніка 2 красавіка адзначаецца як Міжнародны дзень дзіцячай кнігі. Найпрэстыжнейшая прэмія для пісьменнікаў і мастакоў у галіне дзіцячай літаратуры носіць ягонае імя і нефармальна мянуецца «Нобелеўскай прэміяй у дзіцячай літаратуры». Хай сабе покуль што беларускія творцы не сталіся яе лаўрэатамі, але Міжнародны ганаровы дыплом, які ў 1986 годзе атрымала за кнігу вершаў і перакладаў «На двары алімпіяда» Эдзі Агняцвет, абнадзейвае.

А мяне штодня вітае ў перадпакоі Андэрсенаў Прэсбург — копія старадаўняй гравюры. Гэта прэзент даўняга сябра Яна Коваля, які пазалетась падарыў мне і некалькі незабыўных казачных дзён у Аўстрыі і ў Славаччыне.

*19 траўня 2013 г.*

## «Нам не дано предугадать, как наше слово отзовется...»

Найвялікшага дацкага літаратара Ханса Крысціяна Андэрсена (Hans Christian Andersen, 1805—1875) спецыялісты-філолагі ведаюць і як паэта, і як празаіка, і як драматурга. Але чытачы ва ўсім свеце, як дарослыя, так і дзеці, ведаюць і цэняць яго найперш як казачніка. Хто ні чытаў або ні слухаў такія ягоныя шэдэўры як «Брыдкае качаня», «Дзікія лебедзі», «Дзяўчынка, якая наступіла на хлеб», «Дзюймовачка», «Новая каралёва світка», «Прынцэса на гароху», «Русалачка» ці «Снежная каралева»?! Гучаць яны і сёння, да прыкладу, у нью-ёркскім Цэнтрал-парку каля помніка пісьменніку.

Але сам Андэрсен недалюбліваў і недаацэньваў казкі, якія прынеслі яму заслужаную славу, марна стараўся праславіцца як раманіст і аўтар п'ес. Больш за тое, менавіта дзякуючы сваім казкам пісьменнік стаўся ці не самым знаным у свеце датчанінам. Поруч з Андэрсенам можа стаць хіба што паўлегендарны, услаўлены якраз драматычным талентам Уільяма Шэкспіра (William Shakespeare, 1564—1616), Гамлет, прынц дацкі.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

Ірландзец паводле нацыянальнасці, шатладзец паводле месца нараджэння, брытанец паводле выхавання — англійскі празаік, драматург, паэт і публіцыст Артур Конан Дойл (Sir Artur Ignatius Conan Doyle, 1859 —1930) выдаў тры кнігі паэзіі, некалькі гістарычных і прыгодніцкіх раманаў, тамы аўтабіяграфічных нарысаў, філасофскія творы, напісаў паўдзясятка п'ес, ахвотна працаваў у новым на той час жанры навуковай фантастыкі («Прыхаваны свет» пра таямнічае плато з дапатопнымі яшчарамі пасярод Амазонскай сельвы, «Маракотава бездань» пра Атлантыду, якая апусцілася на акеанічнае дно). Ён здолеў стварыць запамінальныя вобразы пірата Шаркі, няўрымслівага прафесара Чэленджара, брыгадзіра напалеонаўскага войска Жэрара.

Але ніводзін з ягоных герояў не быў настолькі папулярны як прыватны дэтэктыў Шэрлак Холмс (Sherlock Holmes) — ад «Эцюда ў барвовых танах» (1888) да «Архіва Шэрлака Холмса» (1927). Дзякуючы сваім творам Артур Конан Дойл стаўся не толькі знаным ва ўсім свеце літаратарам, якому наследавалі многія дэтэктыўшчыкі, але і выперадзіў некаторыя прыёмы і методыкі ў крыміналістыцы. Да свайго героя аўтар ставіўся досыць скептычна і нават «забіў» яго ў двубоі з каралём злачыннага свету прафесарам Марыярці. Аднак праз дзесяць гадоў Дойл вымушаны быў «уваскрасіць» Шэрлака Холмса, які неверагодна палюбіўся чытачам.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

Беларускі пісьменнік Алесь Якімовіч пісаў пераважна для дзяцей. Ён выдаў некалькі кніжак вершаў і апавяданняў, літаратурныя казкі ў вершах і ў прозе «Каваль Вярнідуб», чытэльныя аповесці «Адкуль ліха на свеце», «Канец сер-

вітуту», «Кастусь Каліноўскі» і «Цяжкі год», быў аўтарам падручнікаў і складальнікам чытанак, выступаў і як перакладчык.

Але наўрад ці мог ён уявіць, што самымі запатрабаванымі з ягонай творчай спадчыны, надрукаванымі мільённымі накладамі акажуцца... апрацоўкі беларускіх народных казак.

«Каток — залаты лабок» (1955), «Бацькаў дар» (1957), «З рога ўсяго многа» (1959), «Андрэй за ўсіх мудрэй» (1983) — ад сярэдзіны пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя і да сённяшніх дзён зборнікі казак менавіта ў ягоных перастварэннях выходзяць з зайздроснай рэгулярнасцю.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

*Дзень летняга сонцавароту 2013 г.*

**Фота Яўгена Масарноўскага**



# Пятро Клюеў

музыка, спявак, бізнэсовец. Вывучаў філасофію і сацыяльныя навукі ў Аўстрыі і Італіі. Нарадзіўся ў 1989 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

# «Калі я за раялем, то магу размаўляць з Богам...»

**Няўседлівы, вельмі няўседлівы суразмоўца насупраць мяне. Паміж намі — шырокі абедзенны стол хостэла «Sky», што месціцца ў чатырохпавярховым катэджы завулка Каржанеўскага, 8А (першапачаткова хостэл быў у шматпавярховіку на вуліцы Леаніда Бяды, 2Б). Гаспадар хостэла — Пятро Клюеў, высокі хлопец з жывым тварам і кароткай класічнай чупрынай (за яе дакладана не пацягаеш). З Пятром знаёма ўжо амаль год, а ўсё адно ніяк не прывыкну да гэтага дзіўнага знаёмства. Каторы раз так і хочацца запытаць: «Пятро, Вы з цырка збеглі?» Верагодна, ён бы адказаў мне на гэта: «Не, са сцэны!»Пятро любіць пераўвасабляцца. І ўмее гэта рабіць! Адмыслова, па-свойму.**

**Марына Яўсейчык: —** ***Пятро, з якой гістарычнай асобай можаце сябе параўнаць?***

**Пятро Клюеў:** — Вызначыцца з вобразам цяжка, бо я чалавек ар'ергардны. Клімаў кажа — сёння авангард, а я — за ар'ергард. Для мяне ідэал — гэта рамантызм. У чалавека нібыта два «Я». Першае — рамантызм, інтымнасць. Другое — бунтарства. Гэта ідэал рамантызму. У музыцы можна сказаць так: першы ідэал — гэта Шапэн, яго інтымныя начныя накцюрны (напявае), а другі — рэвалюцыйны эцюд. Гэта бунтарская асоба, гэта паўстанне, гэта рэвалюцыя душы, гэта апазіцыя, гэта нязгоднасць, гэта канфрантацыя (пасля кожнага пералічэння Пятро б'е кулаком па стале. Не моцна, але ўсё ж б'е!). І адначасова гэта ўсё вынікае ў інтымную праблему, таму што ў рамантызме ўпершыню ў гісторыі людзей пачала хвалявацць інтымная тэма. Барока, рэнесанс — гэта ўсё магутнасць, пампезнасць, культ цела, а тут, у рамантызме, важны асабісты свет чалавека. Таму мой ідэал у рамантызме. Але ў сучасным кантэксце. Лічу, што сёння ён вельмі актуальны. Таму што эпоха постмадэрнізму адмаўляе многія каштоўнасці, у тым ліку і сямейныя, адмаўляе духоўныя аўтарытэты. Вось чаму грамадства пачынае дэградаваць.

**М.Я. —** ***Мне здаецца, што Вы чалавек не характэрны для сённяшняй эпохі. Відаць гэта звязана з выхаваннем, якое Вы атрымалі ў дзяцінстве?***

**П.К.** — Канешне! Усе погляды фармуюцца ў дзяцінстве. Маці ў мяне была адначасова і кансерватыўнай, і ліберальнай духам. Шмат што ўва мне ад яе ўплыву. Многае мне дала польская культура, у якой я фактычна вырас. Характэрны, нехарактэрны... Не ведаю. Я такі, які ёсць...

Скончыў польскую школу ў Гародні. Яна дала мне асэнсаванне самога сябе. Пазней трапіў у Аўстрыю, вывучаў філасофію. Пасля навучаўся ў Італіі на

факультэце сацыяльных навук. І там вырашыў займацца музыкай. Яна — маё жыццё, маё пакліканне. У пятнаццаць год я задаў сабе пытанне: кім я хачу быць? У мяне ўзнікла нават дылема, бо меркаваў стаць святаром. Але пасля я адчуў пакліканне да музыкі. Адзін знаёмы святар сказаў мне: «Станеш ты святаром альбо не , усё адно будзеш лячыць душы людзей». Гэтыя словы для мяне вельмі значныя. Але іхні сэнс да мяне дайшоў толькі цяпер... Бо музыка — найвялікшы лекар душ.

## Над Менскам.

**Я скажу, што Пятро заўжды — над. Над людзьмі, над падзеямі. Такі заўжды лёгкі, з зіхаценнем у вачах хлопец. Ён не ходзіць, а лётае. Быў тут, а ўжо і няма яго побач. Во дзівак! Э, не. Натуральны. Пра такога не скажаш, што чалавек-падробка. Пра такога не скажаш, што ў чалавека дзірка ў галаве... Проста ён — над.**

**М.Я. — *Пятро, Вас цяжка параўноўваць з сучаснай моладдзю, таму што Вы зусім не падыходзіце пад агульныя крытэрыі ацэнкі. Ці адчуваеце сябе, умоўна кажучы, белай варонай у сваім асяродку?***

**П.К.** — Я б сказаў, што яны ўсе белыя вароны, а я — чорная (смяецца). Я б так пажартаваў (заліваецца смехам). Бо ў Менску я адчуваю сябе над Менскам. Не ў тым сэнсе, што кагосьці прыніжаю, альбо бачу сябе вышэй за іншых. Проста я жыву ў іншай рэальнасці. Але адначасова з гэтымі людзьмі. Я спяваю для іх, пішу свае тэксты, граю для іх. У мяне ёсць што (выдзяляе інтанацыйна голасам) сказаць сваёй музыкай і я гэта кажу.

**М.Я. — *У якім узросце вы адкрылі для сябе музыку?***

**П.К.** — З дзяцінства спяваў псалмы ў касцёле, слухаў класічную музыку, але асэнсавана прыйшоў да музыкі ў пятнаццацігадовым узросце, калі ўпершыню сеў за піяніна і пачаў займацца з нуля. І праз два гады даў першы сольны канцэрт як піяніст. Граў Шапэна: вальсы, эцюды. Але каб дасягнуць гэтага, давялося сядзець за піяніна штодня па шмат гадзін.

**М.Я. — *Вельмі хутка. І на якой сцэне адбыўся першы канцэрт?***

**П.К.** — У Гродзенскай філармоніі. Пазней, праз некалькі месяцаў адбыўся канцэрт у Новым Замку. Ён прайшоў больш паспяхова, бо прыйшло больш людзей. Каралеўскі замак, зала, у якой Касцюшка ўзнагароджваў паўстанцаў. Я меў гонар выступіць там перад публікай, якая складалася са святароў, мастакоў, палітыкаў, прадстаўнікоў культурнай эліты.

## З Менскам.

**Пятро родам з Гародні. Але з гэтым горадам я не суадношу яго. Ну ніяк. Для мяне ён — мянчук. Можа таму, што жыве тут, у сталіцы. Узімку да Пятра прыязджаў яго аднакласнік Аляксей Шота, гарадзенец, рэдактар электроннага выдання «Твой стыль». Ночыў у хостэле.**



**Бачыла, як хлопцы радваліся сустрэчы, жартавалі. Падлеткі, ды й годзе! Гутарылі па-беларуску, але прабіваліся і паланізмы (што часам характэрна для мовы Пятра). Гэты адзіны выпадак за ўсё нашае знаёмства, калі я адчула, што Пятро «тамашні». Але гэта было імгненнае адчуванне, якое хутка знікла, зноў ператварыўшы музыку ў «тутэйшага», у менчука.**

**М.Я. — *Вы ўвогуле малады ды ранні. Малады тата, малады бізнэсовец, паспяховы музыка...***

**П.К.** — Так здарылася. Гэта не тое што нейкае дасягненне, гэта жыццё так склалася. І я вельмі ўдзячны за гэта Богу, таму што большасць людзей майго ўзросту ўсё яшчэ тусяць па клубах і жывуць за кошт бацькоў.

**М.Я. — *Хочаце сказаць, Вы не планавалі такога жыцця?***

**П.К.** — Я закахаўся ў музыку, зразумеў, што гэта маё пакліканне і пачаў працаваць у гэтым кірунку. Я не думаў ні пра што, толькі пра музыку. Думаў пра будучыню, але ніколі не будаваў планаў. Я ніколі ў жыцці не быў на дыскатэцы. У клуб я прыходжу толькі на працу: спяваць, зарабляць грошы. Але ад-

мыслова не хаджу туды адпачываць. Адпачываю ў храме Божым, молячыся. Гэта ёсць духоўны адпачынак. Адпачываю, сустракаючыся са сваімі сябрамі-інтэлектуаламі. Гутарым пра светабудову і на філасофскія тэмы.

**М.Я. —** ***А ці маеце захапленні, якімі пакуль ні з кім не дзяліліся публічна?***

**П.К.** — Прафесійна займаўся шахматамі і вялікім тэнісам. У свой час калекцыянаваў манеты і паштовыя маркі. У дзіцячыя гады ўдзельнічаў у тэалагічных конкурсах. Удзельнічаў у клубе гарадзенскіх інтэлектуалаў «Што? Дзе? Калі?»

## З усім светам.

**Пятро пасябраваў з усім светам. Думаю, гэта адбылося раней за працоўны перыяд на лайнеры, калі музыка абплыў увесь зямны шар. Пятро і зараз жыве шырока. У плане геапалітычным. Тыцне пальцам у вялізную мапу света, што вісіць удоўж сцяны ў хостэле, і адразу распавядзе пра краіну: якая тэрыторыя, сталіца, на якой мове гаворыць насельніцтва. Ды і сам Пятро сустракае пастаяльцаў хостэла на розных мовах. Англійская, польская, італьянская, беларуская, руская...**

**М.Я. —** ***Якія сцэны хочаце адкрыць для сябе? У якіх краінах марыце выступіць?***

**П.К.** — Ёсць прапанова выступіць у ЗША, таму мая мэта — гэта Злучаныя Штаты Амэрыкі (Пятро інтанацыйна выдзяляе літару «э» ў слове «Амэрыкі»). У Еўропе шмат дзе выступаў, але, канешне, хочацца яшчэ...

**М.Я. —** ***Хочаце адкрыць сучасную беларускую музыку для амерыканцаў, ці для беларусаў, якія жывуць у ЗША?***

**П.К.** — Для ўсіх. У мяне вялікія амбіцыі. Украінскі гурт «Акеан Эльзы» спявае паўсюль — ад Каліфорніі да Уладзівастока, папулярызуючы мову і культуру сваёй краіны. У мяне гэткая ж мара.

**М.Я. —** ***Якімі вобразнымі сродкамі Вы размаўляеце са сваім слухачом? Напрыклад, у літаратуры — гэта эпітэты, метафары, параўнанні... А як гучыць Ваша музыка?***

**П.К.** — Перш за ўсё, гэта гукі. Але і нотнае гучанне можа быць метафарычным. У гэтым сэнсе музыка вельмі блізкая да літаратуры. Кожная нота, танальнасць маюць сваю фарбу, свой колер. Я магу без словаў сказаць чалавеку пра тое, аб чым думаю. І ён мяне зразумее. Музыка такая рэч, што пра яе не трэба шмат казаць, яе трэба слухаць, альбо граць.

**М.Я. —** ***Акрамя музыкі Вы пішаце і тэксты?***

П.К. — Так. Вершаў не пішу, а менавіта тэксты. Бо для мяне верш — гэта вельмі сакральная з'ява. Сёння кожны можа назваць сябе «паэтам» ці «паэтэсай». Гэта прывяло да інфляцыя слова. Таму я вельмі адказна

стаўлюся да творчага працэсу і кажу, што пішу тэксты. Гэта мае асабістыя пачуцці і перажыванні. Вельмі суб'ектыўныя і інтымныя. З імі можна пагаджацца і не пагаджацца. Іх можна крытыкаваць, любіць, ненавідзець. Але гэта мае асабістыя думкі, якія я выказваю людзям. А мне ёсць што ім сказаць...

## У Сабе.

**У сабе. Сам з сабой. Пра сябе. Як ні кажы, а Пятро такі. Гэй, чалавеча, што носіш унутры? Гэтае пытанне можна нават і не задаваць Пятру. Ён сам раскажа. Не ўсім, канешне. Але раскажа. Пра асабістае так, быццам бы яно агульнанацыянальнае.**

**М.Я. — *Пятро, не баіцеся расказваць пра свае ўласныя перажыванні?***

**П.К.** — Не, таму што маё ўласнае, калі яно патрэбна мне, будзе патрэбна і іншым людзям. Гэта ўмова поспеху кожнага творцы.

**М. Я. — *Можа быць, гэта патрэбна Вашаму Эга, якое падрасло?***

**П.К.** — Ведаеце, у мяне няма раздвоенасці асобы. Маё Эга непадзельнае са мной. Мяне, хоць я і малады, дастаткова пабіла жыццё. Часта маёй грымёркай бывае поле альбо прыдарожныя кусты. Але гэта не бянтэжыць маё Эга. Эга павінна быць у кожнага чалавека, найперш, каб захаваць ягоны гонар.

**М.Я. — *У кожнага творцы ёсць сваё працоўнае месца, у пісьменніка, найчасцей, — стол. А ў Вас?***

**П.К.** — Гэта душ, гэта поле, гэта цягнік, гэта самалёт... Канешне, гэта раяль. Таксама музыка з'яўляецца ў маім сэрцы і ў розуме. Яна жыве ў мяне тут і тут (паказвае пальцамі). Таму я магу займацца з нотамі за раялем, магу займацца з нотамі без раяля, магу з раялем без нот і магу займацца музыкай без раяля і без нот. Магу напісаць музычны твор без музычнага інструмента, бо музыка жыве ў маім сэрцы.

## Для людзей.

**Пятро расказаў мне гісторыю пра цыганку ў Рыме, якая прасіла грошай. І ён даў ёй пяцьдзясят еўрацэнтаў. Якраз бы хапіла на малако і хлеб. Але тая выкінула грошы. Бо мала даў. А пасля Пятро расказаў пра менскую цыганку, якая прасіла грошы для малога. «Кашалёк у самога быў амаль пусты, а ёй аддаў апошняе... Таму што я добры». Прытым Пятро ніколькі не ганарыцца сваёй дабрынёй. З лёгкасцю аддае тое, што мае. Нехта скажа пра яго: Во дурань! Ды не! Разумны! Бо аддае, а яму яшчэ болей вяртаецца...**

**М.Я. — *Раскажыце, калі ласка, для якой аўдыторыі пішаце?***

**П.К.** — Я пішу для ўсіх. І для дзетак таксама. Калыханачкі ёсць. Напісаў калыханку для сваёй дачкі. Яна ёй вельмі падабаецца. Не маю права пасягаць

на «Спяць машыны ў гаражы» — гэта святое. Але, магчыма, хутка прапаную свае дзіцячыя творы на радыё ці тэлебачанне. А пакуль што сваю музыку тэстую на сваёй дачцы.

**М.Я. — *Яна ж малая зусім!***

**П.К.** — Ёй 14 месяцаў. Дзіцё не можа схаваць сваіх эмоцый. Дзіцё да трох гадочкаў вельмі праўдамоўнае, ніколі не хлусіць. Чалавек пачынае хлусіць з чатырохгадовага ўзросту. Казаў жа Хрыстос: «Будзьце, як дзеці, тады ўвойдзеце ў царства нябёснае». Таму калі дачцэ падабаецца мая музыка, то яна спадабаецца і шырокай аўдыторыі. Гэта мая тэорыя, якая працуе.

**М.Я. — *Над чым зараз працуеце?***

**П.К.** — Пішу музыку да шведскага мастацкага фільма. Гэта будзе малабюджэтны, але цікавы праект. Скончыў пісаць музыку да фільма Ягора Сурскага

*Размова з Богам*



«Артрэпатрыяцыя». Больш за год працую над сваёй кружэлкай, гэта вельмі цяжкая і карпатлівая праца. Ужо запісана ўсё, аднак ёсць нюансы з мастэрынгам — звядзеннем трэкаў. Паралельна з усім гэтым працую над сваёй аўтарскай акустычнай праграмай. Менавіта раяль і вакал. Пачалася шырокамаштабная праца над операй «Гостэл». Ягор Сурскі працуе над тэкстам, я над музыкай.

**М.Я. —** ***Вы чалавек з гумарам! Здольны на сур'ёзныя развагі і на вясёлыя ўчынкі?***

**П.К.** — Часам ладжу арт-перфомансы. Нават раблю візіты ў Еўропу на розныя культурніцкія фестывалі.

## З Богам.

**Самая першая размова з Пятром. Знаёмства. Яно адбылося зімой. Якраз пасля святкавання Новага 2012 года, калі і адкрыўся хостэл «Sky» (на Леаніда Бяды, 2Б). Гутарылі некалькі гадзін. Сядзелі за сталом і пілі добрую чорную гарбату са Швецыі. Пятро проста ахвяраваў для хостэла можа цэлы кілаграм! Вялізны папяровы пачак. Дык вось. Мы сядзелі за сталом і гутарылі пра Бога. Перабраўшы свецкія тэмы, Пятро закрануў пытанне рэлігіі. Яго маналог (а я толькі і змагла, што ўважліва слухаць, не перабіваць) ліўся ў прастору і было радасна. Тады я зразумела, што хлопец гэты не так сабе, з прасветленым і жывым розумам. Так мы і пасябравалі.**

**М.Я. —** ***Размаўляючы на філасофскія тэмы, бачу ў Вашым позірку сумны настрой. З чым гэта звязана?***

**П.К.** — Ну так. Сумны настрой, бо цяжкі этап у жыцці. Шмат праблем, клопатаў, зваліліся некаторыя абавязкі праз пэўныя абставіны. У мінулым годзе страціў маці. Я ўсцешаны, што ёсць штодзённыя праблемы, бо без іх жыццё не было б такім цікавым. Адначасова гэтыя праблемы і турботы трошкі наводзяць на сум. Але гэты сум дапамагае мне шмат пісаць. Пачаўся вельмі плённы перыяд. Парадаксальна. Але чым цяжэй, тым лепей ідзе праца. Калі ўсё даецца лёгка, то праца таксама ідзе, але ідзе па-іншаму...

**М.Я. —** ***Памятаю Вы гралі на піяніна і сказалі, што праз музыку размаўляеце з Богам. Ці можаце словамі растлумачыць гэты працэс?***

**П.К.** — Словамі цяжка патлумачыць, але за інструментам я магу зрабіць тое, чаго не магу зрабіць у рэальным жыцці. Я магу лятаць, я магу плыць, я магу быць на дне Марыянскай упадзіны, я магу быць у Гімалайскіх гарах, я магу быць на возеры Ціцікака, альбо ў Цэнтральнай Амерыцы. Я магу проста падарожнічаць. Гэта своеасаблівы духоўны палёт. Так, калі я чую музыку, то бачу доказ існавання Бога, ці сілу прыроды, сілу Космасу. Якімі б словамі не назваў, сутнасць застаецца тая ж. Але я веру ў існаванне магутнай энергіі, якая нас аберагае, якая нас любіць, якая нас стварыла. І калі я чую

музыку — твор мастацтва, створаны чалавекам, я не веру ў тое, што чалавек узнік ад малпы. Цікава тое, што колькі існуе чалавецтва, столькі існуе і музыка: рытмы, мелодыі. І гэта наша найлепшае адкрыццё, якім мы можам ганарыцца.

**М.Я. —** ***Пачуўшы Вашыя развагі, я б сказала, што Вы едныя з Богам і з Сусветам.***

**П.К.** — Не тое што едны, але імкнуся да еднасці. Я чалавек грэшны. У мяне шмат заганаў. Ведаеце, кажуць: «Бог мяне пакінуў». Не-не, кажу я, гэта ты пакінуў Бога. Я не веру ў тое, што Бог нас пакідае. Гэта мы яго пакідаем праз нашыя ўчынкі. А людзі такія эгаісты, ніколі не прызнаюць сваю віну. Я заўсёды прызнаю. І прашу прабачэння, хоць пакуль што далёкі ад ідэала чалавек...

## За працу!

**Беларускамоўны хостэл «Sky». Чутно Пятро прачнуўся і спяшаецца па прыступках уніз, на кухню, дзе стаіць яго інструмент. Басанож. У халаце. Бачна — стомлены і з кудлатай галавой (напэўна, грабеньчыка ў яго ўсё ж такі няма). Якая б маці не сказала, убачыўшы такога хлопца: «Ах, ты нягоднік!» Аднак! Чалавек толькі раніцаю вярнуўся з працы. На хуткую руку паспаў (таму што не толькі есці можна на хуткую руку), прачнуўся на працы (бо ў хостэле) і зноўку бяжыць на працу (на студыю рэпітаваць ці даваць урокі музыкі сваім вучням).**

**М.Я. —** ***Пятро, чаму вырашылі заняцца менавіта такім бізнэсам?***

**П.К.** — Калі жыў у Рыме, звярнуў увагу на тое, што ў Беларусь людзі едуць. Не так шмат, як я меркаваў, але ўсё адно — едуць. А ў Мінску на той час быў толькі адзін хостэл. І я ўбачыў у гэтым перспектыву. Музыкай таксама можна зарабіць. Цяжка, але можна.

**М.Я. —** ***Хто хоча зарабіць, той павінен працаваць. Які ў вас працоўны графік?***

**П.К.** — Вельмі непрадказальны і складаны. Мой працоўны дзень пачынаецца ноччу, у 10 ці 11 гадзін вечара, калі я прыязджаю ў клуб, ці які-небудзь рэстаран. Спяваю свае аўтарскія песні, таксама вядомых Red Hot Chili Papers, Сцінга, Джо Кокера, Элтана Джона, Майкла Болтана...

**М.Я. —** ***Дзе ў Мінску можна пачуць вашыя выступы?***

**П.К.** — Гэта «Jack club», «Terra Pizza», «Арка», «Falcone», часам «Госці».

**М.Я. —** ***Калі пачалі пералічаць вядомых музыкантаў, у мяне ўзнікла пытанне: з кім бы Вы хацелі выступіць?***

**П.К.** — З усімі! Ды не, жартую, канешне (Смяецца).

***М.Я. — Усіх разам сабраць на адной сцэне?***

**П.К.** — Гэта было б цудоўна. Як Павароці, які праводзіў канцэрт усіх зорак. Гэта было проста фантастычна. Мараў шмат, канешне. Мару праспя-

ваць разам са Сцінгам. Ён мне вельмі блізкі. Нават кажуць, што мы знешне падобныя. Аднойчы мне пашчасціла пацiснуць гэтаму артысту руку і засталіся толькі пазітыўныя ўражанні. А наогул, артыст — гэта паяц... Ён прымушае людзей хвалявацца, смяяцца і плакаць. Ён служыць людзям. Ён — слуга. Калісьці Хрыстос мыў ногі сваім вучням. Гэта вельмі важны сімвал тайнай вячэры. Таксама і мы, музыкі, павінны гэтаму вучыцца ў Госпада. Вучыцца слугаваць людзям...

**Марына Яўсейчык**



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# «Генерал Свабоды», або У кожнага свой Касцюшка...

Касцюшкаўскі мастацка-літаратурны цыкл у малафарматнай беларускай прозе ўключае лірычныя нарысы Яраслава Пархуты пра малую радзіму кіраўнікоў паўстання Расціслава і Анатоля Бензярукоў, пра апошнія імгненні жыцця героя, эсэ Уладзіміра Арлова «Тадэвуш Касцюшка» з цыклу «Імёны свабоды», а таксама біяграфічную замалёўку Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа «Генерал Свабоды».

Я. Пархута адным з першых, яшчэ за савецкім часам, загаварыў пра веліч асобы Тадэвуша Касцюшкі. У нарысе «Пара жытняй спеласці», які асноўную ўвагу зварочвае на мясцовасць, дзе нарадзіўся герой, аўтар ні менш, ні больш адзначае: «Тадэвуш Касцюшка горда пранёс праз жыццё сцяг Чалавека»[1].

У другім сваім нарысе Я. Пархута апавядае, як выглядаюць мясціны касцюшкаўскага маленства зараз (публікацыя пабачыла свет у 1989 г.[2], калі ішлі працэсы сацыяльнай трансфармацыі і абуджалася гістарычная памяць пасля доўгага літаргічна-савецкага сну), як ушанавана на Беларусі яго імя, а таксама, што памятаюць людзі пра свайго земляка, і якія сляды засталіся пасля яго, якія мясціны, будынкі, прадметы былі сведкамі момантаў жыцця Тадэвуша Касцюшкі, прыадкрываючы адначасова штрыхі біяграфіі героя, чыё жыццё аўтар «лічыў драмай Чалавека з вялікай літары»[3].

Я. Пархута не пазбягае выражэння і сваіх асабістых адносін да гістарычнай постаці, якая ў савецкіх гісторыкаў не выклікала піітэту: «Я ганарыўся ім бязмежна. Чалавек столькі хацеў зрабіць для простага люду!..»[4] І гэта ў той час, калі, як прызнаецца далей тут жа сам аўтар, яму раілі яго ж землякі: «Ты лепш пра Сталіна думай!..»[5] Я. Пархута прывязвае такім чынам свой аповед да часоў «культу асобы», калі сапраўды за гераізацыю пяератыўных для саветаў індывідуумаў маглі абвінаваціць ва ўсіх смяротных грахах.

«Увесь час я задаваў сабе такое пытанне: а ці ёсць у нас хоць невялікі помнічак Тадэвушу Касцюшку? На яго радзіме, у Марачоўшчыне, не было. Не было ў суседнім Косаве. Не было ў Івацэвічах, райцэнтры. Нідзе — ні вуліцы, ні калгаса, ні школы, ні бібліятэкі, каб насілі імя гэтага чалавека. Адшукаў толькі адзін-адзіны знак у гонар слыннага сына зямлі нашай — на Смаргоншчыне, у Залессі, колішняй сялібе вядомага ўсяму свету кампазітара, аўтара паланеза

---

1 Пархута Я.С. Жаваранак над полем. (Эцюды роднага краю). Мінск: Ураджай, 1985. С. 69.

2 Пархута Я. На земле отцов наших. Гора Шибельная // Неман, 1989, № 5. С. 136-148.

3 Пархута Я. Крыніца ёсць у родным краі...: Кн. падарожжаў / Маст. А.У. Александровіч. Мінск: Полымя, 1992. С. 222.

4 Ibidem.

5 Ibidem. С. 224.



«Развітанне з радзімай» Міхала Агінскага (дарэчы, паплечніка Касцюшкі). Дык вось. Той знак — у старым парку Агінскага, паблізу рачулкі. Звычайны валун, толькі вялікіх памераў. На ім высечана: «Ценям Касцюшкі»»[6].

Інтанацыі аповеду далёка не аптымістычныя, таму што падстаў для радасных пачуццяў няма. Час няўмольна сцірае ўсё, што нагадвала пра славутага земляка. Да таго ж гэтаму працэсу спрыяюць самі людзі, на першы план у якіх выступаюць не духоўныя, а матэрыяльныя каштоўнасці. Так, некалі на гары Шыбельнай дзед Іван паказаў пісьменніку абразок, які ўрос у сасну, — знак памяці пра забітых там інсургентаў, паслядоўнікаў Касцюшкі па антырасійскай барацьбе — паўстанцаў 1863 г. Такіх сосен навокал стаяла нямала. Ужо ў канцы 1980-х гг. не было тых магутных сосен-помнікаў: іх пусцілі на будзённыя гаспадарчыя патрэбы — на паліва. З часам збылося прароцтва дзеда: «Аднак, жывіцай заплывуць раны, паўміраюць старыя, і памяць аб убіенных памрэ». Праўда, далей дзед, падумаўшы, дадае: «аднак, мо і не памрэ памяць... На тое яна і памяць — каб помніць ...»[7] Усё ж горкай метафарычнай канстатацыяй заканчвае Я. Пархута свой нарыс: «Спалілі памяць»[8]. І хоць сказана ў «Кнізе Эклізіаста», што «няма памяці пра былое; ды і пра тое, што будзе не застанецца згадкі між тымі, што прыйдуць пасля» (верш 1:11, пераклад В. Сёмухі), узнікае балючае пытанне: «Ці не зарана?» І толькі на парозе новага тысячагоддзя, нібы схамянуўшыся, беларусы пачалі больш уважліва адносіцца да ўвекавечвання памяці пра Т. Касцюшку, што стала годным адказам на скрушлівы папрок Я. Пархуты. Тым не менш да належнага ўшанавання героя на радзіме яшчэ далёка.

---

6 Ibidem. С. 224-225.

7 Ibidem. С. 230.

8 Ibidem. С. 231.

Лірычныя радкі нарыса земляка героя двух кантынентаў (а Я. Пархута нарадзіўся за тры кіламетры ад марачоўшчынскага гнязда Касцюшак) прасякнуты суб'ектыўнасцю. І нядзіўна. Аўтар апавядае пра асабістае ўспрыманне Касцюшкі. Але ў гэтай суб'ектыўнасці — шчырасць, якую прынята называць гранічнай, і якая абумоўлівае нестарэючую вартасць падобных твораў.

Берасцейцы Расціслаў і Анатоль Бензярукі апафеозам свайго нарыса «Успамін пра Радзіму» робяць мастацкі пасаж, быццам сам Касцюшка напрыканцы жыццёвага шляху дапускаў, што людзі забудуцца на яго імя, бо «дзякаваць можна, калі заваявана свабода, а калі толькі рабства і краты... то не патрэбна такая вайна і такі герой!»[9]. Але ў вусны княгіні Любамірскай (у дзявоцтве Людвікі Сасноўскай, каханне Тадэвуша) укладаюць перакананне яго ў адваротным: «Прыйдзе, Тадэвушу, час незалежнасці тваёй Радзімы. І тады ўсе ўспомняць твае пакуты і надзеі. Бо так, як ты любіў гэту зямлю, ніхто іншы не любіў. Людзі згадаюць твой лозунг «За вольнасць вашу і нашу», успомняць, што і ў самыя цяжкія хвіліны ты называў сябе ліцвінам».

— Ну і добра. Больш для мяне нічога і не трэба, — ціха прамовіў хворы і на змучаным ягоным твары запалілася ўсмешка[10].

Такім чынам, светлая памяць — не столькі пра яго самога, колькі пра каштоўнасці, за якія змагаўся герой, — была для яго найвышэйшай вартасцю, якая напаўняла сэнсам не толькі яго асабістае жыццё, але і ўсю гісторыю шматпакутнага народа. Такую паважную да сусветна значнай фігуры ліцвіна выснову можна і варта зрабіць з падачы берасцейскіх касцюшказнаўцаў Бензерукоў.

З іншага боку на постаць гістарычнага героя прапануе паглядзець вядомы беларускі пісьменнік-гісторык У. Арлоў: «Мы звыклі ўспрымаць яго забранзавелым і кананізаваным. А мне Касцюшка падабаецца як рамантычны каханак і авантурнік. Каб ня гэтыя якасці, хто ведае, ці стаў бы ён нацыянальным героем Беларусі, Польшчы і ЗША і ганаровым грамадзянінам Францыі...»[11] Відавочна перад аўтарам стаяла задача стварэння эсэ лаканічнага і пры гэтым змястоўнага. Выдзяляючы з такой прычыны галоўныя моманты слаўнага жыцця героя, У. Арлоў на першае месца ставіць пачуццё кахання. Наколькі яно было моцным, можна меркаваць па тым, якім штуршком пачуццё стала для далейшага развіцця падзей у лёсе і самога Касцюшкі і свету ўвогуле. Канешне, сучасны беларускі аўтар падкрэслівае патрыятызм свайго земляка і спадзяец-

9 Бензярук, Р.М. Сорак дарог / Расціслаў і Анатоль Бензярукі. Брэст : Альтэрнатива, 2007. С. 127.

10 Ibidem. С. 128

11 Арлоў У. Імёны свабоды. (Бібліятэка. Свабоды. XXI стагодзьдзе.) Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2007. С. 16. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://kamunikat.net/kataloheedc.html?lang=EN&pub_start=450&pubid=2861. Дата доступу: 13.01.2012. . Падобнымі матывамі напоўнены інтанацыі яшчэ аднаго – аўдыёнарыса – У. Арлова: Арлоў У. Тадэвуш Касьцюшка // Паўстанцы. Гістарычныя эсэ. Менск: БелТонМедыа, 2008 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://kamunikat.net/kataloheedc.html?lang=EN&pub_start=450&pubid=11488. Дата доступу: 13.01.2012.



Музей-сядзіба Т. Касцюшкі

ца, што імя героя атрымае ўрэшце належнае ўшанаванне на радзіме. Як і ў папярэдніх двух разгледжаных нарысах, фактычна гаворыцца пра праблему гістарычнай памяці беларускага народа, у якой старонка жыццядзейнасці Тадэвуша Касцюшкі павінна заняць «свой пачэсны пасад».

На тую ж гістарычную памяць, але з іншымі акцэнтамі, скіраваны нарыс І. Масляніцынай і М. Багадзяжа «Генерал Свабоды»[12]. Сама назва гаворыць, што лейтматывам аповеду з'яўляецца дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі ў імя волі — народаў у цэлым і кожнага чалавека ў прыватнасці. У гэтым аспекце лаканічна акрэсліваецца зямны шлях героя двух кантынентаў, які тым не менш застаўся патрыётам той зямлі, што пусціла яго ў свет.

Шэраг сачыненняў пра знакамітага земляка быў прадстаўлены школьнікамі на конкурс грамадскага аб'яднання «Бацькаўшчына» у 2004 г. Лепшыя ўвайшлі ў друкаванае выданне «Нашчадкі змагарнай славы: Сачыненні пераможцаў дзіцячага конкурсу» (2004)[13]. Розныя па сваім фармаце, мастацкім узроўні і ступені творчасці работы, аднак, дазваляюць меркаваць, што моладзь Беларусі ведае герояў сваёй гісторыі і належным чынам шануе іх. Пералічым гэтых аўтараў:

1. Аляксандр Паліўка (12 гадоў, г. Іванава Брэсцкай вобл.),
2. Аліна Шмідава (13 гадоў, в. Паўлавічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.),

---

12 Масляніцына І., Багадзяж Ж. Генерал Свабоды // ЛіМ, 2011, 29 красавіка. С. 13.

13 Нашчадкі змагарнай славы: Сачыненні пераможцаў дзіцячага конкурсу / МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Мінск: Бел. кнігазбор, 2004. 168 с.

3. Іван Глыбоўскі (13 гадоў, г. Рэчыца Гомельскай вобл.),
4. Павел Корсак (14 гадоў, в. Ломашы Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.),
5. Данута Зайкоўская (14 гадоў, г. Мінск),
6. Максім Жук (15 гадоў, г. Баранавічы Брэсцкай вобл.),
7. Надзея Карпейчык (15 гадоў, в. Старыя Паддубы Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл.).

Гэты спіс — лепшае сведчанне таго, што ўжо з дзясятак гадоў, як у беларускі гуманітарны дыскурс трывала ўпісана імя Тадэвуша Касцюшкі, асэнсаваны яго дзеі і ідэалы.

Эсэ, нарысы пра Касцюшку беларускіх аўтараў атрымліваюцца дужа стракатымі. У кожнага — «свой» Касцюшка. Герой, убачаны праз асабістую прызму, кшталтаваную, пэўна, узростам, адукацыяй, геаграфіяй жыццёвых шляхоў... У той жа час ва ўспрыманні ёсць і агульнасць: у кожнага з аўтараў знакаміты ліцвін не толькі «свой», але і «наш», беларускі. Пры гэтым аўтары не адбіраюць героя ў іншых народаў: Касцюшкі, маштаб дзейнасці якога глабальны, хопіць на ўсіх.

**P.S.**

Гэтай публікацыяй імкнёмся таксама нагадаць, што ў наступным годзе грамадскасць Беларусі і яе суседзяў прычакае высокі юбілей — 220 угодкі паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых прац, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997 г.), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» (2002 г.), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2010 г.) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# Пад таямнічым знакам Паэзіі

Знаная беластоцкая пісьменніца Міра Лукша адзначае ў сёлетнім лістападзе сваю чарговую круглую дату. Яна вядомая найперш як празаік, аўтарка некалькіх цікавых кнігаў («Дзікі птах верабей», «Выспа», «Бабскія гісторыі», «Дзяўчынка і хмарка», «Гісторыі з белага свету»), у якіх вядзе чытача ў свет жыцця роднай Беласточчыны, што няспынна змяняе свой воблік, знікае, саступаючы новым парадкам. Знаная яна і як паэтка (зборнікі «Замова», «Ёсць», «Wiersze tutejsze», «Жывінкі з глыбінкі»), што ўжо з самага пачатку творчасці шукала свой адметны шлях.

Апошняя паэтычная кніга «Пад знакам Скарпіёна» — гэта новая старонка творчасці беластоцкай аўтаркі, у якой відавочны мудры погляд на свет Асобы, што, аднак, не растраціла на жыццёвых сцежках умення слухаць няўлоўныя шолахі, заўважаць ледзь відочныя зрухі. Рэцэнзуючы гэтую кнігу, Сяргей Чыгрын гаворыць пра «імкненне да цэласнасці», калі «на першы план выступае цэласнасць светаадчування, характару, якая вызначае напрамак таленту, яго развіццё. У чытацкім уяўленні вершы Міры Лукшы — гэта паэзія захапленняў, вобразаў, параўнанняў, настальгіі і жыцця» [1]. Якраз «імкнення» ў паэзіі Міры Лукшы і няма, бо выразна адчувальная ўжо дасягнутая цэласнасць. На жаль, у прыведзенай цытаце сустракаем і нейкае недарэчнае «напластаванне»: «паэзія... вобразаў, ... настальгіі». Ці бывае паэзія без вобразаў? Няма ў гэтай лірычнай кнізе і матыву настальгіі. Бо па чым?

У назву кнігі вынесены вобраз сузор'я, пад якім узышла беластоцкая паэтка. Скарпіён — знак таямнічы. Мо таму і вобразнасць паэзіі Міры Лукшы таксама надзвычай загадкавая, напоўненая складанай сімволікай. Народжаныя пад гэтым знакам асобы яркія, артыстычныя, эмацыйныя, максімалістычныя, якія не прызнаюць кампрамісаў. Для назвы гэты вобраз прапанаваў рэдактар Ян Чыквін. Выдатны выбар! І выдатная, вельмі далікатная праца рэдактара, якую ўвесь час заўважаю, маючы магчымасць параўноўваць першапачатковы аўтарскі тэкст і кніжны варыянт.

Верш «Скарпіён — сузор'е людзей...» уяўляе сабой паэтычную версію пра народжаных пад гэтым таямнічым знакам асобаў, якія «па зярнятку ўзыходзяць, // ў адным месцы на нашай планеце // невялікай і ў розны час». Яны ададзеныя Слову, дужыя, бо ўзышлі з дна недасяжнага сённяшняй рэальнасці нашага міфалагічнага беларускага мора, умацаваўшы свае карані ў зямных глыбінях, штоGразу сілкуюцца крэўнай повяззю з іх валадаром — Скарпіёнам. Бо іх

*пояць кроплі чырвоныя,*
*якія Скарпіён з грудзей сваіх выціскае,*
*і белыя слёзы,*
*якія па кроплі сочыць мора*
*пад стомленай зямлёй беларускай* [2, с. 53].

Першы раздзел «На руінах свету» акрэслівае абсягі лірычнага дзеяння: бязмежнасць і бяздомнасць, ненадзейная (бо ж на руінах) прытульнасць, повязь з мінулым, спадчынным, ад якога засталіся тыя ж руіны. Выжыць, утрымацца ў гэтым ненадзейным, разбураным свеце дапамагае адчуванне роднае глебы, вера ў дабрыню, любоў, каханне.

У зачынным вершы выразна гучыць матыў роднасці з падляшскім краем. Яна не выказваецца гучнымі словамі прызнання, а перададзена праз пяшчотныя спавядальныя інтанацыі, калі відавочна суладнае суіснаванне блізкіх, зродненых любоўю і вернасцю гэтай зямлі душаў:

*Мая душа гаворыць з вашай*
*у белай хмары над Падляшшам*

*звілі гняздзечкі ў зорным голлі*
*не адляцяць адсюль ніколі* [2, с. 7]

«Надзіва выразна, поўна, хараша раскрываецца лірычная гераіня Міры Лукшы «у прыродзе», на яе фоне, у адчуванні яе харастве, у сваёй душэўнай светласці, дабраце, паэтычнасці, у няўрымслівасці і ў рамантычнасці» [1], — хораша піша Сяргей Чыгрын пра адметнасць успрыняцця свету прыроды ў вершах паэткі. Але няўрымслівасць, ізноў жа, не адпавядае характару, створанаму аўтаркай, бо ў аснове яго — спакойнае сузіранне, што вырастае да сцішана-малітоўнага стану:

*Ціха ў вянок плятуцца арэшнік, валошкі, рамонкі.*
*Касачы залатыя галовы палошчуць у прамені.*
*Корань дуба звязвае моцна глебу роднай старонкі.*
*Птушка кранае крылом чало чалавека ў маленні* [2, с. 7].

Надзвычай часта гучыць у лірыцы беластоцкай паэткі матыў пераўвасаблення асобы праз адчуванне блізкасці, тоеснасці з усім існым. Верш «Ці трэба слоў салому...» навеяны сузіраннем акіяну, для творцы не абавязкова непасрэдным, сыходам у ягоныя глыбіні, імкненнем пазнаць таямніцы гэтага магутнага асілка, ягоныя мары. А яны тыя ж, што ва ўсяго жывога: «пераліцца цераз край», уздымаючы хвалю за хваляй, каб растварыцца ў іншай стыхіі. Так і чалавек-творца ў заўсёдным часава-прасторавым палёце знаходзіць сябе ў розных існасцях, адкрывае сябе праз аднолькавую далучанасць да вялікага і таго, што на першы погляд выдае нікчэмным:

*У россыпе хваль і хвіль*
*знаходжу сябе зоркай,*
*каменьчыкам,*
*смакам жыцця жыхара ракавінкі,*
*самотай гары і мікроба,*
*якімі ты ёсць і будзеш* [2, с. 14].

Адметнасць гэтага матыву ў тым, што перакрыжаванасць часава-прасторавых межаў, іх расцягнутасць у бясконцасць заўсёды ўспрымаюцца паэткай

праз суаднесенасць з чалавечым лёсам, ягонай далучанасцю да гэтых маштабных працэсаў вечнага руху, пастаяннага пераходу ў іншыя станы, перараджэння ў іншыя воблікі, калі траціцца адчуванне саматоеснасці, прысутнасці ў пэўным часе і канкрэтнай прасторы:

*Мая прастора — у часе,*
*які не мае мяжы.*
*Таму старасць стагоддзяў*
*зацягвае мне душу*
*халоднай смугой золку,*
*і я там цяпер, ды — не я,*
*а цяжар рук чыіхсьці*
*ляжыць на маіх плячах* [2, с. 28].

Аднак адчування неўладкаванасці, трагічнай дысгармоніі не ўзнікае, бо гэты «цяжар рук чыіхсьці» няздольны не тое што сагнуць, а нават збянтэжыць: занадта вялікія часава-прасторавыя маштабы лірычнага дзеяння і асоба, упісаная ў гэты кантэкст, мусіць быць адпаведнай, моцнай, вытрывалай, што не гнецца ні ад якога цяжару.

У вершы «Нап'юся я слёз травы...» творцы дадзена магчымасць угледзець незвычайнае, калі праз далучанасць да ўсяго існага, успрынятага як не меней жывое і істотнае за чалавечае, адкрываюцца знакі-сутнасці, што праступаюць часам ад нечакана-адваротнага:

*Нап'юся я слёз травы,*
*Выплачу іх у хмарах,*
*Пагрэюся дрэвам жывым*
*У полымі не пажару...* [2, с. 30]

Тут паэткай убачаны незвычайны вырай — выток усяго, што з'явілася ў свеце і адначасна ягоны фінал, куды смела лятуць акрыленыя, якім ужо адкрыты шлях, і імкнуцца трапіць іншыя, што бачаць рэчаіснасць з вышыні паднебнай, мо з вяршыні сусветнага дрэва, што даўно перараслі штодзённасць і напоўніліся марай пра незвычайнае:

*... ў бляску лістоў сырых*
*І гарачых крывёю мараў*
*Дрэва — ўстаць і пайсці туды,*
*Скуль выходзяць рэкі і хмары,*
*Куды птушкі дарогу трымаюць:*
*У вятры, у каменне, у гады* [2, с. 30].

А шлях гэты і сапраўды незвычайны, бо насычаны неспалучальнымі з'явамі. А да ўсяго і рознавектарны: у неспакойную паветраную стыхію (вятры), у спрэсаваную цвёрдую маўклівую зацятасць (каменне), калі ў невядома якім напрамку (у мінулае ці будучае) скіраваны час (гады).

Нельга сцвярджаць, што інтымныя матывы таксама вытрыманы ў такім жа сузіральна-ўзвышаным плане. Ёсць тут і характэрныя жаночай паэзіі эмацый-

ныя надрывы, калі наступае развітанне, якое раніць вельмі балюча. Не без адчаю перажываецца згадка пра ростань у некаторых іншых вершах: «З гарачай прасціны скаціўся...», «Я цябе аддаю...», калі не атрымоўваецца жанчыне проста перажыць-перадумаць, мудра разважыўшы, спакойна перагарнуць гэтую старонку жыцця:

*...Не буду казаць,*
*Што без болю.*
*Лепш выламаць краты,*
*Волю выбраць. Не браць нічагуткі,*
*Калі нават без ботаў, па снезе...* [2, с. 9]

Гэта ўсё ж лепш, чым «па вастрыі ляза», па якім неаднойчы праходзілі лірычныя гераіні нашых паэтак, зраніўшы сэрцы. Але калі стае сілаў «волю выбраць», то цалкам лагічна пераадоленне болю праз яшчэ ўсё журботны, але ўжо ўзвышана-прасветлены настрой, што ствараецца далікатна-пяшчотнай мелодыяй і шляхетна-вытанчанчанымі рухамі паланезу:

*Вольным крокам пайду ў паланезе,*
*Танцы нашым. У той лістапад,*
*Калі словы замерзлі ў лістоце,*
*Ліставею лістоў непасланых...* [2, с. 9]

Болева-трагедыйны матыў страты злагоджваецца і праз таленавітае выкарыстанне паэткай гукапісных сродкаў мовы, калі ў гукавым малюнку паэтычнага радка дамінуе ласкавы **л** і мяккі **л**, што пераплецены самотна-светлым **с** і прыглушана-сцішаным **т**. Паэтычныя гукавыя паўторы не абцяжарваюць гучанне верша, а спрыяюць ягонай лёгкасці, стварэнню светлага, меладычнага настрою.

У вершах філасофскага складу, а іх большасць у кнізе, пануе засяроджанасць, позірк на жыццё зверху, здалёку, што лагічна вядзе да стану, калі абвастраецца душэўная чуйнасць чалавека, і ён здольны ўбачыць недасяжнае звычайнаму зроку, пачуць няўлоўнае звычайнаму слыху. Дасягнуць узроўню светаўспрыняцця небажыхароў:

*Чую — між намі важка анёл праляцеў*
*і ў нашых скронях веюць пёры яго крылаў.*
*А жылы на руках, як голькі старых дрэў,*
*што нерухома спеляць думкі пра магілу* [2, с. 10].

Вобраз магілы таксама пазбаўлены жалобнага, трагічнага сэнсу, ён успрымаецца як натуральны сімвал памежнага стану, пераходу ў новую рэальнасць-ірэальнасць, фонам якому цішыня, што ёсць адначасна і самадастатковай, напоўненай сэнсам з'явай, якая патрабуе далікатнага абыходжання і ледзьве не стварэння культу, каб не парушыць яе значнасць і веліч. Вось ужо сапраўды: маўчанне больш сэнсава ёмістае, чым прамоўленае слова, нават самае пяшчотнае, якое ў такія хвіліны не можа не прагучаць дысанансам, фальшывай нотай на фоне велічна-вечнага спакою:



*Міра Лукша*

*Яна ёсць мэта і — прыступка ў новае жыццё...*
*Пра гэта мы не скажам, каб не сказіць цішу.*
*Ці маем час мы сёння, каб сказаць пра ўсё?*
*Спакойна вецер вечны наш уздых калыша* [2, с. 10].

Сутыкненне на блізкай паэтычнай прасторы паняццяў час і вечнасць бачыцца невыпадковым. Першае — час, тое, што дадзена чалавеку звыш, бо жывем мы ў пэўным часе, сёння, залежым ад яго і адначасна яго ніколі не маем, бо ён няўлоўны, ён няспынны. Другое — вечнасць, якая не можа быць

нават прыблізна ўсвядомленай чалавекам, бо яна па-за ягоным досведам, яна належыць тым, хто не падуладны часу: ветру, анёлу, таму ж сусветнаму дрэву.

Творы, што ўвайшлі ў кнігу, вызначаюцца надзвычайнай разнастайнасцю страфічнай будовы, рытміка-інтанацыйнага складу, адметнай рыфматворчасцю. Да прыкладу, верш «Белы сток» пабудаваны на незвычайным шчапленні рыфмаў, што напластоўваюцца, пераліваюцца, перацякаюць у наступныя словы-сэнсы. Так «збудаваныя» і вершы «Нарва», «Па руінах свету», «Прастора», «Луг», «Людзі лістападаў» і інш. На першы погляд, ствараецца ўражанне лёгкаважкай гульні словаў, якая, аднак, гульнёю не ёсць, бо не дзеля гукавой шліфоўкі радка скарыстана, а напоўнена глыбінным сэнсам: праз сэрца лірычнае гераіні працякае гэты белы сток, прапускаецца праз яе памяць, праз яе пачатак, праз яе жаночую долю ад самага прыходу ў гэты свет. Само паняцце «сток», што ляжыць у аснове тапоніма Беласток і мае некалькі значэнняў, звязаных з рухам вады, пераносіцца на лёс лірычнай гераіні, на яе рух-шлях з нябыту, чорнага сну, праз ачышчэнне-хрышчэнне да новага жыцця, якое багата не толькі на радасць, роднасць, але і на раны. Лекам ад іх — тая ж вада, белы сток, а яшчэ гаючае слова, якое таксама плыве і здольна замовіць боль:

*з белай раны выплываю*
*белым патокам*
*абмываю сябе з чорнага сну*
*выпалоскваю*
*замоваю*
*замаўляюся*
*замываюся*
*займаюся нямею*
*я... паранілася...*
*парадніласся была з ранкам* [2, с. 12].

Вобраз дому прысутны ў многіх творах кнігі. Зразумела, што напоўнены ён рознымі сэнсамі. Найперш гэта радзінная хата ў якасці эпізадычнага ў вершы «Дарога» і галоўнага ў вершы «Дом», дзе ён паўстае як прытулак сям'і, што ўзведзены гаспадаром на надзейнай аснове, з любоўю дагледжаны гаспадыняй. Выконваў не толькі функцыю ўтылітарную, але і эстэтычную:

*дом на каменным падмурку*
*у вянку цёмна-сініх ірысаў*
*з бярвенняў*
*што плакалі залатой жывіцай* [2, с. 16].

Збудаваны з жывога дрэва, ён і сам быў жывым арганізмам, патрэбным, калі кожны закутак у ім меў сваё прызначэнне, як тое ж гарышча, што звычайна ператваралася ў схоў для аджылых рэчаў, што, аднак, часта перажывалі сваіх гаспадароў.

У вершы «Краявід» дом выступае сімвалам яднання пакаленняў, узгадаваных пад ягоным дахам. Душа ягоная — Анёл, які ўвасабляецца ў вобліках розных асобаў (старога дзеда, немаўляці), што калісьці жылі тут. Функцыя гэтага дому — захаванне памяці роду, слядоў мінулых пакаленняў:

*Парог праціраe, як вочы, сляды тых, што ступалі*
*І сучкі прыступак лічыць, бы каралі,*
*Бы чоткі перабірае, ніжа пакаленні,*
*Губляецца ў ліках, ды часу не зменіць* [2, с. 24].

У вершы «Сівы чалавек у гарнцу...» Мірай Лукшай створаны незвычайны вобраз дому, насычаны складанай сімволікай. Ён увасабляе сабою дасягнутае праз няпростыя духоўныя высілкі асобай, што бясконца шукае сваё месца, што стварае свой дом, падтрымліваючы ў ім дадзены звыш агмень святла, цяпла, дабрыні і любові. А гэта вельмі няпроста, бо дом збудаваны «на скрыжаванні дарог і вятроў», а вятры бываюць розныя: знішчальныя і тыя, што падтрымліваюць гарэнне душы. Але і яны далёка не злагоджваюць чалавечае існаванне, не даюць супачыць на дасягнутым, а патрабуюць ад асобы адпаведнай здольнасці ўздымацца і ляцець, гарэць і дасягаць вяршыняў:

*адзін вецер дзьме і агонь гасне*
*другі — акрыляе полымя*
*і яно расце ў пажар*
*а ён прагна корміцца тым*
*што ў мяне варушыцца ў грудзях*
*і я ў полымі ўзлятаю над домам* [2, с. 52].

Матыў вершатворчасці таксама цікава распрацаваны беластоцкай паэткай. З'яўленне верша можа быць розным, часам нават фатальным. А сам ён пачынае існаваць як жывы арганізм па-за воляю творцы, выходзячы з-пад ягонай улады, змагаючыся за права жыць: «ён ляцеў у сметніцу // і сам упарта распрастоўваў ліст // на якім быў аддрукаваны» [2, с. 18].

У класічна ўкладзеным (паэткай выкарыстаны чатырохстопны харэй), дакладна зрыфмаваным творы «Снег» вобраз верша таксама паўстае ў вобліку жывой асобы, што поўніцца тым жа пачуццём, што і душа лірычнай гераіні, тым жа мройным станам між сном і яваю, тым жа чаканнем:

*Сон... Бяссон. Гурбы паперы.*
*І нявысланы той ліст.*
*Верш не спіць. Усё на дзверы*
*Заварожаны глядзіць [*2, с. 52].

А вось твор «Калі напішаш апошні верш...» неадчэпна выклікае воблік паэта Уладзіміра Гайдука, ягонае самотнае існаванне між лесу (недарэмна ж літаратуру часта параўноўваюць з лесам), развагі пра ягоны след у паэзіі і ягоны сыход. Напэўна, таму, што апошні верш гэтага творцы ўжо адбыўся, адшумеў для паэта лес, які застаўся зялёным, жывым для тых, хто ўмее чытаць і жадае зразумець прыхаваныя сэнсы:

*калі напішаш апошні верш*
*убачыш што літары як сухастой*
*хочуць паказаць табе і іншым лес*
*чорнай ссохлай азбукай галін і ветак*
*пустацвету збуцвелай кары і лістоты*
*лес адшумеўшы і вечназялёны* [2, с. 11].

Матыў шляху ў паэзіі Міры Лукшы не столькі напаўняецца прасторавым зместам, колькі філасофскай заглыбленасцю, бо «за чорнай шыбай» не проста мільгаюць прыдарожныя краявіды, а «гэта ўспамінаў і лёсаў дарога», на якой ажывае мінулае, памяць прапаноўвае свае карціны, свае версіі перажытага. Тут сутыкаюцца імгненне і вечнасць, якія пралятаюць аднолькава — імгненна. Любіць паэтка памежныя станы, вобразы, якія іх сімвалізуюць. У вершы «Дарога» — гэта акно (чорная шыба), узбочына часу:

*Нежывыя рэйкі ўслухаюцца ў памяць*
*І звонкія рысы засыпае замець.*
*Зарастае ў цемры палыновым сумам*
*Абочына часу. Сівер золкіх думак [*2, с. 15].

Стварае аўтарка надзвычай яркія, выразныя вобразы-хранатопы: «Прастора, ў часе распасцёртая», рака дзяцінства Нарва, што малюецца ў часавапрасторавай стваральна-разбуральнай плыні: «разарала // парэзала // палі і дарогі // плёсы і лёсы», рака, бераг і інш.

Другі раздзел кнігі «Атлантыда» склалі паэтычныя мініяцюры, простыя строфы ад двух- да шасцірадковікаў. Яны ўяўляюцца аскепкамі, выспамі таго вялізнага мацерыка паэзіі, якія праступаюць між воднае гладзі, бо ўся прастора так і застаецца недасяжнаю зроку і слыху, недаследаванаю, неспазнанаю, колькі б ні ўглядаўся творца ў ейныя глыбіні. Так і чалавек, што праз таямніцу зараджаецца ў схаваных нетрах таксама ж вады, назаўсёды застаецца ў ёй. Тым болей той, хто народжаны пад знакам Скарпіёна:

*Я вярнулася дахаты. І з яе ніколі*
*не выходзіла. Над намі наўкола вада* [2, с. 78].

Цікавы паэтычны ланцужок падоўжаны Мірай Лукшай праз верш «Мы разам з табою, Максіме...» Першым звяном у ім было развітанне Максіма Багдановіча, выведзенае ім у далёкай Ялце, дзе, здавалася б, парадаксальна прагучала аптымістычнае: «Я не самотны», бо як можна быць не самотным, паміраючы ўдалечыні ад краіны мрояў, у адзіноце, у такім юным веку. Гарадзенская паэтка, стваральніца музея Максіма Багдановіча ў горадзе ягонага ранняга дзяцінства развіла гэтую тэму, так расшыфраваўшы паэтава прызнанне ў страфе-эпіграфе да кнігі «Ты не самотны...» — проста, шчыра, кранальна — пра тое, што Паэт з ягонымі чытачамі, прыхільнікамі таленту, спадкаемцамі:

*Ты не самотны. Ты з намі, Паэце наш мілы,*
*Бог цябе любіць* [3, с. 3].

А далей — пра тыя тры парасткі-дрэўцы, што ўзышлі з насення кіпарысу, які расце ў далёкай Ялце над Максімавай магілай. Калісьці прывезеная ўнукам Дануты Янаўны, пасеяная ёю жменька зернейкаў дала толькі тры ўсходы. Чаму толькі тры? Бо

*Растуць у гаршчочку малым*
*тры кіпарысы з зярнятак з крымскай магілы —*
*уваскрашоныя Лёва, Вадзім і Максім* [3, с. 3].

А паэтка з Беластоку, адчуваючы далучанасць да вялікіх духоўных скарбаў, пакінутых нашаніўскім класікам, працягвае гэтую тэму, упэўнена сцвярджаючы:

*Мы разам з табою, Максіме.*
*У нас памяць твая не згіне.*
*Сядзім у тваім гарадзенскім доме,*
*на гуллівым стагоддзяў зломе.*
*Ніхто духу твайго не зломіць*
*і ў нас, радзінных усіх, і бяздомных* [2, с. 77].

Менавіта такою паўстае лірычная гераіня паэзіі Міры Лукшы: радзіннаю, што гарманічна пачуваецца ў сваім Краі, на сваёй спрадвечнай зямлі, і ў адначассе бяздомніцай, бо руйнуецца,ператвараецца ў пыл абжытае, збудаванае праз вялікія духоўныя высілкі і тых, хто ішоў па гэтых шляхох перад ёю, і тых, хто сёння будуе Беларускі Дом.

1. Чыгрын, С. Бераг вершаў Міры Лукшы / С. Чыгрын // http://czasopis.pl/czasopis/2011-09/art-18.
2. Лукша, М. Пад знакам Скарпіёна / М. Лукша. — Беласток: ББЛА «Белавежа», 2011. — 82 с.
3. Бічэль, Д., Чобат, А. «Ты не самотны...» / Д. Бічэль, А. Чобат. — Гродна: Гродз. абл. узбуйн. друкарня, 1997. — 80 с.



# Ксенія Жук

спявачка, эксвакалістка гурта Sonika. Студэнтка 4-га курса Мінскага каледжа мастацтваў. Лаўрэат песеннага конкурсу «Белазоўскі акорд-2010» (1-ае месца), «Маладыя таленты Беларусі», фіналістка альтэрнатыўнага фестывалю «Крок-Рок», дыпламант конкурсу «Такие Пряники», лаўрэат «Песні Года Беларусі-2012». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Я заўсёды любіла музыку...

**Пра праект «Sonika» асабіста я даведалася яшчэ падчас навучання ў школе. Шмат адкуль можна было пачуць песні самога гурта «Sonika», а таксама ў супрацоўніцтве з іншымі музыкамі. А цяпер гэтая дзяўчына з'яўляецца салісткай гурта «Navi», які стварылі два музыканты: Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка. Гэты праект паспяхова прагучаў песняй «Абдымі мяне», а затым і кліпам на гэтую песню. Цяпер музыкі плануюць новы альбом і, канешне, канцэрты. Мы пагутарылі з Ксеніяй і высветлілі, што яны хочуць данесці да слухачоў, і з чаго ўсё пачыналася.**

**Альдона Мартыненка:** ***— Ксенія, раскажы, калі ласка, пра гурт «Navi»? Проста ўяві сабе, што ты ўпершыню пабачыла іх на канцэрце, пачула песні. І якія ў цябе скласіся ўражанні?***

**Ксенія Жук:** — Гэта гурт, які пачуўшы адзін раз, хочацца пачуць яшчэ! Гэта дабрыня, цеплыня і шчырасць. Музыка для душы, але з якасным саўндам.

***— Ваш праект з самага пачатку задумваўся ў якасці дуэта альбо як музычны гурт? Плануеце запрашаць іншых музыкаў?***

— І так, і не. Мы з Арцёмам з самага пачатку думалі пра сумесную песню. А пазней гэта ўжо вылілася ў дуэт, гурт. Цяпер вось мы ўжо граем утрох. У нас з'явіўся перкусіяніст Хведар. (*Смяецца*).

***— Наколькі я ведаю, перкусіяністы граюць на незвычайных ударных. А на чым грае ваш Хведар?***

— У нашага Хведзі ёсць усё: шумелкі, грымелкі, бонгі, конгі. (*Смяецца*).

***— Чым прывабіла назва «Navi»?***

— Тым, што гэта прыгожа і незвычайна.

***— Як ты пачала пісаць песні?***

— З самага дзяцінства спрабавала нешта рабіць... Але толькі зараз у «Navi» я магу паўнавартасна пісаць. У нашым першым альбоме будуць тры мае песні, чаму я вельмі радая. А так звычайна ў нас піша Арцём, альбо робім гэта разам.

***— У цябе ёсць планы супрацоўнічаць з іншымі музыкамі?***

— Так, я актыўна супрацоўнічаю з іншымі музыкамі. Напрыклад, з гуртом «JJ-Bingz», «Martin S», з Леанідам Пашкоўскім, з гуртом «МясцовыЯ», «Муза Скат». А яшчэ я працую з Прэзідэнцкім аркестрам.

***— Калі і як да цябе прыйшло асэнсаванне таго, што ты хочаш гэтым займацца?***

— Я ведала гэта заўсёды. А перад тым, як я гэта зразумела, зразумелі мае бацькі.

***— Чым займаюцца твае бацькі?***

— Працуюць як і ўсе. (*Усміхаецца*). Але галоўнае, што яны вельмі творчыя і музычныя людзі і падтрымліваюць мяне і Цёму.

***— Ёсць у цябе песні, якія існуюць, але ніхто, акрамя цябе іх не чуў?***

— Канешне, ёсць. Але апошнім часам такога амаль не адбываецца, таму што я дзялюся імі з роднымі і блізкімі.

***— Чым ты займаешся акрамя музыкі? Праца? Вучоба?***

— Музыка і праца, якая таксама звязаная з музыкай.

***— Кім ты працуеш?***

— Я — выкладчык па вакалу.

***— Што паўплывала на твой выбар будучай прафесіі?***

— Усё. Я заўсёды любіла музыку.

***— Калі б у цябе не склалася з музыкай, чым бы ты хацела займацца?***

— Разводзіла б катоў. (*Смяецца*).

***— Ты хацела б паспрабаваць напісаць песню ў абсалютна іншым жанры?***

— Я працавала і працую ў розных жанрах.

***— Ты верыш у лёс?***

— Канешне! Толькі так можна растлумачыць многія падзеі ў маім жыцці.

***— Ты задаволеная ты, што маеш на дадзены момант?***

— Вельмі!

***— Цябе не стамляюць усе гэтыя канцэрты, напісанне песен, інтэрв'ю?..***

— Не. (*Усміхаецца*). Гэта ж цікава!

***— Што табе падабаецца больш за ўсё на канцэртах?***

— Цяплыня ад людзей. Калі ім добра, тады і я атрымліваю задавальненне.

*Гурт «Navi»*





*Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка.*

***— Ты выступала ў іншых гарадах? Можаш зрабіць нейкія высновы пра нашу краіну, пра яе жыхароў?***

— Ведаеш, у нас многія людзі чамусьці баяцца адкрывацца, стрымліваюць свае эмоцыі. Хочацца ад іх больш свабоды!

***— У цябе ёсць любімы горад у Беларусі?***

— Люблю свой родны горад Мінск.

***— У якіх краінах ты хацела б пабываць?***

— У Англіі, у Францыі... Яшчэ вось у Малазію хачу.

***— Ты хацела б пераехаць назаўжды куды-небудзь? Змагла б кінуць усё, што ёсць тут?***

— Магчыма і змагла б, але аднаго чалавека дакладна ўзяла б з сабой.

***— Раскажы пра што вашыя песні?***

— Пра каханне, пра тое, што ў гэтым жыцці трэба верыць у нешта светлае. Толькі так можна нечага дасягнуць.

***— Параўнай сваю першую песню і песню, якую ты напісала зусім нядаўна. Ты бачыш нейкія адрозненні? Ці, наадварот, нешта агульнае?***

— Безумоўна, я бачу рост. І гэта мяне радуе.

***— У цябе здараецца так, што ты слухаеш сваю старую песню і расчароўваешся ў ёй? Бывала такое, што ты думала «Лепш бы ніхто гэтага не чуў?..»***

— Да ўсяго трэба адносіцца з пэўнай доляй іроніі, з пазітывам. Крытыка — гэта ж добра! Калі з часам лепей не становіцца, тады ўжо трэба задумвацца над тым, што ты робіш...

***— Для каго твае песні?***

— Для коцікаў і кроцікаў (*Смяецца*). Калі сур'ёзна, я думаю тут не патрэбна слоў.

***— Падчас напісання песні ты задумваешся аб тым, ці будзе яна мець поспех, ці спадабаецца слухачам?***

— Не, гэтага ніколі не ведаеш наперад.

***— Як ты лічыш, якая будучыня ў беларускай музыкі?***

— Тут усё залежыць толькі ад імкнення музыкаў да працы.

***— А як наконт сучасных выканаўцаў? Каго можаш вылучыць?***

— Такіх шмат. З замежных люблю Сцінга, Фінка, Сару Барэйліс, Рэгіну Спектар, гурт The Kooks, Badoo і многіх іншых.

***— Як ты лічыш, зараз ёсць мода на пэўны стыль музыкі?***

— У розных колах, у розных людзей і слаёў грамадства свае модныя тэндэнцыі.

***— Цябе пазнаюць на вуліцы? Падыходзяць незнаёмыя людзі?***

— Так, здараецца часам.

***— І як ты сябе адчуваеш пры гэтым? Якія думкі ўзнікаюць?***

— Гэта прыемна. Тады разумееш, што працуеш не марна!

***— Ці здараліся калі-небудзь смешныя альбо проста цікавыя выпадкі з прыхільнікамі?***

— Так, аднойчы я дапамагала на канцэрце аднаму гурту, з якім вельмі сябрую. У грымёрку пасля выступу да мяне падышлі хлопцы з захопленымі тварамі. Вельмі шмат гаварылі аб тым, як ім падабаецца мая творчасць і прынеслі мне пушку цукерак! Апошняе, што яны папрасілі — абняць іх...

***— Якія планы наконт запісу кліпа ці выдання альбома?***

— Іх шмат, сачыце за нашай творчасцю ў сацыяльных сетках!

**Альдона Мартыненка**



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыскаграфія

## «Kamajedzica» руйнуе межы

*«Kamajedzica» — «Чалавек Планеты», Bielefeld, 2013, «Wewelsburg records», дапоўненае перавыданне паводле Київ, 2011, PAA «Gamle Stier»/»Griffin Music».*

Сістэма адукацыі і маскульта ў Беларусі настолькі спрытна варганіць падманлівы вобраз беларуса ў выглядзе нягеглага мужычонкі ў лапцях з граблямі й балалайкай, што ўжо й маладыя прыхільнікі авангардных плыняў сучаснай музыкі пішуць нешта накшталт Вадзіма Кажана ў мінулым нумары «Верасня»: «Суседнія Украіна і Расія маюць даволі развітую pagan-сцэну,.. вядомую ўжо ў Еўропе і Амерыцы. З нашых pagan-гуртоў у Амерыцы і Еўропе ведаюць хіба што «Gods Tower»...» («Верасень» №1/8, 2013, стар. 235). Шкада, калі нехта хоча ўсім распавесці тое, пра што мала ведае... Бо ці ж не з Беларусі пайшоў такі накірунак, як pagan-metal? Ну а пра Амерыку і Еўропу адразу і не згадаеш усё, таму ў сённяшняй падборцы рэцэнзій мы акурат раскажам толькі пра апошнія беларускія метал-рэлізы, якія выдаваліся фірмамі Нямеччыны, Расіі, Украіны (штатаўскі гурт «Minsk» з Ілінойса пакуль абмінем, бо не змаглі здабыць іх альбом з песняй «White Wings» паводле «The Land Under The White Wings» Караткевіча), затое будуць прыклады нават беларускага фольк-экстрыма, створанага тымі ж украінцамі. Прэстыж, аднак!

Асобная радасць калекцыянера — трымаць у руках фірменны дыск, які паказвае сваю фірмовасць усімі фібрамі душы. Тое ж адчуў я, распакаваўшы свежае нямецкае перавыданне аднаго з позніх рэлізаў менскага pagan folk metal гурта «Камаедзіца». І хоць гэта ўжо не тая «Камаедзіца», якую ведаем праз альбомы «Дзеці лесу», «Пяруне», пра якую мы з А. Мяльгуем пісалі ў кнізе «222 альбомы беларускага року» (стар. 394-5 + плакат на 385-й), бо цяпер толькі два чалавекі схаваліся за псеўданімамі Luty — лірыка, вакал; Artsem — музыка, гітары, бас, клавішы. Але яны гэтаксама ўслаўляюць Камаедзіцу — народнае свята Веснавога Раўнадзенства, абуджэння Мядзведзя, росквіту Матухны-Прыроды. Дый абранаму стылю не здрадзілі, хоць палітычныя прэтэнзіі да сябе наклікалі. Але ў нас не нарада ЦК, а вольны слушняк, дык падзелімся не палітычнымі, а паэтычнымі й музычнымі ўражаннямі.

На сайце http://kamaedzitca.com ёсць інфа, як няўдалы жарт, што ў Украіне 06.11.2011 выйшлі два паўнафарматныя альбомы «Вернасць» і «Чалавек Планеты», бо які ПОЎНЫ фармат у 20 хвілінах першага выпуску «Man of the Planet»? Праўда, немцы дадалі пяціхвілінны бонус «Дух ваяра» на russian — песню, створаную адмыслова для турніру баёў змешанага стылю, праводзімага пад эгідай фірмы моладзевай спартовай экіпіроўкі й вопраткі «White Rex» (




www.white-rex.com ), прэзентаваную 02.10.2012.

Пра гурт Гэндрык Штывэ напісаў на сайце новых выдаўцоў: «У нашым наваколлі, на жаль, пакуль зусім невядомы беларускі гурт «Kamaedzitca», які заснаваны каля 2000 года. У рэлізе «Чалавек Планеты» гэта шчыры ўзор нацыянальна заклапочанай каманды металічнага стылю, базаванай на агрэсіўнай сумесі folk-elektro-hardcore. За 25 хвілінаў у вашых вушах праслізгвае 8 трэкаў з жывымі рытмамі й мудрымі паэтычнымі развагамі. Для лепшага нашага (нямецкага) разумення — 4-старонкавы буклет з англійскімі падрадкоўнікамі, каб шырокі слухач мог стварыць уласную карціну ўражанняў».

Магутны скрымінг, падмацаваны драйвовымі гітарамі й бубнамі, наталяе душу жывой энергетыкай. Ёсць пярэчанні? Але з якога тады ражна б'юць крыніцы інтэрнэт-спрэчак вакол «Камаедзіцы»? Мо з бадзянняў па global garbage, дзе ніхто не думае, чаму беларускі гурт выдаецца з пэўнага часу не дома (дзе за словы «жыве Беларусь» могуць у міліцыі пячонку адбіць), а ў Расіі, Украіне? Ну і дапёрла нашых да Deutschландыі. А хто плаціць, той і музыку замаўляе, спасцерагаючы, вядома, здольных.

Гурты, выдаваемыя лэйблам «Wewelsburg records», належаць да плыні хардкор, метал-накірункаў, панку. І не абмяжоўваюцца толькі Нямеччынай: «Ulfhethnar» (альбом «Von Deutscher Art» — мастацтва нямецкасці, або іхні ж «Friedhof in Bohmen» — могілкі ў Чэхіі, якую яны называюць Багеміяй), «Todfeind» (альбом «Die Jagd hat begonnen» — паляванне пачалося), «13 Knots» (альбом «Justice» — юстыцыя), фірма практыкуе спліт-рэлізы дзеля раскруткі будучых зорак («Sleipnir»/»Raven», «13 Knots»/»Kilgore»), складанкі («Altenburg rockt das Reich NEU», «Support the Nation/Live in Franken'2005»), а беларусаў адзначылі асабіста. З вокладкі «Чалавека Планеты» я даведаўся, што й вініл не забыты ў Еўропе, хоць выдаецца лімітнымі партыямі (напрыклад, LP+EP «Unverbesserlich» гурта «Sleipnir» выйшаў колькасцю 500 асобнікаў).

Прыблізна такі ж наклад і ў нашых. Такія ж і тэмы песень (пра страчаныя абшары, пра патрэбу бараніць свой дом, асцерагацца чужынцаў, не зневажаць сваіх). А нехта застрашвае тым публіку:

*Прыгадай, ужо колькі разоў нашу гісторыю*
*Перапісвала рука здрадніка, — не злічыць...*
*Мабыць, столькі няма дажджу, колькі слёз пралілося па ёй,*
*Столькі няма вады, колькі крыві працякло тут,—*

спяваецца ў папулярнай ненароднай песні «To my beloved». Sorry, у лірычнай песні «Каханай» (усе надпісы тут english). Затое якія lovesongs стаяць на першым месцы ў альбоме «Камаедзіцы»! Зачароўвае глыбокі тэкст, тонкая мелодыя, зайграная гітарыстам Арцёмам пад пранікнёны вакал флейтыста й тэкставіка Алега Губіча (у згаданай кнізе Лютым названы ён). Калі вам зноў раскажуць чужыя плёткі пра няправільную пазіцыю музыкаў, думайце, каму гэта выгодна.

Чакаючы нейкіх подзіваў, у «Чалавеку Планеты» спанатрыш і барабанную інструменталку «Там, дзе ажывае Сонечны Прамень». Аскетычна, але пераканаўча, не халодна. Інтрыгу патлумачыць расшыфроўка музычных настрояў на сайце гурта: «Атланты, Лемурыйцы... Хто мы? І хто яны? Павароты Зямной восі? Колькі цывілізацый было, колькі будзе? Трэцяе вока... Знакавасць-узаемасувязь старажытных збудаванняў, пакрываючых сеткай Зямлю роўнададзенымі адлегласцямі, вугламі, лічбамі ў іх, паміж імі. Зямля — ці вузел у нейкім большым ланцугу? Колькі паралельных светаў, незямных вымярэнняў, іншых прастораў? Самаці ў пячорах? Жыццё ў нетрах Зямлі? Што мы не бачым? Колькі яшчэ жыццяў у Сусвеце? Ці велізарны Сусвет? Можа, гэта зярнятка ў полі без межаў... Што там далей? — ці гэтыя пытанні недарэчныя з прычыны, што ўсё зусім іншае, і мы сляпыя нават у спробе задаць правільнае пытанне? Пытанні гэтыя бясконцыя! Іх невядомае бясконцае мноства...»

Працяг метал-філасофіі — у напружаным гроўлінгу ўдарна-гітарных хітоў «Выбар ты робіш сам», «Свет каляровы, але не руды!» Драйв рэальны, а пытанні застаюцца: чаму контрапунктам прыметніку каляровы стаў руды, а не традыцыйны чорна-белы? А гэта ж (з пазнакай «анты-антыфа») увесь тэкст. Згубіць сэнс слухачу не дае эпіграф: «Чысціня крыві — прыгажосць, самабытнасць, непаўторнасць, разнастайнасць народаў і расаў». Вось і думай, чаму нехта хоча прышыць музыкам аж крыважэрны расізм. Калі развіваць свой дух з чужых словаў, можна й бацькоў родных папракнуць за «дзеравенскі» акцэнт, а лепш стала думаць, каму тое выгодна. Ці не сапраўдныя расісты супраць клопату пра чысціню расы? Бо зноў спрабуюць кроіць вавілонскі вэрхал. Як спяваў яшчэ вялікі польскі рок-гурт «Budka Suflera», «zbudowano druga, wieksza wieze Babel, czy pamieta ktos tamtej pierwszej los?» (1997). Ці, насамрэч, не будаўнікі вавілонскага вэрхалу ўзялі сабе падпоркай лозунгі «анты-фа» дзеля насаджэння антыгуманізму? Пра іх, рудых махінатараў, і песня. Але гэта ўжо палітыка... Нам не да яе! Людзьмі б застацца. Ці замінае «Камаедзіца»:

*Калі ты ўмееш кахаць — кахай наймацней,*
*Калі ты можаш жыць — жыві яскравей.*
*Нясі ў сабе дабрыню і любоў да ўсяго і да ўсіх,* —

сведчыць яшчэ адна «экстрэмісцкая» песня «Калі змагу ўбачыць Новы Світанак», рэчытатыў якой песціць крыху аморфная, але цёплая мелодыя. Абуджае ў душы пачуцце лагоды, нібы эмацыйны перапынак у мітуслівым жыцці. Не саступае ёй прыгажосцю й загалоўная фартэпіянная інструменталка, хоць

і эмацыйным дэфіцытам не папракнеш яе.

Паэтычны не толькі ў назве твор «Дакраніся да кветкі свайго сумлення» зноў цягне Алега Губіча ў філасофскую рэп-метал-лірыку:

*Камень ля дарогі, празрыстую ваду,*
*Космас халодны і чорны,*
*Невымерны Сусвет патаемны, бязмежны...*
*Зберажы! Зберажы і Сонца,*
*Наша з табою роднае Сонца!*

Відавочна, «Камаедзіца» была й засталася вернай сваёй «зялёнай» ідэалогіі, чым і імпануе. Папракнуў бы хіба не клопатам аб расавай чысціні, а адсутнасцю клопату пра лінгвістычную чысціню, бо чый дух сфармаваны чужым словам, сабе не падпарадкаваны, а належыць чужынцам. Не хачу падацца большым за «Камаедзіцу» экстрэмістам, але галоўнае ў жыцці грунтавацца на базісных, а не маргінальных прынцыпах.

## Запомніць варта гурт «Wartha»

*«Wartha» — «Паўстань», Екацярынбург, 2013, «Stygian Crypt Productions».*

Хоць першыя адзнакі мінскага метал-гурта «Wartha» не такія адназначныя, але што яны прымусілі пагаварыць пра сябе ўвесь зямны шарык — факт. Мо, вакалістка Alice Anadiomena спалохалася пэўнай крытыкі (ну не ўсе зразумелі ейнае папіскванне ў шквале суровага гроўлінгу і маторных рыфаў), але ці вінавата, што такую ролю адвялі. Рабіла тое прафесійна, але пакінула калектыў разам з бубнаром Nikka, але ці будзе без яе новы шэдэўр «Гаспадар»?

Так, нейкі Terraasymmetry (30 год, ЗША) паспеў напісаць пра CD «Паўстань» на створаным Хоссэйнам Шарыфі ды Оскамам Леонам інтэрнэт-рэсурсе «RYM» (Зацані Сваю Музыку ад назвы «Rate Your Music»): «Крыху плоскі, але дастаткова прыемны дэбют беларускага гурта, які апрыёрна залучым да прафесійнай працы, здольнай цвердзіць кемлівасць музыкаў у фольк/блэк-метал накірунках з выкарыстаннем паганскіх традыцый у песнях. Праўда, збольшага рэліз, лічу, не дасягне поспеху, асабліва з-за клавішных і жаночага вакалу, што адмоўна запылілі жывёльную энергетыку гітар і бубноў».

Гэта не адзіная ацэнка міжнароднай прэсай беларускага рэлізу, выдадзенага ў Расіі, але менавіта яна патлумачыла і мае ўражанні чалавека, які прагне ад экстрым-музыкі сэнсу, не патанаючага ў агульным месіве. І жывых эмоцыяў. Амерыканец як у ваду глядзеў: «Флейта-клавішны гук лунае недзе ў нетрах сумесі, таму ніводзін момант з яго не становіцца незабыўным ці захапляючым. Кавэр «Blashyrkh» гурта IMMORTAL з «чыстым» вакалам і больш цікавымі клавішнымі добра дае накірункі пошукаў... Але не рэкамендаваў бы альбом за ўзор для неаматараў фольк/паган накірункаў».




А мо неаматарам і не трэба, калі ўсе памыляюцца ў стылях? Бо самі музыкі пішуць: «Фольк-паган-метал гурт з Мінску чэрпае натхненне ў прыродных багаццях, гісторыі, міфалогіі роднай зямлі, расквечваючы цяжкае эпічнае палатно сваёй музыкі казачнымі клавішнымі, варганамі, рознымі спалучэннямі жаночага й мужчынскага вакалаў, хоць на момант старту ў 2008 былі задумкі пра сімфа-блэк,.. не склалася)».

Склалася! Вы ж і нарвежскіх каралёў сусветнага блэку «Immortal» нездарма «пасoverялі» ў дэбюце («Блашырк»). Куды яно дзенецца ў прыцемках нестабільнай метал-тэрміналогіі, схільнай да адвольных прыдумак тэрмінаў кожнаму гурту, яднаючы часам і далёкія па духу гукі: скажам, у фольк-метал з «Wartha» залучаюць «Gods Tower», «Hok-key», «Kamaedzitca», «Litvintroll», «Vicious Crusade», «Weeping Twilight», «Znich», «Дрыгва», «Коло Прави», «Лютоверье», «Пярэварацень». Нехта ў фольку рэпертуарам, дзесьці ўжыты народныя інструменты, але ж ці ўсе фолькеры ўжываюць саму мову народа, а туды ж — фольк-метал. Што тут за народ (folk), як не homo sovieticus? Але гэта не пра «Wartha», хоць, пільнуючы фольк-складнік («Гуканне», «Карагоды»), як абмінуць захаваныя памкненні да сімфа-гармоній (сяміхвілінны «Сляпы», больш кампактны «Волат-воўк») у раскрыцці чорных (black) старонак гісторыі двух стагоддзяў беларускіх паднявольных пакутаў:

*Паўстань з народу нашага, Прарок,*
*Праяваў бураломных варажбіт,*
*І мудрым словам скінь з народу ўрок,*
*Які быў век праз ворагаў спавіт.*

Гэта вялікі Янка Купала 100 гадоў таму, якога не дала школа, але мы чулі з дзіцячых касет Данчыка. Цяпер чуюць і металёўцы. Хто забыў словы родныя наўзор урок, дык гаворка не пра настаўнікаў, а пра ўрачоў (не лекараў), чужынскіх махляроў, якія ўраклі магутную ліцвінскую цывілізацыю на калгаснае жабрацтва.

Дзіўна, калі фаны гурта «Wartha» выказваюць прэтэнзіі да сучаснай палітычнай пазіцыі гурта «Камаедзіца», а ці ж не пра адное спяваюць:

*Прыгадай, ужо колькі разоў нашу гісторыю*
*Перапісвала рука здрадніка, — не злічыць...*

«Фак на ліцэ», як кажуць, бо сучаснымі палітычнымі клішэ (фашыст, камуніст, нацыяналіст) можна прымусіць кусацца паміжсобку нават крэўных братоў-адзінадумцаў.

Але пра музыку. Не фанат модных аранжыровачных эксперыментаў, я ўсё ж дзеля параўнання паслухаў і блэк-метал гурта «Drygva» («Старажытная Беларусь»), дзе вакал прабірае больш за інструментал. Мо там ідэал стылю? Але не абміну й прыклад іншага стаўлення да любога плёну. Базіс логікі ў тым, што пошук абнаўлення спрыяе жыццю, а прага застою — смерці. Шукаючы сэнс, не забывайма, што й оперу пільныя слухаюць з буклецікам у руках. Таму не дзівяць і такія рэцэнзіі на «Паўстань», як недзе ў Расіі 9.08.2011 (пачатак працы): «Блізіцца восень, і камбайнёры малоцяць ураджай. Гэтаксама малоцяць і свой дэбютнік героі беларускага андэграўнда — гурт «Wartha», створаны ўлетку 2008. Спярша афіцыйнай мовай лірыкі быў russian, але па запісе дзвюх дэмак у 2009 перайшлі на родную ім беларускую. І вось у спякотны жнівень 2011 вымалёўваюцца доўгачаканыя песні будучага альбома — «Майстра мечаў» і «Зорны шлях» (апошнюю гурт потым выключыць з рэлізу). Гэты «намалот» стаў насамрэч выдатным падарункам чакальнікам. І сярод водгукаў — галасы шчырых фанаў: «***Евгений Коваленко:*** Ребята, круто))) Очень нравится))))»; «***Uauantl:*** УХ... «Майстра мечаў» вообще башню сорвало, парни молодцы! Но где услышать больше?» Яны ж тады не чулі звышдынамічны «Гаспадар», выбуховы «Свет», маштабныя «Нашы землі», таямніча-фантастычны «Першы запавет» (дзе голас у Алісы прарэзаўся)!

Думкі рэцэнзентаў і фанаў не заўжды супадаюць. Калі трэйлер альбома прайшоў у «European Metal Channel», на «Ю-тубе» пісалі: ***Mark Jeffery Campayno:*** Rock on!! Love? this! ***11vered:*** Sounds? good! Thanks for sharing! ***Carlo—Valentini:*** Eccellente!!!!? NovaKaren1: Cool !!!!!? ***616Dave616:*** !No estan mal!?

Мо саўнд хваляць замежнікі, якім не да пражаванага вакалісткай сэнсу. Стыль, ясна, экстрэмальны, але той жа «Ю-туб» пра баснійскую металістку Sladjana Filipovic на «European Metal Channel» проста калагаваў (кіпеў): «Ova djevojka cudo pravi? u Mac Tire pub-u. Lijepa djevojka, pa jos i talentovana. Savrseno... :)».

А Аліса? Плённая спроба блэк-металу не змусіць да рамансаў пад гітару, бо сербскі музыказнаўца Марко Мірановіч заявіў на «Metal Sound» (ТВ-шоў тэлеканалу МТС у Сербіі: «WARTHA — рэальна беларускі гурт, які сапраўды дзівіць дагэтуль нечаканым саўндам, самімі падыходамі да метал-музыкі. Усё ў альбоме гучыць вельмі прафесійна, ад гітарных рыфаў да агульнага шарму. Асабліва адметная схільнасць WARTHA не быць сляпым паслядоўнікам фольк-метал эксперыментаў сваіх суседзяў з Расіі, яны стварылі ўласны стыль, ёсць што прапанаваць і патэнцыя для таго. Праз адчуванне ў гэтай музыцы традыцыйных уплываў іхняй уласнай культуры й звыклых метал-традыцыяў, можна было б тут маркіраваць стыль як сінтэз паганскага й эпічнага folk-metal. Фанам канкрэтных стыляў давядзецца падкарэктаваць пад іхні саўнд свае густы. Альбомам «Paustan» WARTHA пераканаўча давяла свой патэнцыял і энергію, робячы гук больш сур'ёзным у параўнанні з заходнімі калегамі. І дорачы ўсім нам прагу ведаць, што будзе з гуртом далей».

Як кажуць самі, «зараз працуем над наступным рэлізам з рабочай назваю «Azure lakes». Там будзе ўсё павольна, сонна ды непазбежна», а пра дэбют аджартаваліся: «1 сакавіка 2013 выдалі LP на тэму пнёў, ідалаў ды ваўкалакаў».

Сучасны склад розніцца ад альбомнага: Зміцер Пінчук (бас-гітара, у 2008-10 быў Leming), Ян Мачульскі (гітара ад 2011, пісаў асобны сінгл «Зорны шлях»), Генадзь Харытонаў (клавішныя, з 2010), Knyaz Perepelok (вакал). Быў флейтыст Алекс і бубнар Nikka, але замена не згадваецца.

Назву сабе яны абралі настолькі беларускую, што й палякі адгукваюцца (маюць мястэчка Wartha Frankenberg), і немцы, у якіх назва Wartha ў частках Айзэнаху ды Саксоніі. Затое для нас гэта не толькі Ахова (Варта Вежы Багоў), але й вышэйшая адзнака: Варта — значыць трэба. На ўсходзе кажуць стоит, бо не ўсе чыстыя індаеўрапейцы. Цяжка прадбачыць, што будзе ў «Azure lakes», але краіне азёр пэўна не здрадзяць, дык пагодзімся з Марко Міразановічам наконт прагі чакання.

## «Тінь Сонця» запрашае на «Танець Серця»

*«Тінь Сонця» — «Танець серця», Київ, 2011, «Наш Формат».*

Рэцэнзуючы неяк у беларускай прэсе папярэдні альбом кіеўскага гурта «Тінь Сонця» («Полум'яна рута»), я даў публікацыі прэтэнцыёзны загаловак «Самы беларускі CD «Тінь Сонця»» («Переходный возраст» №27, 20.07.2007, «Товарищ» № 45, 15.11.2007), бо ў рэліз увайшла ДВОЙЧЫ адна англамоўная беларуская песня — «Twilight Sun» гомельскага гурта «Gods Tower»: на ўкраінскай мове і на беларускай. Прысутнічаючы пазней на адным з мінскіх сольных канцэртаў лідара калектыву Сэргія Васылюка, пачуў нямала добрых водгукаў пра беларускі пераклад, які, па шчырасці, я й рабіў. Нам параілі працягнуць творчае супрацоўніцтва, хоць Сэргій і без мяне плённа папаўняў беларускі кантэкст сваёй творчасці: для многіх незабыўныя ўражанні пакінуў на канцэрце ў мінскім клубе «Re:Public» ягоны бліскучы кавэр «Малітва» паводле вялікіх «Песняроў». І ўсё ж мы дамовіліся на працяг і... 22 сакавіка 2011 хіт-парад «Тузін Гітоў» пачаў штурмаваць новы беларускі баявік каралёў украінскага фольк-металу — «Шлях у лес». І ў тым жа годзе на вядомай многім фірме «Наш Формат» выходзіць яшчэ адзін «самы беларускі CD «Тінь Сонця».

Зрэшты, хоць песня «Шлях у лес» таксама ўвайшла ў альбом на ўкраінскай і беларускай мовах, гэта спершапачатку ўкраінская песня. І нашае супрацоўніцтва з Сэргіем не назавеш простым, бо чалавек ён з надзвычай сфармаванай жыццёвай філасофіяй. Калі я, напрыклад, сустракаю ў ягоным тэксце нешта пра балоты і дапускаю знявагу самога панятку (бо мы ўсе звыклі называць балотам усё непрыемнае), ён прынцыпова тлумачыць сутнасць памылкі, называючы балота крыніцай жыцця. Такім чынам, працуючы над перакладамі, я і сам удасканальваў свой жыццёвы базіс. Бывалі і банальныя спрэчкі розных пазіцый. Але да згоды прыйшлі:

*Ты будуеш у полі сцяну? А я — люблю*
*Сустрэць каб з німфаю світанак,..*
*Гайдацца каб з русалкамі на вярбе,..*
*І каб з чаротам пагутарыць у журбе.*
*Тут вецер замятае след,*
*і ў добры шлях вядуць Сонца і Полань.*
*Калі пачуеш песню з поля... — Я! Не здань.*



Хоць я спярша зблытаў німфы (маўкі) з ваўкамі, але ўсё адно — гэта гімн чалавека, гарманічна злітага з першаснай, не закаванай у «зручны» бетон, прыродай. Калі Сэргій намаўляў прапанаваць яму ўласны мой тэкст, давялося адмовіцца з прычыны стыхійнасці характару ў гэтым пытанні. Я на ўсе 100% падзяляю ягоную «зялёную» пазіцыю ў пільнаванні першароднай прыроды, нават хлеб не купляю ў цэлафане, які плодзіць тоны невынішчальнага смецця, але мозг мой больш заклапочаны іншай пакутай, калі на зямлі спакваля, падступна вынішчаюцца чыстыя і ўплывовыя культурніцкія традыцыі (што з ліцвінамі-крывічамі зрабілі?). Пераклады сталіся ідэальным і плённым шляхам да ісціны. Бо і ў ягоных украінскіх песнях адчуваю разуменне маіх клопатаў:

*Що за біда, що на неї найшло?*
*Як же не жити всьому, що було...*
*Розлучені руки і кінчики вій...*
*Місяцю мій, місяцю мій...*

«Як же не жити всьому, що було» — вось яна, глабальная ісціна, выяўленая ў шчырай песні пра каханне. Дарэчы, песні «Місяцю мій» чамусьці найбольш пашанцавала ў гэтым альбоме: па-першае, яна ідзе чацвёртай у паўтарох дзясятках трэкаў па згаданай «Дорогою в ліс», апрацоўкай Іванам Лузанам фальклору «Золотослов» і напісанай з братам Олэксіем Васылюком «Хрестини Вовкулаки» (гэта актыў з часоў афіцыйна нявыдадзенага альбомуа «Святість Віри», 2002), па-другое, ёю і завяршаецца рэліз двойчы: напрыканцы слухаем скарочаную (з 5.28 да 3.47) радыё-версію, а ў відэабонусах — кліп Анатоля Попеля «Місяцю мій».

Паколькі міжволі на згадку ўжо прыходзяць прозвішчы, дык час нагадаць і актуальны склад гурта: Сэргій Васылюк (вакал, акустычная гітара), Андрій Хаврук (гітара, клавішныя, сапілка), Іван Лузан (бандура, вакал, клавішныя, гітара), Софія Рогальска (скрыпка), Іван Грыгоряк (бас), Володымыр Хаврук (ударныя),

Мыкола Лузан (гітара). Гасцёўна ў студыйнай сесіі ўдзельнічалі: Стас Семылетов (гітара), Наталія Данюк (вакал), Ольга Мільградт (віяланчэль).

Дарэчы, калі адкінуць бонусы, канцэптуальным завяршэннем альбома будзе новая песня-візітоўка Івана Лузана «Тінь Сонця» (хоць і дзіўна, што яна з'явілася ў трэцім афіцыйным альбоме гурта). Аднак і пашпарт не выдаюць чалавеку пры нараджэнні.

Захапляючым хітом альбома стала яшчэ адна «знаёмая» песня — «Козача могила» з альбома «Над Диким Полем» (2005). У альбоме «Танець серця» ейная новая версія.

Прыгаданаму Олэксію Васылюку належыць самастойнае аўтарства кампазіцыі «По вранішній зорі», а ўсё астатняе («У цьому полі, синьому, як льон», «Сонця літ», «Перша квітка», «Схована у мріях») плён натхнення Сэргія Васылюка.

Мне асабіста пачэсна быць перакладчыкам найгалоўнейшага хіта альбома («Дорога в ліс» выбухае і рытмамі, і філасофскімі абагульненнямі, і дынамізмам аранжыровак). Але сам альбом ці не найбольш з усіх напампаваны хітамі: лірычны фолькавы «Золотослов», які мае і беларускія аналогіі (разам жа былі ў Вялікім Княстве Літоўскім), экзатычна-містычны для нас дэпрэсняк «Хросту Ваўкалака» (ніякага блюзнерства), пранізліва меладычны цяжаляк «Місяцю мій», казачная акустычная балада «По вранішній зорі» («Де знайти її тепер між болотами?..»), маштабнае, але разнастайнае і ненадакучлівае васьміхвіліннае палатно «Казачай магілы» («Будь таким, як ти є і не зраджуй себе! Вирушай: б'е життя через край»), кароценькая эмацыйная бомба «У цьому полі, синьому, як льон», класічная hard'n'heavy інструменталка «Сонця літ» з кароткім ёмістым тэкстам, трагічная lovesong «Перша квітка», дый аскетычная «Схована у мріях» не пакіне слухача абыякавым. А гарачая візітовачка захавае вам адрас не толькі гурта, але і альбома:

*Міць в руці, на лиці — тінь Сонця,*
*Вирушаємо здобути те, що наше.*
*Зліва голосно лунає танець Серця...*
*День вернеться!*

Усе гэтыя песні кранаюць не толькі ўдалымі рыфмамі ці эфектнымі рыфамі, але і закладзенай у іх «нестандартнай» класічнай традыцыяй, трывалымі пастулатамі простага нармальнага чалавечага жыцця на зямлі. Мы ж насамрэч нават прымаўкі народныя памылкова інтэрпрэтуем, а «Тінь Сонця», балазе, не дае. Нездарма ж яны занялі пачэсную старонку ў маштабнай кнізе рок-крытыка Олександра Євтушенко «Україна in Rock», выступалі на шматлікіх фестывалях як Украіны, гэтак і замежжа («Захід-фест», «HelloFolks», «Стародавній Меджибіж»), а ў 2007-ым сталі і першымі ўкраінцамі на «БАСовішчы» ў Польшчы.

